# КРЫНІЦА

*Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс*

**7-8(54)-1999**



1 «Крыніца» №№ 7 – 8.

# КРЫНІЦА № 7-8(54) 1999

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс
Выдаецца са студзеня 1988 года

Заснавальнікі:
калектыў рэдакцыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, ул. Кісялёва,11**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з арыгінала-макета 31.08.99. Фармат 60x84 1/16.
Афсетны друк. Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 13,95.
Ум.фарба.-адб. 14,06. Ул.-выд.арк. 12,58. Кошт дагаворны.
Тыраж 700 экз. Зак.2063

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



# ЯН БАРШЧЭЎСКІ

*Я шчырасць знаў*
*і дабрыню душы я ведаў.*

***1794*** *(паводле іншых крыніц, 1790 ці 1796) — нарадзіўся ў вёсцы Мурагі на беразе возера Нешчарда ў Полацкім павеце (цяпер Расонскі раён) у шляхецкай сям'і грэка-каталіцкага веравызнання.*

***1809*** *— навучэнец Полацкай езуіцкай калегіі. Першы вядомы верш "Дзеванька", напісаны па-беларуску.*

***1812*** *— студэнт Полацкай акадэміі. Піша звязаны з паходам Напалеона ў Расію верш "Рабункі мужыкоў", варыянт якога будзе пазней знойдзены паліцыяй падчас ператрусу ў Паўлюка Багрыма.*

***1817*** *— пераезд у Пецярбург. Служба ў марскім ведамстве дала магчымасць наведаць Францыю, Англію, Фінляндыю і іншыя еўрапейскія краіны.*

***1820****-я — праца гувернёрам, выкладчыкам грэцкай і лацінскай моваў у дзяржаўных установах. Знаёмства з Адамам Міцкевічам.*

***1830****-я — сустрэчы ў Пецярбурзе з Тарасам Шаўчэнкам. Летнія падарожжы ў Беларусь.*

***1839*** *— прымае прапанову пецярбургскіх студэнтаў з Беларусі і Літвы стаць выдаўцом заснаванага імі штогадовага альманаха "Niezabudka".*

***1840*** *— выдае першы нумар альманаха. Друкуе на яго старонках свае вершы, дзе ад класіцызму паступова пераходзіць да рамантызму.*

***1841—1842*** *— публікуе ў "Niezabudce" балады "Русалка-спакусніца", "Дзявочая крыніца", "Дзве бярозы", "Курганы". Напісаны "Нарыс Паўночнае Беларусі".*

***1843*** *— у часопісе "Rocznik Literacki" ўпершыню друкуюцца яго беларускамоўныя вершы "Дзеванька" і "Гарэліца".*

***1844—1846*** *— выдае свой галоўны твор, празаічны зборнік ў чатырох тамах "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", які першыя рэцэнзенты параўноўвалі са знакамітым казачным цыклам "Тысяча і адна ноч".*

***1846*** *— назаўсёды пакідае паўночную сталіцу імперыі, прыняўшы запрашэнне графіні Юліі Ржавускай пасяліцца ў яе доме ў Цуднаве на Валыні (цяпер г. Чуднаў Жытомірскай вобл., Украіна).*

***1849*** *— выдае ў Кіеве першую частку кнігі "Проза і вершы", куды ўвайшлі балады, паэма "Жыццё сіраты" і аповесць "Душа не ў сваім целе".*

***1851*** *— памёр ад сухотаў і 14 сакавіка пахаваны на могілках у Цуднаве.*

**ПРАМЯНЕ**

***1990*** *— у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выходзіць кніга "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", перакладзеная з польскай мовы Міколам Хаўстовічам.*

***1998*** *— "Выбраныя творы" Яна Баршчэўскага выпускае выдавецтва "Беларускі кнігазбор".*

*Пецярбург, 1837 год,*
*4 жніўня.*

***

Лятуць мае думкі ў край,
Дзе, кожны куточак помнячы,
З'явіўся б чароўнай поўначчу
Ў прысадах знаёмых ліп
І ўбачыў майго Анёла, —
Забілася б сэрца вясёла.

Імгненне жаданай сустрэчы
Ў росах сузор'яў тае.
Няхай бы хвілінка тая
Мне стала працягам у вечнасць.

*Пецярбург, 1839 год,*
*люты, дата невыразная.*

## ПАЖАДАННЕ

Як толькі золак заружовіцца,
Зямля ў праменнях заіскрыцца,
Табе наш райскі сад успомніцца
І нашы светлыя крыніцы.

Гурма знаёмых, наша вольніца,
Спеў жаўруковы ў чыстым полі.
І сэрца радасцю напоўніцца,
Калі пачую смех Анёла.

Няхай ў душы тваёй лагоднай
Спакой засвеціць яркай зоркай
І будзе кожны дзень пагодны
Спяваць табе струною звонкай.

Самотных думак быць не можа

Цнатлівай раніцай бязгрэшнай.
І ўсмешка ружаю прыгожай
Цябе, як сонейка, усцешыць.

А я, табою зачарован,
Далёка ў ростані ў журбе
Адзін у скрусе вечаровай
Малюся толькі на цябе.

Калі ж на лісцейку бярозы
Расой слязінка заблішчыць,
Успомні, Юлія, ёсць слёзы,
Якія нельга асушыць.

*Пецярбург, 1839 год,*
*8 мая.*

***

У падарожжы час вясёлы.
І вось са мной фурман суровы.
Імкліва коні, як саколы,
Лятуць праз нівы і дубровы.

Фурман трымае моцна лейцы.
Мінаюць вёрсты, гоні, горы.
Насустрач нам зямля нясецца,
Яе бязмежныя прасторы.

Спяваюць бомы, пыл клубіцца,
Як шлейф аблокаў, за вазком.
З нябёсаў зорка ўжо глядзіцца,
І ветрык вее халадком.

Мігцяцца цені навакола.
Лясныя чутны галасы.

Імкліва коні, як саколы,
Лятуць праз цёмныя лясы.

Заснулі птушкі, больш не квеляць,
Маўчаць крукі і пугачы.
Як добра ў думках летуценіць
І слухаць шолахі начы.

А нада мной праменьчык зоркі,
Як свечка божая, дрыжыць.
У мроях бачу шлях далёкі,
Які насустрач нам бяжыць.

Не раз ужо агеньчык яркі
Знікаў і здраджаваў жаданню:
Ці то заслоняць раптам хмаркі,
Ці то зацемніцца ён даллю.

Я знаю: зорка не пагасне
У небнай стоенай цішы.
Яе агеньчык вечна шчасны
Ў маёй асветленай душы.

Зіхціць ён і ў душы Анёла.
І хоць няблізкая дарога,
Імкліва коні, як саколы,
Лятуць да роднага парога.

*Пецярбург, 1839 год,*
*19 снежня.*

## БАЛАДА

Калі раптоўна свет захмурыцца
І доўгай снежаньскаю ноччу
Мяце мяцеліца на вуліцах
І вецер ледзяны рагоча,

Калі запознена вяртаюцца
З гасцей і радасных сустрэчаў,
У вокнах гмахаў загараюцца
Агеньчыкі прыветных свечак.

*(Твор абрываецца.)*

**Пераклаў з польскай мовы**
**Анатоль КАНАПЕЛЬКА.**

# ПЛАЧКА

Кабета тая незвычайна прыгожая. Вопратка яе — белая, як снег, на галаве — чорны ўбор, і чорная хустка накінута на плечы. Твар хоць і смуглы ад сонца і ветру, але гожы і паглядны, вочы жывыя, і заўсёды блішчаць на іх слёзы. Яна з'яўляецца найчасцей у пакінутых дамах, у пустых касцёлах і на руінах. Бачылі яе таксама пад дрэвамі або пасярод поля. Пасля заходу сонца яна сядае на камені, наракае на лёс жаласным голасам і заліваецца слязьмі. Кажуць, тыя, хто набліжаўся да яе, чулі такія словы: "Няма каму даверыць таямніцу сэрца майго!".

Калі я ехаў з Полацка, на папасе, апавядаў мне карчмар, што там блізка ад дарогі, за бярозавым гаем стаіць пустая хата. Ля яе застаўся толькі невялікі вішнёвы садок. Жыў там даўней селянін, якога з усёй радзінаю выслалі паны кудысьці далёка, забраўшы ў яго некалькі кароў і коней.

 



Праходзіў там убогі сляпы, якога вёў маленькі хлопчык. Пачуўшы ў тым доме журботны спеў, яны падумалі, што там ужо нехта жыве. Дык ідуць туды жабраваць. Заходзяць у хату, сляпы заспяваў песню: “О! Спасіцелю, наш Пане".

— Дом без дзвярэй і вакон, ніхто тут не жыве, — сказаў хлопчык сляпому. — Дарэмна толькі звярнулі з дарогі.

Але тут пасярод хаты з’явілася кабета ў жалобнай вопратцы і са смутным тварам.

— Маліцеся! — кажа. — Усюды ёсць Бог, які будзе вам дапамагаць. — Кінула жменю срэбных манет сляпому ў шапку і імгненна знікла.

Гэты ўбогі, ходзячы ад хаты да хаты, паказваў тыя грошы, на якіх з аднаго боку былі выявы каралёў, а з другога — Пагоня.

Непадалёку ад дарогі, калі едзеш на Віцебск, стаіць пустая капліца. Там, пасля заходу сонца, бачылі, што яна плакала, седзячы на парозе, і яе маркотны голас далёка адзываўся.

Рознае думалі людзі пра гэтую Плачку. Адны баяліся, што яна вяшчуе нейкае вялікае няшчасце, вайну, паморак або голад ва ўсім краі.

Па вёсках старыя людзі гаварылі між сабою пра гэтую кабету, заўсёды прадказваючы нешта дрэннае. Некаторыя ж з маладых мелі зусім іншую думку. Яны даводзілі, што там, дзе з’яўляецца Плачка, напэўна, скарб у зямлі. І ўся ваколіца паўтарала гэтую думку.

На канцы тае вёскі жыў убогі чалавек, які даўней абышоў увесь свет. Вярнуўшыся да свае сям’і, жыў толькі з міласціны. Ён часта паўтараў усім:

— Браты! Слёзы і нараканні гэтае жанчыны абяцаюць вам не золата і срэбра. Кабета плача на парозе забытае вамі святыні. Вы думаеце толькі пра багацце, а вас чакаюць беднасць і пакуты.

Аднаго дня, пасмяяўшыся са слоў гэтага старога, вырашылі: калі ўсе будуць спаць, ісці туды і выкапаць з зямлі скарб.

Старая капліца была за чатыры вярсты ад вёскі. Дык не-

 

калькі маладых сялян, узяўшы з сабою струмант, борзда выправіліся туды, каб пачаць свае пошукі раней, чым заспявае першы певень.

Прыйшлі на месца. Змрочны выгляд тае ваколіцы наводзіў на іх неспакой і страх. Непадалёку шумеў густы яловы лес, там маркотна вухала сава, і месяц вельмі рэдка паказваўся з-за чорных хмараў. Капліца, нібы магільны помнік, стаяла на пагорку ў засені бяроз.

Шчыравалі ўсю ноч. Выкапалі глыбокія ямы ў некалькіх мясцінах, але знайшлі толькі спарахнелыя дошкі ды чарапы. Зразумелі, што былі тут калісьці могілкі, хоць і не ацалела на паверхні знакаў, апрача некалькіх ледзь прыкметных абымшэлых камянёў.

Улетку ноч кароткая. Вось ужо на ўсходзе пачынае ружавець ранак. Шукалі дарэмна. Дык засыпалі ямы і вяртаюцца дахаты.

Узыходзіла сонца. Заспяваў у небе жаўрук, і імгла ўжо знікла. Бачаць перад сабою недалёка ад дарогі ля кустоў ляшчыны — стаіць Плачка, тварам на ўсход. У руках ветрык матляе яркую стужку, тая трымціць у паветры, як бліскавіца. Толькі адзін з іх сказаў: “Пайшлі смела да яе” — прывід імгненна знік.

На тым месцы, дзе стаяла Плачка, вісела велізарнае асінае гняздо. Жамярыцы, што залятали і вылятали з гэтага гнязда, снавалі ў ранішніх сонечных прамянях, нібы залатыя іскры.

— Паслухайце мае рады, — сказаў адзін з іх. — Мы абвяжам асінае гняздо хусткаю. Прыйдзем да старога, разбудзім і скажам, што ля капліцы выкапалі скарб і частку ахвяруем яму. А калі ўстане з пасцелі, укінем яму ў вакно асінае гняздо. Няхай ашалее стары.

Усе пагадзіліся. Разбудзілі старога, укінулі ў хату асінае гняздо, а самі, смеючыся, уцяклі.

Дзіва нечуванае! Стары бачыць перад сабою рассыпанае на зямлі золата. І калі здзіўлена глядзеў на гэта, кажуць, з’явілася перад ім кабета, тая самая, што плакала на парозе старое капліцы, і сказала:

— Бяры палову гэтага золата сабе, а другую — раздай убогім. Бог дапамагае маім пакутным дзецям.

Сказаўшы гэта, яна ўмомант знікла.

У Інфлянтах жа было такое здарэнне. У маёнтку пана М. узвышаліся руіны нейкага старажытнага замка. Кажуць, што ў пракаветныя часы быў там горад, бо цяпер паводка размывае часам пясок і дастае да падмуркаў старажытных камяніц. Там часта знаходзяць шкляныя або ржавыя рэчы, што даўней рабілі дзеля аздобы, абломкі зброі, а зрэдчас медныя або срэбныя грошы, што вякамі ляжалі ў зямлі.

Сюды штовечар, пасля заходу сонца, прыходзіла Плачка. Яна вешала на руіны вянкі польных красак, садзілася на камень і, заломваючы рукі, залівалася слязьмі. Не адзін прахожы, чуючы здалёк яе нараканні, смутны вяртаўся дадому і апавядаў пра гэта іншым.

Былі і такія цікаўныя, што, чуючы лямант дзіўнае кабеты, падышлі ў вечаровым змроку да яе і са слоў, якія пачулі, зразумелі, што нейкая нешчаслівая маці плача па сваіх дзецях. Але толькі надумалі ісці да яе і запытацца, хто яна і якая напаткала яе нядоля, ужо больш не бачылі яе і голас не адзываўся да наступнага вечара.

Не зразумеў ніхто, што гэта такое. Цьмяные здагадкі хадзілі па наваколлі. Усюды гаварылі пра яе толькі як пра дзіўную камету, што з'яўляецца на небе ў выглядзе вогненнае мятлы. Хацелі даведацца, дзе яна жыве і адкуль прыходзіць, але ўсё марна. Нібы які дух, апускалася яна на зямлю і знікала ў паветры.

Кажуць, што і сам пан М. не пярэчыў гэтым дзіўным апавяданням, бо і ён таксама сустрэў яе аднаго разу, вяртаючыся позняй парою дахаты, і чуў, як плакала яна на руінах замка. Не разумеў пан гэтае праявы, аднак, разважаючы, паверыў тым людзям, якія думаюць усё жыццё пра выгоду, хочуць, каб чароўны дух спяваў ім толькі пра золата і срэбра і паказваў скарбы, схаваныя ў зямлі. Дык паклікаў пан аканома і такі даў яму загад:

— Збірай людзей, і заўтра пачынайце капаць на замкавых

руінах. Там у зямлі мусіць быць золата, бо як іначай растлумачыш тую праяву? Пэўна, Плачка хоча паказаць нам нейкія скарбы, якія ўзнагародзяць нас за гэтую працу.

— Я чуў словы тае Плачкі. Яна аплаквала смерць нейкіх нешчаслівых дзяцей, а пра скарбы, схаваныя ў зямлі, і не ўспамінала. Гэтая таямніца нам недаступная. Мне здаецца, тут нейкае папярэджанне і перасцярога.

— Ты падобны да пушчыка ці то да савы, якая страшыць людзей жахлівымі прароцтвамі. Я ні ў што такое не веру і не хачу спрачацца пра гэтую таямніцу. Даўно быў у мяне намер раскапаць руіны. Можа, знойдзем там памяткі старажытнасці, дзеля гэтага не шкада і працы. А калі хто думае, што гэты скарб будзе ў абліччы Плачкі, дык і гэта нядрэнна, што б там ні было, заўтра пачнём раскопкі.

— А калі гэты скарб закляты і вартуюць яго злыя духі, ды немагчыма яго дастаць, бо ён будзе ўсё глыбей і глыбей апускацца ў зямлю, — тады толькі час страцім, а калі і здабудзем што, дык больш будзе бяды, як чаго добрага. Бо я чуў, што недзе дасталі з зямлі зачараваныя скарбы, і калі нехта ўзяў з іх толькі пенязь, таму нейкая хвароба скруціла абедзве рукі.

— Брыдка слухаць. Пляцеш лухту, як дурны мужык. Мне ніякі пенязь не шкодзіць.

— А чаму ж разумныя і багатыя паны пакутуюць ад нуды і хвароб?

— Годзе. Збярэш заўтра людзей і вядзі на руіны. Я сам прыеду і пакажу, дзе пачынаць.

Аканом быў з засцянковае шляхты, добры гаспадар, але верыў у тое самае, што і просты люд; пацiснуў ён плячыма і пайшоў выконваць панскі загад.

Яшчэ толькі паказалася сонца, а гурт сялян ужо стаяў на руінах і чакаў каманды. Калі прыехаў пан М., дык загадаў капаць глыбока на тым самым месцы, дзе заўсёды бачылі на камені Плачку.

Дол быў не глыбейшы, чым на паўтара локця. Знайшлі мураваны склеп, дык раскапалі і вакол, каб адкрыць з усіх бакоў засыпаныя зямлёю сцены. Людзі працавалі не адзін

дзень. Адпачынак іх быў кароткі: апоўдні, у самую спякоту. Нарэшце знайшлі жалезныя дзверы. З абодвух бакоў гэтага склепа былі маленькія вакенцы, на якіх яшчэ моцна трымаліся жалезныя пражавелыя краты.

Выламалі дзверы і адчынілі гэты склеп, куды стагоддзяў колькі не заглядваў сонечны прамень, — глуха там, бы ў магіле. Заходзяць з агнём. Усіх апанаваў страх: паўсюль — пасярод і ля сцен — у розных паставах ляжаць шкілеты; косці рук і ног яшчэ ў цяжкіх кайданах. Здранцвелі людзі, гледзячы на такі жах.

— Здыміце кайданы з гэтых шкілетаў, — сказаў пан М., — і прывязіце мне. Варта захаваць гэтыя памяткі мінуўшчыны.

Завезлі кайданы пану. Ён, паказваючы іх гасцям і сваім суседзям, ганарыўся, што такія старажытныя рэчы здабыў з зямлі, хоць з выгляду яны былі зусім падобныя да цяперашніх.

Косці нябожчыкавыя людзі сабралі, пахавалі ў адной магіле на бліжэйшых могілках, запрасілі святара і з набажэнствам паставілі велізарны драўляны крыж.

Кажуць, што ў той самы вечар з’явілася Плачка ў сваім звычайным жалобным уборы, аздобіла магілу кветкамі і, укленчыўшы перад драўляным крыжам, тварыла малітвы, заліваючыся слязьмі. Людзі бачылі гэта, але ніхто не падышоў да яе. Паглядаючы здалёк, яны адмаўлялі “Вечны супакой” за душы памерлых.

Яшчэ колькі вечароў Плачка малілася, пасыпала магілу кветкамі, але цяпер ужо яе ніхто не бачыў.

На беразе Палаты, за пяць вёрст ад горада, дзе гэтая рэчка мінае пушчы і набліжаецца праз абшары палеткаў да Дзвіны, з’явілася тая самая Плачка. Бачылі яе на пагорку, таксама пры захадзе сонца. Яна сядала на камень, які там ляжаў у засені разложыстых бяроз. Бачылі яе сяляне, ідучы дахаты пасля дзённае працы, і падарожныя, што вярталіся з горада ўвечары.

Разышлася вестка пра гэтую праяву. Людзі, так як і ўсюды, мелі розныя меркаванні, але большасць трымалася тае думкі,

што там ляжаць закапаныя ў зямлі скарбы. У Полацку некаторыя казалі, што ваколіцы іх горада і даўней вельмі часта былі тэатрам вайны. Засталася легенда, быццам частка нейкага войска, зразумеўшы трагічнасць свайго становішча і баючыся, каб іх багацце не дасталося непрыяцелю, закапала золата і срэбра, якое мела пры сабе, на тым пагорку ў зямлю, паклала наверх дзікі камень, каб пазначыць гэтае месца, калі хто з іх вернецца шукаць схаваны там скарб. Але прайшлі стагоддзі, той камень ляжаў на тым самым месцы, а пад ім — некрануты скарб.

Чуючы такія размовы, некалькі юнакоў, што жылі ў Полацку, дамовіліся між сабою, каб пайсці ноччу на той пагорак, дастаць скарб і падзяліць яго між сабою. Узялі патрэбны струмант і, калі ўсе спалі, выйшлі за горад.

Ноч была пагодлівая. Неба — высыпанае зоркамі, і поўня плыла ўверсе. Ішлі яны ціха і асцярожна, каб ніхто не сустрэў іх на дарозе. Мінулі касцёл св. Ксаверыя, дзе спачываюць астанкі законнікаў і абывацеляў гэтага краю. Пачуўшы на Спасе голас вартаўнікоў, што пераклікаліся між сабою, яны звярнулі з дарогі і доўга ішлі берагам рэчкі аж да самага месца.

Прыйшлі на ўзгорак, знайшлі дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верх пакрываў сухі мох. Акапалі яго вакол і супольна сапхнулі з таго месца. Глыбока ў зямлю ўбілі рапіру. Востры канец стукнуў так, нібы крануў нейкую металёвую рэч. Бясспрэчна тут скарб. Пачалі капаць.

Працавалі доўга. Часта паролі зямлю рапіраю. Скарб быў неглыбока, але пясок некалькі разоў засыпаў яму. Стаялі нейкі час здзіўленыя: ім здавалася, што зачараваны скарб хаваецца глыбей, не хоча давацца ім у рукі.

Пакуль раіліся між сабою, што рабіць, з усходу паплылі чорныя хмары, закрылі ўсё неба і схавалі месяц. Зрабілася так цёмна, што яны адзін аднаго ледзь бачылі. Зацерусіў дожджык.

— Лепей будзе капаць, калі пясок зробіцца мокры, — сказаў нехта з іх. — Дык давайце не марнаваць часу.

І, падахвочваючы адзін аднаго, супольна пачалі капаць.

Яму выкапалі доўгую і шырокую, такую, што ўжо лёгка не засыплецца.

Рыдлёўкі скрабуць па жалезе.

— Чыгун! Чыгун з грашыма! — закрычалі ўсе з вялікай радасцю, але, калі абкапалі вакол і хацелі падняць чыгун з зямлі, — убачылі, што гэта цяжкі жалезны панцыр. Ён закрываў грудзі шкілета, ля якога ляжаў меч, а на чэрапе — жалезны шалом-шышак. Стаяць усе задуменныя, бачачы, які́м дзіўным чынам падманула іх надзея.

Тут адзін смялейшы кажа:

— Давайце пакінем гэты шкілет, а зброю забяром сабе. Няхай хоць яна будзе памяткаю пра гэтую ноч.

Толькі хацелі зрабіць гэта — аж раптам маланка асвятліла пагорак, бачаць: стаіць Волат у жалезным панцыры, трымаючы ясны меч у іх над галовамі. Страх працяў сэрцы. Гром скалануў зямлю. І Волат такімі словамі азваўся:

— Нікчэмныя людзі! Золату і срэбру прадалі вы свае душы. Думаючы адно пра багацце, вы зняважылі прах Героя, які слаўна скончыў тут сваё жыццё. Прыйдзе час падняцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!

Азваўся ў хмарах гром, і Волат знік.

Страх апанаваў іх душы. Доўга стаялі нема, як начныя здані. У святле бліскавіцы зноў бачаць перад сабою засыпаны пяском дол, і здаецца, што на гэтым месцы зямля некранутая.

Забылі на пагорку рапіру і свае рыдлёўкі; забылі, якая дарога вядзе да горада; беглі праз лугі і палеткі, і здавалася ім, што той Волат з мячом у руках доўга гнаўся за імі.

Раніцаю вярнуліся ў горад. Знясіленыя, з беднымі тварамі — нібы змучаныя цяжкаю хваробаю, са страхам успаміналі тое здарэнне. Расказвалі іншым, але не ўсе далі веры.

Пасля гэтага Плачку бачылі ў розных мясцінах паблізу горада, на могілках, сярод якіх стаіць мураваны касцёл св. Ксаверыя. Там, заломваючы рукі, хадзіла яна ад аднае магілы да другое, часам, як слуп мураваны, моўчкі стаяла над астанкамі нябожчыкаў. Не адзін прахожы, мінаючы начной

парою гэтыя мясціны, уцякаў спалоханы, нібы ад вампіра, і расказваў дзівы іншым.

Бачылі яе і ля касцёла св. Казіміра. Сядзела яна перад дзвярыма гэтае святыні ад захаду аж да ўзыходу сонца, няраз плакала ў полі, седзячы на камені або на беразе Дзвіны. Але плач яе і нараканні не шмат каму кранапі сэрца. Мала было такіх, што, узняўшы вочы ў неба, прасілі міласэрнасці Божае. Адны не зважалі, другія марылі пра скарбы.

— На маю думку, — сказаў Завальня, — гэта папярэджанне людзям, каб выправілі свае норавы. Але прыкра, што людзі цяпер такія разумныя, што ўсё яны ўжо ведаюць, ні ў якія цуды не вераць, ім трэба скарбы, каб, не працуючы, мець усё, што толькі заманецца. Яны за золата прададуць усё тое, што нашы бацькі цанілі некалі даражэй за жыццё.

— Аднак няблага і скарбы шукаць, — сказаў я. — Багаты чалавек шмат дабра можа зрабіць.

— Багаты чалавек можа шмат добрага зрабіць. Гэта праўда, — сказаў дзядзька. — Але няхай жа ён навучыцца перш пазнаваць і любіць тое, што ёсць дабро. А тады Бог зробіць яго годным уладаром зямных скарбаў, як таго старога чалавека, якому ў вакно кінулі асінае гняздо, і яно перамянілася на вачах яго ў залатыя пенязі. Людзі ганяюцца за багаццем не дзеля таго, каб рабіць бліжнім дабро, а каб нічога не рабіць або — што яшчэ горш — каб шкодзіць. Але што ж далей?

Калі некаторыя нашы багатыя і вучоныя паны падарожнічаюць у шыкоўных фаэтонах або на ловах гойсаюць з ганчакамі па лясах, гарах і пустках, гэтая Плачка часта сустракае іх, нібы сірата, ва ўбогім сялянскім уборы, моўчкі падымае на іх блакітныя, слязьмі залітыя вочы, быццам просячы ў іх літасці, але з гэтых паноў ніхто на яе не зважае.

Недалёка ад возера Рабло, дзе цяпер на выспе стаіць мой дамок, калі пан Завальня ведае той край, пэўна, бачыў ён Пачаноўскую гару, яна там вышэйшая ад усіх іншых. Схілы яе пазарасталі лесам, а вяршыня роўная і гладкая.

Пра гэтую гару між людзей розныя ходзяць апавяданні. Кажуць, што калісь там быў кляштар і касцёл, і хоць не

відаць ніякіх знакаў, кажуць, быццам чуваць з-пад зямлі спевы і галасы званоў.

Іншыя расказваюць, што на самай вяршыні гэтае гары, уначы, у сваім жалобным уборы, упаўшы на калені, рукі і вочы ўздымаючы да зорак, малілася са слязьмі Плачка. Перад ёю адкрылася неба, найяснейшае сонечнае святло разлілося ўверсе гэтак, што ў лясах і на палетках прачнуліся ўсе птушкі і звяры і ад слёз гэтае кабеты ўтварылася крыніца жывое вады.

З таго часу чалавек, які першы раз наведае вяршыню Пачаноўскае гары, той, хто раней не чуў пра гэтае дзіва, сустрэне чысцюткую крыніцу, а недалёка ад яе стаіць журботная сіраціна ў сялянскім уборы. Хто нап'ецца з гэтае крыніцы і пазнае сірату, той будзе вешчуном, усе таямніцы ўбачыць ён з вяршыні гары.

Узыходзілі людзі на гару. Былі і такія, што бачылі крыніцу і смутную сіраціну, аднак не зважалі на іх. Пачуўшы ад іншых пра тыя дзівы, узыходзілі другі раз, але ўжо не сустракалі нікога і не знаходзілі месца, дзе была тая крыніца.

— Няўжо гэта тая самая Плачка, якую бачылі ў ваколіцах Полацка і ў іншых кутках Беларусі, прыходзіць у абліччы сялянскае сіраты?

— Пэўна, тая самая, — сказаў сляпы Францішак, — але людзі шукаюць адно выгодаў, поўныя пыхі, яны не пазналі яе, хоць яна па ўсім краі з'яўляецца ў адным вобліку. Ніхто яе не зразумеў.

— Ты, Янка, чалавек вучоны. А ці разумееш, хто была тая Плачка?

— Цуды можна разумець сэрцам, а не навукаю.

Яшчэ нейкі час мы гаманілі пра гэтую Плачку, і заспяваў певень.

— За поўнач ужо, – сказаў сляпы Францішак. — Дазволь, пане Завальня, падарожнаму адпачыць.

— Дзякуй табе, — сказаў дзядзька, — цудоўнае апавяданне.

Ён патушыў святло, і я пайшоў у свой пакой. Пра Плачку думаў, аж пакуль другі раз не праспяваў певень.

# КРЫЎСКІ СЛОЎНІК ПАВОДЛЕ ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА

*(Выбраныя артыкулы)*

АСТАШЫ — загадкавае племя людзей прышлых, ліхіх, звязаных з *чарнакніжніцтвам* ды чарадзействам. Ян Баршчэўскі астатшоў атаясамлівае з рыбакамі з расейскага горада Асташкава, але ў фантасмагарычнай атмасферы твора асташы ўтвараюць вобраз зборны, абагульнены, увасабленне марнатраўства і гвалту. Асташы "пасылаюць пад лёд злога духа, і той заганяе рыбу ў нерат, дык яны спустошылі ў нас усе азёры, навучылі нашу моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным песням". Т.ч., асташы яшчэ — экалагічныя злачынцы. Намаляваны антрапалагічны партрэт асташа: "барада шырокая, твар круглы, вялікі скураны фартух". Як і *Белая Сарока*, *Чарнакніжнік* уяўляюцца вялікай небяспекай для *Крывіі*: "Даўней і пра тых асташоў нікому і не снілася, а цяпер хутка забяруць у нас зямлю і ваду, так што і нам трэба будзе ўжо ўцякаць куды далей".

БЕЛАРУСКАЯ МОВА (*вар*. КРЫЎСКАЯ МОВА) — яна звініць, крычыць, спявае і гамоніць у аповесці, як тыя валасы, што ажылі і заварушыліся на галаве ў небаракі Генрыка. Пераклад Міколы Хаўстовіча — гэта хутчэй не пераклад "Шляхціца Завальні" з польскай на беларускую, а вяртанне да той веквечнай прамовы, на якой быў створаны не сам тэкст, а ягоны падтэкст. Уласна ж беларуская мова, вылучаная ў перакладзе курсівам, складае цэлы тэкст унутры тэксту; тут фальклорны матэрыял (песні, прыказкі, выслоўі), простая мова персанажаў, нават гутаркі. Беларуская мова з'яўляецца тады, калі тэкст даводзіць сваю антыкніжную, аўтэнтычную прыроду. Два моўныя пласты адлюстроўваюць адметнасць *крыўскай мовы*, феномену, увасобленым Вацлавам *Ластоўскім* у ягоным "Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку". Словы кшталту *навец*, *жамяра*, пэўна, з'явіліся ў тэксце дзякуючы моўнаму досведу В.Ластоўскага.

БЕЛАЯ САРОКА — дэманічная істота, жанчына-птушка, якая прыносіць з сабой бязлад-

дзе і заняпад. Разам з *асташамі*, *Чарнакніжнікам* уваходзіць у дэманічны пантэон ворагаў *Крыўі*. М.Хаўстовіч бачыць у вобразе гаспадыні Паўночнае краіны "выдатны алегарычны вобраз Кацярыны II". Пэўна, нейкія палітычныя алюзіі гэты вобраз у сабе змяшчае. Але ён у абагульненай форме персаніфікуе ў сабе і метафізічнае ліха, скіраванае супраць *Люду беларускага*. Белай Сароцы проціпастаўлены вобраз *Плачкі*.

ВАРГІН – дэманічны чорны кот, які сваім ваблівым варкатаннем плодзіць у чалавечых галовах вос, матылёў ды іншую *жамяру*. Аўтэнтычная свядомасць здаўна не давярала катам, падазраючы іх у зносінах з нячыстай сілай. Пісьменнікі-фантасты і сёння сцвярджаюць, што каты і сабакі маюць доступ да шостага ці сёмага вымярэння, у якім засталіся нашыя колішнія спадарожнікі – дамавікі, лесуны, русалкі. Але на чорных катоў, як звычайна, намаўляюць і шмат дарэмшчыны. Прынамсі, ахвяры ката Варгіна мусяць вінаваціць у сваіх нягодах перадусім сябе. Кацінае варкатанне вызваляе ў іх істотах несвядомыя сублімаваныя жаданні, прыхаваныя ў глыбокіх сховах душы. Гэтыя комплексы матэрыялізуюцца ў абліччы жамяры. У галаве ў звяглівай Антосі заводзяцца восы, у раздуранай і легкадумнай паненкі Зосі – markнакаляровыя матылі. А з галавы пыхлівага і зайздрослівага пана суддзі Дадзмухі "вылятал пухіры накшталт мыльных бурбалак і, лопаючыся пад столлю, перамяняліся ў жахлівых пачвараў – тут і крылатыя гадзюкі, і цмокі, і іншая брыдота, падобная да спарахнелых шкілетаў".

ВАЎКАЛАКІ – як бачым, вяліся не толькі ў Трансільваніі, але і ў Беларусі. У былічках, нават дакументальных крыніцах апісваюцца шматлікія выпадкі, звязаныя з ваўкалакамі. Адзін з такіх выпадкаў узноўлены і ў Баршчэўскага. Існавалі рэцэпты ператварэння чалавека ў ваўкалака і наадварот. Сцвярджаецца, што гэтай ведаю валодаў і славуты крывіч Усяслаў Чарадзей. У нашыя дні здарэнняў з ваўкалакамі паменшала, але яны працягваюць фіксавацца. Некалькі год таму ваўкалак блукаў па вуліцах Санкт-Пецярбурга. На ўсялякі выпадак, вось адзін рэцэпт адчаравання ваўкалака, апісаны В.Нікіфароўскім: "Трэба перакінуць цераз Ваўкалака суконны пояс, часам граблі, часам вілы так, каб кінуты прадмет закрануў яго толькі заднім канцом і пераляцеў ад галавы да хваста".

ГАФМАНІЗМ – закладзеная Э.Т.А. Гофманам традыцыя спалучэння рэальнага і фантасмагарычнага планаў. Скарыстоўвалася, у прыватнасці, М.Гогалем і М.Булгакавым. Не зусім слушна, аднак, называць Я.Баршчэўскага "беларускім Гогалем" або "беларускім Гофманам" за скарыстанне названага прыёму. Сваю "антытрадыцыйнасць", "антыкніжнасць" ён даводзіць у выглядзе творчай дэкларацыі: "Я не пераймаю формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія або французскія; лічу, што чужа-

земнае не будзе пасаваць негаваркому жыхару Беларусі. Узяў я форму з самое прыроды". Т.ч., гафманізм Баршчэўскага вырастае з міфалагічнай аўтэнтыкі, беларускае (крыўскае) глебы. Ён менавіта вырошчваецца, а не выбудоўваецца як кніжная мадэль. Рэальнасць і фантасмагорыя не ўзаеманакладваюцца, а зрошчваюцца. Кожны з апавядальнікаў клянецца, што кажа не казку, а шчырую праўду.

ЖАБЕР-ТРАВА – цудадзейная расліна, з дапамогай якой чалавек выпраўляецца ў трансцэндэнтальнае падарожжа, скажам, у будучыню. Магчыма, лісце жабертравы змяшчае моцны галюцынаген. Маем паралель з раманнай серыяй Карласа Кастанеды, у якім персанажы здзяйснялі містычныя вандроўкі пры дапамозе галюцынагенавых грыбоў або кактусаў. Цікава, што цыган Базыль так і не скончыў свайго аповеду пра пана Адольфа, якога лісце жабертравы прывяло ў нейкі паралельны свет, адкуль не знайшлося зваротнага шляху. Так незваротна сышоў і кастанедаўскі Дон Хуан, а за ім следам, зусім нядаўна, – і сам Карлас Кастанеда.

ЖАМЯРА – (*вар.* ЖАМЯРЫЦА, у *Ластоўскага* – ГМЫЗУРА) – дробныя, агідныя, нячыстыя жывёліны. Няварта атаясамліваць слова толькі з насякомымі. У гісторыі пра ката *Варгіна* жамярой называюцца восы, матылі, жабы, мышы, нават крылатыя гадзюкі і невялікія *цмокі*.

ЗАВАЛЬНЯ – так зваўся гэты спагадлівы пан, які выстаўляў у зімовую ноч, калі завіруха і кудаса, свечку на падваконне ў сваёй хаце. Выспа пасярод Нешчарды, дзе месціўся дамок пана Завальні, ёсць і дасюль, а самога дамка няма. Гадоў дваццаць пяць таму, калі ўпершыню я наведаў берагі Нешчарды, тутэйшыя жыхары ані не ведалі ні пра Завальню, ні пра Баршчэўскага. Але ўжо ў 1990-я яны прызвычаіліся да набегаў філолагаў, этнографаў, гісторыкаў і сустракаюць іх пытаннем: "То мо зноў *ад Баршчэўскага* будзеце распытваць?" Новае, забранзавелае быццё Баршчэўскага, што пачалося пасля ўзвядзення яму помніка, дало пачатак і новай міфатворчасці. Якая-небудзь дзевяностагадовая бабулька, цягнучы вас за крысо пінжака, будзе пытацца: "а ці ведаеце, чаму таго дзядзьку клікалі Завальнем? Таму, што ён адно ляжаў на печы, анічога не рабіў, толькі казкі слухаў. То пра яго і казалі: ляжыць, як завала". У гэтай міфалагеме – усе адносіны нашага народу да дзеячаў тыпу Абломава. Вядома, літаратурны Завальня – не абібок і не марны летуценнік, а гаспадар з жывым практычным розумам, разважлівы, пабожны, жывы, так бы мовіць, рэзанёр, але са сваім "прыбабахам" – наконт жахлівых гісторыяў. Ды хто іх не любіць? Ліса ў вядомай беларускай казцы прымушала дразда спачатку яе накарміць, напаіць, насмяшыць, а потым – напалохаць. Ян Баршчэўскі выдатна адчуў гэтае патаемнае жаданне кожнай істоты і задаволіў яго.

 



КАЛЯНДАР — адзіная кніга, пасля “Бібліі”, якую прызнае і чытае шляхціц Завальня. У “Бібліі” ён, як і крывіч Скарына, знаходзіць амаль усё, што патрэбна для душы і для розуму. Уся астатняя мудрасць — гаспадарчыя парады, назіранні за прыродай і колькі займальных гісторый змяшчае ў сабе “Каляндар”. Гэта — той мінімум тэксту, што патрэбен чалавеку аўтэнтычнаму, які жыве ў згодзе з Богам, прыродай і людскімі законамі. Прыгадаем, што Каляндар быў у ліку першых і, значыцца, самых памятных кніг Янкі Купалы. Каляндар падкрэслівае розніцу паміж кніжнай схаластыкай і жывой ведай — антытэзу, на якой палягае мастацкая канцэпцыя аповесці. Архетып календара адпавядае цыклічнай формуле жыцця; кола дзён — улюбёная кампазіцыйная схема беларускага эпасу, ад “Пана Тадэвуша” да “Адвечнай песні”, “Новай зямлі”, “Палескай хронікі”. Дарэчы, Каляндар дапамагае ідэнтыфікаваць рэальны час твора — рэч дзеецца ў 1817 годзе. У гэты год шляхціцу Завальню пераказалі шэптам нейкую нядобрую навіну, пачутую ад пана пракуратара, і яна значна сапсавала яму настрой. Што тое была за навіна — пра гэта варта запытацца ў гісторыкаў.

КНІГА “ТЫСЯЧА І АДНАЕ НОЧЫ” — з ёю найчасцей параўноўваюць твор Яна Баршчэўскага. Але мы ведаем стаўленне аўтара да літаратурнага перaймання (гл. арт. *Гафманізм*). Рэальна два эпасы — беларускі і арабскі — лучаць фальклорна-этнаграфічны аўтэнтызм, прысутнасць слухача і апавядальніка і *скрынкавая кампазіцыя*.

КРЫВІЧЫ (*вар*. ЛЮД БЕЛАРУСКІ) — насельнікі *Крыўі*, якіх Баршчэўскі найчасцей называе *Людам, Людам Беларускім*. Аўтар падкрэслівае, што накладае на народны характар тутэйшая прырода, суворы клімат. “У бедных вёсках у святочныя і будзённыя дні заўсёды пануе нейкая панурая цішыня; рэдка адгукнецца песня жняца або ратая, і па гэтым спеве можна лёгка зразумець яго заклапочаныя думкі, бо няўрод часта ашуквае тут надзеі працавітага земляроба...” Аўтар адзначае меланхолію як дамінанту тутэйшага песеннага фальклору: “Нават вясельныя песні, дзе маладым зычаць шчаслівага супольнага жыцця, маюць у сабе нейкае пачуццё смутку, як быццам яны не давяраюць будучаму лёсу ў гэтай юдолі плачу...” Някідкі й антрапалагічны партрэт крывіча, што праглядаецца праз аблічча рыбака Родзькі: “Росту ён быў малога, твар бледны і сухі, жарыя вільготныя валасы неахайна падалі на плечы...” Адчуваецца той жа прыём — прыбядненне, — з якім беларускія аўтары распавядаюць пра тутэйшае. Разам з тым з прытоеным гонарам Баршчэўскі апісвае вясельны абрад выкупу нявесты, які параўноўвае з рыцарскім. Усе яговыя просталюдзіны з годнасцю і самавітасцю, хаця негаваркія ды сціплыя. Як гэта мала нагадвае постаць крывіча-выраджэнца, вы-

 

ведзеную *В.Ластоўскім* у навеле "Прывід"!

КРЫЎЯ (*вар.* КРЫВІЯ) — назва легімітызаваная *В.Ластоўскім*, заснавальнікам крыўскае канцэпцыі Беларусі. Вядома, трэба быць ураджэнцам Паўночнае Беларусі, каб прыйсці да крыўскае ідэі. Ластоўскі рэдагаваў газету "Крывіч", стварaў "Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" і мроіў пра бязмерна старажытную крыўскую цывілізацыю, лёс якой увасобіў у "Лябірынтах". У Яна Баршчэўскага слова "Крыўя" не прамовіцца аніводнага разу. Але вымярэнні Крыўі — яе глыбокая старасветчына, крыўскі менталітэт — адчуваюцца паўсюль. Нарэшце, геапрастора: Ян Баршчэўскі памяшчае апісаны ім край у трохкутнік паміж Полацкам, Себежам і Невелем, у басейнах Палаты, Дрысы і рачулкі з песеннай назваю Лавацы. "Неўраджайная і ўбогая краіна", — раз-пораз прамільгне ў апісанні Крыўі Баршчэўскім, і гэта ўспрымаецца як традыцыйнае беларускае прыбядненне. "Невясёлая старонка /Наша Беларусь./ Людзі — Янка ды Сымонка, /Птушкі — дрозд ды гусь", — абзавецца ў тон яму Янка Купала. Наўмыснае прыбядненне спрадвек ратавала беларусаў ад назойлівай цікавасці чужынцаў. Прырода Крыўі, напраўду не надта шчодрая, усё ж абумовіла ментальнасць *крывічоў*. Трэба, аднак, памятаць, што ў аб'ёмным гістарычна-культурным кантэксце Крыўя — не сінонім Беларусі і не яе рэгіён, а адна з яе іпастасяў, накшталт Літвы.

ЛАСТОЎСКІ Вацлаў (1883—1938) — беларускі пісьменнік, культуролаг, лінгвіст. Заснавальнік крыўскай канцэпцыі Беларусі, балазе суворы, паўночны край, апісаны Баршчэўскім, быў і ягонай радзімай. Аўтар "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі", "Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка", аповесці "Лябірынты", шэрагу мастацкіх і публіцыстычных твораў, у якіх крыўская тэорыя набывае рысы завершанасці і вычарпальнасці. Пераемнасць у дачыненні да спадчыны Баршчэўскага выглядае як творчае сумоўе, дыялог, які адбываецца па-за часавымі межамі. Абодва аўтары апісваюць Крыўю, Полацак, тутэйшыя таямніцы і рарытэты, паглыбляюцца ў міфатворчасць. Пра гэта сведчыць пераказанае абодвума паданне пра Гаўраў і Стаўраў. У лексіконе Ластоўскага і перакладным тэксце "Шляхціца..." ужываныя крыўскія словы кшталту *жамяра*, *навец* ды інш.

МОРА — у Беларусі яно некалі было, пра што сведчаць выкапні Палескае катлавіны, але потым... "акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота" (Я.Купала, "Тутэйшыя"). Крывічы калісь мелі фарпосты на Варажскім моры. Не маючы выйсця да мора, беларусы пакутуюць адвечнай нэндзай па ім, ад чаго й нараджаюцца мроі. Яны прысвячаюць яму вершы, у якіх навальнічнае мора выглядае як разгайданае палескае балота (гл. "Мора" Цётка). Ян Баршчэўскі ў Пецярбургу, меланхалічна сузіраючы

 



Фінскую затоку, узгадвае пра *Нешчарду*, якая ўяўлялася яму сапраўдным морам: “Дзень быў нейкі хмарны. Хвалі біліся аб бераг...”

НАВЕЦ — нябожчык. “Наўцом называюць сьвежа памершага нябошчыка, а також нябошчыка які ходзіць па сьмерці і высысае ў жывых кроў (рас. *вурдалак*, польск. *upior*). Навец процістаўляецца *мярсьню*, памершаму, які рассыпаўся і нямае ўжо цела, а паказуецца толькі як дух...” (Ластоўскі, “Расійска-крыўскі (беларускі слоўнік”). Слова сустракаецца ў беларускім перакладзе “Шляхціца Завальні...”, прыкладам, у раздзеле “Стогадовы стары і чорны госць”, што сведчыць пра пераемнасць творчасці Баршчэўскага і *Ластоўскага*.

НЕШЧАРДА — адно з самых вялікіх азёраў у Беларусі, дзесьці як Нарач, Дрысвяты, Асвея, Снуды. І адно з самых халодных, нявеглых, адкуль мо й паходжанне назвы — ад “няшчодра”. Калі ў непагадзь яно пахмурнее, збіраецца ў маршчакі, дык выглядае рыхтык *мора*. Але яно спагадлівае і пяшчотнае да шчырых і чыстых людзей, такіх, як шляхціц Завальня — па сутнасці, гаспадар возера. Мне давялося некалькі разоў быць на яго берагах, бачыць апісаныя Баршчэўскім прыбярэжныя пясчаныя горы, лазняк, паплавы, белых крачак пад хвалямі. У рачулцы, што выцякае з Нешчарды, я ўлавіў двух печкуроў. Але не паказаліся мне цмокі, апісаныя Баршчэўскім, не выставіў над вадой свае рогі шатан. Але я памятаю і іншую Нешчарду — у раз’ятраны, гарачы жнівень 1994 года, калі возера нагрэлася, як саган з юшкай, і праз усю рабінавую ноч у ім нешта булькацела, плёскалася, уздыхала ды цмокала. А ўранні на хвалях пакалыхвалася пустая змяіная скура — ці то рэшткі ад здохлага цмока, ці то скінутая вопратка маладой вужачкі...

ПАЛЁНКА — адмысловы трунак з паленай гарэлкі, журавінаў і мёду; крыўскі пунш. Патрэбны, каб грэць душу й цела падмерзлага крывіча. Жыхары Паўночнае Беларусі маюць патрэбу ў сугрэве, гэтаксама як і скандынавы. На гэтую акалічнасць фрывольна намякнуў крывіч з Ушаччыны Рыгор Барадулін у "Здубавецьці", разважаючы над скаромнымі крывіцкімі прыпеўкамі: "Насельнікі халаднаватай часьціны планеты грэлі свой юр, ятрылі сябе словам моцным, як пяршак. Каб род ня зьвёўся". Палёнка — культавы аб’ект мясцовага патрыятызму. Вось што кажа пан Сівоха: "Як неразумна... прывозіць з Рыгі аракі і замежнае віно, у якое, як я чуў, дзеля смаку немцы дадаюць не вельмі добрыя для здароўя прыправы, і яшчэ дорага за яго плаціць. Лепей выкарыстаць грошы на што іншае. У нас ёсць свае, выдатныя на смак і не шкодныя для здароўя, напоі. Напрыклад, гэтая палёнка! Хвораму чалавеку можна выпіць шкляначку — не пашкодзіць, а дапаможа; ад ліхаманкі, ад прастуды — адзіныя лекі!"

ПЛАЧКА — увасабленне слын-

 

най жаночай пасіянарнасці, гэтак пашыранай на беларускай ды крыўскай землях. М.Хаўстовіч дасціпна выводзіць генеалогію вобразу ад "Трэнасу" Мялеція Сматрыцкага. Плач жанчыны мусіць суцешыцца мужчынскай суворай сілай. Найбольш радыкальныя нашыя пасіянаркі, кшталту Эміліі Плятэр, не чакалі, пакуль выспеюць гронкі гневу, самі сядалі ў сядло і бралі зброю. У творы Яна Баршчэўскага суцяшальнікам Плачкі выступае Сын Буры. Агну Вецер суцяшае яе сын Васіль, "Марыську чарнаброву" — Кастусь Каліноўскі.

ПОЛАЦАК — першая сталіца Беларускае дзяржавы, адвечны цэнтр *Крыўі*. Паводле В.Ластоўскага — цэнтр найстаражытнай цывілізацыі, сувымяральнай паводле ўзросту з ягіпецкай або шумерскай. Ян Баршчэўскі не заглядаў гэтак далёка ў гістарычную мінуўшчыну, але ягоная міфалагічная даўніна сягае яшчэ глыбей. Згадваюцца незвычайныя людзі-асілкі, што жылі даўней, у касмічна аддаленым часе. У вачах шляхціца Завальні Полацак — цэнтр асветы, асяродак кніжнае навукі; ён жа — і крыніца заразы, ад якой пашыраецца *чарнакніжніцтва*. Пан *Твардоўскі*, дарэчы, таксама атабарыўся ў Полацку. Таму Завальня з павагай і адначасна з насцярогаю ставіцца да вялікага ў ягоных вачах места і засцерагае пляменніка і сыноў ад гарадскіх спакусаў.

ПАЛТАРГЕЙСТ — анамальная з'ява, імпартовае вызначэнне якой вынайшлася ў нашым стагоддзі. Баршчэўскі не ведаў такога кручанага слова, але з'яву апісаў з выключнай дакладнасцю: "Ля печы стаялі гаршкі. Адзін з іх падлятае ўгору, падае на падлогу і рассыпаецца на дробныя чарапкі. Збан з квасам, які стаяў на лаве, ускоквае на стол, а са стала кідаецца на зямлю і разлятаецца на друзачкі. Кот перапалохаўся, заіскрыліся вочы, і ён, пырхаючы, схаваўся пад лаваю. Рознае хатняе начынне пачало лятаць з кута ў кут".

СВЕЧКА — сталы літаратурны архетып, адзін з сімвалаў светлай веды, у якой мажлівая гармонія паміж верай, розумам і магіяй. Шляхціц Завальня запальвае свечку і ставіць яе на падваконне свайго дамка, каб уратаваць падарожных ад сцюжы і голаду, а заадно і паслухаць іхнія займальныя гісторыі. Архетып свечкі быў актыўна ўжываны пазнейшымі беларускімі літаратарамі, асабліва М.Багдановічам, Ядвігіным Ш, *В.Ластоўскім*.

СКРЫНКАВАЯ КАМПАЗІЦЫЯ — ланцуг апавяданняў, пры якім адбываецца змена апавядальнікаў — новы казачнік памяшчаецца ў папярэднюю гісторыю. Апавяданні ўкладваюцца адно ў адно, нібы расейскія матрункі. Прыём актыўна скарыстоўваўся ў "*Кнізе тысяча і аднае ночы*" і ў "Шляхціцы Завальні...".

ТВАРДОЎСКІ — жыццялюбца і геданіст, беларускі Фаўст, які хаўрусаваўся з Мефістофелем не за "Імгненне, спыніся!", а дзеля зямных уцехаў. Затое ў хвіліну

страшнай расплаты ён не шукаў жаночага заступніцтва, а ратаваўся, як мог, праз сваю кемлівасць і дасціпнасць. Герой балады Адама Міцкевіча, рамана Юзафа Крашэўскага. У кнізе Яна Баршчэўскага з'яўляецца ва ўстаўной навеле "Твардоўскі і вучань".

ЦМОКІ — жылі ў азёрах, рэках і багнах Беларусі. Ул.Караткевіч апісаў лепельскіх цмокаў як найбольш крыважэрны і небяспечны для чалавека від. Лепельскія цмокі перакульвалі чаўны з "грамадзянамі Вялікага княства Літоўскага", як піша Ул.Арлоў, і жывіліся названымі. Цмокі з возера Нешчарда адрозніваліся меншымі памерамі, няраз набіваліся ў рыбацкія невады і палохалі тутэйшых рыбакоў. Цмок, які вылупіўся з яйка, знесенага чорным пеўнем, верагодна належыць да найстаражытнейшай пароды, нашчадак тых вогнедышных пачвараў, перамогамі над якімі ганарыліся сярэднявечныя рыцары. Выгляд беларускіх цмокаў можна ідэнтыфікаваць паводле абразоў, выпісаных веткаўскімі іканапісцамі, на сюжэт змагання св. Юр'я з пачварай. Агідныя і даволі мізэрныя істоты нагадваюць крылатых жабаў або вужакаў. Апошняга жывога цмока злавілі, як кажуць, у Свіслачы на пачатку гэтага стагоддзя, назваўшы "балотным яшчарам". Ёсць меркаванне, што ў пінскіх балотах або ў глухіх азёрах *Крыўі* цмокі працягваюць жыць да цяперашняга часу, як і ў знакамітым шатландскім возеры Лох-Нэс.

ЧАРНАКНІЖНІК — гэтая злавесная постаць з'явіцца на першых старонках кнігі, адступіць у цень, але будзе вяртацца ў аповедах пра Чорнага госця, пра ката Варгіна і пра валасы, што спяваюць на чалавечай галаве. Чарнакніжнік — носьбіт метафізічнага ліха, згубнік *Крыўі*, гэтаксама як *асташы* і *Белая Сарока*. Яно, гэтае ліха, чарнакніжніцтва, — з'ява цывілізацыйная, а не міфалагічная. Чарнакніжнік знаходзіцца ў свеце людзей, а не дэманаў, такіх як шатан, цмокі або лесуны, хаця ён і карыстаецца паслугамі духаў. Чарнакніжніцтва — таксама з'ява цывілізацыйная, спараджэнне схаластыкі, алхіміі, скрайняга рацыяналізму. Баршчэўскі са скрухаю зазначае, што шляхта стакнулася з чарнакніжнікамі, а веру і звычаі *люду беларускага* трымае за цемрашальства і забабоны. Дарэчы, у гэтую ерась ублытаўся і бацька нацыянальнага генія, Адам Багдановіч, які традыцыі і завядзёнкі беларусаў трымаў за шкодныя "пережитки". Самаўпэўненая шляхта са смехам выслухоўвае "байкі" пра жывыя валасы, пра ката Варгіна, а пасля мусіць расплочвацца за свой недавер. У выніку перамагаюць пракламаваныя Баршчэўскім аўтэнтызм, пракаветнасць, старасвецкасць, інакш кажучы — фундаменталізм.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

# "НА ПАРОЗЕ ЗАБЫТАЕ ВАМІ СВЯТЫНІ"

Ян Баршчэўскі ў гісторыі нашае літаратуры ўсё яшчэ не лічыцца значным пісьменнікам. Аніколі ягонае прозвішча не спалучалася з азначэннем "класік". І гэта нягледзячы на тое, што зробленае гэтым літаратарам класічнае па сваёй сутнасці: менавіта ён заклаў падмурак беларускае (у тэрміналагічным значэнні слова) літаратуры. Да яго аніколі прыгожае пісьменства нашага краю не называлася беларускім. Менавіта ён у сваёй творчасці (перадусім, у прозе, а таксама ў драматычнай паэме "Жыццё Сіраты") здзейсніў удалую спробу сакралізацыі Беларусі, а не Літвы, як Адам Міцкевіч, філаматы і шэраг іншых польскамоўных творцаў нашага краю першае паловы XIX стагоддзя.

Зрэшты, нічога дзіўнага, што мы гэтак ставімся да сваёй спадчыны. Бо творчасць Я.Баршчэўскага — пераважна іншамоўная, алегарычна ўскладнёная — не была належным чынам зразуметая. Нельга з адным і тым жа літаратуразнаўчым інструментарыем падыходзіць і да ягоных вершаваных тэкстаў 30 — пачатку 40-х, і да празаічных ды драматычных твораў, надрукаваных у 1844—1849 гадах. І "Шляхціц Завальня", і "Драўляны Дзядок", і "Душа не ў сваім целе", і "Жыццё Сіраты" — гэта шматузроўневыя творы. Бачыць у іх адно толькі фальклорна-этнаграфічны ўзровень, называць іх "напаўфальклорнымі зборнікамі" недастаткова. Хутчэй за ўсё, аніякіх фальклорных запісаў Я.Баршчэўскі не выкарыстоўваў. Пісьменнік не меў патрэбы запісваць іншых. Ён — сам часцінка народа, тая часцінка, якая стварае. У іншых умовах (калі б не атрымаў адукацыі і не быў знаёмы з еўрапейскаю літаратураю) Я.Баршчэўскі, верагодна, стаўся б адным з шматлікіх народных казачнікаў, стваральнікаў беларускага фальклору. Вось гэтае ўменне "ствараць фальклор" у дасведчанага Я.Баршчэўскага ўвасобілася ва ўменне тварыць у фальклорным духу. Гэта дае падставы гаварыць пра "фальклорнасць" "Шляхціца Завальні".

Але дадзеная "фальклорнасць" не раўназначная народнай фальклорнасці. Бо ствярае яе абазнаны ў літаратуры чалавек. Таму мы абавязкова павінны ставіць пытанне: дзеля чаго Я.Баршчэўскі пайшоў такім шляхам стварэння мастацкага тэксту? Адказаць на яго павінны літаратуразнаўцы, крытыкі, рэцэнзенты. На жаль, з-за панавання ў нашай навуцы пэўных стэрэатыпаў на дадзеную праблему беларуская крытыка бачыць і аналізуе адно толькі паверхневы ўзровень твораў Я.Баршчэўскага. Той узровень, які "с русской точки зрения" характарызаваў напрыканцы XIX стагоддзя акадэмік А.Пыпін, які не здолеў заўважыць у "Шляхціцы Завальні" нешта большае, чым этнаграфічнае апісанне Беларусі ды выкарыстанне беларускага фальклору. Думку А.Пыпіна падтрымаў і развіў акадэмік Я.Карскі, а гэта надзвычай моцна ўплывала на метадалогію аналізу творчасці Я.Баршчэўскага пазнейшымі даследчыкамі. (Адзін толькі В.Каваленка ў кнізе "Вытокі. Уплывы. Паскоранасць" прапанаваў новы шлях вывучэння твораў беларускага пісьменніка сярэдзіны XIX стагоддзя, які, аднак, чамусьці амаль не быў заўважаны.)

Перш-наперш нам трэба памятаць, што творы Я.Баршчэўскага напісаны пад уплывам рамантычнае літаратуры, пад уплывам А.Міцкевіча. Трэба памятаць, што рамантыкі не адно толькі збіралі ды выдавалі фальклор сваіх народаў (такіх, зрэшты, варта называць прадрамантыкамі). Што рамантыкі, выкарыстоўваючы айчынную архаіку, пры дапамозе алегорый і сімволікі гаварылі пра нацыянальнае і палітычнае жыццё свайго краю, апелявалі да пачуцця чалавечае і нацыянальнае годнасці, падказвалі шляхі служэння Бацькаўшчыне. Рамантыкі займаліся міфатворчасцю. Ва ўмовах акупацыйнага пераследу рамантыкі мусілі звяртацца да іншасказальных формаў творчасці, да прыпавесці.

Менавіта гэты шлях абраў Я.Баршчэўскі.

Па пэўных прычынах раней (і зусім па незразумелых сёння) праблема пра прытчавы характар твораў Я.Баршчэўскага, праблема прытчавасці ў нашай літаратуры зусім не ставілася. Хоць магчымасці для гэтага былі: многія жанры беларускага фальклору (чарадзейныя казкі, казкі пра жывёлаў, балады), паэзія ды проза "нашаніўскага" часу (навелы Якуба Коласа, апавяданні М.Багдановіча), а таксама асобныя, хоць і нешматлікія творы нашага часу (В.Быкава) давалі прыдатны і ўдзячны матэрыял дзеля грунтоўнага аналізу алегарычнае сістэмы, уласцівай беларускаму менталітэту.

На нашу думку, Ян Баршчэўскі звярнуўся да жанру прыпавесці з-за некалькіх прычынаў. Па-першае, яму, выхаванаму езуітамі ў любові да Бібліі, яна была блізкаю, была дзейснаю, яна была ўзорам літаратурнага твора. Па-другое, у тагачаснай грамадскай атмасферы толькі з дапамогаю алегорый, інша-

казаў можна было ўплываць на чытача (больш дакладна — толькі літаратурны твор прытчавага характару мог трапіць да чытача).

Я.Баршчэўскі пісаў, што *“не пераймае формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія”*, бо сапраўды не мог ісці іхнім шляхам: тыя тэмы ды праблемы, якія стаялі перад еўрапейскімі літаратурамі, не былі актуальнымі для Беларусі. Зусім верагодна, што ён мог напісаць мастацкі твор (ці шэраг твораў), дзе б расказаў пра жыццё беларускага грамадства. Перадусім, ён добра ведаў гэтае жыццё: як у асяроддзі пецярбургскіх беларусаў, так і на Бацькаўшчыне. Дастаткова прыгадаць словы Р.Падбярэскага:

*“Пан Баршчэўскі заняўся больш адпаведнаю для сябе працаю; ён узяўся за апісанне ўсіх класаў пецярбургскага грамадства; мае цікавы артыкул пра літаратурныя суполкі. Ён заўсёды мае на мэце нашых землякоў, а беларусам дасталося больш за ўсіх; ужо ў палове твора. Сама душа Баршчэўскага праяўляецца на кожнай старонцы, але шкада, што праца ягоная не шмат мае прывабнасці, бо, пэўна, толькі вершам умее пісаць. Аднак гэтая асаблівасць не перашкаджае маляваць сцэны найарыгінальнейшым спосабам, зусім не простым. Для мяне ён піша “Нарысы Беларусі”, бо не ведаю, ці ёсць дзе другі чалавек, каторы бы са шмат якіх бакоў знаў так Беларусь. Калі ёсць, дык гультай які, не здольны да пяра. Адкрыўшы гэту якасць у Баршчэўскім, я стараўся адвесці гэтага 50-цігадовага дзядульку ад вершавання. А гэта — найпрыстойнейшы арыгінал. Рукапіс ягоны носіць тытул “Пан Тузальскі”, твор, у якім выявіўся ўвесь Баршчэўскі са сваёй паэзіяю, розумам, практычнай абазнанасцю і паняццем пра свет”.*

Але проста расказаць пра тое, што ён ведаў, Я.Баршчэўскаму было мала. Яшчэ раз паўторым: стварэнне літаратурных тэкстаў накшталт заходнееўрапейскага прыгожага пісьменства было неактуальным для Беларусі, для краю, які не меў дзяржаўнасці, над якім вісела пагроза поўнае асіміляцыі. Зусім відавочна, што патрыёт роднага краю Я.Баршчэўскі мусіў шукаць пэўныя шляхі дзеля звароту да розуму ды сэрцаў сваіх суайчыннікаў. Мы не ведаем, хто (ці што) паўплывала на пісьменніка, што прымусіла яго змяніць свае адносіны да літаратуры. Бо ж уся ягоная вершаваная прадукцыя — гэта прадукцыя зусім іншага гатунку. Яна не адрозніваецца ад прадукцыі паэтаў трэцяга ўзроўню, паэтаў, якія на літаратурны ўзор апявалі чужыя пачуцці, выдаючы іх за свае. Калі чым і вылучаўся Я.Баршчэўскі з гэтага кола, дык толькі сваімі баладамі. Думаецца, якраз зварот Я.Баршчэўскага да баладавай творчасці, выкарыстанне ім самабытных паданняў, якія не былі яшчэ вядомыя ў літаратуры, якраз і сталася тою акалічнасцю, на якую звярнуў увагу Міхал Грабоўскі, вядомы тагачасны крытык і эстэтык, які распрацаваў канцэпцыю літаратурна-

га працэсу ва ўмовах, што склаліся пасля падзелаў Рэчы Паспалітае. Гэтая канцэпцыя мела на ўвазе ў першую чаргу зварот да мінуўшчыны, а таксама супрацьдзеянне нешанаванню нацыянальных традыцый. Ідэалізацыя мінуўшчыны непазбежна прыводзіла да кансерватызму, але аніякага іншага шляху, каб супрацьдзейнічаць наступу расейскае асіміляцыі, М.Грабоўскі не бачыў. Дадзеную праграму мусіла ажыццявіць празаічная аповесць, а не паэзія ці драма.

Канцэпцыю М.Грабоўскага дасканаткова своеасабліва рэалізаваў Ян Баршчэўскі ў зборніку сваіх "фантастычных апавяданняў" "Шляхціц Завальня".

Адзначым тут яшчэ і той факт, што ў рэчышчы ідэй М.Грабоўскага знаходзіліся ў першай палове 40-х гг. рэдактар і супрацоўнікі кансерватыўнага "Tygodnika Peterburskiego" Юзаф Працлаўскі, Людвік Штырмер і Рамуальд Падбярэскі, якія, відаць, і скіравалі Я.Баршчэўскага на "шлях Грабоўскага". Гэтых літаратараў добра ведаў Я.Баршчэўскі, прыслухоўваўся да іхняга важкага крытычнага слова. Асабліва да слова Л.Штырмера, якога часам называлі "пецярбургскаю бомбаю" (псеўданімам "Гервазы Бомба" ён падпісваў свае літаратурна-крытычныя артыкулы, друкаваныя ў "Tygodniku Peterburskim"). І хоць Р.Падбярэскі і прыпісваў знаходку таленту сабе *(Мусіў і я граць не апошнюю ролю, бо абудзіў ад сну лайдака),* але хутчэй за ўсё асноўная роля належала тут Л.Штырмеру. Якраз ягоны літаратурны талент, ягоная літаратурная праца і з'явіліся тымі акалічнасцямі, якія падштурхнулі Я.Баршчэўскага звярнуцца ў сваёй творчасці да жанру прытчы.

Зрэшты, пэўную ролю Р.Падбярэскага таксама нельга адмаўляць у гэтай справе. Згадаем ягоныя "Лісты пра Беларусь".

*"І хоць родам я ліцьвін, аднак заўсёды, як сусед-зямляк, маючы больш спрыту за аўтара таго артыкула* (маецца на ўвазе паклёпніцкі нарыс Пятра Кушына "Гецыкі". — *М.Х.) лепей пазнаць унутранае жыццё адукаванае грамадскасці, сярод якое я быў немалы час, — палічыў за абавязак ветлівага госця, спагадліва прынятага, абвергнуць хлуслівую думку, якою бездапаможныя радкі цэлы край спрабавалі зняважыць перад чужымі".*

Р.Падбярэскі, дзякуючы сваім сувязям з славянафіламі (прынамсі, у маскоўскі перыяд свайго жыцця), ведаў пра нацыянальна-вызваленчую барацьбу паўднёваславянскіх народаў, ведаў пра ролю літаратуры ў тагачасным грамадскім руху.

Такім чынам, скіраванасць Л.Штырмера на алегарычнае адлюстраванне рэчаіснасці ў мастацкім творы дапаўнялася скіраванасцю Р.Падбярэскага да выяўлення ў літаратуры народна-нацыянальных адметнасцяў. Усе гэтыя "падказкі" трансфармаваліся ў Я.Баршчэўскага ў цэласную сістэму, у аснове якое — беларуская нацыянальная ідэя.

Абраўшы гутаркова-гавэнды

стыль за вонкавую форму твора, пісьменнік здолеў укласці ў гэтую форму не ўласцівыя ёй асаблівасці. Гутаркі-гавэнды Я.Баршчэўскага выяўлялі сябе ў двух планах, двух узроўнях. Адзін — пабытавы, паверхневы, звязаны са стылізацыяй беларускага фальклору, "беларускага жыцця", — выступаў як узровень прафаннага. Другі — алегарычны і сімвалічны, глыбінны, які мог заўважыць і зразумець толькі пасвечаны ў таямніцу, толькі здольны чытаць між радкоў, — выконваў функцыю сакральнага. Першы выконваў у падцэнзурным выданні ролю прыкрыцця, другі праз дыдактыку прытчы, праз алегорыю і сімволіку гаварыў пра тыя ж праблемы, што і вялікая рамантычная літаратура.

Цесная сувязь з кансерватыўна-шляхецкім асяроддзем "Tygodnika...", з аднаго боку, і ўплыў патрыятычнага руху (стымуляванага рамантычнаю літаратураю), з другога, абумовілі напісанне Я.Баршчэўскім твора, прадыктаванага рамантычнай ідэалогіяй.

Ледзь не ўсе раздзелы "Шляхціца Завальні" падыходзяць пад вызначэнне "прытча", ледзь не ўсе апавяданні адпавядаюць патрабаванням гэтага жанру. І сапраўды, як і належыць прытчы, яна ў Я.Баршчэўскага ўзнікае толькі ў пэўным кантэксце і звычайна не мае развітага сюжэта, аднак нясе пэўны сімвалічны змест. Прытча Я.Баршчэўскага напоўнена рэлігійнаю маралістыкай. Паэтыка прытчы Я.Баршчэўскага падпарадкоўваецца законам сярэднявечнае хрысціянскае прытчы; звычайна ў пісьменніка адсутнічае апісальнасць мастацкае прозы заходнееўрапейскага тыпу: прырода і рэчы выкарыстоўваюцца надзвычай рэдка, дзеянне характарызуецца амаль поўнаю адсутнасцю дэкарацый. У пераважнай большасці выпадкаў героі прыпавесцяў Я.Баршчэўскага не маюць "характара" (г.зн. пэўнае камбінацыі псіхалагічных уласцівасцяў. Яны не з'яўляюцца аб'ектамі мастацкага назірання пісьменніка, хутчэй — гэта суб'екты этычнага выбару). Не маюць героі (за рэдкім выняткам) і партрэтнае характарыстыкі. Двух-трох штрышкоў пісьменніку звычайна дастаткова, каб вылучыць свайго героя з кола дзеючых асобаў. Часам гэтыя штрышкі замяняюць герою ўласнае імя. Напрыклад:

*"З'явіўся ў нашым маёнтку — невядома адкуль — нейкі дзіўны чалавек. І цяпер яшчэ памятаю аблічча, твар ды адзенне яго: нізкі, худы, заўсёды бледны, вялізны нос, як дзюба драпежнае птушкі, густыя бровы, пагляд яго — як у чалавека ў роспачы ці вар'ята, апранахі яго — чорныя і нейкія дзіўныя, зусім не такія, як у нас носіць пан ці ксёндз; ніхто не ведаў, ці быў ён свецкі, ці манах які, з панам размаўляў на нейкай незразумелай мове. Пасля адкрылася, што быў гэта чарнакніжнік..."*.

Калі аўтару наступны раз патрэбны зноў гэты герой, дык ужо можна даць і карацейшую ягоную партрэтную характарыстыку:

*"чалавек на танюсенькіх нагах,*

 



*худы, вочы круглыя, дробным і вострым тварам падобны да птушкі".*

Альбо:

*"нейкі згорблены старац у чорнай вопратцы; твар бледны, ясныя вочы свяціліся з-пад густых броваў".*

Большасць іншых герояў Я.Баршчэўскага маюць уласныя імёны. Але зноў жа — пры амаль поўнай адсутнасці партрэта і характару.

Паспрабуем прааналізаваць схему пабудовы прытчаў Я.Баршчэўскага. Яна ўяўляецца нам наступным чынам. З пэўнага краю (аднекуль звонку) з'яўляецца на Беларусь "госць". Ён непадобны да тутэйшых людзей; ён прыйшоў уплываць на насельніцтва гэтага краю, згуртоўваць сабе прыхільнікаў. Зазвычай ён звяртаецца да пэўнае катэгорыі людзей: асобаў з пэўнымі асаблівасцямі характару (хоць і тут ёсць выняткі). Аўтар называе яго чарнакніжнікам, чорным госцем, падкрэслівае гэтым самым ягоныя пэўныя магчымасці ўплываць на акружэнне. Праз нейкі час чарнакніжнік знікае (часцей за ўсё яго выганяюць ці ён, адчуўшы небяспеку, уцякае сам), але пасля сябе пакідае плён свае працы: ягоныя "падследныя" становяцца зусім іншымі: да сваіх ранейшых заганаў яны атрымліваюць яшчэ заганы (з гледзішча здаровае беларускае маралі) і ад навукі "чорнага госця". Я.Баршчэўскі ў большасці сваіх прытчаў якраз і даследуе лёс прыхільнікаў чарнакніжніка — тых, каго ён спакусіў альбо хто быў змушаны пайсці да яго на службу. Лёс іхні зазвычай трагічны: апынуўшыся па-за грамадствам, грамадою, яны альбо гінуць (як Карпа з апавядання "Пра чарнакніжніка і пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем" ці Васіль з апавядання "Зухаватыя ўчынкі"), альбо мусяць перабірацца ў "краіну чарнакніжніка" (як пан Скамароха з апавядання "Белая Сарока"), альбо ім наканавана пакутаваць за здраду, учыненую ці то добраахвотна (як Альберт з апавядання "Вогненныя духі"), ці то несвядома (як Марка з апавядання "Ваўкалак"). Пры дапамозе гэтае трагічнасці Я.Баршчэўскі папярэджвае суайчыннікаў: не будзе шчасця тым, хто здрадзіў свайму краю; не прынясуць карысці трыццаць срэбраннікаў таму, хто згодны часам за дробязь служыць акупантам; хлеб калабаранта — горкі.

Даследаванне лёсу беларуса, які пайшоў на службу да Чарнакніжніка (нячыстае сілы, д'ябла), займае значнае месца ў ідэйнай канцэпцыі кнігі, але не асноўнае. Гэтая тэма знаходзіцца ў "сілавым полі" двух супрацьлеглых полюсаў, двух узаемавыключальных пачаткаў — дабра і зла, Бога і Д'ябла, Бацькаўшчыны і чужынцаў-захопнікаў, Плачкі і Белае Сарокі ды яе спадкаемца Вялікага Чарнакніжніка з памагатымі. Героі выпрабоўваюцца моцаю прыцягнення гэтых полюсаў: адных прываблівае (ці з-за нейкіх прычынаў — змушае служыць сабе) адмоўны полюс, іншыя — шчыра вераць у супрацьлеглае. У бальшыні вераць інтуітыўна; вераць, бо навучае традыцыя, так верылі продкі. Тых,

 

хто свядома абраў Плачку за свой "полюс", — няшмат: блукаюць па шляхах Беларусі Сын Буры ды Пакутны Дух, апавядае пра іх сляпы Францішак, чуйна прыслухоўваюцца да яго слоў госці пана Завальні.

Падаючы Плачку як "становўчы полюс", Я.Баршчэўскі зусім не мае на мэце ідэалізаваць яе. Яна плача не толькі таму, што ейныя дзеці адракаюцца ад Яе, але маркоціцца і з тае прычыны, што Яна сама калісь не была справядліваю да іх. Тут мы павінны звярнуцца да праблемы катэгорыі часу ў прозе Я.Баршчэўскага. Гаворка не пра адлік часу ў формаўтваральнай абалонцы мастацкага тэксту, а пра час сімвалічна-алегарычнага ўзроўню твора. Бясспрэчна, што зыходным пунктам адліку дадзенага часу мы павінны лічыць апавяданне-прытчу "Кабета Інсекта" з аповесці "Драўляны Дзядок і кабета Інсекта". (Гэты твор быў надрукаваны ў альманаху "Niezabudka" за 1844 год яшчэ да выхаду ў свет першага томіка "Шляхціца Завальні".) Менавіта тут пачатак сімвалічна-алегарычнага часу прозы Я.Баршчэўскага. Пісьменнік увасабляе Беларусь у вобразе багатае жорсткае пані, якая "рабавала бедных сялян", "часта і без віны жорстка карала". Гнеў "нішчыць яе цела" (пэўна ж, суседняя дзяржава захоплівае тэрыторыі краю); урэшце гераіня ператвараецца ў "інсекту", да таго ж Яе выганяюць з дому, але злосць усё яшчэ гарыць у Яе сэрцы. І толькі ўплыў Драўлянага Дзядка (ці то рэлігіі) садзейнічае кардынальным пераменам, што адбываюцца з Інсектаю. Яна дзякуе Драўлянаму Дзядку за навуку і ў вобліку анёла, "у сукенцы бялейшай за снег" знікае, каб з'явіцца ў апавяданні "Белая Сарока" Плачкаю, каб нагадваць беларусам пра іх святыні, бо "забытая святыня" абавязкова пераменіцца ў непатрэбныя руіны. Тым больш, што чужаніцы навучаць і гэтыя руіны зраўняць з зямлёю, каб і следу не засталося (гл. апавяданне "Валасы, якія крычаць на галаве").

Пераўвасабленне кабеты Інсекты ў Плачку — гэта не што іншае, як спроба пісьменніка дашукацца прычынаў, чаму край так лёгка дастаўся Белай Сароцы, чаму так мала засталося тых, хто верыць у Плачку і ведае, хто такая Плачка.

Я.Баршчэўскі ведае, з-за чые віны абрынуліся на Беларусь няшчасці. Ведае і смела гаворыць: панства адракаецца ад усяго свайго, ідзе на службу да чарнакніжнікаў-захопнікаў, прывозіць у край асташоў і г.д. Ва ўсіх апавяданнях-прытчах якраз і асуджаецца здрадніцкая роля панства; тых, хто калісь піў за здароўе Белае Сарокі, хто сёння служыць Вялікаму Чарнакніжніку.

Як і належыць класічнай прытчы, у творы Я.Баршчэўскага абавязкова падкрэсліваецца дыдактычны момант: звычайна дзеля маралізатарства аўтар дае слова шляхціцу Завальні, заўвагамі якога пададгульняецца ці не кожнае апавяданне госця ягонае хаты.

З рамантычнага разумення літаратуры і місіі паэта ў грамадстве

Я.Баршчэўскім вынікала неабходнасць стварэння "прарочага" твора, г.зн., такога, які б гаварыў пра важныя справы, які б быў не столькі "копіяй" жыцця, колькі выразам душы мастака, які б не столькі гаварыў пра "белетрыстычныя" прыгоды герояў, колькі — пра драматызм існавання народа ў гісторыі. Магчымасць такога твора не была чыста гіпатэтычнаю. Я.Баршчэўскаму не патрэбна было ствараць нешта новае, бо нямецкая філасофска-фантастычная аповесць, аповесць-прытча і аповесць-міф давалі добрыя ўзоры. Вось, відаць, чаму меў права Р.Падбярэскі праводзіць паралель паміж творчасцю Э.А.Гофмана і Я.Баршчэўскага і ў падцэнзурным артыкуле сцвердзіць думку пра "беларускі гафманізм" "Шляхціца Завальні".

Нягледзячы на тое, што ў 40-я гг. XIX ст. польскамоўная літаратура на землях былое Рэчы Паспалітае спакваля пераходзіла на "раманны шлях", на "шлях Крашэўскага", г.зн. абірала эстэтыку мімікрыі, яшчэ існавала магчымасць працягваць і развіваць (не ў кірунку містыцызму!) ідэі рамантычнае паэзіі ў прозе. І хоць у "Шляхціцы Завальні" Я.Баршчэўскага рамантычная патэтычнасць "захіналася" праблематыкай народнага жыцця, аднак міфалагізм аўтара, ягоная хрысціянска-паганская дэманалогія паслаблялі рэалістычнае гучанне твора на карысць рамантызму. Сакральнасць вобраза Бацькаўшчыны-Беларусі ў творы сведчыла пра жывучасць рамантычных традыцый, а таксама пра магчымасць выкарыстання рамантыкамі дзеля сваіх мэтаў жанравастылявых асаблівасцяў прозы.

**Мікола ХАЎСТОВІЧ**

# АКРЫЛЕНЫЯ ЎСПАМІНЫ

"Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" Яна Баршчэўскага — твор аўтабіяграфічны. У ім вельмі яскрава бачыцца асоба аўтара, яго светапоглядная і эстэтычная пазіцыя, адносіны да грамадскага жыцця сярэдзіны 19 стагоддзя, акрэслена выяўляюцца яго погляды на гісторыю свайго зняволенага краю, на разуменне сутнасці народнага быцця.

Тое, што славуты пісьменнік выхоўваўся на лепшых традыцыях нацыянальнай і сусветнай культуры, дало яму магчымасць зразумець месца беларусаў у еўрапейскай гісторыі, адчуць дух беларушчыны ў народных уяўленнях пра сусвет і сваю маленькую радзіму ў гэтым Сусвеце.

Мабыць, з гэтай прычыны, знаходзячыся далёка ад сваёй радзіннай зямлі, пісьменнік заўсёды вяртаўся думкамі да родных краявідаў, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, дзе ён спазнаў трапяткую радасць і расчараванне першага незабыўнага кахання.

Успаміны яго ўзлётныя, акрыленыя.

Усёй душою імкнецца ён туды, дзе плешча іскрыстымі хвалямі Нешчарда, дзе плыве зялёная, абвітая лазнякамі, Дрыса, дзе на Купалле гараць зыркія вогнішчы, а людзі, апранутыя ў прыгожыя строі, шукаюць шчасную папараць-кветку, дзе адбываюцца розныя дзівосныя прыгоды.

Нязведаныя таямніцы цёмных дрымотных пушчаў, легендарных расонскіх азёраў і курганоў хвалююць уражлівае сэрца маладога чалавека. Ён імкнецца разгадаць і спасцігнуць гэтыя таямніцы, чуйна прыслухоўваецца да незвычайных аповедаў людзей гэтага краю і абуджае ў сваім сэрцы праз мастацкае слова невыказную прыгажосць старажытнасці, незлічоных легендаў і казак, створаных прашчурамі. "Пасля таго, як разлучыўся з маладымі сваімі таварышамі па Полацкай акадэміі, не могучы мець пры сабе іншых кніг, апрача некалькіх лацінскіх і грэчаскіх класікаў, блукаў у прыемных марах дзе-небудзь у цёмнай пушчы або на бязлюдным беразе возера; любіў чытаць у кнізе прыроды, калі вячэрняй парою адкрыецца старонка, на якой мільёнамі зіхоткіх угары зорак напісана Божая ўсёмагутнасць. На зямлі, пакрытай безліччу раслін і жывёл, я чытаў аб міласэрнасці і волі Творцы. Гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі..."

Мастацкае слова Яна Баршчэўскага пераліваецца дыяментнымі росамі, хвалюючы кожнага, хто дакранаецца да першароднай чысціні прыгожага, аздобленага народным пачуццём, узвышанага апавядання старых людзей пра розныя здарэнні, якія перайшлі ад чалавека да чалавека са старадаўніх часоў і якія былі гісторыяй гэтай зямлі, характару і пачуццяў беларусаў.

Вельмі многа "мілых успамінаў" малюе крылатая памяць Яна Баршчэўскага. Успамінаюцца ім недалёкія ад Невеля аселіцы Рабшчызны, дзе "прырода ўзняла высокія горы, быццам паверхі велізарных гмахаў, якія стагоддзі пакрылі ценем лясоў, а некаторыя пад пагодлівым сонцам ззяюць залатым пяском. Якія там разнастайныя краявіды, якія цудоўныя малюнкі!..".

Кожны раз, перачытваючы "Шляхціца Завальню...", здзіўляешся святлу той бясконцай любові пісьменніка да казачнай краіны, створанай фантазіяй Творцы. Але гэта рэальны свет, рэальныя людзі, чароўныя краявіды, якія нельга не любіць, якія заўсёды цябе хвалююць і ўзвышаюць сваёй першароднай нерушовай красой: "Бліжэй да Полацка возера Нешчарда на некалькі міль залівае абшар, падымае хвалямі ўзбярэжныя пясчаныя горы, на поўдзень – шырокія паплавы, усеяныя купамі лазняку, сям-там рэчкі, бегучы здалёк сярод чароту, хаваюцца ў разліве азёрнай вады. Там вясна – рай; са-

мыя розныя птушкі, здаецца, збіраюцца з усіх канцоў свету, тысячы розных меладычных дзікіх і гуллівых галасоў адгукаюцца над вадою па лугах і лясах: енк зязюлі, пошчак салаўёў, голас бугая ў чароце, рэзкія крыкі качак... Гэтая дзівосная суладнасць і гэты канцэрт прыроды пераносілі мае ўяўленні ў нейкі чарадзейны рай. І цяпер гэтыя мясціны, дзе ў маленстве я бачыў столькі цудаў прыроды, гэтыя гаі, залёныя берагі Нешчарды памяць малюе мне, нібы прыснёны сад...".

Родны край у памяці Яна Баршчэўскага заўсёды паўстае ў найпрыгажэйшых колерах, бо там, здаецца, яшчэ не скончыўся той залаты век маладосці, у якім ён у размовах і забавах са сваімі сябрамі-аднадумцамі сустракаў сапраўдную шчырасць і даверлівасць, у якім няўрымслівыя душы зліваліся ў адзіным парыве любові і спагады да простых людзей, у якім было столькі летуценняў і募раў на будучыню!

Акрыленае сэрца Яна Баршчэўскага заўсёды з розных вандроўных дарог імкнулася на берагі Дзвіны, каб пабачыць тыя ваколіцы, малюнкі якіх ён хаваў у глыбінях сваёй душы: "Ледзь набліжаўся да тых краёў, здавалася мне, што дубы і хвоі кланяліся, вітаючы даўно знаёмага госця. Горы і азёры, свецячыся здалёк, нагадвалі мне розныя памяткі мінуўшчыны. Вось шуміць хуткаплынная рэчка Дрыса, бяжыць да Дзвіны праз густыя лясы і пясчаныя гаі, абуджаючы шмат згадак. На тым беразе было некалі папялішча. Даўно ўжо яно ўтравела; час знішчыў на зямлі тую памятку, але яна засталася ў маёй душы, яна нагадвае мне той год, калі жыхары гэтых краёў хаваліся ў лясах ад віхураў вайны з Напалеонам...".

Мне з маленства добра вядомы тыя шляхі і сцежкі, якімі хадзіў Ян Баршчэўскі: Мурагі, Гарбачэва, Галубова, Альбрэхтава, Краснаполле, Клішкова, Сітна, Дворышча, Расоны, Невель, Клясціцы, Полацк... Кожная з гэтых мясцін мае сваю гісторыю, якая свята шануецца сёння нашчадкамі слыннага пісьменніка.

Гістарычная памяць, без якой немагчыма будучыня, пачуццё нацыянальнай свядомасці і гонару за сваю шматпакутную зямлю — асноўныя тэмы развагаў Яна Баршчэўскага ў яго знакамітай кнізе "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях".

**Анатоль КАНАПЕЛЬКА**

## ЖАНОЧЫЯ ВОБРАЗЫ ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА

У еўрапейскім мастацтве жанчына — жывое ўвасабленне прыгажосці. А паняцце прыгажосць — гэта ж фундаментальная эстэтычная катэгорыя. Такім чынам, ніводнае мастацтва не можа абысціся без жаночай постаці.

Жанчына, каханне да якой абудзіла пачуцці

да роднага краю, стала крыніцай натхнення аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры – Яна Баршчэўскага.

Адзін з беларускамоўных вершатвораў Яна Баршчэўскага "Дзеванька" напісаны з нагоды залётаў да маладое панны "Максімавічанкі", як сцвярджае даследчык Р.Падбярэскі, у час вучобы аўтара ў Полацкай езуіцкай калегіі. У адпаведнасці з народнай мараллю Я.Баршчэўскі эмацыянальнастрымана перасцерагае прыгонную дзяўчыну за яе жаданне адарвацца ад сялянскага асяроддзя, стаць ахвярай неабдуманых уласных паводзін. Гэты верш пераклікаецца з вершам Янкі Купалы "Не глядзі", напісаным амаль праз сто гадоў, паводле якога дзяўчына ўжо парушыла мяжу народнай этыкі:

*Ты не любіш мяне, ты шукаеш другіх,*
*Туды пнешся, дзе звоняць дукаты, рублі...*
*А што я табе дам? я ж бядней ад усіх,*
*У бадзянні цяжкім жывучы на зямлі...*

У гэты ж полацкі перыяд Ян Баршчэўскі напісаў знакамітую паэму "Пояс Венеры", у якой наракаў на адсутнасць кахання ў найноўшыя часы.

Даўно заўважана, што лірыка кахання – адна з самых складаных галінаў літаратурнай творчасці, у якой мастацкая індывідуальнасць паэта можа ўвасобіцца з найбольшай сілай і выразнасцю. Сярод вершаў суб'ектыўна-лірычнага плану Яна Баршчэўскага вылучаюцца адрасаваныя Юлі Корсак, "шаноўнай сястры", як называе яе паэт. Але ўжо з першага ліста да яе (ад 4 жніўня 1837 года) можна здагадацца, што далёка не сваяцкія сувязі лучылі гэтых людзей. "Па загаду пані называю яе сястрою. Згаджаюся ва ўсім з ейнаю воляй, і мая прыхільнасць да яе асобы, няхай Пані сама мяркуе, не будзе пашырацца, але ў невялічкім вершы я апішу, што, ад'ехаўшы, адчуваю, памятаючы пра Паню і пра мясціны, дзе я быў найшчаслівейшы:

*Дзе думкі ляцяць, і калі б я меў сілы*
*Наведацца з Поўначы ў домік твой мілы,*
*Між ліп апынуцца мне нейкім бы цудам, –*
*Анёла пабачыў бы я там між людам.*
*І, цешачы мары ўспамін карагодам,*
*Хачу, каб хвіліна цягнулася годам".*

**(Пераклад М.Хаўстовіча)**

Таямнічы свет кахання паэзіі Яна Баршчэўскага застаецца асабістым і абароненым у вершах інтымнага плану, мова гэтых твораў – гэта мова трывалай журбы, светлага, але самотнага, стомленага ад нялёгкіх дарог вандроўніка. Сведчанне гэтаму – "агністая знічка самоты", "бяссонная думка-шчыруха", "жалобнае трымценне кляштарнага звону" – вобразы тугі і шкадавання з верша-паслання "Да Юлі". Тут і матыў незадаволенасці жыццём і часам, які змяняўся і "змяняў дабрачыннасці долі", і надзея на "першаспатканне з вачамі тваімі", і разуменне наканаванасці свайго лёсу.

Хто ж яна, гэтая таямнічая

Пані, "зорка ў бэзавым дыме", "зорка лёсу" паэта? Юля Шапялевіч-Корсак, як сёння вядома, дачка хроснае маці Яна Баршчэўскага, жонка яго сябра Гаўдэнта Шапялевіча, якая з сям'ёй жыла ў Рудні, куды неаднаразова прыязджаў паэт. У лістах 1837 – 1839 гг. да гэтай Пані гучыць мелодыя кахання трагічнага, нязбыўнага і забароненага. Тут біяграфія душы паэта, цэлая гісторыя чалавечых узаемаадносінаў, прасякнутых высакародствам пачуцця і глыбокім драматызмам: "Гэтымі доўгімі зімовымі вечарамі, калі ў Рудні бавяцца ў коле дамавым альбо добрых суседзяў, о каб я мог з'явіцца туды пры першай згадцы пра мяне, — я б стаў перад сястрою, як дух які, ды шмат, шмат пра што сказаў бы ёй. Але гэта жаданне — толькі мроі самотнай душы".

Ва унісон словам з гэтага ліста гучаць радкі з верша "Смутак":

*Люблю гэту цемень, начныя часіны,*
*Мяцеліц шаленства, снягоў каламуць.*
*Да розных дарог даўніх дзён успаміны*
*Мяне тады з поўначы сцюжнай нясуць.*

*О Юля! У час вечаровы пахмурны,*
*Як вецер усходзіцца ў нашай глушы,*
*Успомніш мяне ты: во гэткія ж буры*
*Шугалі ў яго неўтаймоўнай душы.*

**(Пераклад К.Цвіркі)**

Зусім іншую эмацыянальную афарбоўку маюць заключныя радкі верша "Браткі" (лірычны адрасат не ўказваецца, але мы здагадваемся, хто гэта: увосень 1842 г. паэт вярнуўся ў Пецярбург з падарожжа па Беларусі). Тут дамінуе матыў аптымістычнага раданага ўспрыняцця жыцця, ідэя паўнаты чалавечага існавання і адкрытасці ўсім пачуццям:

*Так і я з душой нязбытнай,*
*На сваім шляху жыццёвым*
*Бляск вачэй тваіх блакітных*
*Прывітаў сардэчным словам:*

*— Вось яна, вясёлкая тая,*
*Што асвеціць шлях у змроку!*
*Дзень мінулы — дагарае,*
*Новы, светлы — недалёка!*

**(Пераклад У.Дубоўкі)**

У творчай спадчыне Яна Баршчэўскага ёсць яшчэ два вершы-прысвячэнні жанчынам. Адзін з іх "Санет" (для В.П. Буйніцкай), другі — "Для Іаганы А...віч". У ліпені 1838 г. Ян Баршчэўскі пазнаёміўся на Невельшчыне з сям'ёй Буйніцкіх — Юзафам і Аўстэрбертай. У сваіх лістах да Юлі ён шчыра і прыязна адзываецца аб іх: "Гэта мілыя людзі, дай Божа, каб усе былі, як яны, з тонкімі добрымі пачуццямі ды шляхетнымі думкамі". Сяброўства знайшло водгук у паэзіі — так з'явіўся "Санет". Відаць, чулая шляхетная душа гэтай жанчыны настолькі сагрэла самотную душу паэта, што ён з удзячнасцю прызнаецца:

*Але калі суровых лёсаў прызначэнні*
*Мяне закінуць аж на край зямлі чужое,*
*Сагрэюць памяць дабрыні твае праменні.*

*І ў мыслях успłыве маіх тады былое,*

*Скажу, калі няроўны лёс дадасць*
*мне бедаў:*
*Я шчырасць знаў і дабрыню душы*
*я ведаў.*

**(Пераклад У.Мархеля)**

Верш "Да Іаганы А...віч" прысвечаны, як сцвярджае даследчык М.Хаўстовіч, відаць, дачцэ беларускага кампазітара Антона Абрамовіча. У гэтым творы вечны вандроўнік, паэт-пілігрым ратуецца ад жыццёвых віхураў сустрэчай з райскай птушкай – дзяўчынай, якая ўзносіць яго думкі да хмары, вяртае да жыцця і дзейнасці:

*Дзяўчына! Калі я згадаю цябе,*
*Калі зноў пачую гук роднае мовы,*
*Забуду я час той, як быў у журбе,*
*Са мною зноў радасць, зной ранак*
*вясновы!*

**(Пераклад К.Цвіркі)**

Гераіня, бы анёл, лунае над змучанай душой паэта, сваёй музыкай кранае самае запаветнае. Любоўнае пачуццё ці захапленне дзяўчынай-птушкай раскрываецца як радасць быцця, нягледзячы на ўсе душэўныя хваляванні, якія прыносіць чалавеку, яно ўзвышае над будзённасцю і побытавай прозай.

Рамантычная гераіня верша "Зачараваны край" – русалка, якая гуляе і сваволіць у Зачараваным легендамі і паданнямі краі, вабіць і захапляе, але паэту даспадобы "праўдзівы рай" Маці-Радзімы, пачуццё да якой пачалося з пачуцця да каханай:

*Але чароўны не гэты край,*
*Стокраць пякнейшы праўдзівы рай,*

*Дзе захаплення красуе куст,*
*Маёй багіні дзе родны кут,*

*Бо між смяротных дачок – адна*
*Найпрыгажэйшая ў свеце яна,*

*Бо паміж самых прыгожых зор*
*Самы найлепшы – яна узор*

*І назаўсёды з маёй душой,*
*Ява і сны мае – ў ёй адной.*

**(Пераклад У.Дубоўкі)**

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што ў сістэме мастацкіх вобразаў і катэгорый паэзіі Я.Баршчэўскага значнае месца займае вобраз жанчыны. З далёкага XIX стагоддзя гучыць велічны гімн каханню.

**Ірына САМАТАЙ**

# ФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНАЯ СПАДЧЫНА ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА

Віцебская зямля традыцыйна багатая сваімі азёрамі, рэкамі, непаўторнымі краявідамі, багатая яна на паданні і легенды. Віцебшчына шчодрая і на таленты. Яна дала беларускаму народу слынных дзеячаў культуры, мастацтва і літаратуры. Хіба хто

сёння не ведае славутых асветнікаў-гуманістаў Еўфрасінню Полацкую, Ф.Скарыну, В.Цяпінскага? А імёны знакамітых мастакоў жывапісу М.Шагала, М.Малевіча? Іх ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. А выдатныя майстры слова В.Быкаў, У.Караткевіч, Р.Барадулін...

Віцебская зямля багатая і на фалькларыстаў. Пакінутая імі спадчына шматгранная і разнастайная. Да ліку ўжо вядомых і агульнапрызнаных фалькларыстаў належаць такія знаўцы народнай творчасці, як А.Рыпінскі, М.Нікіфароўскі, А. Шлюбскі, І.Гарбачэўскі, якія сваёй дзейнасцю спрыялі плённаму росту і ўзбагачэнню нацыянальнай фалькларыстыкі як навукі, пашыраючы і паглыбляючы абсяг ведаў жанравых формаў і відаў народнага мастацтва.

Да гэтай катэгорыі належыць і Ян Баршчэўскі, па сведчанні А.Лойкі, "яркая і каларытная фігура", сапраўдны адраджэнец, захавальнік духоўнай спадчыны народа. У яго асобе паяднаплася цікавасць да вывучэння і беларускага краязнаўства, і археалогіі. Яго вабілі мастацтва і музыка, літаратура і гісторыя. Адным словам, дыяпазон інтарэсаў Баршчэўскага быў даволі шырокім. Але яго ў першую чаргу больш цікавіла душа народа, норавы і быт нашых далёкіх продкаў, іх традыцыі.

Творчая спадчына Яна Баршчэўскага і сёння па-сапраўднаму не пазнаная і не ацэненая. Патрабуецца пэўны час, каб навукоўцы з веданнем справы, больш дэталёва праніклі ў вобразны лад, жанравы склад шматлікіх твораў пісьменніка, паўней вызначылі мастацкую спецыфіку ягоных апавяданняў і ліра-эпасу, больш грунтоўна маглі ацаніць уклад Баршчэўскага ў беларускую фалькларыстыку.

Сёння з навуковых крыніц становіцца вядома, што Ян Баршчэўскі больш пазнаны як літаратар. Невыпадкова ў Біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" падкрэсліваецца, што ён "займае надзвычай важнае месца ў гісторыі літаратуры". Але ж Баршчэўскі вядомы і як фалькларыст. Пра гэта красамоўна сведчаць шматлікія яго творы і, у прыватнасці, кніга "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", у якой, паводле Рамуальда Зямкевіча, аўтар "вырашыў тыя народныя апавяданні, якія чуў з вуснаў народа, па меры сваіх здольнасцяў, даць у даслоўным пераказе на польскай мове". Але, як высвятляецца, гэта не чыста народныя творы, як гэта спрабавалі прадставіць некаторыя даследчыкі творчасці Баршчэўскага. Так, перад намі сапраўдны фальклорны матэрыял, які прайшоў умелую літаратурную апрацоўку. І народныя творы, фактычна, набылі пэўную стылявую мастацкую завершанасць.

У кнізе пісьменнік імкнуўся паказаць "гісторыю гэтай зямлі, характар і пачуцці беларусаў", імкнуўся напісаць "кнігу сэрцаў і

характараў людскіх", умела ўсё паядноўваючы з фальклорным матэрыялам. І гэта пісьменніку ўдалося.

Доўгі час лічылася, што Ян Баршчэўскі як фальклярыст зыходзіць з кнігі "Шляхціц Завальня". Але такая пазіцыя, на мой погляд, сёння крыху састарэла і патрабуе дапаўнення. Вядома, ніхто не адмаўляе таго, што кніга "Шляхціц Завальня" багатая народнымі традыцыямі. Але Ян Баршчэўскі, як нам здаецца, не менш поўна раскрываецца ў якасці фальклярыста ў "Нарысах Паўночнай Белай Русі", хаця яны невялікія па аб'еме і мала хто звяртаў на іх увагу.

Хаця, на першы погляд, праца і малая, але вартая. Нарысы насычаны этнаграфічным і фальклорным матэрыялам, які дазваляе глыбей пранікнуць ва ўнутраны свет аўтара, больш паўней выявіць і зразумець яго інтарэсы. Менавіта "Нарысы..." даюць магчымасць сцвярджаць, што перад намі сапраўдны знаўца народных традыцый.

Праца карысная тым, слушна адзначыў Г.Каханоўскі, што тут аўтар "звяртае ўвагу на самабытнасць краю, мовы, народнай творчасці, уласнай гісторыі, на прыгажосць мясцовай прыроды". У "Нарысах..." падаюцца прыклады паданняў і легенд, казкі, сустракаюцца тут і песенныя творы. Аўтар засяроджвае ўвагу на народных абрадах. Так, пры апісанні шлюбнага абраду мы адзначаем цікавыя моманты рытуалу вясельнай паэзіі. Баршчэўскі, у прыватнасці, падкрэслівае, што старадаўні вясельны абрад у сваім бытаванні і выкананні характарызаваўся рыцарскім запалам: "Малады, перш чым стаць ля парога бацькоў нарачонае, прывучае свайго каня не баяцца агню і кідацца ў полымя, а пасля такое падрыхтоўкі, сабраўшыся ехаць да свае нарачонае, ён і яго дружына надзяваюць чырвоныя шапкі, звешваюць на грудзі чырвоныя хусткі і імчацца цераз горы да дому, дзе іх чакаюць нявеста і госці. Перад варотамі яны спыняюцца: салома шугае полымем, ён і дружына пераскокваюць яе наўскач на ўдалых канях, але і тут яшчэ запаленыя пучкі саломы, якія кідаюць коням у вочы, не дазваляюць заехаць у адчыненыя вароты: яны адольваюць усе перашкоды: малады са схіленай галавою ўваходзіць у хату, сядае за сталом, чуецца песня "Бласлоў Бог вяселле іграць", і тут пачынаецца блаславенне маладых і вясельны баль". Гэты невялікі прыклад дае нам падставу сцвярджаць, што зафіксаваны Баршчэўскім абрад уяўляе даволі цікавае і арыгінальнае дапаўненне да ўжо вядомага традыцыйнага шлюбнага рытуалу. Ён пашырае і ўзбагачае нашы веды і ўяўленні пра старадаўні вясельны абрад, і мы глыбей пачынаем разумець, што само вяселле некалі ўяўляла маляўнічае і тэатралізаванае відовішча з элементамі прыгод.

Не меншую цікавасць уяўляе і

свята Купалле, якое таксама ўзгадваецца Баршчэўскім у "Нарысах...". Аўтар не толькі падкрэслівае тыя агульнавядомыя моманты Купалля (шуканне папарацькветкі, скаканне цераз вогнішча, купанне ў рэчцы ці возеры, качанне па ранняй расе і г.д.), але падае цікавыя прыклады легенд, якія звязаныя з усенародным святам. Так, мы даведваемся, што ўся прырода весяліцца ўсю ноч. "Рыбакі бачаць паверхню возера, пакрытую часам белым, нібы месячыкам, бляскам", "дубы сыходзяцца з розных месцаў і, становячыся ў круг, шолахам галін вядуць паміж сабою гаворку", "ліпы і бярозы, збіраючыся там, хваліліся сваёй прыгажосцю, сярод іх былі некаторыя, нібыта госці з суседніх садоў, класічна падстрыжаныя і выпрастаныя, тыя гаманілі пра залётнасць дваровых дзяўчат і свавольства паноў". Тут былі і "вербы, якія, стоячы над ракой і ўглядаючыся ў вадзяное люстэрка, пыталіся адна ў адной, што якой да твару". Легендны матэрыял, які змешчаны ў "Нарысах...", стварае яшчэ большы арэол таямнічасці і паэтычнага хараства купальскай ночы, дазваляе дастаткова адчуць сэнс самога свята — усю яго непаўторнасць.

Яну Баршчэўскаму ўдалося змясціць у "Нарысах Паўночнай Белай Русі" паданні і легенды пра помнікі старажытнасці, аб чым сведчыць адно з паданняў "Магіла князя", у якім аўтар здолеў паяднаць у сабе цікавасць і да помнікаў археалогіі, і да фальклору. У працы сустракаецца і іншы легендны матэрыял, які пераказваецца аўтарам, у прыватнасці — "Разрыў — і пералёт-трава". Згадвае Ян Баршчэўскі ў "Нарысах..." і легенды, якія леглі ў аснову ягоных балад: "Дзявочая крыніца", "Дзве бярозы", "Курганы", "Русалка". Вылучае Баршчэўскі і казкі, якія былі шырока ў той час распаўсюджаныя на Віцебшчыне. Адным словам, "Нарысы Паўночнай Белай Русі" — каштоўная знаходка для фалькларыстыкі, яны сведчаць пра тое, што Ян Баршчэўскі змясціў цікавы, самабытны матэрыял сваёй эпохі. У аўтэнтычнасці фальклорных твораў можна не сумнявацца, пра гэта красамоўна сведчыць сам змест і мастацкая форма.

Менавіта з гэтых пазіцый, з гэтых меркаванняў трэба лічыць Яна Баршчэўскага фалькларыстам, у чым яшчэ раз пераканалі яго "Нарысы Паўночнай Белай Русі", ды і "Шляхціц Завальня...", дзе фальклорны матэрыял кампазіцыйна запаўняе прастору аўтарскага тэксту. А гэта пераканаўча сведчыць пра тое, што Ян Баршчэўскі заўсёды клапаціўся пра духоўную спадчыну беларускага народа.

**Генадзь ХАРОШКА**

 





# Эрнст Тэадор ГОФМАН

*Перш чым мы з вамі прыступімся да асветы, інакш кажучы загадаем высячы лясы, зрабіць раку навігацыйнай, развесці бульбу, палепшыць вясковыя школы, пасадзіць акацыі і тапалі, навучыць моладзь спяваць на два галасы ранішнія і вячэрнія малітвы, пракласці шасэйныя дарогі і ўшчапіць воспу,– перш належыць выгнаць з дзяржавы ўсіх людзей небяспечнага накірунку ў мысленні, якія глухія да голасу розуму і падбіваюць людства на розныя дурасці.*

 

*Эрнст Тэадор (Вільгельм) Амадэй Гофман (E.T.A. Hoffmann, 1776–1822) нарадзіўся ў Кёнігсбергу ў сям'і адваката. Паводле традыцыі сям'я рыхтавала сына да юрыдычнай кар'еры, даючы адначасова шматбаковую гуманітарную, мастацкую, музычную, культурную адукацыю: 1792 – 1793 гг. – вывучэнне права, 1796–1813 – прафесійная юрыдычная дзейнасць у розных гарадах Прусіі, на розных пасадах, з поспехамі і няўдачамі.*

*Нам, сённяшнім, усяму культурнаму свету Гофман цікавы найперш як універсальная асоба амаль рэнесанснага кшталту, самы яркі прадстаўнік позняга нямецкага рамантызму – музыкант, кампазітар, дырыжор, графік, жывапісец, літаратар, чые артыстычныя зацікаўленні сягаюць у таямнічыя сферы паміж сном-марай і рэальнасцю, паміж фантастычнымі ўявамі і аб'ектыўнымі "відзежамі" свету рэальнага, прадстаўнікамі якога мы сябе чамусьці лічым, неяк вельмі ж прагматычна адасабляючыся ад гогалеўскіх віяў і гофманаўскіх феяў, мы ж бо тое – сучасныя, а таму разумнейшыя! Ай, кіньма пустое! Свет адзін і для нас, такіх разумных прагматыкаў, і для казачных феяў!*

*Усе даты пакручастага лёсу Гофмана дапытлівы чытач можа лёгка вычытаць у любой энцыклапедыі, таму – прапускаю. Пазначу толькі год 1807, калі Гофман асяліўся ў Берліне, дзе пачалася ягоная праца капельмайстрам у тэатры, кампазітарская і мастакоўская дзейнасць, і год 1813 (Лейпцыг, Дрэздэн), з якога пайшоў разгон пісьменніцкай актыўнасці – усяго адно кароценькае дзесяцігоддзе, якое і прынесла Гофману сусветную славу, якая за два стагоддзі не толькі не панікла, але яшчэ больш развілася, дзякуючы дабрадайнаму ўплыву на летуценна-фантазійныя галовы іншых геніяў, якім, дзякаваць богу, зводу няма і не будзе.*

## Пра Яго

*Апавядальніцкія фантазіі Гофмана вызначаюцца пераходам ад "чыстай" рамантыкі да*

*новага рэалістычнага мастацтва. Каб пацвердзіць гэты тэзіс, спаішлюся на ўжо знаёмыя чытачу навелы "Рыцар Глюк" і "Дон-Жуан" ("Крыніца", 1996, № 4/20, там жа і апушчаныя цяпер даты жыцця і творчасці). Будучы чыста літаратурнымі творамі з усімі ўласцівымі мастацкім творам адметнасцямі і свабодным палётам мастакоўскай думкі, гэтыя навелы – дакументальна дакладны аналіз музыкі, аналіз, зроблены прафесіяналам на ўласцівым прафесіяналізму ўзроўні. Навела-"фантазія" "Дон-Жуан" і сённяшнімі днямі ў музычным свеце прызнаецца ці не найлепшай кампетэнтна-прафесійнай рэцэнзіяй на оперу Вольфганга Амадэя Моцарта "Дон-Жуан". Дарэчы, зірніце на пачатак гэтай кароценькай нататкі, дзе ў дужачках пазначана трэцяе родавае імя Гофмана – Вільгельм. Дык вось, Вільгельмам Гофман быў, пакуль яго не перамагла любоў да Моцарта. Пасля, у знак глыбокай павагі да музычнага ідэала, Гофман пачаў звацца Амадэусам.*

*І яшчэ адно. Фантазіі... уплывы... Як гэта ўсё фантазійна, нерэальна, пальцамі не памацаеш, у кішэню не пакладзеш... І як яно ўсё рэальна, зрокава-чуйна! Моцарт – Гофман – Майрынк (гэта ўжо XX стагоддзе, экспрэсіянізм, – іншыя феі, іншыя відзежы і ўявы, іншы і рэальны свет, але духоўнае напаўненне свету нязменнае, повязі адны!). І, можа, крыху нечаканае: Гофман – Караткевіч... Карыстаючыся са шчаслівай нагоды, што я яшчэ пакуль што жывы, бо тады позна будзе, хачу засведчыць, што нашым часам Гофман жыў у Караткевічы, хачу засведчыць прызнанні самога Караткевіча ў яго любові да Гофмана, а ўплывы Гофмана на нашага вялікага рамантыка-фантаста вы можаце на свае жывыя вочы ўбачыць, чытаючы ягоныя творы, пазнаючы ўласцівыя такім лірычным казачнікам іронію, сарказм, парадыйнасць, гратэскавасць, амаль барочную з'едлівасць і мяккае, добрае, лагоднае, безабароннае сэрца шукальніка праўды і справядлівасці.*

*А, можа, ніякіх уплываў няма і не бывае? Можа, геніі бачаць рэальны свет праз усю яго вонкавую ірэальнасць. Бо свет гофманаўскіх хімераў і наш з вамі свет – ці не адзін і той самы – аднолькава рэальны і хімерычны? І тады і сёння зборня духаў і зданяў, грамадства праз чары атлумення зводзіць геніяў на паглум, а жывая фея Розабэльвэрдэ пад воплескі натоўпу ўзносіць вурдалакаў на шчыт славы дзеля ўсеагульнага любавання і захаплення, узнагароджвае нікчэмнасць Ордэнам зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках.*

*З банальнай прычыны сваёй непадрыхтаванасці да перакладу гофманаўскай прозы ранейшым часам я не мог выканаць просьбы Караткевіча перакласці "Цахеса", цяпер я гэта раблю з любові і да Гофмана, і да Караткевіча, светлай памяці якога прысвячаю пераклад.*

**Васіль СЁМУХА**

# Курдупель Цахес, якога звалі Цынобер

*Казка*

## Раздзел першы

*Маленькі ваўкалак. – Вялікая нёбяспека пастараваму носу.–Як князь Пафнуцій уводзіў у сваёй краіне асвету, а фея Розабэльвэрдэ трапіла ў пансіён шляхетных паненак.*

Непадалёк ад чароўнай вёсачкі ўзбоч дарогі на добра ўпаранай сонцам зямлі ляжала ў лахманах гаротніца-сялянка. Галодная, сасмяглая, уся знямоглая, няшчасная ўпала, несучы цяжэнныя рэзгіны з сухім ламаччам, якога яна назбірала ў лесе, і як што зусім нябога выбілася з духу, дык і зайшло ёй да галавы, што вось і пераняла яе смерць і кладзе крэс яе нэндзы. Але крыху асіліўшыся, яна паслабіла вяроўкі на прывязанай за плячыма ношцы і памаленьку перавалаклася на мураўку. І тут ужо заенчыла:

– І чаму я адна,– бедавала яна,– з чалавекам маім перавялася ў галечы і горы? Ці ж бо не адныя мы на цэлае сяло працуем як выклятыя, а жывём у вечнай нястачы, на скарынку хлеба разжыцца ледзь можам? Гады тры таму назад, капаючы гарод, выгарнуў мой чалавек з зямлі залатыя манеты, аж мы ўжо былі падумалі, што вось ужо й шчасце завінула да нас і пачнецца далей нашае дабрадзенства. Аж не!– Грошы ўкралі злодзеі, дом і хлеў згарэлі дашчэнту, збажыну ў полі выпетрыў град, і, каб дарэштаваць нашы бядоты, пакарала нас неба гэтым недаросткам-ваўкалакам, якога я нарадзіла на сорам і смех усёй вёсцы! Пад святога Лаўрэна стукнула малому тры з палавінай, а яно ўсё яшчэ не стаіць на сваіх павучыных ножках і

не гаворыць, а толькі яўкае, толькі муркае, бы той кот, а жарэ ж, клятае выроддзе, як здаровае, як бы ў восем, а ўсё роўна яму – як наскрозь праходзіць. Божачка, уміласціўся з яго і з нас! Няўжо мы так і змусімся гадаваць хлапчаня сабе на пакуту і яшчэ большую нэндзу: з кожным днём дзіця есціме больш і больш, а працы з яго кот наплакаў. Не, не, не можа чалавек вытрываць усяго гэтага! А хай бы я лепей сканала!– І гаротніца пачала стагнаць і галасіць, аж пакуль жаль горкі зусім не дапёк яе; змогшыся, яна заснула.

Нябога і праўда магла бедаваць і жаліцца з такім брыдкім вырадкам, якога нарадзіла тры з палавінаю гады таму назад. Тое, што з першага вока можна было прыняць за дзіўна выкрыўлены кавалак каравага дрэва, было сапраўды нешта вырадлівае, дзіця, пядзі з дзве ў рост; пакладзенае ўпоперак ношкі, яно цяпер выпаўзла адтуль і, нешта вуркочучы, юрзалася ў траве. Галава ўрасла ў плечкі, на спіне нейкая наросціна, як гарбуз, а адразу ад грудзей раслі ножкі, тонкія, як дубцы з ляшчыны, і ўсё яно было як бы рассечаная рэдзька. Пустое вока не разгледзела б твару, але калі пільней, дык можна было ўбачыць нос, доўгі і шылаваты, ён тырчаў з-пад чорных скаўтуненых валасоў, і маленькія чорныя з іскрынкамі вочкі – усё гэта ўдадатак да маршчыністага старэчага твару, здавалася, выкрывала ў ім маленькага альраўна.

І вось, калі, як ужо сказана, пакутніца глыбока заснула, а сынок яе прыгарнуўся да яе, сталася так, што паненка фон Розэншэн, патронка бліжэйшага прыюту, якраз вярталася тою дарогаю са шпацыру. Яна спынілася і, як што душою і сэрцам была добрая спагадніца, дык убачаная ёю карціна бядоты людское моцна ўшчаміла яе.

– О справядлівае неба,– усклікнула яна,– колькі няшчасця і гора на гэтай зямлі! Бедная гаротніца! Ведаю, не жыве, а клевае, працуе з-над сілы астатняе, голад і клопат стачылі яе. Толькі цяпер я адчула ўбоства і немач сваю! Ах, каб жа я магла памагчы, як душою зычу! Але ўсё, што яшчэ засталося ў мяне, тыя нямногія дары, якіх ліхі варожы лёс не здолеў ні ўкрасці, ні знішчыць, усё, што яшчэ ў маёй волі, я цвёрда і ўпэўнена хачу пакласці на тое, каб ухіліць бяду. Грошы, а каб жа я іх толькі і мела, табе, нябожа, не памаглі б, а можа нават яшчэ й дарэштавалі б долю тваю. Табе і твайму чалавеку, вам абаім, багацце не наканавана; у яго золата цячэ з кішэні, ён і сам не ведае як, яно

толькі больш спрычыняе маркоты, і чым больш яму перападае, тым бяднейшы ён робіцца. Але ведаю я: больш, чым усё якое, больш за беднасць, точыць тваё сэрца гаркота, што прывяла ты на белы свет гэту маленькую пачвару, якую, нібы цяжкую ліхую навалач, мусіш несці праз усё жыццё. Статным, прыгожым, дужым, разумным хлопчык гэты ніколі не стане, але, можа, удасца паспрыяць яму нейкім іншым чынам.

Тут паненка асела на траву і ўзяла малое на калені. Злосны карлік вывінаўся і ўпіраўся, бурчаў і спрабаваў укусіць паненку за палец, але яна сказала:

– Супакойся, супакойся, мой хрушчык!– і пачала пяшчотна і далікатна гладзіць яго па галоўцы, ад лоба да патылачка. І спакваліютку, пакуль гладзіла, кудлы ў малога распраўліся, раскладаліся прадзелам, роўнымі пасмамі ўлегліся вакол лоба, мякка апалі на вострыя плечы і гарбузаватую спіну. Малое ўсё спакайнела і спакайнела і, нарэшце, моцна заснула. Тады паненка Розэншэн асцярожна паклала яго на мураву каля маці, папырскала на яго пахучай вадою з нюхальнай пляшачкі, якую яна дастала з торбачкі, і паспешліва адышла.

Прачнуўшыся неўзабаве, жанчына адчула, што неяк дзіўна падужэла і пасвяжэла.

– О-го,– усклікнула яна,– колькі бадзёру мне даў кароткі сон! Але ўжо сонца на спадзе, пара дахаты!– Тут яна ўжо хацела была падважыць ношку на пагоршкі, заглянула ў яе, аж малога й няма. А тое паднялося з травы і жаласна занюнькала. Маці зірнула на яго, пляснула рукамі, здзіўленая, і ўсклікнула:

– Цахес, маленькі мой Цахес, а хто ж гэта так прыгожа цябе зачасаў? Цахес, мой маленькі Цахес, як добра ўпасавалі б табе гэтыя пасмачкі, калі б не быў ты такі брыдкі. Ну, ходзь, ходзь сюды – лезь у ношку.

Яна хацела схапіць яго і пакласці на ламачча, але малы Цахес пачаў адбрыквацца, дражніцца і досыць выразна яўкнуў:

– Ня хоцаца!

– Цахес, маленькі мой Цахес! – не памятаючы сябе закрычала жанчына. – Хто ж гэта навучыў цябе гаварыць? Ну, калі ўжо ты так файна зачасаны, так спраўна гаворыш, дык, можа, і бегаць умееш?

Яна ўскінула на плечы ношку, малы Цахес ухапіўся за яе фартух, і так яны пайшлі ў вёску.

Меліся яны там прайсці міма пастаравай хаты, і знагодзілася

так, што пастар якраз стаяў у дзвярах са сваім малодшым сынам. Убачыўшы кабету з цяжкай ношкай і малога Цахеса, што ўчапіўся за яе фартух, пастар прывеціў яе словамі:

– Добры вечар, фраў Ліза! Як здаровіцца? Як добрыцца? Чым дух бавіце? Цяжкая ў вас ношка, вы ж ледзьве ідзяце. Прыселі б і адпачылі на лаўцы вось, я скажу служанцы, хай прынясе напіцца!

Фраў Ліза не далася доўга ўпрошваць, апусціла ламачча на зямлю і ўжо была разявіла рот, каб панаракаць багатаму пану на сваё гора, але ад рэзкага руху малы Цахес страціў раўнавагу і пакаціўся пастару пад ногі. Той борздзенька нагнуўся, падняў малое і сказаў:

– Вой, фраў Ліза, фраў Ліза, які ж у вас міленькі, прыгожанькі хлопчык!

Ён узяў малое на рукі, пачаў яго лашчыць і, здавалася, ані не зважаў, што злы недаростак брыдка вурчыць і яўкае і нават мерыцца ўкусіць шаноўнага пана за нос. Фраў Ліза, зусім збітая спанталыку, стаяла перад святаром, лупіла на яго застылыя ад здзіўлення вочы і не ведала, што тут падумаць.

– Ах, дарагі спадару пастар,– нарэшце занудзіла яна, тхімкаючы носам,– вам, служку божаму, грэх смяяцца з беднай кабеціны, якую няведама за што пакаралі нябёсы гэтым агідным ваўкалакам.

– Глупства,– сур'ёзна запярэчыў святар,– глупства верзяце, мілая фраў! Смяяцца... ваўкалак... кара нябесная! Я не разумею вас і ведаю адно, што вы, мабыць, зусім аслеплі, калі шчырым сэрцам не любіце вашага чароўнага сынка! Дай бусі, мілае дзіцятка!– Пастар песціў хлопчыка, а Цахес бурчаў: “ня хоцаца!” – і зноў мерыўся ўхапіць яго за нос.

– Во, паскуднае страшыдла! – аж спалохалася фраў Ліза.

Але тут загаварыў пастараў сын:

– Ах, мілы мой тата, ты такі добры, такі лагодлівы з дзецьмі, што яны, пэўна, усе цябе шчыра любяць!

– Паслухайце толькі,– усклікнуў пастар, бліснуўшы вачыма ад радасці,– вы толькі паслухайце, фраў Ліза, гэтага цудоўнага, разумнага хлопчыка, вашага мілага Цахеса, гэтага нелюба вашага. Я ўжо прымячаю, што вы ніколі не будзеце яму радыя, які б разумны і прыгожы ён ні быў. Вось што, фраў Ліза, аддайце мне вашага хлопчыка, ён падае вялікія надзеі. А я буду даглядаць і выхоўваць яго. Пры вашай бед-

насці ён толькі завада вам, а мне будзе радасць гадаваць яго як роднага сынка!

Фраў Ліза ніяк не магла прыйсці да памяці ад дзіва такога і ўсё гаварыла:

– Ай, дарагі спадару пастарка, няўжо вы і праўда не жартуеце і хочаце ўзяць да сябе маленькага нетапыра, выхаваць яго і адвесці ад мяне ўсе бядоты, якія я мела праз гэтага ваўкаватага немысля?

Але чым больш распісвала фраў Ліза гідкую брыдоту свайго гнома, тым гарачэй зацінаўся пастар і доказваў, што яна ў сваім вар'яцкім асляпленні не заслужылася на такую каштоўную даброць, дабраславенне нябёсаў, якія паслалі ёй дзівоснага хлопчыка, нарэшце, разгневаўшыся, з маленькім Цахесам на руках убег у хату і замкнуў за сабою дзверы на засаўку.

Як скамянелая стаяла фраў Ліза пад дзвярыма пастаравай хаты і не ведала, што й падумаць. “Ды што ж гэта, Госпадзе,– разважала яна сама з сабою,– здзеялася з нашым шаноўным пастарам, чаго гэта яму так моцна палюбіўся бедны Цахес, што ён прымае дурнога курдупеля за прыгожага і разумнага хлопчыка? Але хай паможа Бог добраму спадару, ён зняў з маіх плячэй цяжар і ўзбатаваў яго на сябе, нахай-от пабачыць сам, як лёгка яго несці! Уга, як палягчэла ношка без малюткі Цахеса, з ім – адна марока!

І тут фраў Ліза падняла на плечы ношку і весела і бестурботна пайшла сваёй дарогай.

Што ж да патронкі фон Розэншэн альбо, як яна сябе называла, Розэнгруншэн, дык ты, ласкавы мой чытач,– калі б і зарупела мне пакуль там што якое памаўчаць пра тое,– усё-такі здагадаўся, што тут была пад сподам нейкая адмысловасць. Бо тое, што шчырадушны пастар палічыў мальца Цахеса прыгожым і разумным і прыняў як роднага сына, тлумачыцца не чым-небудзь такім, а таямнічым уздзеяннем яе рук, якімі яна пагладзіла малога па галоўцы і расчасала яму валоскі. Аднак, любасны чытач, нягледзячы на тваю найглыбейшую празорлівасць, ты ўсё-такі можаш заблытацца ў няправільных здагадках альбо, на вялікую шкоду нашаму расказу, пераскочыць праз многа старонак, каб хутчэй даведацца пра гэтую таямнічую прынцэсу; дык лепей ужо я сам без лішняга адкладу раскажу табе як мае быць усё, што ведаю пра гожую пані.

Паненка фон Розэншэн была высокага росту, з высакарод-

най, імпазантнай статурай і крыху ганарлівай уладнасцю. Яе твар, хоць яго і можна было назваць вельмі прыгожым, асабліва калі яна як звычайна строга і нерухома глядзела наперад, усё-такі рабіў нейкае дзіўнае, амаль злавеснае ўражанне, што след было б аднесці на незвычайную, дзіўную складку паміж брывамі, аднак яна сама толкам так і не ведала, ці дазваляецца патронкам насіць на лобе нешта падобнае; але пры гэтым у яе паглядзе, часцей у часіны, калі цвітуць ружы і стаіць пагода, свяцілася такая вабнасць і лепата, што кожны адчуваў сябе захопленым салодкай, неадольнай замілаванасцю. Калі я першы і апошні раз меў прыемнасць бачыць гэтую даму, яна, калі меркаваць па знешнасці, была сама-сама ў росквіце, сама будзь-будзь, і дасягнула зеніту, і я думаў, што на маю долю выпала вялікае шчасце ўбачыць яе якраз на гэтым павароце і нават нейкім чынам спалохацца яе дзівоснай прыгажосці, якая вось-вось ужо магла і прывянуць. Але я памыляўся. Вясковыя старажылы кажуць, што ведаюць гэтую пані, колькі сябе памятаюць, і што яна заўсёды была такая, ні старэйшая, ні маладзейшая, ні брыдчэйшая, ні прыгажэйшая, рыхтык як цяпер. Мабыць, час не меў улады над ёю, і ўжо адно гэта было дзіўна. А тут яшчэ дадаваліся іншыя самыя розныя акалічнасці, якія, пасля сталай развагі, бянтэжылі кожнага настолькі, што ён урэшце сам блытаўся ў сваіх здогадзях. Па-першае, вельмі ясна выяўлялася сваяцтва паненкі Розэншэн з кветкамі, імя якіх яна насіла. Бо на ўсім свеце не было чалавека, які ўмеў бы, як яна, выганяць такія дзівосныя тысячапялёсткавыя ружы, а ў яе, толькі яна, бывала, уторкне ў зямлю які-небудзь сухі, калючы дубчык, аж бач – на ім пышна пачыналі расці гэтыя кветкі. Да таго ж было вядома, што, самотна гуляючы ў лесе, паненка голасна гутарыць з нейкімі таямнічымі галасамі, падобна на тое, што гэта былі галасы дрэў, кустоў, крыніц і ручаёў. А аднаго разу адзін малады мысліўчык нават падгледзеў, як яна стаяла ў лясной нетры, а вакол яе пырхалі і лашчыліся да яе рэдкія, нябачныя ў гэтай краіне птушкі са стракатым бліскучым пер'ем, яму нават здалося, нібыта яны, весела цвіркочучы і спяваючы, расказвалі ёй розныя пацешныя прыгоды, а яна радасна смяялася. Усё гэта прыцягнула да сябе ўвагу навакольных жыхароў неўзабаве пасля таго, як паненка фон Розэншэн паступіла ў прыют. Яе прынялі туды паводле княскага загаду; а таму барон Прэтэкстатус фон Мондшайн, уладар маёнтка, у суседстве з якім быў прыют

і дзе ён быў апекуном, супроць гэтага не меў нічога, нягледзячы на тое, што яго тузалі страшныя сумненні. Дарма ён старанна шукаў прозвішча Розэнгруншэн у "Кнізе турніраў" Рыкснера і ў іншых хроніках. На гэтай падставе ён справядліва мог запанявeрыцца ў правах на пaступленне ў прыют паненкі, якая не магла паказаць радавод у трыццаць два продкі, і нарэшце, зусім ужо ў поўнай скрусе, са слязьмі на вачах прасіў у яе, заклінаючы небам, каб, прынамсі, хоць не называла сябе Розэнгруншэн, а Розэншэн, бо ў такім імені ёсць хоць які сэнс і тут можна знайсці хоць якога продка. Яна, каб дагадзіць яму, згадзілася. Магчыма, пакрыўджаны Прэтэкстатус нейкім чынам паказаў сваю прыкрасць да паненкі без продкаў і тым самым даў зачэпку ліхім пагудкам, якія ўсё больш і больш распаўзаліся па вёсцы. Да тых чароўных гутарак у лесе, ад якіх, зрэшты, не было вялікай бяды, дадаліся розныя іншыя падазронасці; чуткі пра іх перадаваліся з вуснаў на вусны і выяўлялі сапраўдную сутнасць паненкі ў даволі двухсэнсоўным асвятленні. Цётухна Ганна, солтысіха, бажылася, што за кожным разам як паненка, высунуўшыся ў акно, моцна чхне, ва ўсёй вёсцы скісае малако. Як толькі гэта пацвердзілася, сталася самае жудаснае: Міхель, настаўнікаў сын, ласаваўся ў прыюцкай кухні смажанай бульбай і быў заспеты паненкай, якая, усміхнуўшыся, пагразіла яму пальчыкам. Рот у хлопца так і застаўся раззяўлены, быццам у ім застрагла гарачая печаная бульбіна, і з таго часу ён мусіў насіць шыракаполы капялюш, а то дождж сек бы бедалагу проста ў горла. Неўзабаве ўсе пераканаліся, што паненка ўмее загаворваць агонь і ваду, насылаць буру і град, каўтун і іншую паляндру, і ніхто не сумняваўся, што пастух меў рацыю, калі расказваў, як ён апоўначы з жахам і трымценнем на свае вочы бачыў, што паненка лётала ў паветры на памяле, а спераду ляцеў велізарны жук, і сіняе полымя шугала паміж ягоных рагоў! І ўсё забурліла, захвалявалася, усё паўстала на ведзьму, а вясковы суд пастанавіў ні многа ні мала, як выклікаць паненку з прыюта і ўкінуць у ваду, каб яна прайшла належнае ведзьмам выпрабаванне. Барон Прэтэкстатус не ўсупрацівіўся гэтаму і, усміхаючыся, казаў сам сабе: "Вось так яно і бывае з простымі людзьмі без продкаў, якія не са старадаўняга знакамітага роду, як Мондшайны." Паненка, якой паведамілі пра небяспеку, уцякла ў княскую рэзідэнцыю, пасля чаго неўзабаве барон Прэтэкстатус атрымаў ад заможнага князя кабінетны ўказ, якім да ведама

барона даводзілася, што ведзьмаў не бывае, і загадвалася сачыць за поспехамі ў плаванні прыюцкіх паненак, вясковых суддзяў увязніць у вежу, а астатнім сялянам, а таксама іхнім жонкам пад страхам адчувальнага цялеснага пасячэння абвясціць, каб і на ўме не мелі думаць пра паненку Розэншэн нічога благога. Яны схамянуліся, спалохаліся кары і наперад пачалі думаць пра паненку толькі добрае, што мела вельмі дадатныя наступствы для абодвух бакоў – як для вёскі, так і для паненкі Розэншэн.

Кабінету князя было добра вядома, што паненка фон Розэншэн была не якая там сякая-такая, а славутая на ўвесь свет фея Розабэльвэрдэ. А было яно ўсё так.

На ўсёй зямлі наўрад ці можна было знайсці краіну, каб была прыгажэйшая за тое маленькае княства, дзе быў маёнтак барона Прэтэкстатуса фон Мондшайна і дзе жыла паненка фон Розэншэн, адным словам, дзе адбылося ўсё тое, пра што я, любасны мой чытач, якраз і маю рупнасць расказаць табе больш грунтоўна.

Акружаная высокімі гарамі, гэтая маленькая краіна з яе зялёнымі духмянымі гаямі, квяцістымі лугамі, шумнымі патокамі і гулліва плескатлівымі крыніцамі, была падобная – а асабліва ж таму, што ў ёй зусім не было гарадоў, а толькі ветлыя вёсачкі ды сям-там самотныя замкі,– на дзівосны, прыгожы сад, жыхары якога быццам гулялі ў ім дзеля сваёй уцехі, ані не ведаючы пра цяготы жыцця. Кожны ведаў, што краінай гэтай кіруе князь Дэметрыус, але ніхто не заўважаў, што ёю кіруюць, і ўсе былі з гэтага дужа радыя. Асобы, якія любяць поўную свабоду ва ўсіх сваіх дзеях, прыгожую мясцовасць і мяккі клімат, не маглі б выбраць сабе лепшага жыхарства, як у гэтым княстве, а таму сталася так, што разам з іншымі асяліліся там і цудоўныя феі добрага нораву, якія, як вядома, найвышэй за ўсё цэняць цяпло і свабоду. Якраз ім і можна было заўдзячаць, што амаль у кожнай вёсцы, асабліва ў лясах часта здараліся прыемныя цуды і што кожны, захоплены раскошай і шчасцем, непахісна верыў ва ўсё цудоўнае і, сам таго не ведаючы, з гэтай акурат прычыны быў вясёлы, а значыцца, і добры грамадзянін. Добрыя феі жылі па сваёй волі і зусім як у Джыністане і з вялікай ахвотай падаравалі б Дэметрыусу вечнае жыццё. Але на гэта не ставала іхняй улады. Дэметрыус памёр, і яго заступіў малады Пафнуцій.

Яшчэ за жыцця спадара бацькі Пафнуцій употайкі моцна

маркоціўся, што, бач, як яму здавалася, краіна і народ у такім страшэнным занядбанні. Ён рашыў кіраваць і адразу, як толькі заняў трон, паставіў першым міністрам дзяржавы свайго камердынера Андрэса, які, калі аднаго разу Пафнуцій забыў кашалёк на пастойным двары за гарамі, пазычыў яму шэсць дукатаў і тым самым выбавіў з вялікай бяды. “Я хачу кіраваць, любасны!” – крыкнуў яму Пафнуцій. Андрэс прачытаў у вачах у свайго патэнтата, што рабілася ў яго на душы, прыпаў да ягоных ног і ўрачыста прамовіў:

– Сір! Вялікая гадзіна прабіла! У ззянні паўстае з начнога хаосу дзяржава! Сір! вас просіць самы верны васал, тысячы галасоў няшчаснага гаротнага людства рвуцца вонкі з ягоных грудзей і горла! Сір! увядзіце асвету!

Пафнуцій адчуў вялікае ўзрушэнне ад узнёслых думак свайго міністра. Ён падняў яго, парывіста ціскануў да грудзей і, плачучы, прамовіў:

– Міністр! Андрэс, я абавязаны табе шасцю дукатамі,– больш таго – маім шчасцем, маёй дзяржавай! О верны, разумны слуга!

Пафнуцій ужо быў гатовы загадзя надрукаваць вялікімі літарамі і прыбіць на ўсіх ростанях эдыкт, што з сённяга ўводзіцца асвета і кожнаму ставіцца абавязкам наперад з гэтым лічыцца.

– Шаноўны сір!– усклікнуў Андрэс,– шаноўны сір, так справы не робяцца!

– А як яны робяцца, любасны мой? – спытаўся Пафнуцій, ухапіўшы міністра за пяцельку, пацягнуў таго ў кабінет і замкнуў дзверы.

– Ведаеце што, – пачаў Андрэс, сеўшы на зэдлік насупраць свайго князя,– ведаеце што, найлітасцівейшы спадару, дзеянне вашага княскага эдыкта пра асвету можа скасавацца самым горшым чынам, калі мы не спалучым яго з нейкімі мерамі, якія, хай сабе і здаюцца суровымі, але дыктуюцца дабрамысным намерам. Перш чым мы з вамі прыступімся да асветы, інакш кажучы загадаем высячы лясы, зрабіць раку навігацыйнай, развесці бульбу, палепшыць вясковыя школы, пасадзіць акацыі і таполі, навучыць моладзь спяваць на два галасы ранішнія і вячэрнія малітвы, пракласці шасэйныя дарогі і ўшчапіць воспу,– перш належыць выгнаць з дзяржавы ўсіх людзей небяспечнага накірунку ў мысленні, якія глухія да голасу розуму і падбіваюць людства на розныя дурасці. Шаноўны княжа, вы чыталі

“Тысячу і адну ноч”, бо, я ведаю, ваш найсвятлейшы, шчаснай памяці спадар татуля – хай спашле яму неба непрабудны сон у магіле! – любіў такія пагібельныя кнігі і даваў іх вам у рукі, калі вы яшчэ гапатавалі вярхом на кіёчку і елі залачоныя пернікі. Ну вось, з гэтай абсалютна канфузнай кнігі вы, найлітасцівейшы спадару, мабыць, ведаеце пра так званых феяў, аднак вы, пэўна, і не здагадваецеся, што некаторыя з гэтых небяспечных асоб пасяліліся ў вашай міладайнай краіне, тут, блізенька ад вашага палаца, і ўчыняюць самыя розныя непатрэбствы.

– Як? Што ты кажаш, Андрэс? Міністр! Феі – тут, у маёй краіне!– усклікнуў князь, збялеўшы і адкінуўшыся ў крэсле.

– Мы можам быць спакойныя, найлітасцівейшы валадару,– гаварыў далей Андрэс,– мы можам быць спакойныя, калі ўзброімся розумам супроць гэтых неабольнікаў асветы. Так! Неабольнікамі асветы я іх называю, бо толькі яны, заўжыўшы на благое шчадроты вашага светлай памяці спадара татулі, вінаватыя ў тым, што любасная айчына ўсё яшчэ застаецца ў апраметнай цемры. Яны панатрацца ў небяспечным рамястве – цудатварэнні – і не баяцца пад назовам паэзіі разносіць шкодную атруту, якая робіць людзей няздольнымі да службы на карысць асветы. Далей, у іх такія нясцерпныя, супраціўныя паліцэйскаму статуту завядзёнкі, што ўжо адно за гэта яны не могуць трывацца ні ў воднай цывілізаванай дзяржаве. Так, напрыклад, гэтыя дзёрзкія вычварыны адважваюцца, калі толькі ім у хвасце завіне, рабіць шпацыроўкі ў паветры, а на лейцах у іх галубы, лебедзі і нават крылатыя коні. Ну вось, найлітасцівейшы валадару, ну вось я і пытаюся, а ці варта прыдумляць і ўводзіць разумныя акцызныя зборы, калі ў дзяржаве працвітаюць людзі, якія здольныя кожнаму легкадумнаму грамадзяніну ўкінуць у комін колькі хоч бязмытнага тавару? А таму, найлітасцівейшы валадару, як толькі будзе дакляравана асвета, усіх феяў – у каршэнь! Іх палацы абсядзе паліцыя, у іх сканфіскуюць усю небяспечную маетнасць і, як валацугаў, спраторацць на радзіму, у маленькую краіну Джыністан, якая вам, найлітасцівейшы валадару, мусібыць, вядомая па “Тысячы і адной ночы”.

– А ці ходзіць туды пошта, Андрэс?– спытаўся князь.

– Пакуль што не,– адказаў Андрэс,– але можа стацца, што пасля ўвядзення асветы карысна будзе адчыніць штодзённую пошту і ў гэтай краіне.

– Але ж бо, Андрэс,– зноў за сваё князь,– ці не палічаць

меры, якія мы ўзажывем супроць феяў, крутымі? Ці не пачне наракаць распешчанае людства?

– І на гэты раз,– сказаў Андрэс,– і на гэты выпадак я маю сродак. Мы, найлітасцівейшы валадару, не ўсіх феяў спраторым у Джыністан, адну каторую пакінем у нашай краіне, але не толькі пазбавім іх усякай магчымасці заядацца з асветай, але і скарыстаемся ўсімі патрэбнымі сродкамі, каб ператварыць іх у карысных грамадзян цывілізаванай дзяржавы. А не захоча каторая ўзяць дабрамысны шлюб,– што ж, хай пад строгім наглядам практыкуецца ў якім-небудзь карысным рамястве, вяжа панчохі войску, калі нахопіцца якая вайна, альбо робіць што іншае. Вазьміце пад увагу, найлітасцівейшы валадару, што людзі, калі сярод іх звядуцца феі, вельмі хутка перастануць у іх верыць, а гэта ж ці не самае лепшае. І ўсякія нарокі аціхнуць самі па сабе. А што да начыння, якое належыць феям, дык яно пяройдзе на княскія паліцы, галубы і лебедзі як цудоўная смажанка пойдуць на княскую кухню; крылатых коней таксама можна дзеля спробы прыручыць і зрабіць карысным быдлам, абцяўшы ім крылы і даючы аброку ў стойлах; а кармленне ў стойлах мы ўвядзем разам з асветаю.

Пафнуцій быў больш чым задаволены прапановамі свайго міністра, і ўжо на другі дзень было выканана ўсё, пра што яны ўмовіліся.

На ўсіх вуліцах красаваўся эдыкт пра ўвядзенне асветы, і ў той самы час паліцыя ўжо ўломвалася ў палацы феяў, накладваючы арышт на ўсю маёмасць, а саміх выводзіла пад канвоем.

Толькі неба ведае, як так здарылася, што фея Розабэльвэрдэ за некалькі гадзін да таго, як грымнула асвета, адна з усіх пра ўсё ўведала і паспела выпусціць на волю сваіх лебедзяў і прыхаваць свае магічныя ружавыя кусты і іншыя каштоўнасці. Яна таксама ведала, што яе рашылі пакінуць у краіне, чаму яна, хоць і супраць волі, падпарадкавалася.

Тым часам ні Пафнуцій, ні Андрэс не маглі ўцяміць, чаму феі, якіх транспартавалі ў Джыністан, так непамерна радаваліся і ўвесь час бажыліся, што яны ані не маркоцяцца праз усю тую маёмасць, якую вымушаны пакінуць.

– Урэшце,– сказаў, угневаўшыся, Пафнуцій,– урэшце выходзіць, што Джыністан больш вабная краіна, чым маё княства, і яны падымуць мяне на смех разам з маім эдыктам і маёй асветаю, якая цяпер толькі якраз і павінна распусціцца майскім кветам.

Прыдворны географ разам з гісторыкам мусяць падаць грунтоўны даклад пра гэтую краіну.

Яны абодва пагадзіліся на тым, што Джыністан – гаротная краіна, без культуры, асветы, вучонасці, акацый і прышчэпкі воспы, і нават, шчыра кажучы, яе зусім няма. А ні чалавеку, ні цэлай краіне не можа спрыгодзіцца нічога горшага, як не быць увогуле.

Пафнуцій пачуўся задаволеным.

Калі цудоўны квяцісты гай, дзе стаяў пакінуты палац феі Розэбэльвэрдэ, быў высечаны і Пафнуцій, каб даць прыклад, сваімі рукамі прышчапіў у бліжэйшай вёсцы усім сялянскім мяжджулам воспу, фея падпільнавала князя ў лесе, праз які ён разам з міністрам Андрэсам вяртаўся ў свой замак. Тут яна красамоўнымі словамі, асабліва ж некаторымі злавеснымі штукамі, якія ўтоіла ад паліцыі, загнала князя ў тупік, так што ён, заклінаючы небам, маліў яе задаволіцца месцам у адзіным, а значыцца і ў самым лепшым ва ўсёй дзяржаве пансіёне для высакародных паненак, дзе яна, нягледзячы на эдыкт пра асвету, магла гаспадарыць і кіраваць, як ёй заўгодна будзе.

Фея Розэбэльвэрдэ прыняла прапанову і такім чынам трапіла ў пансіён высакародных паненак, дзе яна, як пра тое ўжо было казана, назвалася паненкай фон Розэнгруншэн, а потым, пасля неадступнай просьбы барона Прэтэкстуса фон Мондшайна, паненкай фон Розэншэн.

## Раздзел другі

*Пра невядомы народ, які адкрыў вучоны Пталамей Філадэльфус у час свайго падарожжа. – Універсітэт у Керапэсе. – Як студэнту Фабіяну паляцелі ў галаву батфорты і як прафесар Мош Тэрпін запрасіў студэнта Бальтазара на філіжанку гарбаты.*

У сяброўскіх пісьмах, якімі славуты вучоны Пталамей Філадэльфус, калі быў у далёкім падарожжы, аблашчваў прыяцеля свайго Руфіна, знаходзім такую вартую ўвагі мясціну:

“Ты ведаеш, дарагі мой Руфін, што я нічога на свеце так не баюся, нічога так не пазбягаю, як гарачых сонечных промняў, што забіраюць усю моц майго цела і так стамляюць і журбоцяць

дух мой, што ўсе мае намыслы зліваюцца ў нейкі цьмяны вобраз і я дарма сілюся ахапіць думкамі што-небудзь выразнае. Таму я і зазвычаіўся гэтым гарачым часам адпачываць удзень, а ўначы вандрую. Так і ўчора ўначы я быў у дарозе. У няпраглядная цемры мой фурман выбіўся з надзейнай, роўнай каляіны і незнарок выехаў на шашу. Нягледзячы на тое, што моцныя штуршкі кідалі мяне з боку ў бок і мая ўся ў гузах галава была падобная на мех грэцкіх арэхаў, я ачуўся з глыбокага сну толькі тады, калі жахлівы штуршок выкінуў мяне з карэты на цвёрдую зямлю. Сонца ярка свяціла мне ў твар, а за шлагбаўмам, які быў якраз перада мною, я разгледзеў высокія вежы вялікага горада. Фурман уголас бедаваў, што аб вялізны камень, які ляжаў пасярод дарогі, разбіўся не толькі дышаль, разбілася і задняе кола карэты, і, здавалася, вельмі мала, калі не зусім, не турбаваўся за мяне. Я, як яно і лічыць мудрацу, стрымаў гнеў і толькі пакорліва крыкнуў хлопцу, што ён, гультаіна пракляты, мог бы ўцяміць, што Пталамей Філадэльфус, славуты вучоны свайго часу, сядзіць на гузне, і хай бы там яно было дышлю дышлева, а колу колава. Табе, дарагі мой Руфін, вядома, якую ўладу я маю над чалавечымі сэрцамі. І вось фурман імгненна перастаў войкаць і з дапамогай шасэйнага мытніка, каля хаціны якога і спадабіла нас тая ліхата, паставіў мяне на ногі. На шчасце, я асабліва не памяўся і меў сілу ціхенька брысці далей, тым часам як фурман ледзьве валок за мною паламаную карэту. Непадалёк ад брамы ўбачанага мною ў сіняй далечы горада мне сустрэлася мноства людзей такога дзіўнага выгляду і ў такой незвычайнай вопратцы, што я пачаў церці вочы, каб упэўніцца, ці праўда я чуваю, або, можа, які кашмарны, дражлівы сон перанёс мяне ў невядомую казачную краіну. Гэтыя людзі, якіх я з поўным правам мог лічыць за жыхароў горада, з брамы якога яны выходзілі, насілі доўгія, шырозныя штаны, скроеныя па-японску, з дарагой тканіны – аксаміту, манчэстэру, тонкага фаляндышу, а то і самаробнага палатна, страката абшытага галунамі, прыгожымі стужкамі і шнуркамі, і карнатыя, ледзь да пупа дзіцячыя куртачкі, часцей светлых тонаў; толькі мала каторых было ў чорным. Нечасаныя валасы ў натуральным беспарадку ападалі на плечы і спіну, а на галаве ў кожнага была маленькая дзіўнага выгляду шапачка. У некаторых шыя была адкрытая, як у туркаў ці ў сённяшніх грэкаў, іншыя, наадварот, насілі на шыі і на грудзях полкі белага палатна, падобныя на

каўнеры, якія табе, любасны мой Руфіне, даводзілася бачыць на партрэтах нашых продкаў. Нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя людзі здаваліся досыць маладымі, галасы ў іх былі тоўстыя і грубыя, а рухі вуглаватыя; у некаторых пад носам быў вузкі цень, як бы вусы. У адных ззаду з куртак тырчалі доўгія трубкі, на якіх боўталіся вялікія шаўковыя кутасы. А тыя павыцяггвалі трубкі з кішэняў і прыладзілі да іх знізу маленькія, сярэдніх памераў, а то і даволі вялікія галоўкі дзівоснай формы і даволі спрытна, дзьмухаючы ў тоненькую, усё больш вузкую на канцы трубку, пускалі клубы дыму. Некаторыя трымалі шырокія бліскучыя мячы, быццам ішлі насустрач непрыяцелю; у некаторых былі прышпілены спражкамі да спіны альбо навешаны з бакоў маленькія скураныя і бляшаныя скрыначкі. Ты можаш сабе ўявіць, дарагі мой Руфіне, як я, хочучы ўзбагаціць свае веды стараннным назіраннем за ўсякім новым для мяне феноменам, спыніўся і ўляпіў свой позірк у гэтых дзіўных людзей. Тут яны абступілі мяне і закрычалі на ўсё горла: “Філістар! філістар!” – і выбухнулі вусцішным рогатам. Мне зрабілася прыкра. Бо, дарагі Руфіне, ці можа быць вялікаму вучонаму што-небудзь больш крыўднае, чым калі яго залічваюць да народа, які за некалькі тысячагоддзяў да таго быў разбіты аслінай сківіцай? Я ўзяў сябе ў рукі і з уласцівай мне годнасцю ўголас абвясціў дзіўнаму народу вакол мяне, што я, трэба спадзявацца, апынуўся ў цывілізаванай дзяржаве і таму звярнуся ў паліцыю і ў суд, каб паквітацца за ўчыненую мне крыўду. Тут усе яны нарабілі галасу; да таго ж і тыя, якія дагэтуль не дымілі, цяпер падаставалі з кішэняў спецыяльныя на тое машынкі, і ўсе пачалі пускаць мне ў твар густыя клубы дыму, які, як я цяпер толькі заўважыў, смярдзеў проста нясцерпна і глушыў мае пачуцці. Потым яны прамовілі нада мною свайго роду заклён, такі мярзотны, што я, любасны Руфіне, не хачу яго табе паўтараць. Я і сам згадваю яго з невымоўным жахам. Нарэшце яны пакінулі мяне з гучным зняважлівым рогатам, і мне здалося, быццам у паветры заміраюць словы: “Бізуны ўгору!”. Фурман мой, які ўсё чуў і бачыў, сказаў, заломваючы рукі:

– Ах, дарагі спадару, калі ўжо сталася тое, што сталася, дык, напраміласць бог, не ўваходзьце ў гэты горад. Ніводзін сабака, як той казаў, не возьме з вашых рук кавалка хлеба і вы будзеце ўвесь час пад небяспекай лупц...

Я не даў добраму хлопцу дагаварыць і, як толькі мог, ху-

ценька падаўся да суседняга сяльца. У адзінокай каморцы адзінага на ўсю вёску заезнага двара сяджу і пішу табе ўсё гэта, любасны Руфіне! Наколькі будзе магчыма, я збяру звесткі пра гэты невядомы варварскі народ, які насяляе горад. Мне ўжо расказалі збольшага шмат чаго дзіўнага пра яго норавы, звычаі і іншае, і я дакладна паведамляю табе пра ўсё...etc., etc.”

Ты ўжо змеціў, дарагі мой чытач, што можна быць вялікім вучоным і не ведаць самых звычайных рэчаў і з’яў і з прычын, даўно вядомых усяму свету, аддавацца дзівосным мроям. Пталамей Філадэльфус практыкаваўся ў навуках, а не ведаў нават пра студэнтаў; апісваючы свайму сябру выпадак, які ў галаве ягонайператварыўся ў незвычайную прыгоду, нават не падазраваў, што ён якраз у вёсцы Гох-Якабсгайм, што, як вядома, непадалёк ад славутага Керапэскага універсітэта. Мой добры Пталамей спалохаўся, сустрэўшыся са студэнтамі, якія радасна і бестурботна гулялі дзеля сваёй асалоды за горадам. Які страх агарнуў бы яго, калі б ён прыехаў гадзінаю раней у Керапэс і аказія прывяла яго да дома прафесара натуральных навук Моша Тэрпіна. Сотні студэнтаў, сыпануўшы з дома, абступілі б яго, шумна дыспутуючы, і ад гэтага хвалявання, ад гэтай мітусні яго розум збянтэжылі б яшчэ больш дзівосныя мроівы.

Лекцыі Моша Тэрпіна наведваліся ў Керапэсе найчасцей. Ён быў, як пра тое ўжо сказана, прафесар натуральных навук: ён тлумачыў, з чаго бывае дождж, гром, маланка, з чаго сонца свеціць удзень, а месяц уначы, як і чаму расце трава etc., так што кожнае дзіця магло гэта зразумець. Ён умясціў усю прыроду ў маленькі далікатны кампендыум, так што заўсёды мог ёю з выгодай карыстацца і на кожнае пытанне дастаць адказ, як усё роўна з шуфляды. Запачаткавала яго славу ўдала выведзеная ім пасля шматлікіх фізічных доследаў выснова, што цемра паходзіць пераважна ад недахопу святла. Гэта адкрыццё, а таксама яго ўмельства з незвычайным спрытам ператвараць памянёныя фізічныя доследы ў чароўныя кунштукі і паказваць даволі пацешныя фокуспокусы, забяспечылі яго немаверна якой процьмай слухачоў. Дазволь мне, мой зычлівы чытач, бо ж ты ведаеш студэнцтва куды лепей, чым славуты вучоны Пталамей Філадэльфус, і табе невядомая яго летуцейніцкая палахлівасць, звабіць цябе ў Керапэс да дома прафесара Моша Тэрпіна якраз у той час, калі ён дачытаў лекцыю. Адзін студэнт, які выйшаў з лекцыі, адразу забірае тваю ўвагу. Ты бачыш станістага хлопца

гадоў дваццаці трох, ад сілы – дваццаці чатырох; яго цёмныя бліскучыя вочы яскрава гавораць пра жывы і ясны розум. Позірк яго можна было б назваць амаль зухаватым, калі б летуцейніцкая тужлівасць, разлітая на бледным твары, не засціла-ла, быццам дымкай, палкіх прамянёў ягоных вачэй. Яго каптан з чорнага тонкага фаляндышу, аброблены кроеным аксамітам, быў пашыты амаль на стаpанямецкі фасон, пад што вельмі пасаваў святочны, сляпуча белы каўнер і аксамітны барэт на прыгожых цёмна-каштанавых валасах.

Такая выправа, можа, таму так і строіла яго, што ўсёй сваёй істотай, прыстойнай хадою і паставай, сур'ёзным тварам, здавалася, ён упісваўся ў цудоўна вышляхетненую старадаўнасць, а таму і не наводзіў на подумку пра манерыстасць, якая так часта аказвае сябе ў дробязным перайманні блага зразуметых узораў і ў гэтак жа блага ўсвядомленых похапках нашага часу. Гэты маладзён, які так адразу на свежае вока ўпадабаўся табе, любасэрды чытач, не хто там які, а студэнт Бальтазар, сын годнасных і заможных бацькоў, хлопец нораву сціплага, разважлівы, руплівы, пра яго я, мой чытач, яшчэ вой-вой колькі дзіўнага табе панарасказваю ў гэтай дужа дасціпнай гісторыі.

Сур'ёзны, замроены, як заўсёды з ім бывала, ішоў Бальтазар з лекцыі Моша Тэрпіна да гарадское брамы, каб адведаць замест фехтавальнай залы цудоўны гаёк, што быў за некалькі сотняў крокаў ад Керапэса. Сябар ягоны Фабіян, прыгожы дзяцюк, вясёлы з выгляду і такі самы норавам, пабег следам за ім і дагнаў каля самае брамы.

– Бальтазар!– голасна крыкнуў Фабіян.– Бальтазар, ты зноў выбраўся ў лес, зноў будзеш хадзіць, як меланхалічны філістар, тым часам як добрыя буршы руплівa практыкуюцца ў высакародным майстэрстве шармеркі. Прашу цябе, Бальтазар, кінь нарэшце свае недарэчныя дзівацтвы, і будзь як раней вясёлы і бадзёры. Хадзем, зробім колькі выпадаў на рапірах, і калі табе потым зарупіць прагуляцца, дык і я пайду з табою.

– Добрае табе наўме,– адказаў Бальтазар, – добрае табе наўме, Фабіян, і таму я не хачу з табой заводзіцца, калі ты як апантаны бегаеш за мною па пятах і часам пакідаеш мяне без асалоды, пра якую сам уяўлення не маеш. Ты якраз адзін з тых дзіўных людзей, якія кожнага, хто чувае на самоце, лічаць меланхалічным дурнем і хочуць яму на свой лад перакруціць мазгі і вылечыць, як той падступны прыдворнік, што спрабаваў

вылечыць высакароднага прынца Гамлета, а прынц сам яму даў добрую навуку, сказаўшы, што не ўмее граць на жалейцы. Праўда, дарагі Фабіян, ад гэтага я цябе ўвольню, аднак вельмі сардэчна прашу, – пашукай сабе іншага кумпана для практыкаванняў на рапірах і эспадронах, і дай мне спакойна ісці сваёй дарогай.

– Не, не!– усклікнуў Фабіян, засмяяўшыся. – Так проста я ад цябе не адстану, дарагі дружа! Не хочаш ісці са мною ў фехтавальную залу, дык я пайду з табою ў гай. Абавязак вернасці сябра звяселіць цябе ў смутку. Ну, хадзем, дарагі Бальтазарка, хадзем, калі ўжо нічога іншага табе не зарупела.

Сказаўшы гэта і падхапіўшы сябра пад руку, ён пайшоў з ім поруч. Бальтазар сцяў зубы, затоіўшы неахвоту, і замкнуўся ў панурым маўчанні, тым часам як Фабіян бесперастанку балабоніў розныя пацешныя гісторыі. Сюды дамяшалася ўсякая лухта, як гэта часта здараецца, калі павядаюць штосьці вясёленькае.

Калі нарэшце мы ўступілі ў засень духмянага гаю, калі зашапталі кусты, быццам абменьваліся нецярплівымі ўздыхамі, калі ўдалечыні загучалі цудоўныя мелодыі гаманлівых ручаёў і спевы лясных птушак разбудзілі рэха ў гарах,– Бальтазар нечакана спыніўся, шчыра развёў рукі, быццам збіраўся пяшчотна абняць кусты і дрэвы, і ўсклікнуў:

– О, цяпер мне зноў добра, няма ладу як хораша!

Фабіян, крыху сумеўшыся, паглядзеў на сябра, нібы чалавек, які не зразумеў, пра што зайшлося, і не ведае, што яму рабіць. Тут Бальтазар схапіў яго за руку і ўсклікнуў, поўны захаплення:

– Праўда ж, браце, і тваё сэрца расхінулася, і ты спасцігаеш дабрашчасную таямніцу летняй асамотненасці?

– Я не зусім разумею цябе, дарагі браце,– адказаў Фабіян,– але калі ты думаеш, што шпацыр у лесе падзейнічае на цябе дабратворна, дык я з такою думкаю цалкам пагаджаюся. Хіба я сам не ахвотнік да шпацыраў, асабліва ў добрай кампаніі, калі можна весці разумную і павучальную гутарку? Напрыклад, чыстая асалода прагульвацца за горадам з нашым прафесарам Мошам Тэрпінам. Ён ведае кожную расліну, кожную былінку і скажа, як яна называецца і да якога віду належыць, і яшчэ раскажа пра вецер і надвор'е...

– Змоўкні, – ускрыкнуў Бальтазар,– прашу цябе, змоўкні! Ты спамянуў тут пра тое, што магло б увесці мяне ў шал, калі б

у мяне не было суцяшэння. Прафесарава манера разважаць пра прыроду кроіць мне сэрца. Альбо, лепей сказаць, злавесная жудасць бярэ, быццам я бачу вар'ята, які, зблазнаваўшыся дарэшты, строіць з сябе караля і валадара ды нянькае зробленую ім самім саламяную ляльку, удаючы, што абдымае царскую нявесту. Яго так званыя доследы здаюцца мне агідным глумам з боскай істоты, чыё дыханне абвявае нас у прыродзе і абуджае ў глыбінях душы свяшчэнныя прадчуванні. Часам мяне разбірае – паразбіваць усе ягоныя шклянкі і колбы, размэтлашыць усю яго лавачку, калі б мяне не спыняла думка, што малпа ўсё адно не перастане гуляць з агнём, пакуль не апячэцца. Вось, Фабіяне, якія пачуцці трывожаць мяне, чаго мне халадзее сэрца на лекцыях Моша Тэрпіна,– і тады вам здаецца, што я зрабіўся больш маўклівы і ваўкаваты. Мне быццам здаецца, што дамы вось-вось абваляцца мне на галаву, шалёны страх гоніць мяне з горада. Але тут, тут у душу маю ліецца салодкі спакой. Лежачы ў траве сярод кветак, я ўзіраюся ў бясконцую сінечу неба, і нада мною, над шчасліва-радасным лесам плывуць залатыя хмаркі, быццам цудоўныя сны з далёкага свету, поўнага шчаснай уцехі! О мой Фабіян, тады і ў маіх грудзях нараджаецца дзівосны дух, я слухаю, як ён таямніча гутарыць з кустамі, з дрэвамі, цурчаннем ляснога ручая, і я не магу перадаць табе, якая мілата перапаўняе ўсю маю істоту салодка-тужлівым трымценнем.

– Ну вось,– усклікнуў Фабіян, – ну вось, зноў ты завёў старую песню пра тугу і асалоду, пра дрэвы і кусты, якія гавораць з табою. Ва ўсіх тваіх вершах паўнютка-поўна такіх прыемных субстанцый, што лашчаць слых і могуць карысціцца чалавеку, калі тут не шукаць чагосьці большага. Але скажы мне, пекны мой мэлянхолікус, калі лекцыі Моша Тэрпіна так моцна цябе зацінаюць, дык скажы мне, дзеля чаго ты на іх цягаешся, ніводнай не прапускаючы, хоць, праўда, кожнага разу сядзіш маўклівы і ваўкаваты і заплюшчыўшы вочы, быццам замроены ў крозах?

– І не пытайся,– адказаў Бальтазар, апусціўшы вочы,– не пытайся пра гэта ў мяне, любы сябар. Невядомая сіла цягне мяне штораніцы да дома Моша Тэрпіна. Я наперад ведаю свае пакуты, але не магу супрацівіцца, цёмная ўлада гоніць мяне!

– Ха-ха!– зарагатаў Фабіян. – Ха-ха-ха! Як тонка, як паэтычна, як містычна! Невядомая сіла, што надзіць цябе да дома Моша Тэрпіна, яна ў цёмна-блакітных вачах лілейнай Кандзіды. Што ты па вушы закаханы ў чароўную дачку прафесара,

усе мы добра ведаем, а таму і даруем табе ўсе твае фантазіі і блазнаватыя паводзіны. З закаханымі заўсёды так. Ты якраз у першым коле любоўнай немачы, і табе на спадзе маладосці даводзіцца рабіць усе тыя недарэчныя глупствы, з якімі мы, як і многія іншыя, дзякуй богу, расхрысціліся яшчэ ў школе. Але павер мне, сэрцайка...

Фабіян зноў узяў сябра пад руку і шпарка пайшоў з ім далей. Яны якраз выйшлі з гушчару на шырокую дарогу, што вяла праз лес, як раптам Фабіян убачыў удалечыні каня, які ў хмары пылу ляцеў на іх без верхаўца.

– Эй-эй!– усклікнуў ён, сам сябе перабіўшы.– Эй, зірні, праклятая шкапа скінула верхаўца і ўцякла... трэба яе злавіць, а потым пашукаць у лесе гаспадара.– І ён стаў пасярод дарогі.

Конь набліжаўся, і можна было заўважыць, што на баках у яго як бы матляюцца батфорты, а на сядле варушыцца нешта чорнае. Раптам пад самым носам у Фабіяна пачулася працяглае, пранозлівае: "Тпру-у-у!" – і ў той самы момант над галавой праляцела пара батфортаў, і нейкі дзіўны маленькі чорны прадмет пакаціўся яму пад ногі. Вялізны конь спыніўся як укапаны, і, выцягнуўшы шыю, абнюхваў свайго маленькага гаспадара, які валтузіўся ў пяску і нарэшце неяк узбіўся на ногі. Галава малога моцна ўдалася ў плечы, і ўвесь ён, з наростам на спіне і грудзях, кароткім тулавам і доўгімі павучынымі ножкамі, нагадваў насаджаны на відэлец яблык, на якім выразана агідная морда. Убачыўшы гэтую дзіўную маленькую пачвару, Фабіян зарагатаў. Але малое злосна насунула на бровы барэт, які толькі што падняло з зямлі, і, гнеўна ўпіўшыся ў Фабіяна вачыма, спыталася грубым сіпатым голасам:

– Ці гэта дарога на Керапэс?

– Так, спадару,– зычліва і сур'ёзна адказаў Бальтазар і падаў малому паднятыя батфорты.

Як ні старалася тое нацягнуць іх, усё марна – увесь час кулялася, стагнала, сапло і качалася ў пяску. Бальтазар паставіў батфорты, асцярожна падняў малога і гэтак жа клапатліва ўсунуў яго ножкамі ў цяжкія і шырозныя халявы. Ганарыста ўпёршыся рукою пад бок, а другую прыклаўшы да барэта, малец ўсклікнуў: "Gratias*, спадару!" – падышоў да каня і ўзяў яго за аброць. Але ўсе ягоныя спробы дастаць стрэмя і ўскараскацца на высокую

* Дзякую *(лац.)*.

жывёліну былі марныя. Бальтазар гэтак жа сур'ёзна і зычліва падышоў да яго і падсадзіў. Малец, відаць, надта моцна гупнуўся ў сядло, бо тут жа зляцеў на зямлю па той бок каня.

– Не гарачыся так, мілы мусье!– усклікнуў Фабіян, зноў гучна зарагатаўшы.

– Чорт – ваш мілы мусье! – усклікнуў, ужо зусім угневаўшыся, малец і атросся ад пылу.– Я студыёзус, а калі і вы таксама, дык гэта называецца выклікам – гэты ваш блазенскі смех мне ў твар, і вы павінны заўтра ў Керапэсе даць мне сатысфакцыю!

– Чорт вазьмі,– не перастаючы смяяцца, крыкнуў Фабіян,– чорт вазьмі, ды гэта бурш, малец куды к чорту, калі зайшло пра адвагу і правілы гонару! – З гэтымі словамі Фабіян падняў мальца і, як той ні брыкаўся, ні ўпіраўся, пасадзіў яго на каня, які, весела гігікаючы, панёс свайго гаспадара. Фабіян за бакі хапаўся, паміраючы ад смеху.

– Сэрца ў цябе няма,– сказаў Бальтазар,– глуміцца з чалавека, якога так жорстка, як гэтага маленькага верхаўца, пакрыўдзіла прырода. Калі ён і праўда студэнт, дык ты павінен з ім стаць на дуэль, і прытым, хоць гэта і супроць усіх акадэмічных звычаяў, на пісталетах, бо валодаць рапірай альбо эспадронам ён не можа.

– Як сурова,– азваўся Фабіян,– як сур'ёзна, як змрочна ты сабе гэта ўяўляеш, дружа мой Бальтазар. Мне ніколі не прыходзіла ў галаву глуміцца з калецтва. Але скажы, калі ласка, ці гадзіцца такому гарбатаму недаростку лезці на каня, з-за шыі якога ён ледзь выглядвае? Ці гадзіцца яму лезці сваімі ножкамі ў такія чорт ведае якія шырокія батфорты? Ці гадзіцца яму напяльваць такую вузенькую куртачку ў абліпку, з мноствам галуноў, шнуркоў і кутасоў, ці гадзіцца яму насіць такі велягурысты аксамітны барэт? Ці гадзіцца яму строіць з сябе такога надзьмутага і фанабэрлівага зуха? Вымучваць такі варварскі, сіпаты голас? Ці гадзіцца ўсё гэта яму, пытаюся я, і ці ж нельга з поўным правам падняць яго на смех, як блазна? Але мне трэба вярнуцца ў горад, і я павінен паглядзець, як гэты рыцар-студыёзус уедзе на сваім гнядым кані ў Керапэс і які там учыніцца гвалт! З табою сёння піва не наварыш. Будзь здаровы!– І Фабіян пабег лесам у горад.

Бальтазар звярнуў з дарогі і заглыбіўся ў самую нетру; там ён прысеў на замшэлую купіну, горасныя пачуцці агарнулі яго і

цалкам завалодалі ім. Магчыма, ён і напраўду кахаў прыгажуню Кандзіду, але ён схаваў гэта каханне ў сваім сэрцы ад усіх, нават ад самога сябе, як глыбокую, пяшчотную таямніцу. І калі Фабіян так легкадумна загаварыў пра гэта, Бальтазар адчуў сябе так, быццам грубыя рукі з блюзнерчай дзёрзкасцю здзіраюць з выявы святой покрыва, да якога ён і дакрануцца не мог, быццам цяпер ён сам навекі ўгнявіў святую. Так, словы Фабіяна здаваліся яму мярзотным глумленнем з усёй ягонай істоты, з самых салодкіх летуценняў.

– Дык вось,– усклікнуў ён з бязмежнай прыкрасцю,– дык вось, Фабіян, ты прымаеш мяне за закаханага дурня, які цягаецца на лекцыі Моша Тэрпіна, каб хоць гадзінку правесці пад адным дахам з прыгожай Кандзідай; які самотна бадзяецца па лесе, каб, склаўшы ў памяці найгоршыя вершы да каханай, потым запісаць іх, з чаго яны ямшчэ больш знікчэмняцца; які губіць дрэвы, выразаючы на гладкай кары ідыёцкія вензелі, а пры каханай слова разумнага сказаць не можа, адно стогне, уздыхае і крывіцца плаксівымі грымасамі, быццам яго курч схапіў; які ў сябе на грудзях пад кашуляй носіць завялыя кветкі, што калісьці былі прыколатыя на яе сукенцы, альбо пальчатку, якую яна ўпусціла,– ну, адным словам, учыняе тысячы дзіцячых глупстваў! І таму, Фабіян, ты дражніш мяне, і таму ўсе буршы смяюцца з мяне, і таму, магчыма, і я, і ўвесь той унутраны свет, які адкрыўся мне, зрабіліся аб'ектам кпінаў. І чароўная, мілая, дзівосная Кандзіда...

Ледзь толькі Бальтазар вымавіў гэтае імя, як ягонае сэрца быццам працяло агнявым кінжалам. Ах! Нейкі ўнутраны голас ясна шаптаў яму ў гэтую хвіліну, што толькі дзеля Кандзіды бывае ён у доме ў Моша Тэрпіна, піша вершы каханай, выразае на дрэвах яе імя, што ён нямее пры ёй, уздыхае, стогне, носіць на грудзях завялыя кветкі, якія яна ўпусціла, што ён і насамрэч даўся ва ўсе блазноты, за якія толькі можа ўпікнуць яго Фабіян. Толькі цяпер ён адчуў, як неверагодна кахае прыгажуню Кандзіду і разам з тым як вычудліва чысцюткае, шчырае каханне ў вонкавым свеце прымае крывую знешнасць, што след прыпісаць глыбокай іроніі, закладзенай самой прыродай ва ўсе чалавечыя ўчынкі. Мабыць, у гэтым ён меў рацыю, але зусім не меў рацыі, калі пачаў праз гэта злавацца. Летуценні, якія раней захаплялі яго, рассеяліся, лясныя галасы звінелі цяпер дакорам і насмешкай, ён кінуўся назад у Керапэс.

– Спадар Бальтазар! Mon cher* Бальтазар!– паклікаў яго нехта.

Ён падняў вочы і спыніўся, зачараваны, бо насустрач яму ішоў прафесар Мош Тэрпін, ведучы пад руку сваю дачку Кандзіду. Кандзіда з заўсёднай вясёлай і прыязнай шчырасцю прывітала студэнта, які застыў быццам ідал.

– Бальтазар, mon cher Бальтазар!– усклікнуў прафесар.– Шчыра кажучы, вы самы руплівы і прыемны мне слухач! О дарагі мой, я заўважыў, вы любіце прыроду з усімі яе дзівосамі гэтаксама, як і я, а я ж ад яе без памяці! Мабыць, вы зноў батанізавалі ў нашым гайку? Удалося знайсці што-небудзь павучальнае? Што ж! Давайце пазнаёмімся бліжэй. Наведайце мяне – рады бачыць вас у любы час, можам разам рабіць доследы. Вы ўжо бачылі маю новую паветраную помпу? Што ж, mon cher, заўтра ўвечары ў мяне дома збярэцца сяброўскі гурток, будзем піць гарбату з бутэрбродамі і весяліць грамаду прыемнай гутаркай. Пабольшце гэты гурток сваёй гожай асобай. Вы пазнаёміцеся з даволі прывабным маладым чалавекам, якога мне раілі найлепшым чынам. Bon soir, mon cher! Добры вечар, мой мілы! au revoir! Да пабачэння. Вы ж заўтра прыйдзеце на лекцыі? Ну, mon cher, adieu.– І не чакаючы Бальтазаравага адказу, прафесар Мош Тэрпін пайшоў далей разам з дачкою.

Ашаломлены Бальтазар не адважыўся падняць вочы, але позіркі Кандзіды спапялілі яму грудзі, ён адчуваў яе дыханне, і салодкае трымценне прасякала ўсю яго істоту.

Уся прыкрасць ягоная прайшла; поўны захаплення, глядзеў ён Кандзідзе ўслед, пакуль тая не знікла за зялёнай лістотай прысадаў. Потым ён павольна заглыбіўся ў лес, каб аддацца марам яшчэ саладзейшым, чым калі-небудзь раней.

## Раздзел трэці

*Як Фабіян не ведаў, што яму сказаць.– Кандзіда і дзяўчаты, якім не дазволена есці рыбу.– Літаратурная гарбата ў Моша Тэрпіна.– Малады прынц.*

Калі Фабіян кінуўся бегчы па лясной сцежцы, ён думаў апя-

* Мой дарагі *(фр.)*.

рэдзіць дзіўнага мальца, які толькі што прамчаўся на кані. Але ён памыліўся. З узлесся ён убачыў, як удалечыні да малога далучыўся другі верхавец, статны з выгляду, і абодва ўжо ўязджалі ў браму Керапэса. “Гм!– здзівіўся Фабіян.– Хоць гэтая пстрычка і абагнала мяне на вялікім кані, я ўсё-такі паспею на спектакль. Калі ён сапраўды студыёзус, дык яму пакажуць “Крылатага каня”, а калі ён там спыніцца, дык з тым самым галаслівым “тпру-у-дзе!” скіне батфорты і сам скінецца за імі, раз’юшыцца і палезе на дыбкі, а як буршы пакоцяцца ад смеху,– самасама заваруха і пачнецца!”

Уваходзячы ў горад, Фабіян думаў, што на ўсіх вуліцах па дарозе да “Крылатага каня” ну ж і будзе рогату. Але дзе там! Усе праходзілі міма спакойна і сур’ёзна.

Гэтак жа сур’ёзна шпацыравалі, гутарылі студэнты, як звычайна, калі збіраліся каля “Крылатага каня”. Фабіян быў пэўны, што малое, прынамсі, тут яшчэ не з’яўлялася, але, глянуўшы ў браму гасцініцы, заўважыў, што ў канюшню якраз вядуць каня малога, якога лёгка было пазнаць. Ён кінуўся да першага, хто папаўся, знаёмага і спытаўся, ці не праязджаў тут часам нейкі дзіўны і вельмі незвычайны чалавечак... Той нічога не ведаў, як і ўсе астатнія, каму Фабіян расказваў, што яму спрыгодзілася з мальцом, які ўдаваў з сябе студэнта. Усе рагаталі покатам, але бажыліся, што ніякага такога карантыша, падобнага на таго, якога апісваў Фабіян, тут не бачылі. Праўда, хвілін за дзесяць да таго ў гасцініцу “Крылаты конь” прыехалі два статныя верхаўцы на выдатных конях.

– А ці не сядзеў адзін з іх на тым кані, што толькі што правялі на канюшню?– спытаўся Фабіян.

– А ўжо ж,– адказаў адзін запытаны,– а ўжо ж такі. Той, што прыехаў на гэтым кані, праўда, не ўдаўся ростам, але складзены дай божа мне так, мілавіды, і ў яго цудоўныя кучаравыя валасы, свет не бачыў такіх. І паказаў сябе выдатным наезнікам, бо саскокваў так спрытна і з такой годнасцю, быццам наш князеў штатны шталмайстар.

– І не згубіў батфортаў? – усклікнуў Фабіян.– І не пакаціўся вам пад ногі?

– Божа барані!– адказвалі ўсе ў адзін голас.– Барані божа! Што табе, браце, да галавы ўвінцілася? Спрытны наезнік гэты малец!

Фабіян не ведаў, што й казаць. Тут на вуліцы паказаўся

Бальтазар. Фабіян кінуўся да яго, павалок за сабою і расказаў, што недаростак, якога яны напаткалі непадалёк ад гарадское брамы і які ўпаў з каня, толькі што прыехаў сюды, і ўсе прынялі яго за прыгожага, статнага хлопца і класнага наезніка.

– Вось бачыш,– сур'ёзна і разважліва адказаў Бальтазар,– вось бачыш, любасны браце, не ўсе, як ты, так з'едліва смяюцца з няшчаснага, абдзеленага самой прыродай!

– А долечкі мае!– перабіў Фабіян.– Ды гаворка ж тут не пра насмешкі і нелюбства, а пра тое, ці можна назваць прыгожым і здатным малога карантыша ў тры футы ростам, удадатак яшчэ й падобнага на рэдзьку.

Бальтазар мусіў згадзіцца з думкаю Фабіяна пра рост і знешнасць дробненькага студэнта. Астатнія ўпарта вялі сваё, што маленькі верхавец – прыгожы, станісты мужчына, тым часам як Фабіян і Бальтазар бажыліся, што зроду не бачылі больш агіднага карліка. На тым і скончылася, і ўсе разышліся моцна збянтэжаныя.

Запаў глыбокі вечар, калі сябры рушылі дахаты. Раптам Бальтазар незнарок прагаварыўся, што сустрэўся з прафесарам Мошам Тэрпінам і што той запрасіў яго да сябе на заўтрашні вечар.

– Во, шчаслівы! – усклікнуў Фабіян.– Во, пашанцавала! Там ты ўбачыш і пачуеш сваю прыгажуню, чароўную мамзель Кандзіду, будзеш з ёю гутарыць!

Бальтазар, зноў глыбока пакрыўджаны, адхіснуўся і хацеў быў ісці. Але адумаўся, спыніўся і, пабароўшы прыкрасць, сказаў:

– Мабыць, твая праўда, любасны браце, калі маеш мяне за дурнога закаханага блазна, я, бадай што, такі і ёсць. Але мая дурасць – глыбокая балючая рана, якая томіць дух мой, і той, хто неасцярожна дакранецца, можа, развярэдзіўшы яе, спрычыніць розныя дурасці. Таму, браце, калі ты сапраўды мяне любіш, дык не вымаўляй пры мне імя Кандзіды.

– Зноў ты,– запярэчыў Фабіян,– зноў ты глядзіш на ўсё вельмі трагічна, і пры тваім цяперашнім стане ад цябе і чакаць іншага не выпадае. Але, каб па-дурному не зводзіцца з табою, абяцаю, што вусны мае не вымавяць імя Кандзіды, пакуль ты сам не дасі зачэпкі. Але дазволь сказаць, што, як я прадбачу, твая закаханасць яшчэ дасца ў знакі. Кандзіда – мілая дзяўчына, але яна аніяк не пасуе пад меланхалічны, летуценніцкі лад

тваёй душы. Пазнаёмішся ты з ёю бліжэй, і яе лагодны, вясёлы нораў здасца табе далёкім ад паэзіі, якое табе ва ўсім не хапае. Ты аддаешся дзівосным марам, і ўсё закончыцца вялікім пярэпалахам – жахлівай уяўнай пакутай і адпаведнай роспаччу. Зрэшты, я, як і ты, запрошаны на заўтра да нашага прафесара, які пазабаўляе нас досыць цікавымі фізічнымі доследамі. Ну, дабранач, дзівосны летуценнік! Спі, калі здолееш заснуць напярэдадні такой значнай падзеі, што будзе заўтра.

З гэтымі словамі Фабіян пакінуў свайго замроенага прыяцеля. Фабіян, бадай што, не без падставы прадбачыў розныя патэтычныя прыгоды, у якія могуць ублытацца Кандзіда і Бальтазар, бо душэўны лад і нораў абаіх, здавалася, насамрэч давалі дастатковую на тое прычыну.

У Кандзіды былі прамяністыя вочы – яны так і праціналі сэрца,– крыху пухлявыя чырвоныя губы, і яна – з гэтым згаджаўся кожны – была чыстая прыгажуня. Я не памятаю, ці то русымі, ці то каштанавымі варта было б назваць яе раскошныя валасы, якія яна ўмела так вычудліва ўкладваць, заплятаць у косы,– я толькі памятаю іх дзіўную асаблівасць: чым даўжэй глядзіш на іх, тым больш і больш яны цямнеюць. Гэта была высокая, статная, лёгкая ў рухах дзяўчына, чыстая грацыя і прыветлівасць, асабліва ў вясёлай кампаніі; пры аж столькіх панадах ёй ахвотна прабачалі тое, што яе ручкі і ножкі маглі б быць, бадай што, трошакі меншыя і зграбнейшыя. Пры гэтым Кандзіда прачытала гётэўскага “Вільгельма Майстара”, вершы Шылера і “Чароўны пярсцёнак” Фуке і паспела забыць амаль усё, пра што там пісалася; скакала самыя модныя франсэзы і гавоты і досыць разборлівым і тонкім почыркам запісвала бялізну, якая ішла ў пральню. А калі ўжо аж так закарцела вышукаць хібы ў гэтай мілай дзяўчыне, дык, бадай што, можна было б не пахваліць яе грубаваты голас і тое, што туга шнуравалася яна, ці не залішне, залішне доўга радавалася новаму капялюшыку і з’ядала за гарбатай, можа, нават мнагавата піражнага. Занадта экзальтаваным паэтам яшчэ шмат чаго ў чароўнай Кандзідзе было б не па сэрцы, але ж, божачкі, ім заўсёды нешта не па сэрцы! Найперш ім мусова, каб з усяго, што яны толькі ні прамовяць, паненка заходзілася ў самнамбулічным захапленні, глыбока ўздыхала, закочвала вочы, а часам не надоўга, вядома, млела альбо нават бачыць пераставала, што ўжо ёсць най-найвышэйшая ступень жаночай жаноцкасці. Далей, памянёнай па-

ненцы след спяваць песні, складзеныя паэтам, прычым мелодыя павінна сама нарадзіцца ў яе сэрцы, пасля чаго ёй (ясна,– паненцы!) выпадае раптам узяць і занемагчы і таксама пачаць пісаць вершы, але ж вельмі пры гэтым саромецца, калі гэта выплыве напаверх, нягледзячы на тое, што яна сама, перапісаўшы іх самым далікатным почыркам на танюсенькай пакропленай парфумай паперы, уручыць паэту, які сваёй калейкай таксама заняможа ад захаплення, што яму, зрэшты, аніяк не трэба ставіць у віну. На свеце ёсць такія паэтычныя аскеты, якія заходзяць яшчэ далей і лічаць, што калі паненка смяецца, есць, п'е і міла апранаецца па модзе, дык гэта супярэчыць усякай пяшчотнай жаноцкасці. Яны амаль што прыпадабняюцца да святога Ераніма, які забараняе паненкам есці рыбу і насіць завушніцы. Ім належыць, так мяркуе святы, толькі браць на зубок каліўца крыху прыпраўленай травы, увесь час быць надгаладзь, не адчуваючы голаду, апранацца ў грубае, дрэнна пашытае ўбранне, якое захінала б іх стан, і найперш выбраць сабе ў спадарожнікі асобу статэчную, бледную, панылую і крыху неахайную.

Весялосць і нязмушанасць сталіся другою натураю Кандзіды, і таму ёй больш за ўсё прыпадалі да сэрца гутаркі, якія прыляталі на лёгкіх, эфірных крылах нязлоснага гумару. Яна памірала ад смеху з усяго, што яе смяшыла; яна ніколі не ўздыхала, хіба што калі надвор'е не ўспрыяе задуманай прагулцы альбо калі, як бы там яна ні бераглася, на новы шаль сядзе плямка. Але калі на тое надаралася добрая прычына, у ёй пракідалася і глыбокае, шчырае пачуццё, якое ніколі не пераходзіла ў пошлую пачуццёвасць, і нам з табою, любасны мой чытач, людзям зусім такі не палкім, дзяўчына гэтая якраз прыйшлася б па сэрцы. Але з Бальтазарам усё магло абярнуцца зусім інакш. Аднак мы неўзабаве ўбачым, наколькі правільныя былі прадказанні празаічнага Фабіяна.

Тое, што Бальтазар ад бясконцага хвалявання, ад неверагодна салодкага трымцення цэлую ноч не мог змежыць вачэй, было зусім натуральна. Паланёны вобразам каханай, ён прысеў да стала і склаў даволі шмат прыемных, мілагучных радкоў, апісаў свой стан у містычным расказе пра каханне салаўя да пунсовае ружы. Ён рашыўся ўзяць з сабою гэтыя вершы на літаратурнае чаяванне ў Моша Тэрпіна і, як толькі станецца выпадак, атакаваць імі безабароннае сэрца Кандзіды.

Фабіян лёгенька ўсміхнуўся, калі да назначанага часу па

ўгаворы зайшоў да свайго сябра і застаў яго такім разадзетым, якім яшчэ не даводзілася бачыць. На ім быў зубчаты каўнер з тонкіх брусельскіх карункаў, кароткая камізэля з рубчатага аксаміту з праразнымі рукавамі. І яшчэ ён быў у французскіх боціках з высокімі вострымі абцасамі і срэбнымі майхрамі, у англіцкім капелюшы з найтанчэйшага кастору і ў дацкіх пальчатках. Словам, ён быў апрануты рыхтык па-нямецку, і строі гэтыя няма ладу як пасавалі яму, тым болей што ён выдатна закучаравіў валасы і расчасаў маленькія вускі.

Бальтазарава сэрца зайшлося ад захаплення, калі ў доме ў Моша Тэрпіна насустрач яму выйшла Кандзіда у поўным адзенні старажытнагерманскай дзевы; ветласцю і весялосцю свяціліся яе вочы, словы і ўся яе істота, як яно, зрэшты, было заўсёды. “Дзівосная дзева!” – соладка ўздыхнуў Бальтазар, калі Кандзіда, сама міладайная Кандзіда, паднесла яму кубачак дымнай гарбаткі. Але Кандзіда зірнула на яго прамяністымі вочкамі і сказала:

– Вось ром і мараскін, сухары і пумпернікель, зрабіце ласку, мілы спадар Бальтазар, бярыце што вам падабаецца.

Але замест каб глянуць на ром і мараскін, сухары і пумпернікель, а то і налегчы на іх, развярэджаны Бальтазар не мог адвесці вачэй, поўных шчырага кахання і пакутлівага замілавання, ад чароўнай дзевы і стараўся знайсці словы, якія мелі б выказаць усё, што ў гэтае імгненне ён адчуваў у глыбіні душы. Але тут ззаду яму паддаў кулаком прафесар эстэтыкі, здаровы дзяцюк, і, павярнуўшы яго тварам да сябе, так што Бальтазар расплюхаў гарбаты на падлогу больш, чым гэта было прыстойна, і крыкнуў громападобным голасам:

– Дарагі Лукас Кранах! Не сёрбайце пустой вады, вы начыста сапсуяце сабе ваш германскі страўнік – там, у другім пакоі, наш адважны Мош выставіў цэлую батарэю выдатных бутэлек з высакародным райнвайнам, з імі мы зараз і пазмагаемся!

І ён пацягнуў за сабою няшчаснага хлопца.

Але з суседняга пакоя, ведучы за руку маленькага, вельмі дзіўнага чалавечка, насустрач ім выйшаў прафесар Мош Тэрпін і гучна абвясціў:

– Шаноўнае спадарства, дазвольце прадставіць вам шчодра адоранага рэдкімі здольнасцямі юнака, якому не цяжка будзе здабыць вашу прыязнасць і прыхільнасць. Гэты малады чалавек, спадар Цынобер, толькі ўчора прыехаў у наш універсітэт, дзе мае намер вывучыць правы!

Фабіян і Бальтазар з першага позірку пазналі дзіўнага курдупеля, які наехаў на іх непадалёк ад гарадское брамы і ўпаў з каня.

– Няўжо мне,– шапнуў Фабіян Бальтазару,– няўжо мне давядзецца цяпер выклікаць гэтага альраўна змагацца на духавых дудках альбо на шавецкіх шылах? Я ж не магу ўжыць іншае зброі супроць такога небяспечнага праціўніка.

– Пабойся Бога,– адказваў Бальтазар,– пасаромiся, ты строіш глум з няшчаснага калекі, які, як ты чуў, адораны рэдкімі здольнасцямі, так што цялесныя перавагі, якіх яму не дала прырода, адшкадаваны разумовымі вартасцямі.– Тут ён звярнуўся да мальца і сказаў: – Спадзяюся, шаноўны спадар Цынобер, учарашняе ваша падзенне з каня не мела дрэнных наступстваў?

Цынобер абаперся на тонкую лёсачку, якую трымаў за спінай у руцэ, падняўся на дыбачкі, так што дастаў Бальтазару амаль да пояса, адкінуў галаву, утаропіўся на яго дзікімі вачыма і дзіўным, сіплым басам адказаў:

– Не ведаю, што пану заўгодна, пра што спадар пан гаворыць? Упаў з каня? Я ўпаў з каня? Вам, мабыць, невядома, што на цэлым свеце не знайсці лепшага за мяне наезніка, што я ніколі не падаў з каня, што я служыў валанцёрам у кірасірах, быў з імі ў паходзе і навучаў у манежы верхавой выездцы афіцэраў і салдат. Гм! Гм! Упаў з каня! Я ўпаў з каня! – Тут ён хацеў крута павярнуцца, але лёсачка, на якую ён абапіраўся, выкаўзнулася ў яго з рук, малец закуляўся пад нагамі ў Бальтазара. Бальтазар пачаў шныраць унізе рукой, каб памагчы маломy паднявца, але незнарок дакрануўся да яго галавы. Тут малы завішчаў на ўсю залу, аж госці са страхам паўсхопліваліся з месцаў. Бальтазара абступілі і, перабіваючы адзін аднаго, пачалі распытвацца, чаго гэта ён, напрамілы божа, так страшна заверашчаў.

– Не гневайцеся, мілы спадару Бальтазар,– звярнуўся да яго Мош Тэрпін.– Усё гэта даволі дзіўны жарт. Вы, мабыць, хацелі, каб мы падумалі, што тут нехта наступіў кату на хвост.

– Кот, кот! Забярыце ката!– залямантавала нейкая слабанервая дама і адразу самлела. З крыкамі: “Кот! кот!” кінуліся да выйсця два пераспелыя спадарыкі, якія цярпелі ад такой самай ідыёсінкразіі.

Кандзіда выпырскала ўвесь свой нюхальны флакон на самлелую даму і ціха сказала Бальтазару:

– Якое бяды нарабілі вы, спадар Бальтазар, сваім мярзотным кашэчым яўканнем!

Бальтазар не мог зразумець, што з ім робіцца. Твар ягоны гарэў ад сораму і прыкрасці, аж ён не мог вымавіць слова жывога, сказаць, што гэта ж не ён так жахліва заяўкаў, а маленькі спадарок Цынобер.

Прафесар Мош Тэрпін заўважыў цяжкае замяшанне хлопца. Ён падышоў і па-сяброўску сказаў:

– Ну, дарагі пане Бальтазар, ну, супакойцеся нарэшце! Я ж выдатна ўсё бачыў. Прыгнуўшыся да зямлі, скачучы ракам, вы вельмі ўдала імітавалі раззлаванага ката. Я і сам люблю такія штукі з натуральнай гісторыі, але ж тут, на літаратурнай гарбаце...

– Дазвольце,– сарвалася нарэшце з языка ў Бальтазара,– дазвольце, шаноўны спадару прафесар, дык жа ж то быў не я!

– Ну, добра, добра,– перабіў яго прафесар.

Да іх падышла Кандзіда.

– Суцеш,– звярнуўся да яе Мош Тэрпін,– суцеш, калі ласка, любаснага Бальтазара, ён зусім збянтэжаны ўсёй гэтай неразбярыхай.

Добрай Кандзідзе ад усяго сэрца было шкада небаракі Бальтазара, які, панурыўшы вочы і сумеўшыся, стаяў перад ёю. Яна падала яму руку і, міла ўсміхаючыся, шапнула:

– Якія смешныя бываюць людзі, што так баяцца катоў.

Бальтазар горача прыціснуў руку Кандзіды да вуснаў. Поўны душэўнай цеплыні позірк яе нябесных вачэй пакоіўся на ім. Бальтазар быў у поўным захапленні і ўжо больш не думаў ні пра Цынобера, ні пра кашэчы віск. Суматоха ўлеглася, спакой быў зноў усталяваны. Каля століка сядзела слабанервая дама і наталялася сухарыкамі, умачаючы іх у ром і божачыся, што гэта мацуе ёй душу, якой пагражаюць варожыя сілы, так што нечаканы пярэпалох змяняецца палкай надзеяй.

Тыя два пярэстаркі, якім на дварэ і праўда ж ушыўся пад ногі шустры кот, таксама вярнуліся супакоеныя і заселі, як і многія іншыя, за картачны стол.

Бальтазар, Фабіян, прафесар-эстэт і некалькі маладых людзей падселі да паняў. Спадар Цынобер тым часам падсунуў услончык і па ім peралез на канапу, дзе ўмасціўся паміж дзвюх паняў, абводзячы ўсіх ганарлівым, зіхоткім позіркам. Бальтазар рашыў, што яму пара ўжо выступіць са сваімі вершамі пра

каханне салаўя да пунсовай ружы. Таму ён з адпаведнай сціпласцю, уласцівай маладым паэтам, абвясціў, што, калі б не баяўся знудзіць кампанію, калі б мог спадзявацца на прыхільную паблажлівасць шаноўнага сходу, ён бы асмеліўся прачытаць вершы, апошнія ўтворы сваёй музы.

І як што пані ўжо нагаварыліся ўдосыць пра ўсё, што новага сталася ў горадзе, і як што паненкі як след абмеркавалі апошні баль у прэзідэнта і нават прыйшлі да пэўнай згоды наконт найноўшага фасону капялюшыкаў, а мужчыны яшчэ добрыя дзве гадзіны не маглі разлічваць на новы пачастунак і выпіўку, дык усе ў адзін голас, бо чаму ж бы й не, пачалі ўпрошваць Бальтазара не пазбаўляць кампанію нябеснага шчасця. Бальтазар дастаў набела перапісаны рукапіс і пачаў чытаць.

Свае вершы, з усёй сілай, з усёй жывасцю народжаныя з сапраўды паэтычнага пачуцця, усё больш і больш натхнялі яго. Чытанне ягонае ўсё больш прасякалася страснасцю, выдаючы ўвесь пал закаханага сэрца. Ён трымцеў ад захаплення, калі ціхія ўздыхі, ледзь чутныя “ах” жанчын і рэплікі мужчын: “Цудоўна, выдатна, нябесна!” – пераконвалі яго, што вершы ўсім спадабаліся. Нарэшце ён скончыў. Тут усе закрычалі:

– Які твор! Якія думкі! Колькі фантазіі! Якая паэтыка! Якая мілагучнасць! Дзякуем, дзякуем, шаноўны пане Цынобер, за боскую асалоду!

– Як? Што? – усклікнуў Бальтазар, але ніхто на яго нават не зірнуў – усе кінуліся да Цынобера, які, седзячы на канапе, зафанабэрыўся, як індык, і агідна сіпеў:

– Ах, калі ласка, калі ласка, чым багаты, тым рады. Ат, дробязі, дробязі, так вось з рукі накідаў мінулае ночы.

А прафесар эстэтыкі лямантаваў:

– Дзівосны, боскі Цынобер! Сардэчны дружа, пасля мяне ты – самы першы паэт на свеце! Прыйдзі ў мае абдымкі, вялікая душа! – І ён згроб мальца з канапы, падняў яго ў паветра, пачаў ціскаць да сэрца і цалаваць. Цынобер пры гэтым паводзіўся даволі непрыстойна. Ён малаціў ножкамі па тоўстым прафесарскім чэраве і пішчаў:

– Пусці мяне, пусці мяне! Мне баліць, баліць, баліць! Я табе вочы выдзеру, я адкушу табе нос!

– Не! – закрычаў прафесар, апускаючы мальца на канапу.– Не, мілы сябар, навошта такая залішняя сціпласць!

Мош Тэрпін, пакінуўшы картачны стол, таксама падышоў

да іх, пацiснуў малюпасенькую ручку Цынобера і сказаў вельмі сур'ёзна:

– Цудоўна, малады чалавек; зусім не перабольшваючы, не, мала, вельмі мала расказалі мне пра высокі геній, які адухоўлівае вас.

– Хто з вас,– зноў залямантаваў у поўным захапленні прафесар эстэтыкі,– хто з вас, о дзевы, узнагародзіць пацалункам дзівоснага Цынобера за вершы, у якіх столькі глыбокага пачуцця самага моцнага кахання?

Кандзіда ўстала – шчокі ў яе палалі, яна падышла да мальца, апусцілася на калені і пацалавала яго ў агідныя вусны, проста ў сінія губы.

– Праўда,– усклікнуў Бальтазар, як заспеты раптоўным вар'яцтвам,– праўда, Цынобер, боскі Цынобер, ты напісаў меланхалічныя вершы пра салаўя і пунсовую ружу, ты заслужыў дзівосную ўзнагароду!

Тут ён пацягнуў Фабіяна ў суседні пакой і сказаў:

– Зрабі ласку, добра паглядзі на мяне і скажы мне шчыра і па праўдзе, ці сапраўды я студэнт Бальтазар ці не, ці праўда ты Фабіян, ці праўда, што мы ў доме Моша Тэрпіна, ці гэта сон, ці мы павар'яцелі? Тузані мяне за нос альбо страсяні, каб я адцураўся гэтай праклятай немарасці.

– Ну, як ты гэта можаш,– запярэчыў Фабіян,– ну, як гэта ты можаш так шалець з простай рэўнасці, што Кандзіда пацалавала мальца. Табе трэба прызнаць, што верш, які прачытаў малец, напраўду выдатны.

– Фабіян,– з самым глыбокім здзіўленнем крыкнуў Бальтазар,– што ты такое мелеш?

– І праўда ж,– гаварыў далей Фабіян,– і праўда ж мальцоў верш быў цудоўны, і я лічу, што ён заслужыў пацалунак Кандзіды. Увогуле мне здаецца, у ім крыецца шмат чаго такога, што даражэй за прыгожую знешнасць. Нават ягоная пастава ўжо не здаецца мне такой брыдкай, як спачатку. Падчас чытання ўнутраная адухоўленасць скрасіла рысы ягонага твару, так што ён часам здаваўся мне прывабным, статным юнаком, нягледзячы на тое, што яго галава ледзь відна была з-за стала. Адкінь сваю пустую рэўнасць і пасябруй з ім, як паэт з паэтам.

– Што?– з гневам усклікнуў Бальтазар.– Што? Мне яшчэ і сябраваць з гэтым праклятым ваўкалакам, пярэваратнем, якога я лепш бы задушыў вось гэтымі рукамі!

– Ну бач,– сказаў Фабіян,– бач, ты зусім глухі да голасу розуму. Але вернемся ў залу: там, пэўна, здарылася нешта новае, і я чую гучныя пахвалы!

Бальтазар машынальна паследаваў за сваім сябрам.

Калі яны ўвайшлі, пасярэдзіне залы адзінока стаяў Мош Тэрпін, у руках у яго яшчэ былі інструменты, з дапамогаю якіх ён, відаць, рабіў нейкі фізічны дослед; на твары ў яго яшчэ заставаліся сляды вялікага подзіву. Усе прысутныя сабраліся вакол маленькага Цынобера. Абапершыся на лёску, ён стаяў на дыбачках і з ганарыстым выглядам прымаў кампліменты, якія сыпаліся з усіх бакоў. Але вось ён зноў звярнуўся да прафесара, які паказваў новы даволі штукарскі фокус. Ледзь толькі ён скончыў, як усе зноў абступілі мальца:

– Выдатна, цудоўна, неацэнны спадару Цынобер!

Нарэшце і Мош Тэрпін падскочыў да мальца і гучней за ўсіх залямантаваў:

– Выдатна, цудоўна, неацэнны спадару Цынобер!

Сярод гасцей быў і юны прынц Грэгор, які вучыўся ва універсітэце. Прынц быў адораны прыемнай знешнасцю, якую толькі можна было сабе ўявіць і прытым у яго абыходжанні было столькі высакародства і непасрэднасці, што яўна праяўлялася і высокае паходжанне і звычка бываць у вышэйшым свеце.

Прынц Грэгор ні на хвіліну не адыходзіў ад Цынобера і рассыпаўся ў пахвалах яму, як выдатнаму паэту і таленавітаму фізіку.

Дзіўнае відовішча – адзін каля аднаго, побач.

Побач са статным Грэгорам зусім неверагодна брыдкім здаваўся малюпасенькі чалавечак, які, высока задраўшы нос, сам ледзь трымаўся на тоненькіх ножках. Аднак пагляды ўсіх жанчын былі скіраваныя не на прынца, а на мальца, які ўвесь час пяўся на дыбачкі і тут жа зноў апускаўся, вельмі нагадваючы гэтым картэзіянскага хохліка.

Прафесар Мош Тэрпін падышоў да Бальтазара і сказаў:

– Ну, што вы скажаце пра майго пратэжэ, пра майго любаснага Цынобера? У ім шмат чаго крыецца, і калі я на яго падзіўлюся добра,. дык угадваю, якая, уласна, тут замешана акалічнасць. Пастар, які выгадаваў яго і рэкамендаваў мне, вельмі таямніча павядае пра яго паходжанне. Паглядзіце толькі на яго гожую паставу, на яго высакароднае, далікатнае абыходжанне. Ён, несумненна, княскай крыві, можа нават ці не прынц.

У гэтую хвіліну далажылі, што вячэра гатовая. Цынобер, няўклюдна клыбаючы, падышоў да Кандзіды, нязграбна схапіў яе за руку і павёў да стала.

Непрагляднай ноччу, праз дождж і буру, у шаленстве бег няшчасны Бальтазар дамоў.

## Раздзел чацвёрты

*Як італьянскі скрыпач Зб'ёка гразіўся запхнуць спадара Цынобера ў кантрабас, а рэферэндарыус Пульхер не змог трапіць у міністэрства замежных спраў.– Пра мытных чыноўнікаў і канфіскаваныя дзівосы хатняга ўжытку.– Бальтазар зачараваны з дапамогаю булавешкі.*

На замшэлым камені ў самай нетры лесу сядзеў Бальтазар і задумліва глядзеў уніз у расколіну, дзе паміж абломкаў скал і густых зарасцяў пеніўся і бурліў ручай. Цёмныя хмары несліся па небе і хаваліся за гарамі; шум вады і дрэў быў падобны на глухія стогны, да яго прымешваліся вісклівыя крыкі драпежных птушак, якія падымаліся з цёмнага гушчару ў нябесныя прасторы і ляцелі за воблакамі.

Бальтазару здалося, быццам у цудоўных лясных галасах чулася няўцешная жальба прыроды, быццам сам ён павінен раставаць у гэтай жальбе, быццам усё быццё яго – толькі збыванне глыбокай неадольнай пакуты. Сэрца ягонае разрывалася ад скрухі, і, калі часта слёзы засцілалі яму вочы, мроілася, быццам духі ляснога ручая глядзяць на яго і працягваюць да яго з хваляў беласнежныя рукі, каб завабіць яго ў прахалодную глыбіню.

Раптам непадалёк пачуліся ў лёгкім ветрыку вясёлыя, звонкія гукі ражка, добрым суцяшэннем праніклі ў ягоныя грудзі, і ў замлелай душы прачнулася салодкая надзея. Ён агледзеўся, і, пакуль чуліся гукі ражка, зялёныя цені лесу не здаваліся яму такімі журботнымі, жальба ветру і шэпт кустоў такімі жаласнымі. Ён загаварыў.

– Не! – усклікнуў ён, ускочыў на ногі і палымянымі вачыма паглядзеў удалечыню.– Не, не ўся надзея прапала! Ведаю толькі, што нейкая таямнічая сіла, нейкія ліхія чары парушылі маё жыццё, але я паламаю гэтыя чары, нават калі мне давядзецца

загінуць! Калі я, захоплены, пераможаны пачуццём, ад якога гатовыя былі разарвацца мае грудзі, прызнаўся чароўнай, непараўнанай Кандзідзе ў маім каханні, хіба не прачытаў я ў яе вачах, хіба не адчуў у поціску яе рукі асалоду і шчасце? Але як толькі з'яўляецца маленькая пачвара, уся любоў перакідаецца на яго. На яго, гэтага клятага вылюдка, глядзяць вочы Кандзіды, і журботныя ўздыханні ліюцца з яе грудзей, калі няўклюдны абрыдзень набліжаецца да яе альбо бярэ яе за руку. Тут крыецца нейкая таямнічая акалічнасць, і калі б я верыў казкам нянечкі, я перад усімі пабажыўся б, што малое зачаравана і можа, як той казаў, наводзіць на людзей псоту. Якая дзікасць – усе смяюцца і кпяць з вылодлівага чалавечка, абдзеленага шчадротамі самой прыродай, а як толькі малое паяўляецца, усе пачынаюць нахвальваць яго як самага разумнага, самага вучонага, самага прыгожага спадара студэнта сярод усіх прысутных. Ды што я такое кажу! Хіба са мною часам не адбываецца амаль тое ж самае, хіба не здаецца мне часам, што Цынобер прыгожы і разумны? Толькі пры Кандзідзе я не падуладны гэтым чарам, і спадар Цынобер застаецца дурным, агідным вырадкам. Але што б там ні было, я ўсупраціўлюся варожай сіле, у душы маёй дрэмле няяснае прадчуванне, што якая-небудзь неспадзяванка падасць мне ў рукі зброю супроць гэтага чортавага выпладня!

Бальтазар пайшоў назад у Керапэс. Ідучы лясной сцежкай, ён заўважыў на дарозе маленькі вазок, з акенца якога нехта прыветліва махаў яму белай хустачкай. Ён падышоў бліжэй і пазнаў спадара Вінчэнца Зб'ёку, сусветна праслаўленага віртуоза скрыпача, якога ён вельмі высока ставіў за яго выдатную, вельмі прачулую ігру і ў каго ён ужо два гады браў урокі.

– Як добра! – усклікнуў Зб'ёка, выскачыўшы з вазка.– Як добра, ласкавы спадару Бальтазар, дарагі мой сябар і вучань, што я яшчэ сустрэў вас і магу сардэчна развітацца з вамі.

– Як так?– здзівіўся Бальтазар.– Як так, спадар Зб'ёка, няўжо вы пакідаеце Керапэс, дзе вас так шануюць і паважаюць і дзе ўсім вас будзе не хапаць?

– Так яно,– адказаў Зб'ёка, і кроў лінула яму ў твар ад прытоенага гневу,– так яно вось, спадар Бальтазар, я пакідаю горад, дзе ўсе з глузду паз'язджалі, горад, які падобны на вар'яцкі дом. Учора вы не былі на маім канцэрце, вы былі на шпацыры за гордам, а то б вы дапамаглі мне абараніцца ад раз'юшанага натоўпу, які накінуўся на мяне.

 



– Ды што ж такога сталася? Скажыце, напрамілы бог, што здарылася?– ўсклікнў Бальтазар.

– Я іграю,– сказаў далей Зб'ёка,– вельмі складаны канцэрт Віёці. Гэта мая гордасць, мая радасць. Вы ж чулі, як я яго іграю, і яшчэ ні разу не было, каб ён не прывёў вас у захапленне. А ўчора, магу сказаць, я быў у асабліва шчаслівым настроі – anima, разумею я, вясёлы сэрцам – spirito alato, разумею я. Ніводзін скрыпач ва ўсім свеце, будзь ён хоць сам Віёці, не сыграў бы лепей. Калі я закончыў, выбухнулі бурныя воплескі – furore, разумею я, чаго я і чакаў. Узяўшы скрыпку пад паху, я выступіў наперад, каб ветліва падзякаваць публіцы. Але што я бачу, што я чую? Усе да аднаго як і не бачаць мяне, усе стлуміліся ў куце залы і крычаць: "Bravo, bravissimo, боскі Цынобер! Якая ігра! Якая пазіцыя, якая выразнасць, якое майстэрства!" Я кінуўся ў натоўп, праціскаюся наперад. Там стаіць нейкі агідны вырадак у тры футы росту і мярзотным голасам гугнявіць: "Ласкава дзякую, ласкава дзякую, іграў, як умеў, праўда, цяпер я самы моцны скрыпач ва ўсёй Еўропе ды і ва ўсіх астатніх вядомых нам частках свету".– "Тысяча чарцей! – крыкнуў я. – Хто ж такі ўрэшце іграў: я ці гэты чарвяк!" А як што малое ўсё яшчэ гугнявіла: "Ласкава дзякую, ласкава дзякую",– я кінуўся да яго, каб пакласці на яго ўсю аплікатуру. Але тут усе наваліліся на мяне і мелюць нейкую лухту пра зайздрасць, рэўнасць і незычлівасць. Тым часам нехта заляманта-ваў: "А якая кампазіцыя!" І ўсе наперабой пачынаюць крычаць: "Якая кампазіцыя! Боскі Цынобер! Боганатхнёны кампазітар!" З яшчэ большай прыкрасцю я ўсклікнуў: "Няўжо ўсе тут пашалелі, што вас апантала? Гэты канцэрт напісаў Віёці, а іграў яго я, я – славуты скрыпач Вінчэнца Зб'ёка!" Але тут яны мяне хапаюць і гавораць пра італьянскія шалы – rabbia, разумею я, пра дзіўныя выпадкі, нарэшце, сіламоц выводзяць мяне ў суседні пакой, абыходзяцца са мною як з хворым, як з вар'ятам. Праз нядоўгі час убягае да мяне сіньёра Брагаці і падае без памяці. З ёй сталася тое самае, што і са мною. Ледзь толькі яна даспявала арыю, як усю залу патрэслі крыкі: "Bravo, bravissimo, Цынобер!" І нарабілі галасу, што на ўсім белым свеце не знайсці такой спявачкі, як Цынобер, а ён зноў гугніў сваё праклятае "дзякую". Сіньёра Брагаці ляжыць у гарачцы, і па ўсім відаць, неўзабаве памрэ, а я ратуюся ўцёкамі ад гэтага ашалелага народу. Бывайце, любасны спадар Бальтазар. Калі давядзец-

 

ца вам пабачыць сіньярына Цынобера, перадайце яму, калі ласка, каб ён не паказваўся ні на водным канцэрце разам са мною. Інакш я за сябе не ручаюся, схаплю яго за павучыныя ножкі і запхну праз эфу ў кантрабас – хай ён там усё жыццё грае свае канцэрты і гарлае колькі яму заўгодзіцца. Бывайце, дарагі мой Бальтазар, ды глядзіце ж, не пакідайце скрыпкі! – З гэтымі словамі спадар Вінчэнца Зб'ёка абняў аслупянелага ад здзіўлення Бальтазара і сеў у вазок, які хуценька павёз яго далей.

"Ну, ці не казаў я,– разважаў сам з сабою Бальтазар.– Ці ж не казаў я сабе, што гэты злавесны карлік, гэты Цынобер, зачараваны і можа наводзіць на людзей псоту".

Тут міма яго імкліва прабег малады чалавек, бледны, знерваваны,– шаленства і роспач былі на ягоным твары. Бальтазару зрабілася трывожна на сэрцы. Яму здалося, што ў гэтым хлопцы ён пазнаў аднаго свайго прыяцеля, і ён спешна кінуўся за ім у лес. Прабегшы крокаў дваццаць-трыццаць, ён убачыў рэферэндарыуса Пульхера, які стаяў пад высокім дрэвам і, падняўшы вочы да неба, гаварыў:

– Не! Нельга далей трываць такую ганьбу! Надзеі ўсяго жыцця прапалі! Засталася толькі магіла. Даруй, жыццё, свет, надзея, каханая! – З гэтымі словамі рэферэндарыус у роспачы выхапіў з-за пазухі рэвальвер і прыставіў яго да лба.

Бальтазар як маланка кінуўся да рэферэндарыуса, выхапіў у яго рэвальвер, адкінуў далёка ўбок і ўсклікнуў:

– Пульхер, божа мілы, што з табою, што ты робіш?

Рэферэндарыус некалькі хвілін не мог апамятацца. Амаль беспрытомны апусціўся ён на траву. Бальтазар падсеў да яго і пачаў гаварыць розныя суцешлівыя словы, якія толькі на памяць прыходзілі, нічога не ведаючы пра прычыну роспачы Пульхера.

Не злічыць, колькі разоў пытаўся ў яго Бальтазар, што ж такога страшнага далося яму, што навяло на чорныя думкі пра богамярзотны суіцыд? Нарэшце Пульхер цяжка ўздыхнуў і загаварыў:

– Табе, любасны дружа Бальтазар, вядома, у якім я цяпер гаротным становішчы. Ты ведаеш, я спадзяваўся, што займу вакантнае месца тайнага экспедытара у міністэрстве замежных спраў; ты ведаеш, як рупліва, як старанна рыхтаваўся я да гэтай пасады. Я падаў свае творы, якія, як я з радасцю дазнаўся,

заслужылі поўнае адабрэнне міністра. Як упэўнена явіўся я сёння на вусны экзамен! У зале я прыкмеціў маленькага выродлівага чалавечка, які табе добра вядомы пад імем спадара Цынобера. Тут радца, якому было даверана правесці іспыт, прыветліва падышоў да мяне і сказаў, што тую самую пасаду, якую я прагну атрымаць, шукае і спадар Цынобер, і таму ён будзе экзаменаваць нас абодвух. Потым ён шапнуў мне на вуха: “Вам, шаноўны рэферэндарыус, няма чаго апасацца вашага суперніка: працы, якія прадставіў маленькі Цынобер, нічога не вартыя”. Іспыт пачаўся; я адказаў на ўсе пытанні радцы. Цынобер нічога не ведаў, як рыхтык нічога, замест адказу ён сіпеў і квакаў і нёс нейкую неўразумелую бязглуздзіцу, якое ніхто і разабраць не мог, і так пры гэтым непрыстойна выкаблучваўся і дрыгаў нагамі, што некалькі разоў падаў з высокага крэсла, аж мне давялося падымаць яго і саджаць на месца. Сэрца маё трымцела ад радасці; прыхільныя позіркі, якія радца кідаў на малога, я прымаў за самую з’едлівую іронію. Іспыт закончыўся. Але хто апіша мой жах! Як раптоўная маланка кінула мяне на зямлю, калі радца абняў мальца і сказаў яму: “Цудоўны чалавек! Якія веды! Які розум! Якая пранікнёнасць!” І потым мне: “Мне так прыкра, што вы ашукалі мяне, спадар рэферэндарыус Пульхер. Вы ж зусім нічога не ведаеце. І, хай не на крыўду вам будзе сказана, падчас экзамена вы спрабавалі надаць сабе бадзёрасці вельмі нягодным спосабам і насуперак усякай прыстойнасці. Вы нават не маглі ўтрымацца на крэсле і ўвесь час падалі, а спадар Цынобер быў вымушаны падымаць вас. Дыпламаты павінны быць бездакорна цвярозыя і разважлівыя. Adieu, спадар рэферэндарыус”. Я ўсё яшчэ думаў, што мяне рызыгрываюць. Я рашыў пайсці да міністра. А той наказаў перадаць мне, што не разумее, як гэта я, паказаўшы сябе такім чынам на экзамене, яшчэ набраўся нахабства назаляцца яму сваім візітам,– яму ўжо ўсё вядома! Пасада, якое я дамагаўся, ужо аддадзена спадару Цыноберу! Дык вось, нейкая пякельная сіла вырвала ў мяне ўсе мае надзеі, і я хачу па добрай волі і ахвоце прынесці ў ахвяру сваё жыццё, якое зрабілася здабычаю цёмнага наканавання! Пакінь мяне!

– Нізавошта!– усклікнуў Бальтазар.– Спачатку выслухай мяне!

І ён расказаў усё, што ведаў пра Цынобера, пачынаючы з яго першага з’яўлення каля брамы Керапэса; што сталася з ім і

мальцом у доме ў Моша Тэрпіна і што толькі цяпер расказаў Вінчэнца Зб'ёка.

– Несумненна толькі,– дадаў Бальтазар,– што ва ўсіх вычудах гэтага трыклятага вылюдка ёсць нешта таямнічае, і павер мне, дружа Пульхер, калі тут дамешана нейкае пякельнае чараванне, дык трэба толькі цвёрда яму ўсупрацівіцца. Перамога несумненная там, дзе ёсць мужнасць. А таму не раскісай і не прымай паспешлівага рашэння. Давай супольна ўстанем на гэтага ведзьміча.

– Ведзьміч! – палка ўсклікнуў рэферэндарыус.– Праўда, пракляты ведзьміч гэты карлік, несумненна! Аднак жа, браце Бальтазар, што гэта такое з намі, няўжо ўсё гэта нам сніцца? Чарадзейства, вядзьмацкія штукі – хіба з гэтым даўным-даўно не пакончана? Хіба шмат гадоў таму назад князь Пафнуцій Вялікі не ўвёў асвету і не павыганяў з нашай краіны ўсе дзікія блюзнерствы і ўсё неспасцігальнае, а гэтая праклятая кантрабанда ўсё-такі ўшылася да нас! Халера чортава! Пра гэта трэба адразу ж данесці ў паліцыю і мытным дазорцам. Але не, не, толькі людское неразумства альбо, баюся, нечуваны подкуп – прычына нашых нягодаў. Пракляты Цынобер, мабыць, неверагодна багаты. Нядаўна ён стаяў перад манетным дваром, і прахожыя паказвалі на яго пальцамі і крычалі: “Дзівіцеся на гэтага маленькага прыгожага татачку! Яму ж належыць усё золата, якое там чаканяць!”

– Кінь,– запярэчыў Бальтазар,– кінь, дружа рэферэндарыус, не ў золаце сіла гэтай пачвары, тут замешана нешта іншае. Праўда, князь Пафнуцій увёў асвету на дабро і на карысць свайму народу і сваім нашчадкам, але ў нас яшчэ засталіся сякія-такія дзівосы і незразумеласці. Я лічу, што некаторыя карысныя цуды захаваліся на хатні ўжытак. Напрыклад, з малюпасенькіх насенінак усё яшчэ вырастаюць высачэнныя, прыгожыя дрэвы і нават самыя розныя плады і збожжа, якімі мы набіваем сабе чэрава. Дазволена ж стракатым кветкам і розным кузакам мець пялёсткі і крылцы самых розных бліскучых барваў і калёраў і нават насіць на іх дзівосныя пісьмёны, прычым ніводзін чалавек не ўгадае, алей гэта, гуаш ці акварэль, і ніводзін бедалага каліёграф не прачытае вам гэтых велягурыстых гатычных выкрунтасін, ужо і не кажу, каб спісаць іх. Ах, рэферэндарыус, прызнаюся табе, у душы ў мяне часта творыцца нешта дзіўнае. Я адкладваю ўбок люльку, пачынаю хадзіць па пакоі, а нейкі

незразумелы голас нашэптвае мне, што я сам – цуд; чараўнік мікракосм пануе ўва мне і змушае мяне на ўсялякія неразумныя ўчынкі. Але тады, рэферэндарыус, я ўцякаю з дому і сузіраю прыроду, і разумею ўсё, што гавораць мне кветкі і ручаі, і мяне агартае нябеснае шчасце!

– У цябе гарачка! – усклікнуў Пульхер; але Бальтазар, не звяртаючы ўвагі на яго, працягнуў рукі наперад, быццам ахоплены палымяным жарам.

– Услухайся,– усклікнуў ён,– услухайся толькі, рэферэндарыус, якая нябесная музыка ў пошапце вечаровага ветру, як яна прасякае ўвесь гэты лес! Ці чуеш, як усё гучней узносяць сваю песню крыніцы? Як кусты і кветкі адказваюць ім пяшчотнымі галасамі!

Рэферэндарыус насцярожыўся, каб учуць тую музыку, пра якую гаварыў Бальтазар.

– І праўда ж,– сказаў ён,– і праўда ж, па лесе лунаюць прыгожыя, дзівосныя гукі, якія толькі мне даводзілася чуць, яны глыбока западаюць у душу. Але гэта спявае не вячаровы вецер, не кусты і не кветкі; хутчэй за ўсё гэта, здаецца мне, дзесьці зводдаль нехта грае на званочках шклянога гармоніка.

Пульхер меў рацыю. Сапраўды, поўныя, усё больш выразныя і блізкія акорды былі падобныя на гукі шклянога гармоніка, але толькі нечуванай велічыні і моцы, а калі сябры прайшліся крыху далей, ім адкрылася відовішча такое чароўнае, што яны аслупянелі ад здзіўлення і сталі як укапаныя.

У невялікім аддаленні па лесе павольна ехаў чалавек, апрануты амаль як кітаец. Толькі на галаве ў яго быў пышны барэт з прыгожым плюмажам. Карэта была падобная на адкрытую ракавіну з зіхоткага крышталю, два вялізныя колы, здавалася, былі зроблены з таго самага рэчыва. Калі яны варочаліся, узнікалі дзіўныя гукі шклянога гармоніка, якія сябры пачулі здалёк. Два беласнежныя аднарогі ў залатой збруі везлі карэту; на месцы фурмана сядзеў серабрысты кітайскі фазан, заціснуўшы ў дзюбе залатыя лейцы. На запятках умасціўся вялізазны залаты жук, ён памахваў мігатлівымі крыламі і, здавалася, навяваў прахалоду на дзівоснага чалавека, які сядзеў у ракавіне. Параўняўшыся з сябрамі, ён ветліва кіўнуў ім. У той самы момант з бліскучай булавешкі вялікай лёскі, якую ён трымаў у руцэ, вырваўся прамень і ўпаў на Бальтазара, які адразу ж

адчуў глыбока ў грудзях пякучы ўкол, здрыгануўся, і глухое "ах" зляцела з ягоных вуснаў.

Зірнуўшы на яго, незнаёмы усміхнуўся і кіўнуў яшчэ больш прыветліва. Калі чароўная карэта знікла ў глухой нетры лесу і толькі чуліся яшчэ пяшчотныя гукі гармоніка, Бальтазар, без памяці ад захаплення і шчасця, кінуўся свайму сябру на шыю і ўсклікнуў:

– Рэферэндарыус, вы ўратаваныя! Вось хто разбурыць праклятыя чары маленькага Цынобера.

– Не ведаю,– сказаў Пульхер,– не ведаю, што са мною зараз робіцца, у сне гэта ці на яве, але сумневу няма, што нейкае невядомае мне шчасце напаўняе ўсю маю істоту і маю душу зноў наведалі ўцеха і надзея.

## Раздзел пяты

*Як князь Барсануф снедаў лейпцыгскімі жаўрукамі і данцыгскай залатой гарэліцай, як на яго казіміравых панталонах выступіла тлустая пляма і як ён узвёў тайнага сакратара Цынобера на пасаду тайнага радцы па адмысловых справах.– Кніжка з абразкамі доктара Праспэра Альпануса.– Як нейкі брамнік укусіў за палец студэнта Фабіяна, а той надзеў сукенку з шлейфам і быў за тое высмеяны.– Уцёкі Бальтазара.*

Няма чаго і казаць, што міністрам замежных спраў, у якога спадар Цынобер заняў пасаду тайнага экспедытара, быў нашчадак таго самага барона Прэтэкстатуса фон Мондшайна, які марна шукаў радаслоўную феі Розабэльвэрдэ у хроніках і турнірных кнігах. Ён, як і ягоны продак, зваўся Прэтэкстатус фон Мондшайн і славіўся выдатнай адукацыяй і далікатнымі манерамі, ніколі не блытаў склонаў, пісаў сваё імя французскімі літарамі, наогул почырк меў разборлівы і нават часам займаўся справамі, асабліва калі стаяла непагода. Князь Барсануф, адзін з пераемцаў вялікага Пафнуція, пяшчотна любіў свайго міністра, бо ў таго на ўсякае пытанне быў гатовы адказ; у гадзіны, калі ён меўся адпачываць, ён гуляў з князем у кеглі, разбіраўся ў грашовых аперацыях і цудоўна скакаў гавот.

Аднаго разу сталася так, што барон Прэтэкстатус фон Монд-

шайн запрасіў князя да сябе на фрыштык скаштаваць лейпцыгскіх жаўрукоў і выпіць чарачку данцыгскай залатой гарэліцы. Калі князь прыбыў у дом Мондшайна, дык у прыхожай сярод процьмы годнасных дыпламатычных пярсонаў быў і малы Цынобер, які, абапершыся на лёску, бліснуў на яго вочкамі і, больш ужо да яго не паварочваючыся, засунуў у рот смажанага жаўрука, якога толькі што звалок са стала. Ледзь толькі князь убачыў мальца, ён літасціва ўсміхнуўся яму і сказаў міністру:

– Мондшайн! Хто гэты прыгожы і талковы чалавек? Гэта, мабыць, той самы, што такім выдатным стылем складае і такім вытанчаным почыркам перапісвае даклады, якія я апошнім часам ад вас атрымліваю?

– Вядома, ласкавы спадару,– адказваў Мондшайн. Доля даравала мне самага разумнага і мудрага чыноўніка ў маёй канцылярыі. Яго завуць Цынобер, і я самым лепшым чынам рэкамендую гэтага цудоўнага маладога чалавека вашай міласці на ўпадабанне, мой дарагі княжа. Ён у мяне ўсяго некалькі дзён.

– А таму,– сказаў прыгожы малады чалавек, падышоўшы да іх,– а таму, калі ваша светласць дазволіць мне заўважыць, мой маленькі калега не адправіў яшчэ ніводнай паперы. Данясенні, якім пашчасціла быць заўважанымі вамі, найсвятлейшы княжа, складзены мною.

– Што вам трэба?– гнеўна звярнуўся да яго князь.

Цынобер тым часам падсунуўся да князя і, са смакам аплятаючы жаўрука, прагна плямкаў. Малады чалавек, які звярнуўся да князя, сапраўды пісаў памянёныя даклады, але...

– Што вам трэба?– усклікнуў князь.– Вы, я так думаю, і пяра ў руках не трымалі? І тое, што вы каля мяне ясце смажаных жаўрукоў, што аж я, на вялікую прыкрасць маю, ужо заўважаю тлустую пляму на маіх новых кашміравых панталонах, і прытым вы так непрыстойна плямкаеце, так, усё гэта дастаткова паказвае вашу поўную няздольнасць да дыпламатычнага прыпірышча. Ідзіце сабе на здароўе дахаты і вачам маім больш не назаляйцеся, хіба калі толькі здабудзеце надзейны сродак ад плям на маіх кашміравых панталонах. Магчыма тады я вярну вам сваю прыхільнасць. – І, павярнуўшыся да Цынобера, князь дадаў: – Юнакі, падобныя на вас, дарагі Цынобер, – акраса айчыны і заслугоўваюць, каб іх адзначалі. Вы – тайны радца па асобых справах, мой любасны.

– Шчыра дзякую,– прасіпеў у адказ Цынобер, праглынуў апошні кавалак і выцер рот абедзвюма ручкамі,– шчыра дзякую, ужо ж я з гэтым упраўлюся як след.

– Пахвальная самаўпэўненасць,– сказаў князь, павышаючы голас,– пахвальная самаўпэўненасць паходзіць ад унутранай сілы, якую павінен мець годнасны дзяржаўны муж.– Сказаўшы гэтую сентэнцыю, князь выпіў паднесеную яму міністрам чарачку данцыгскай залатой гарэліцы нябескага смаку. Новы радца павінен быў сесці паміж князем і міністрам. Ён з'ядаў неверагоднае мноства жаўрукоў і піў то малагу, то залатую гарэліцу, сіпеў і мармытаў нешта праз зубы, і як што ягоны востры нос ледзь даставаў да краю стала, дык яму даводзілася моцна працаваць ручкамі і ножкамі.

Калі фрыштык закончыўся, князь і міністр усклікнулі:

– У нашага тайнага радцы агліцкія манеры!

– У цябе,– сказаў Фабіян свайму сябру Бальтазару,– у цябе такі радасны выгляд, вочы твае гараць нейкім адмысловым агнём. Ты шчаслівы? Ах, Бальтазар, можа, табе прыснілася нешта дзівоснае, але я павінен разбудзіць цябе, гэта мой сяброўскі абавязак.

– Што такое? Што здарылася? – сумеўся Бальтазар.

– Так,– гаварыў далей Фабіян,– так! Я павінен адкрыцца табе цалкам! Будзь мужны, дружа! Падумай, што, магчыма, няма на свеце такога няшчасця, якое не ўражвала б так балюча і не забывалася б так лёгка! Кандзіда!

– Божа мілы!– усклікнуў ахоплены жахам Бальтазар.– Кандзіда! Што з Кандзідай? Яе ўжо няма на свеце? Яна памерла?

– Супакойся,– сказаў Фабіян,– супакойся, дружа мой. Кандзіда не памерла, але табе яна ўсё адно што памерла. Ведай жа, малец Цынобер стаў тайным радцам па адмысловых справах і, як павядаюць, амаль што ўжо заручаны з красуняй Кандзідай, якая, бог яе ведае чаму, без памяці ў яго закахалася.

Фабіян думаў, што Бальтазар кінецца ў шалёныя, поўныя роспачы жальбы і праклёны. Але замест таго ён сказаў са спакойнай усмешкай:

– Калі ўсё толькі ў гэтым, дык тут яшчэ няма ніякага няшчасця, якое магло б мяне засмуціць.

– Ты больш не кахаеш Кандзіду? – здзіўлена ўсклікнуў Фабіян.

– Я кахаю,– адказваў Бальтазар,– я люблю гэтага анёла, гэтую дзівосную дзяўчыну з усёй маёй замроенасцю, з усёй жарсцю, якая толькі можа ўспалымніць хлапечыя грудзі. О, я ведаю,– ах!– я ведаю, што Кандзіда таксама кахае мяне і толькі праклятыя чары паланілі яе, але я скора парву гэтыя вядзьмарскія путы, скора я знішчу гэтага прахвоста, які асляпіў нябогу.

Тут Бальтазар расказаў сябру пра дзіўнага чалавека, які сустрэўся яму на лясной дарозе ў казачнай карэце. І пад канец ён сказаў, што, як толькі з чароўнай булавешкі бліснуў прамень і дакрануся да яго грудзей, у ім нарадзілася цвёрдая ўпэўненасць, што Цынобер не хто там які, а ведзьміч, чыю сілу зломіць гэты незнаёмы.

– Дазволь, Бальтазар,– усклікнуў Фабіян, калі яго сябар закончыў,– дазволь, як гэта табе магла прыйсці ў галаву такая дзікасць! Невядомы, якога ты лічыш чараўніком, не хто які там, а доктар Праспэр Альпанус, ён жыве ў сваім загародным доме непадалёк ад Керапэса. Праўда, ходзяць пра яго розныя памрочлівыя пагудкі, так што яго можна прыняць за другога Каліостру, але ў гэтым вінаваты сам доктар. Ён любіць авяваць сябе розным містычным флёрам, напускаць на сябе, строіць з сябе чалавека, які прысвечаны ў самыя патаемныя сакрэты прыроды і кіруе невядомымі сіламі, і ў дадатак яму ўласцівыя ўсялякія велягурыстыя вычуды. Напрыклад, яго карэта зладжана так, што чалавек з жывою і палкаю фантазіяй, як вось ты ў мяне, дружа, можа прыняць усё гэта за з'яву з нейкай неверагоднай казкі. Паслухай толькі! Яго кабрыялет мае форму ракавіны і ўвесь пасярэблены, а паміж колаў пастаўлены арганчык, які, калі вось круціцца, грае сам па сабе. Той, каго ты прыняў за срабрыстага фазана, быў яго маленькі жакей, апрануты ва ўсё белае, а раскрыты парасон здаўся табе крыламі залатога жука. Ён загадвае прыладжваць на галовы сваім коням вялікія рогі, каб яны глядзеліся сапраўды казачна. Зрэшты, у доктара Альпануса і праўда ёсць прыгожая іспанская лёска з дзівосна зіхоткім крышталём, прымацаваным зверху, накшталт булавешкі, пра дзівоснае дзеянне якога расказваюць ці, правільней, выдумляюць шмат усялякае небывальшчыны. Быццам чалавечае вока не выносіць праменя з гэтага крышталю. А калі доктар аберне яго празрыстым пакрывалам, дык, пільна ўгледзеўшыся, убачыш у ім, як ва ўвагнутым люстры, тую асобу, чый вобраз носіш у глыбіні душы.

– А што, праўда?– перабіў Бальтазар сябра.– Няўжо так і расказваюць? Ну, а што яшчэ пра спадара доктара Альпануса?

– Ах,– адказаў Фабіян,– не патрабуй, каб я падрабязна пераказваў табе ўсе гэтыя ідыёцкія баечкі і погаласкі. Ты ж сам ведаеш, што яшчэ дагэтуль у нас жывуць вар'яты, якія насуперак здароваму розуму вераць ва ўсе так званыя цуды пустых няньчыных казак.

– Прызнаюся,– сказаў Бальтазар, – што я сам вымушаны далучыцца да гэтых вар'ятаў, якія не маюць здаровага розуму. Пасярэбленае дрэва – гэта зусім не зіхоткі празрысты крышталь, а арганчык гучыць не як шкляны гармонік, срабрысты фазан – не жакей, а парасон – не залаты жук. Альбо дзівосны чалавек, якога я сустрэў, не доктар Праспэр Альпанус, пра якога ты кажаш, альбо доктар і праўда прысвечаны ў самыя глыбокія патайнасці.

– Каб зусім,– сказаў Фабіян,– каб зусім асланіць цябе ад тваіх крозаў, нічога лепшага няма, як звесці цябе да самога доктара Альпануса. Тады ты на свае вочы пабачыш, што доктар Праспэр Альпанус – самы звычайны лекар і ўжо-такі аніяк не выязджае на прагулку на аднарогах, з срабрыстымі фазанамі і залатымі жукамі.

– Ты выказаў,– усклікнуў Бальтазар, у якога заблішчалі вочы ад радасці,– ты выказаў, дружа, самае запаветнае жаданне маёй душы. Давай, без адкладу ў дарогу.

Неўзабаве яны ўжо былі перад закратаванаю брамаю парку, сярод якога стаяў дом доктара Альпануса.

– Як жа нам увайсці?– спытаў Фабіян.

– Думаю, трэба пастукацца,– адказаў Бальтазар і ўзяўся за металічную тарахцёлку, якая вісела каля самага замка.

Ледзь толькі ён падняў тарахцёлку, як пад зямлёй пачуўся нейкі гул, падобны на далёкі гром, які замёр у бяздоннай глыбіні. Кратаваная брама няспешна павярнулася на петлях, сябры ўвайшлі і скіраваліся па доўгай шырокай сцежцы, у канцы якое стаяў вясковы дамок.

– Што ж,–сказаў Фабіян,– ці заўважаеш ты тут што-небудзь незвычайнае?

– Мне здаецца,– сказаў Бальтазар,– што спосаб, якім адчынілася брама, не такі ўжо й звычайны, і потым, не ведаю чаму, але тут мне ўсё здаецца такім чароўным, такім магічным. Хіба дзе-небудзь у наваколлі можна ўбачыць такія дзівосныя дрэвы,

як у гэтым парку? І нават здаецца, што гэтыя дрэвы, гэтыя кусты перанесены сюды з далёкіх невядомых краёў,– у іх бліскучыя камлі і смарагдавыя лісты.

Фабіян убачыў дзве неверагодна вялікія жабы, якія ўжо ад самае брамы скакалі следам за сябрамі абапал сцежкі.

– Нічога не скажаш, дзівосны парк,– усклікнуў Фабіян,– дзе водзяцца такія гады! – і нагнуўся падняць каменьчык, каб кінуць ім у гэтых вясёлых жабак. Абедзве адскочылі ў кусты і ўтаропіліся на яго бліскучымі чалавечымі вачыма.– Ну чакайце ж, чакайце! – закрычаў Фабіян, прыцэліўся ў адну і папусціў каменем.

– Грубіян! Чаго гэта ён шпурляе камяні ў сумленных людзей, якія не пакладаючы рук працуюць у садзе дзеля кавалка хлеба надзённага?– заквакала гадкая маленькая бабулька, што сядзела каля дарогі.

– Хадзем, хадзем! – у жаху замармытаў Бальтазар, які выдатна бачыў, што гэтаю бабулькаю абярнулася жаба. Зірнуў у кусты, пераканаўся, што другая жаба абярнулася старым дзядком, які цяпер рупліва палоў траву.

Перад домам слалася цудоўная вялікая лугавіна, на ёй пасвіліся абодва аднарогі; у паветры гучалі дзівосныя акорды.

– Ты бачыш? Ты чуеш? – спытаў Бальтазар.

– Нічога не бачу,– адказаў Фабіян,– апрача двух маленькіх поні, якія скубуць траўку, а ў паветры, трэба думаць, чуюцца гукі развешаных недзе эолавых арфаў.

Простая высакародная архітэктура двухпавярховага вясковага дамка, суразмернага ў сваіх прапорцыях, захапіла Бальтазара. Ён пацягнуў за шнурок званка; дзверы адразу адчыніліся, і сяброў сустрэла брамніца, высокая, падобная на страўса залаціста-жоўтая птуха.

– Ты ж пабач,– звярнуўся Фабіян да Бальтазара,– ты падзівіся толькі, якая пацешная ліўрэя! Калі захочаш даць гэтаму хлопцу на гарэлку, дык дзе ж у яго рукі, каб сунуць манету ў кішэньку жылеткі?

Ён павярнуўся да страўса, ухапіў яго за бліскучыя мяккія пёры, што, як пышнае жабо, распусціліся на шыі пад дзюбай і сказаў:

– Далажы пра нас, даражэнькі прыяцельку, спадару доктару.

Але страўс нічога, апрача “квіррр”, не адказаў і дзюбнуў Фабіяна ў палец.

– Цьху ты, чорт! – усклікнуў Фабіян.– А хлапчо, бадай што, і праўда праклятая птушка!

Тут адчыніліся дзверы ва ўнутраныя пакоі, і сам доктар выйшаў насустрач сябрам – нізенькі, худзенькі, бледны чалавек! Маленькая аксамітная шапачка пакрывала яго галаву, прыгожыя валасы струменіліся доўгімі пасмамі. Доўгі індыйскі хітон колеру вохры і маленькія чырвоныя боцікі са шнурамі, аздобленыя – цяжка было разабраць чым: ці то стракатым футрам, ці то бліскучым пухам нейкай птушкі,– складалі яго вопратку. На твары быў поўны спакой, поўнае ўпадабанне, толькі здавалася дзіўным, што, калі станеш зусім блізка і пачнеш пільна ў яго ўзірацца, дык з гэтага твару, як са шклянога футарала, быццам выглядваў яшчэ другі, маленькі тварык.

– Я ўбачыў,– прыветліва ўсміхаючыся, загаварыў ціхім і крыху працяжным голасам Праспэр Альпанус,– я ўбачыў вас, спадарства, з акна. Праўда, я і раней ведаў, прынамсі, што датычыцца вас, дарагі спадар Бальтазар, што вы наведаеце мяне. Прашу, за мною.

Праспэр Альпанус правёў іх у высокі круглы пакой, увесь зацягнуты нябеска-блакітнымі занавескамі. Святло прабівалася зверху праз акно ў купале і падала проста на гладка адпаліраваны мармуровы стол, які стаяў пасярэдзіне, падтрымваны сфінксам. Апрача гэтага, у пакоі нельга было заўважыць нічога незвычайнага.

– Чым магу служыць?– спытаўся Праспэр Альпанус.

Бальтазар, набраўшыся духу, расказаў усё, што было з мальцом Цыноберам, пачынаючы з яго першага з'яўлення ў Керапэсе, і заключыў з непахіснай перакананасцю, што Праспэр Альпанус з'явіцца тым дабрадзейным магам, які пакладзе крэс нягоднаму і мярзотнаму вядзьмарству Цынобера.

Праспэр Альпанус, глыбока задумаўшыся, маўчаў. Нарэшце, праз некалькі хвілін, ён з сур'ёзным тварам і панізіўшы голас загаварыў:

– Мяркуючы па ўсім, што вы мне расказалі, Бальтазар, і сумнення ў тым няма, што ў справе з мальцом Цыноберам ёсць нейкая таямнічая акалічнасць. Аднак трэба ведаць ворага, якога належыць адолець, ведаць прычыну яго моцы, дзеянне якой збіраешся разбурыць. Можна падумаць, што маленькі Цынобер не хто там хто які, а альраўн. Гэта мы зараз і ўведаем.

З гэтымі словамі Праспэр Альпанус тузануў за шаўковы

шнурок, які звісаў са столі. Адна занавеска шумна рассунулася, і вачам адкрылася мноства вялізных фаліянтаў у залачоных акладах; прыгожая, паветрана лёгкая лесвічка з кедровага дрэва скацілася ўніз. Праспэр Альпанус падняўся па гэтай лесвічцы, дастаў з самай верхняй паліцы фаліянт і, акуратна змахнуўшы з яго пыл вялікай мяцёлкай з бліскучыў павіных пёраў, паклаў на мармуровы стол.

– Гэта трактат,– сказаў ён,– прысвечаны альраўнам, яны ўсе тут намаляваныя; магчыма, вы знойдзеце сярод іх і варожага вам Цынобера, і тады ён у нашых руках.

Калі Праспэр Альпанус раскрыў кнігу, сябры ўбачылі мноства старанна расфарбаваных гравюраў з выявамі самых дзівосных выродлівых чалавечкаў з вельмі дурнымі мордамі, якія толькі можна ўявіць сабе. Але як толькі Праспэр дакрануўся да аднаго з гэтых чалавечкаў на паперы, той ажыў, выскачыў з ліста на мармуровы стол і пачаў вельмі смешна скакаць і падбрыкваць, пстрыкаць пальчыкамі, выраблаць крывымі ножкамі выдатныя піруэты і антраша і цвіркатаць: “Квірр-квапп, пірр-папп”,– пакуль Праспэр не схапіў яго за галаву і не паклаў назад у кнігу, дзе той адразу сплюшчыўся і разгладзіўся ў стракаты абразок.

Такім спосабам перагледзелі ў кнізе ўсе выявы, і Бальтазар не раз гатовы быў усклікнуць: “Вось ён, вось Цынобер!” Але, угледзеўшыся як след, вымушаны быў, на свой жаль, зазначаць, што чалавечак зусім не Цынобер.

– Усё-такі даволі дзіўна,– сказаў Праспэр Альпанус, прагледзеўшы кнігу да канца.– Аднак,– гаварыў ён далей,– магчыма, Цынобер – гном? Паглядзім.

І ён з незвычайнай увішнасцю зноў залез па кедровай лесвічцы і дастаў другі фаліянт, асцярожна змахнуў з яго пыл, паклаў на мармуровы стол і сказаў:

– Гэты трактат прысвечаны гномам; можа, мы вылавім Цынобера ў гэтай кнізе.

Сябры зноў убачылі мноства расфарбаваных гравюраў, цэлае зборышча выродлівых карычнева-жоўтых пачвараў. І калі Праспэр Альпанус дакранаўся да іх, яны плаксіва-жаласна енчылі і пад канец цяжка выпаўзалі з ліста, бурчалі, краткалі, валтузіліся на стале, пакуль доктар не заціскаў іх назад у кнігу.

Але і сярод іх Бальтазар не знайшоў Цынобера.

– Дзіўна, даволі дзіўна,– сказаў доктар і моўчкі задумаўся.

– Каралём жукоў,– сказаў ён крыху пазней,– каралём жукоў ён не можа быць, бо той, як мне дакладна вядома, цяпер якраз заняты ў іншым месцы; маршалам павукоў таксама не, бо павучыны маршал хоць і брыдкі, але разумны і майстравіты, жыве з працы рук сваіх і не прыпісвае сабе чужых заслуг. Дзіўна, вельмі дзіўна!

Ён зноў памаўчаў, і тут яўна пачуліся розныя дзівосныя галасы: то асобныя гукі, то моцныя наплывы акордаў.

– У вас тут усюды чуецца мілая музыка, любасны спадар доктар,– сказаў Фабіян.

Праспэр Альпанус, здавалася, зусім не заўважаў Фабіяна, яго вочы глядзелі толькі на Бальтазара, ён працягнуў да яго рукі і злёгку варушыў пальцамі, быццам нябачна акрапляў яго.

Нарэшце доктар схапіў Бальтазара за рукі і сказаў з прыветлівай сур’ёзнасцю:

– Толькі самае чыстае сугучча псіхічнага пачатку па законе дуалізму спрыяе аперацыі, якую я зараз пачну. Сачыце за мной!

Сябры прайшлі следам за доктарам некалькі пакояў, дзе, калі не лічыць некалькіх дзівосных звяроў, якія практыкаваліся ў чытанні, пісьме, жывапісе і танцах, нічога вартага ўвагі не было, пакуль нарэшце не адчыніліся дзверы на дзве палавіны, і сябры спыніліся перад шчыльнай заслонай, за якою знік Праспэр Альпанус, пакінуўшы іх у цемры. Заслона зашуршэла, рассунулася, і сябры апынуліся ў авальнай зале, дзе было рассеянае магічнае святло. Калі зірнуць на сцены, здавалася, позірк растараўся ў неаглядных зялёных гаях і расквечаных далінах, у якіх цурчалі ручаі і крыніцы. Таямнічы дух невядомага водару калыхаўся ў пакоі, як бы разносячы салодкія гукі шклянога гармоніка. Праспэр Альпанус явіўся ўвесь у белым, як брамін, і паставіў пасярод залы вялікае круглае крышталёвае люстра, на якое накінуў покрыва.

– Падыдзіце,– сказаў ён урачыста і глуха, – падыдзіце да гэтага люстра, Бальтазар, накіруйце ўсе вашыя думкі да Кандзіды, усёй душой жадайце, каб яна паказалася вам у гэтае імгненне, якое цячэ цяпер у прасторы і часе.

Бальтазар зрабіў так, як яму было сказана, а Праспэр Альпанус, стоячы за ім, аберуч выпісваў вялікія колы.

Праз некалькі імгненняў з люстра заструменіўся блакітнаваты дым. Кандзіда, красуня Кандзіда явілася ва ўсёй чароўнасці свайго вобліку, ва ўсёй поўнасці жыцця. Але побач з ёю, зусім

каля яе, сядзеў агідны Цынобер і пацiскаў яе рукі, і цалаваў яе. Бальтазар гатовы быў крыкнуць, але Праспэр Альпанус моцна схапіў яго за плечы, і крык замёр у яго ў грудзях.

– Спакойна,– ціха сказаў Праспэр,– спакойна, Бальтазар. Вазьміце гэтую лёску і адлупцуйце мальца, толькі не сыходзьце з месца.

Бальтазар так і зрабіў і на вялікую сабе асалоду ўбачыў, як малец скурчыўся, упаў з крэсла і пачаў качацца па зямлі. Раз'юшаны Бальтазар кінуўся наперад, але ўява расплылася ў тумане і дыме, а Праспэр Альпанус рэзка тузануў Бальтазара і гучна крыкнуў:

– Стойце! Калі вы паб'яце магічнае люстра – мы ўсе прапалі! Выйдзем жа на святло!

Паслухаўшыся загаду доктара, сябры пакінулі залу і ўвайшлі ў суседні светлы пакой.

– Дзякаваць небу,– усклікнуў Фабіян і глыбока перавёў дух,– дзякаваць небу, што мы выбраліся з гэтай праклятай залы! Духата сціснула мне сэрца, да таго ж яшчэ гэтыя кунштукі, якія я цяпер ненавіджу.

– Цяпер,– сказаў Праспэр, – цяпер няма ніякага сумнення, што вырадзень Цынобер не альраўн і не гном, а звычайны чалавек. Але тут дамешана нейкая таямнічая, вядзьмарская сіла, разгадаць якую мне пакуль што не ўдалося, і таму на гэты момант памагчы вам я не магу. Наведайце мяне, Бальтазар, праз час які, тады паглядзім, што рабіць. Да пабачэння!

– Ну вось,– сказаў Фабіян, падступаючы да доктара,– ну вось вы мне і чараўнік, спадар доктар, а з усім вашым магічным штукарствам не можаце ўрабіць гэтага маленькага, нікчэмнага Цынобера? Дык жа ведайце, што я лічу вас, з усімі вашымі размаляванымі абразкамі, лялькамі, магічнымі люстэркамі, з усім вашым фіглярскім таварам, самым апошнім шарлатанам. Бальтазар закахаўся, драпае вершыкі, яго вы можаце пераканаць у чым заўгодна, а мне сваё глупства не падтыкайце, нічога не выйдзе. Я чалавек адукаваны і не пераймаюся ніякімі цудамі!

– Думайце, як вам заўгодзіцца!– сказаў Праспэр Альпанус і засмяяўся гучней і весялей, чым можна было чакаць ад яго.– Але хоць я і не зусім чараўнік, усё ж на сякія-такія досціпы здольны.

– З Віглебавай "Магіі" ці з якой-небудзь іншай?– усклікнуў Фабіян.– Ну, тут вам не дастаць нашага прафесара Моша Тэр-

піна, вам нават раўняцца з ім не след, бо ён сумленны чалавек і заўсёды паказвае нам, што ўсё робіцца самым натуральным чынам, і ён зусім нават не абстаўляе сябе ўсякім такім таямнічым прычындаллем, як вы, спадар доктар. Ну, гонар маю адкланяцца.

– Эге,– сказаў доктар,– няўжо вы пакінеце мяне ў такім гневе?

І з гэтымі словамі ён некалькі разоў пагладзіў абедзве рукі Фабіяна, ад пляча да кісці, аж таму зрабілася неяк няёмка, і ён у душэўнай змусце ўсклікнуў:

– Што вы там робіце, спадару прафесар!

– Паслухайце, спадарства,– сказаў доктар.– Вас, спадар Бальтазар, я спадзяюся пабачыць неўзабаве зноў. Дапамога прыйдзе.

– На гарэлку ты ўсё ж не атрымаеш, прыяцель!– крыкнуў, выходзячы, Фабіян залаціста-жоўтаму брамніку і трасянуў яго за жабо. Але брамнік зноў нічога не адказаў, апрача “квіррр”, і зноў дзюбнуў Фабіяна ў палец.

– Во пачвара!– ускліккнуў Фабіян і кінуўся бегчы.

Жабкі ветліва правялі абодвух сяброў да кратаванай брамы, якая з глухім грукатам адчынілася і зачынілася.

– Я не ведаю,– сказаў Бальтазар, ідучы па дарозе за Фабіянам,– я не ведаю, брат, што гэта табе прыйшло сёння ў галаву надзець такі недарэчны сурдут з такімі неверагодна доўгімі поламі і такімі карнатымі рукавамі.

Фабіян, на сваё здзіўленне, заўважыў, што яго кароценькі сурдуцік выцягнуўся ззаду да самай зямлі, а рукавы, раней дастаткова доўгія, сабраліся зборкамі каля локцяў.

– Тысяча чартоў, ды што ж гэта такое?– ускліккнуў ён і пачаў адцягваць і патузваць рукавы і распраўляць плечы. Спачатку гэта як бы нават дапамагло, але ледзь толькі сябры прайшлі гарадскую браму, як рукавы зноў палезлі ўгору, а крыссе пачало расці, так што неўзабаве, нягледзячы на ўсе адцягванні, патузванні і паварушванні, рукавы сабраліся каля самых плячэй, выстаўляючы напаказ голыя рукі Фабіяна, а ззаду валокся шлейф, які ўсё больш і больш падаўжаўся. Сустрэчныя спыняліся і рагаталі на ўсё горла, хлапчукі, дзіка гарлаючы і весела галёкаючы, гамузам беглі за Фабіянам, хапалі і рвалі яго доўгую вопратку, так што Фабіян ляцеў кулём, а калі зноў падымаўся на ногі, шлейф зусім не карацеў, не,– ён рабіўся яшчэ

даўжэйшы. І смех вакол буяў усё больш апантана і шалёна, рогат і крыкі не сціхалі, пакуль нарэшце Фабіян, ледзь не звар'яцеўшы, кінуўся стрымгалоў у адчыненыя дзверы нейкага дома. Шлейф адразу знік.

Бальтазару не было калі асабліва здзіўляцца з зачаравання Фабіяна, бо рэферэндарыус Пульхер злавіў яго, зацягнуў у бязлюдны завулак і сказаў:

– Ці можна падумаць нават, што ты яшчэ тут, што яшчэ паказваешся на людзях, калі цябе ўжо шукае пэдэль, каб арыштаваць.

– Што такое? Што ты такое вярзеш?– спытаўся са здзіўленнем Бальтазар.

– Так далёка,– гаварыў далей рэферэндарыус, – аж так далёка ўцягнуў цябе шал рэўнасці, што ты, парушаючы недатыкальнасць жытла, з варожымі намерамі ўварваўся ў дом Моша Тэрпіна, напаў на Цынобера пры ягонай жа нявесце і пабіў вырадка да паўсмерці.

– Крый цябе божа,– усклікнуў Бальтазар,– я ж цалюткі дзень не быў у Керапэсе! Якая ганебная хлусня!

– Цішэй, цішэй,– перабіў яго Пульхер,– ідыёцкая і бязглуздая выдумка Фабіяна надзець вопратку са шлейфам выратуе цябе. Цяпер ніхто не возьме на цябе ўвагі! Схавайся толькі ад ганебнага арышту, а ўжо астатняе мы ўладзім. Табе нельга вяртацца дамоў. Дай мне ключ, я перашлю табе ўсё, што трэба. Хутчэй у Гох-Якабсгайм!

І, сказаўшы гэта, рэферэндарыус пацягнуў за сабою Бальтазара глухімі завулкамі за гарадскую браму, да вёскі Гох-Якабсгайм, дзе славуты вучоны Пталамей Філадэльфус пісаў вялікую кнігу пра невядомы народ – студэнтаў.

## Раздзел шосты

*Як Цынобер, тайны радца па асобых справах, прычэсваўся ў сваім садзе і прымаў расяную ванну.– Ордэн зялёнаплямістага тыгра.– Шчаслівая выдумка тэатральнага краўца.– Як фройляйн фон Розэншэн аблілася кавай, а Праспэр Альпанус даводзіў ёй сваю дружбу.*

Прафесар Мош Тэрпін расплываўся ў асалодзе.

– Ці магло,– гаварыў ён сам сабе,– ці магло мне прыпасці большае шчасце, чым выпадак, які прывёў у мой дом дастойнага тайнага радцу па асобых справах яшчэ студэнтам? Ён ажэніцца з маёй дачкою, ён стане маім зяцем, праз яго я ўвайду ў ласку да нашага слаўнага князя Барсануфа і буду падымацца па лесвіцы, па якой падымаецца мой цудоўны малец Цынобер. Па праўдзе, я сам часта не разумею, як гэта мая дзяўчынка, мая Кандзіда, без памяці закахалася ў мальца. Звычайна жанчыны больш зважаюць на прыгожую знешнасць, чым на адмысловыя здатнасці душы, а я часам як гляну на гэтага мальца па асобых справах, дык мне здаецца, што яго нельга назваць надта прыгожым, ён нават bossu*, але ціха, шш-шш, і сцены маюць вушы. Ён у князя пястун, ён пойдзе ўгору, вышэй і вышэй, і ён – мой зяць.

Мош Тэрпін меў рацыю. Кандзіда выявіла ў сабе шчырую прыхільнасць да мальца, а калі хто-небудзь яшчэ не падупалы ўздзеянню дзіўных чараў Цынобера намякаў, што тайны радца па асобых справах ўсяго толькі шкодны вылюдак, яна адразу загаворвала пра дзівосныя, прыгожыя валасы, якімі яго надарыла прырода.

Ніхто пры такіх гаворках Кандзіды не ўсміхаўся так хітра, як рэферэндарыус Пульхер.

Ён хадзіў па пятах за Цыноберам, а верным памочнікам у яго быў тайны сакратар Адрыян, той самы малады чалавек, якога Цыноберавыя чары ледзь не выгналі з канцылярыі міністра. Яму ўдалося зноў увайсці ў давер князю, толькі калі ён дастаў выдатны сродак на вывядзенне плямаў.

Тайны радца па асобых справах Цынобер жыў у выдатным доме з яшчэ больш выдатным садам, пасярэдзіне якога была заслоненая з усіх бакоў густым кустоўем палянка, дзе цвілі раскошныя ружы. Было заўважана, што праз кожныя дзевяць дзён Цынобер ціхенька ўстае на дасвецці, апранаецца сам, як гэта яму ні цяжка, без слуг, спускаецца ў сад і знікае ў кустах, якія атачаюць палянку.

Пульхер і Адрыян падазравалі тут нейкую таямніцу, выпыталі ў камердынера, што прайшло якраз дзевяць дзён з таго, як Цынобер апошні раз наведаўся на тую палянку, адважыліся пералезці ўначы праз садовы плот і схаваліся ў кустах.

* Гарбаты *(фр.)*.

Ледзь толькі пачало брацца на раніцу, як яны ўбачылі мальца, які набліжаўся да іх, чыхаючы і фыркаючы; калі ён пераходзіў цераз курціны, расістыя сцяблiны і вецце хлясталі яго па носе.

Калі ён прыйшоў на ружовую палянку, па кустоўі пранёсся салодкі подых, і ружы запахлі яшчэ мацней. Прыгожая, захінутая ў пакрывала жанчына з крыламі за спінай зляцела ўніз, прысела на разьбёнае крэсла, якое стаяла сярод ружовых кустоў, і, ціха прыгаворваючы: “Хадзі сюды, дзіця маё”,– прыгарнула да сябе маленькага Цынобера і пачала залацістым грэбенем расчэсваць яго доўгія валасы, якія ападалі на плечы. Мабыць, малому гэта было вельмі па душы: ён мружыўся, выпручваў ножкі, вурчаў і муркаў, як кот. Гэта доўжылася добрых пяць хвілін, пасля чараўніца правяла пальцам мальцу па цемені, і абодва, Пульхер і Адрыян, заўважылі на галаве ў Цынобера бліскучую вузкую агнявую палоску. Нарэшце жанчына сказала:

– Бывай, мілае дзіця маё! Будзь разумны, будзь разумны, наколькі зможаш.

Малец адказаў:

– Adieu, матухна, розуму ў мяне досыць, табе не трэба паўтараць мне гэтага так часта.

Незнаёмая павольна паднялася і знікла ў паветры.

Пульхер і Адрыян скамянелі ад здзіўлення. Але ледзь толькі Цынобер сабраўся ісці, рэферэндарыус выскачыў з кустоў і голасна закрычаў:

– Добрай раніцы, спадару тайны радца па асобых справах! Гэ! Як цудоўна вы прычасаны!

Цынобер азірнуўся і, убачыўшы рэферэндарыуса, кінуўся быў бегчы. Але, як што ад прыроды быў нязграбны і няўклюдны па слабасці ног, спатыкнуўся і ўпаў у высокую траву, так што сцебле самкнулася над ім і ён апынуўся ў расяной ванне. Пульхер падскочыў да малога і дапамог яму ўстаць на ногі, але Цынобер загугніў:

– Спадару, як вы трапілі ў мой сад? Каціцеся да ўсіх чарцей сабачых! – Тут ён заскакаў і кінуўся стрымгалоў дамоў.

Пульхер напісаў Бальтазару пра гэта дзівоснае здарэнне і абяцаўся пасіліць назіранне за маленькім ведзьмічам. Здавалася, Цынобер быў няўцешны з усяго таго, што з ім здарылася. Ён загадаў пакласці сябе ў пасцель і так стагнаў і енчыў, што

вестка пра яго нечаканую немач хутка дабегла да міністра Мондшайна, а потым і да князя Барсануфа.

Князь Барсануф адразу паслаў да маленькага любімца свайго лейб-медыка.

– Дастойны спадар тайны радца,– сказаў лейб-медык, намацаўшы пульс,– вы ахвяруеце сабою дзеля айчыны. Руплівая праца звяла вас у ложак, бясконцае высільванне розуму паслужыла прычынай неверагодных вашых цярпенняў, якія вы мусіце пераносіць. Вы вельмі бледны і зусім зблажэлі, а ваша неацэнная галава так і палае! Ай-яй! Толькі б не запаленне мозгу! Няўжо гэта спрычынена няспынным дбаннем пра даброці дзяржаве! Наўрад ці гэта магчыма! Але дазвольце!

Лейб-медык, мабыць, заўважыў на галаве ў Цынобера тую самую чырвоную палоску, якую першыя адкрылі Пульхер і Адрыян. І ён крыху зводдалі зрабіў некалькі магнетычных пасаў і з усіх бакоў падзьмухаў на хворага, які пры гэтым мяўкаў, вішчаў і звягаў; хочучы правесці рукой па галаве, лейб-медык незнарок дакрануўся да чырвонай палоскі. Але тут Цынобер закіпеў шалам, падскочыў і маленькай кашчавай ручкай уляпіў лейб-медыку, які якраз у гэты момант нахіліўся над ім, такую поўху, што пляснула на ўвесь пакой.

– Што вам трэба,– закрычаў Цынобер,– што вам ад мяне трэба, навошта вы кудлаціце мне валасы? Я зусім не хворы, я здаровы, я зараз устану і пайду да міністра на нараду, прэч адгэтуль!

Лейб-медык у страху паспяшаўся выйсці. Але калі ён расказаў князю Барсануфу, як з ім абышліся, той радасна ўсклікнуў:

– Якая руплівасць у служэнні дзяржаве! Якая годнасць, якая веліч ва ўчынках! Які цудоўны чалавек гэты Цынобер!

– Любасны мой спадару тайны радца,– звярнуўся да Цынобера міністр Прэтэкстатус фон Мондшайн,– як цудоўна, што вы, нягледзячы на вашу хворасць, прыбылі на канферэнцыю. Я склаў мемарыял па найважнейшай справе з калакуцкім дваром – склаў сам і прашу вас далажыць яго князю, бо ваша натхнёнае чытанне ўзвысіць цэласнасць, аўтарам якое мяне тады прызнае князь!

Мемарыял, якім хацеў казырнуць Прэтэкстатус, складзены быў не кім там іншым, а Адрыянам.

Міністр выправіўся разам з мальцом да князя. Цынобер да-

стаў з кішэні мемарыял, уручаны яму міністрам, і пачаў чытаць. Але як што з ягонага чытання нічога не выходзіла і ён нёс чыстую лухту, бурчаў і вохкаў, дык міністр узяў у яго з рук паперу і пачаў чытаць сам.

Князь, відаць, быў у поўным захапленні, ён дазволіў заўважыць сваю ўхвалу, увесь час ўсклікаў:

– Цудоўна! Выдатна сказана! Раскошна! Неперайімальна!

Ледзь толькі міністр закончыў, князь падышоў да Цынобера, падняў яго, прыціснуў да грудзей, якраз да таго месца, дзе ў яго, князя, красавалася вялікая зорка зялёнаплямістага тыгра, і, заікаючыся і ўсхліпваючы, ускліўкнуў:

– Не, які чалавек! Які талент! Якая руплівасць! Якая любоў! Гэта проста неверагодна, неверагодна! – І слёзы бобам пасыпаліся ў яго з вачэй. Потым дадаў стрымана: – Цынобер! Я назначаю вас сваім міністрам! Будзьце верны і адданы айчыне, будзьце доблесны слуга Барсануфа, які цаніцьме вас, любіцьме вас!

І затым, нахмурыўшыся, звярнуўся да міністра:

– Я заўважаю, любасны барон фон Мондшайн, што з пэўнага часу вашыя сілы малееюць. Адпачынак у нашых маёнтках пойдзе вам на карысць! Бывайце!

Міністр фон Мондшайн пайшоў, мармычучы пад нос нешта няўцямнае і кідаючы шалёныя позіркі на Цынобера, які, як звычайна, падпёрся лёсачкай, устаў на пальчыкі і з ганарыстым дзёрзкім выглядам азіраўся па баках.

– Я павінен,– сказаў князь,– я павінен узнагародзіць вас, дарагі мой Цынобер, як яно і прыстойна вам па заслугах. Таму прыміце з маіх рук ордэн зялёнаплямістага тыгра!

І князь хацеў надзець яму ордэнскую стужку, загадаўшы камердынеру неадкладна прынесці яе; але выродлівае цела Цынобера сталася прычынай таго, што стужка ніяк не магла ўтрымацца на належным месцы,– яна то задзіралася ўгору, то гэтак жа непрыстойна спаўзала ўніз.

У гэтым, як і ва ўсіх іншых справах, якія датычыліся сапраўднага дабра дзяржавы, князь быў вельмі дасціплівы. Ордэн зялёнаплямістага тыгра насіўся на стужцы ў косым напрамку паміж бедранай косткай і копчыкам, на тры шаснаццатых дзюйма вышэй памянёнага. Вось якраз гэтага і не маглі дабіцца. Камердынер, тры пажы, сам князь добра папрацавалі; але ўсе іх намогі былі марныя. Здрадлівая стужка соўгалася ва ўсе бакі, і Цынобер пачаў сярдзіта квакаць:

– Чаго вы так тармасіце мяне? Няхай гэтая ідыёцкая штуковіна целяпаецца, як сама хоча! Я цяпер міністр і ім застануся!

– Навошта ж,– гнеўна сказаў князь, – навошта ж у мяне заснаваны капітул ордэнаў, калі ў размяшчэнні стужак існуюць такія дурныя статуты, праціўныя маёй волі. Пацярпіце, мой любасны міністр Цынобер, хутка ўсё зменіцца!

Каб прыдумаць, якім майстэрскім спосабам прыладзіць міністру Цыноберу стужку зялёнаплямістага тыгра, давялося па загадзе князя склікаць капітул ордэнаў, якому былі дададзены яшчэ два філосафы і адзін заезны натураліст, які вяртаўся з Паўночнага полюса. І, каб яны маглі сабрацца з сіламі дзеля такой важнай нарады, усім удзельнікам яе было прадпісана за тыдзень да таго перастаць думаць, а каб маглі яны гэта ўчыніць з большым поспехам, не пакідаючы працы на карысць дзяржавы, ім належала практыкавацца ў лічэнні. Вуліцы перад палацам, дзе павінны былі засядаць члены капітула ордэнаў, філосафы і натураліст, былі густа засланыя саломай, каб стук колаў не перашкодзіў мудрацам; з той самай прычыны забаранялася біць у барабаны, учыняць музыку і нават уголас размаўляць паблізу палаца. У самім палацы ўсе хадзілі ў тоўстых лямцовых пантофлях і перагаворваліся на мігах.

Сем дзён напралёт, з самае раніцы да позняга вечара доўжыліся нарады, але ўсё яшчэ нельга было нават думаць пра якое-небудзь разумнае рашэнне.

Князь у поўным нецярпенні увесь час пасылаў перадаць ім, што павінны ж яны, чорт бы іх пабраў, нарэшце прыдумаць нешта людскае. Але гэта зусім не памагала.

Натураліст даследаваў, наколькі было магчыма, канстытуцыю Цынобера, вымерыў вышыню і шырыню яго горба і прадставіў капітулу самыя дакладныя на гэты конт вылічэнні. Ён жа і прапанаваў нарэшце паклікаць на нараду тэатральнага краўца.

Якая ні дзіўная была гэтая прапанова, яе прынялі ў адзін голас,– у такім яны былі непакоі і страху.

Тэатральны кравец, спадар Кеэс, быў чалавек даволі пранырлівы і хітры. Ледзь толькі яму патлумачылі, у чым была тая загваздка, ледзь толькі глянуў ён на вылічэнні натураліста, як у яго ўжо быў па рукою выдатны сродак замацаваць ордэнскую стужку на патрэбным месцы.

А менавіта – на грудзях і на спіне трэба нашыць пэўную

колькасць гузікаў і да іх прышпільваць ордэнскую стужку. Учыненая аперацыя ўдалася на поўніцу.

Князь быў у захапленні і ўхваліў прапанову капітула з гэтага часу заснаваць для ордэна зялёнаплямістага тыгра некалькі розных ступеняў, па колькасці гузікаў, з якімі яго і прысуджаюць. Напрыклад, ордэн зялёнаплямістага тыгра з двума гузікамі, з трыма гузікамі і так далей. У выглядзе адмысловай адзнакі, якой ніхто іншы не мог дамагацца, міністр Цынобер атрымаў ордэн з дваццаццю алмазнымі гузікамі, бо якраз дваццаць гузікаў запатрабаваў дзівосны склад яго цела.

Кравец Кеэс атрымаў ордэн зялёнаплямістага тыгра з двума залатымі гузікамі, а як што сам князь, нягледзячы на памянёную шчаслівую прыдумку, лічыў яго дрэнным краўцом і таму не хацеў у яго апранацца, дык ён быў узнагароджаны чынам правадзейнага тайнага князевага обер-касцюмера.

Доктар Праспэр Альпанус задумліва глядзеў з акна свайго сельскага дома ў парк. Усю ноч ён складаў гараскоп Бальтазара, а пры гэтым разведаў сёе-тое і пра маленькага Цынобера. Але самае важнае яму было тое, што здарылася з мальцом у парку, калі яго дасачылі Пульхер і Адрыян. Праспэр Альпанус спярша мерыўся гукнуць сваіх аднарогаў, каб яны падалі ракавіну, бо ён хацеў выправіцца ў Гох-Якабсгайм, як раптам загрымела карэта і спынілася каля закратаванай брамы парку. Далажылі, што кананіса фон Розэншэн хоча пагутарыць са спадаром доктарам.

– Ласкава просім!– сказаў Праспэр Альпанус, і дама ўвайшла. На ёй была доўгая чорная сукенка, і яна была захутана ў пакрывала, як матрона. Праспэр Альпанус, ахоплены дзіўным прадчуваннем, узяў лёску і накіраваў на незнаёмую прамяні сваёй булавешкі. І вось быццам маланкі з лёгкім патрэскваннем заблісcкалі вакол дамы, і яна явілася ў белым празрыстым адзенні, бліскучыя страказіныя крылы былі ў яе за плячыма, белыя і чырвоныя ружы заплецены ў валасах. “Эге-ге!” – шапнуў Праспэр, схаваўшы лёску пад шлафрок, і адразу дама з’явілася ў ранейшым сваім выглядзе.

Праспэр Альпанус прыветліва запрасіў яе сесці. Фройляйн фон Розэншэн сказала, што ў яе быў даўнішні намер наведаць спадара доктара ў яго сельскім доме, каб пазнаёміцца з чалавекам, якога ўсё наваколле ўслаўляе як вельмі дасканалага, даб-

радзейнага мудраца. Можа, ён задаволіць яе просьбу і згодзіцца як лекар паназіраць за недалёкім адгэтуль прыютам для шляхетных паненак, бо старыя дамы часта нямогуцца і не атрымліваюць ніякай дапамогі. Праспэр Альпанус пачціва адказаў, што хоць ён ужо даўно пакінуў практыку, але згодзен зрабіць выключэнне і, калі спатрэбіцца, наведаць апекаваных паненак; потым ён распытаўся, ці не церпіць сама фройлян фон Розэншэн ад якой-небудзь немачы. Фройляйн адказала, што яна толькі час ад часу заўважае рэўматычныя болі ў суглобах, калі ёй здараецца прастудзіцца на ранішнім шпацыры, а цяпер якраз яна зусім здаровая,– і тут яна перавяла гутарку на нейкую дробязную тэму. Праспэр спытаў, ці не хоча яна – бо якраз настала раніца – выпіць кубачак кавы. Розэншэн заўважыла, што кананісы ніколі не адмаўляюцца ад гэтага. Каву падалі, але, як ні стараўся Праспэр наліць яе, кубачкі заставаліся пустымі, хоць кава і лілася з кафейніка.

– Э-э! – усміхнуўся Праспэр Альпанус.– Ды гэта ж наравістая кава! А ці не спадобіцца шаноўнай фройляйн наліць самой?

– З прыемнасцю,– азвалася фройляйн і ўзяла кафейнік. Але, хоць з яго не вылілася ні кроплі, усе кубачкі напоўніліся і кава пацякла цераз беражкі на стол, на сукенку кананісы. Яна паспешліва адставіла кафейнік, і кава знікла без следу. Абое, Праспэр Альпанус і кананіса, моўчкі і крыху здзіўлена паглядзелі адно на адное.– Мабыць,– пачала дама,– мабыць, вы, спадару доктар, чыталі вельмі зманлівую кнігу, калі я ўвайшла?

– Сапраўды,– адказаў доктар,– у гэтай кнізе шмат чаго вартага подзіву.

І ён ужо намерыўся разгарнуць маленькую кніжку ў залачоным акладзе, якая ляжала перад ім на стале. Але ўсе ягоныя спробы былі марныя, бо кніжка кожнага разу з ляскам захлопвалася: кліпп-клапп!

– Э-э!– сказаў Праспэр Альпанус.– А ці не паспрабуеце вы, высокашаноўная фройляйн, управіцца з гэтай свавольнай кніжкай?

Ён падаў ёй кнігу, якая, як толькі дама дакранулася да яе, разгарнулася сама. Але лісты выслізнулі з яе, выцягнуліся ў велізарнае фоліё і зашалясцелі па ўсім пакоі.

Фройляйн адхіснулася, спалохаўшыся. Доктар энергічна захлопнуў кнігу, і ўсе лісты зніклі.

– Аднак жа,– з мяккай усмешкай сказаў Праспэр Альпанус,

падымаючыся з месца, – аднак жа, высокашаноўная спадарыня, навошта мы марнуем дарагі час на такія пустыя фокусы, – бо ж тое, што мы тут вырабляем, яно не што іншае, як звычайныя застольныя фокусы; пяройдзем лепей да больш ўзвышаных прадметаў.

– Мне лепей сысці!– усклікнула фройляйн і паднялася.

– Ну,– сказаў Праспэр Альпанус, – не так гэта лёгка вам удасца без майго дазволу, бо, літасцівая спадарыня вы мая, мушу сказаць вам, вы цяпер цалкам пад маёй уладаю.

– Пад вашай уладаю,– гнеўна ўсклікнула фройляйн,– пад вашай уладаю, спадар доктар? Пусты самападман!

І тут яна распусціла сваю шаўковую сукенку і ўзляцела пад столь прыгожым аксамітна-чорным матыльком-антыопам. Але адразу, забрунжаўшы і загудзеўшы, узвіўся за ёю следам Праспэр Альпанус, узяўшы сабе выгляд дароднага жука-рагача. У поўнай стоме матылёк апусціўся на падлогу і забегаў па пакоі маленькай мышкай. Але жук-рагач з фырканнем і мяўканнем кінуўся за ёю шэрым катом. Мышка зноў узвілася ўгору бліскучым калібры, але тады вакол дома пачуліся розныя дзіўныя галасы, і наляцелі ўсякія дзівавідныя казуркі, а з імі і нябачаныя раней лясныя птушкі, і залатая сетка завалакла вокны. І раптам фея Розабэльвэрдэ, ва ўсім бляску і велічы, у бліскучым белым адзенні, перахопленым алмазным паяском, з белымі і чырвонымі ружамі, уплеценымі ў цёмныя локаны, явілася пасярод пакоя. А перад ёю маг у расшытым золатам хітоне, з бліскучай каронай на галаве, – у руцэ лёска з булавешкай, ад якой ішлі вогненныя прамяні.

Розабэльвэрдэ пачала наступаць на мага, як раптам з яе валасоў выпаў на мармуровую падлогу залаты грабянец і разбіўся, быццам шкляны!

– Гора мне! Гора мне! – крыкнула фея.

І раптам за кафейным столікам зноў сядзяць кананіса Розэншэн у доўгай чорнай сукенцы, а насупраць яе доктар Праспэр Альпанус.

– Я думаю,– спакойненька сказаў Праспэр Альпанус, як бы нічога і ніякага наліваючы выдатны дымны мокка ў кітайскія кубачкі,– я думаю, мая глыбокашаноўная фройляйн, мы цяпер даволі добра ведаем адно аднаго. Мне вельмі шкада, што ваш цудоўны грабянец разбіўся аб гэтую каменную падлогу.

– Таму віною,– запярэчыла фройляйн, з прыемнасцю пры-

хлёбваючы каву,– толькі мая нязграбнасць. Трэба асцерагацца выпускаць што-небудзь на гэтую падлогу, бо, калі я не памыляюся, гэтыя камяні пакрыты дзівоснымі ерогліфамі, якія многія могуць прыняць за звычайныя жылкі ў мармуры.

– Зношаныя талісманы, мадам,– сказаў Праспэр,– зношаныя талісманы гэтыя камяні, нічога больш.

– Аднак, ласкавы доктар,– усклікнула фройляйн,– як магло стацца, што мы даўным-даўно не пазнаёміліся, што нашыя дарогі ні разу не сышліся?

– Розніца ў выхаванні,– адказаў Праспэр Альпанус,– розніца ў выхаванні, высокашаноўная фройляйн,– адзіная таго віна. Тым часам як вы, дзяўчына, поўная надзей, былі ў Джыністане цалкам аддадзены вашай уласнай багатай натуры, вашаму шчасліваму генію, я, гаротны студэнт, замкнуты ў пірамідах, слухаў лекцыі прафесара Зараастра, старога буркуна, які, аднак, на дзіва шмат чаго ведаў. За часоў кіравання дастойнага князя Дэмэтрыя я пасяліўся ў гэтай маленькай цудоўнай краіне.

– Як,– здзівілася фройляйн,– і вас не выслалі, калі князь Пафнуцій насаджаў асвету?

– Зусім не,– адказаў Праспэр,– больш за тое: сапраўды сваё "я" мне ўдалося схаваць цалкам, бо я паклаў усё, што меў за душою, каб у розных творах, якія я пашыраў, выказаць самыя адмысловыя веды па лініі асветы. Я даводзіў, што без князевай волі не можа быць ні грому, ні маланкі і што калі ў вас пагода і выдатны ўраджай, дык гэтым мы абавязаны толькі непамысным намогам князя і высакародных паноў – яго прыбліжаных, якія даволі мудра раяцца пра тое ў сваіх пакоях, тым часам як паспаліты люд арэ зямлю і сее. Князь Пафнуцій узвёў мяне тады на пасаду тайнага вярхоўнага прэзідэнта асветы, якую я разам з маёй маскай скінуў, як цяжкую ношку, калі навальніца мінулася. Употайкі я прыносіў карысць, як толькі мог. Тое, што мы з вамі, высокашаноўная фройляйн, называем сапраўднай карысцю. Ці вядома вам, дарагая фройляйн, што гэта я асцярог вас напярэдадні ўварвання асветніцкай паліцыі? Што я той самы, каму вы абавязаны тым, што яшчэ валодаеце міленькімі штучкамі, якія вы мне толькі што паказалі? О, божа, ласкавая фройляйн, ды зірніце толькі ў акно! Няўжо вы не пазнаяце гэтага парку, дзе вы так часта гулялі і гутарылі з прыязнымі духамі, якія жылі ў кустах, кветках, крыніцах? Гэты парк я выратаваў

з дапамогай маёй навукі. Ён і цяпер той самы, якім быў за часоў старэнькага Дэмэтрыя. Хвала небу, князю Барсануфу няма вялікай патрэбы ў розным чарадзействе. Ён паблажлівы валадар і дазваляе кожнаму паводзіцца па сваёй волі і чараваць колькі душы заўгодна, толькі б не было асабліва прыкметна ды каб спраўна плацілі падаткі. Вось я жыву тут, як вы, дарагая фройляйн, у сваім прыюце, шчаслівa і незасмучана.

– Доктар,– усклікнула паненка фон Рэзэншэн, заліўшыся слязьмі,– доктарка, што вы сказалі! Якая шчырасць! Але ж, я пазнаю гэты гай, дзе я смакавала любашчасныя радасці і асалоды. Доктар, вы самы высакародны чалавек, як многім я вам абавязана! І вы так жорстка праследуеце майго маленькага гадаванца?

– Вы,– запярэчыў доктар,– вы, шаноўная фройляйн, даліся на прынаду вашай прыроднай дабрыні і рассыпаеце вашыя чары перад няўартым таго. Але, аднак, нягледзячы на вашую шчырадушную моц, Цынобер – маленькі выродлівы нягоднік і назаўсёды такім застанецца, а цяпер, калі залаты грабянец разбіўся, ён цалкам у маіх руках.

– О, злітуйцеся, доктар! – заблагала фройляйн.

– А ці не мецьмеце ласкі зірнуць сюды? –сказаў Праспэр, падаючы ёй складзены ім гараскоп Бальтазара.

Фройляйн зазірнула ў гараскоп і горасна ўсклікнула:

– Так! Калі ўсё так, дык я вымушана саступіць перад вышэйшай сілай! Небарака Цынобер!

– Прызнайцеся, шаноўная фройляйн,– з усмешкай сказаў доктар,– прызнайцеся, што дамы часта вельмі ахвоча ўпадаюць у розныя вычуды; нястомна і неадступна следуючы раптоўнай прыхамаці, яны не заўважаюць, наколькі хваравіта гэта парушае іншыя адносіны. Лёс Цынобера завершыцца, але спярша ён яшчэ дасягне незаслужанай пашаны! Гэтым я сведчу сваю пашану вашай сіле, вашай дабрыні, вашай дабрачыннасці, мая высокашаноўная міладайная спадарыня.

– Цудоўны, годны чалавеча,– усклікнула фройляйн,– застаньцеся маім сябрам!

– Навекі!– адказаў доктар.– Мая дружба, мая духоўная да вас прыхільнасць, цудоўная фея, ніколі не мінуцца. Смела звяртайцеся да мяне ва ўсіх недаўмёных акалічнасцях і – о, прыязджайце піць каву, калі толькі вам гэтага захочацца!

– Бывайце, мой найгоднейшы маг, я ніколі не забудуся ва-

шай прыхільнасці, вашай кавы!– Сказаўшы гэта, расчуленая фройляйн устала, каб ісці.

Праспэр Альпанус правёў яе да кратаванай брамы, тым часам як навокал чуліся цудоўныя пяшчотныя лясныя галасы.

Каля брамы замест карэты фройляйн стаяла запрэжаная аднарогамі крышталёвая ракавіна доктара, на запятках стаяў залаты жук, і ён расхінуў бліскучыя крылы. На козлах сядзеў срабрысты фазан і, трымаючы ў дзюбе залатыя лейцы, пазіраў на фройляйн разумнымі вачыма.

Калі крышталёвая карэта пакацілася, напаўняючы дзівоснымі гукамі духмяны лес, кананіса адчувала сябе перанесенай ў шчасныя часы самага цудоўнага жыцця феяў.

## Раздзел сёмы

*Як прафесар Мош Тэрпін выпрабоўваў прыроду ў княскай піўніцы.–Mycetes Beelzebub.– Роспач студэнта Бальтазара.– Дабратворны ўплыў на сямейнае шчасце добра ўладжанага сельскага дома.– Як Праспэр Альпанус паднёс Бальтазару чарапахавую табакерку і пасля з'ехаў.*

Бальтазар, які схаваўся ў вёсцы Гох-Якабсгайм, атрымаў з Керапэса ад рэферэндарыуса Пульхера ліст наступнага зместу:

“Справы нашыя, дарагі дружа Бальтазар, шторазу горшыя і горшыя. Наш вораг, мярзотны Цынобер, зрабіўся міністрам замежных спраў і атрымаў ордэн зялёнаплямістага тыгра на дваццацці гузіках. Ён узнёсся ў любімцы князя і бярэ верх ва ўсім, чаго толькі захоча. Прафесар Мош Тэрпін на сябе не падобны: аж так напяўся ад дурное пыхі. Па хадайніцтве свайго будучага зяця ён заступіў месца генерал-дырэктара ўсіх сукупных спраў па лініі прыроды – пасада, якая дае шмат грошай і мноства іншых дастаткаў. З прычыны памянёнай пасады генерал-дырэктара ён цэнзуруе і рэвізуе як сонечныя і месячныя зацьменні, так і прадказанні надвор'я ва ўсіх календарах, дазволеных у дзяржаве, і асабліва даследуе прыроду ў рэзідэнцыі князя і ў яе ваколіцах. Дзеля гэтых заняткаў ён атрымлівае з княскіх лясоў каштоўную дзічыну, вельмі рэдкіх жывёл, якіх ён, каб даследаваць іх прыроду, загадвае смажыць і есць. Цяпер ён піша (альбо, прынамсі, божыцца, што піша) трактат, з якой прычыны

віно не падобнае смакам на ваду, а таксама робіць іншае ўздзеянне, і твор гэты ён мерыцца прысвяціць свайму зяцю. Дзеля гэтай мэты Цынобер выклапатаў Мошу Тэрпіну дазвол у любы час учыняць штудыі у княскай піўніцы. Ён ўжо даследаваў палавіну остгофта старога райнвайну і некалькі тузінаў шампанскага, а цяпер падступіўся да барылы алікантэ. Склепнік у роспачы рукі ламае. Дык вось прафесару, які, як табе вядома, самы вялікі ласун на свеце, пашанцавала, і ён вёў бы даволі гожае жыццё, калі б яму часта не даводзілася, калі градам выб'е палеткі, спешна выязджаць у вёску і там тлумачыць княскім арандатарам, чаму ўчыняецца град, каб і гэтым дурным ёлупам перапала драбінка ад навукі і яны маглі наперад асцерагчыся ад такіх бедстваў і не патрабавалі вызвалення ад арэнднай платы з прычыны няшчасця, у якім ніхто, апрача іх саміх, не вінаваты.

Міністр ніяк не можа забыць зазнаных ад цябе пабояў. Ён прысягнуўся адпомсціць. А табе нельга больш паказвацца ў Керапэсе. І мяне ён таксама сурова пераследуе, бо я падгледзеў яго таямнічую звычку прычэсвацца ў крылатых паняў. Да таго часу пакуль Цынобер будзе князевым лагоднікам, мне няма чаго і разлічваць заступіць якую-небудзь прыстойную пасаду. Мая нешчаслівая зорка ўвесь час вядзе мяне да сустрэчы з гэтым вылюдкам там, дзе я зусім не чакаю, і кожнага разу фатальна для мяне. Нядаўна міністр пры ўсім парадзе, пры шпазе, зорцы і ордэнскай стужцы, быў у заалагічным кабінеце і, па сваёй завядзёнцы падпершыся лёскай, стаяў на дыбачках перад шкляной шафай з рэдкімі амерыканскімі малпамі. Чужаземцы, якія аглядалі кабінет, падыходзяць да шафы, і адзін з іх, угледзеўшы нашага альраўна, усклікае: “Ого! Якая мілая малпачка! Які цудоўны звярок – акраса ўсяго кабінета. А як завецца гэты прыгожанькі экземпляр? Адкуль яна родам?”

І вось даглядчык кабінета, дакрануўшыся да пляча Цынобера, вельмі сур'ёзна адказвае:

– Так, гэта цудоўны экземпляр, выдатны бразілец, так званы Mycetes Beelzebub – Simia Beelzebub Linnei – niger, barbatus, podiis caudaque apice brunneis* – малпа равун.

– Спадару,– ашчэрыўся малец на даглядчыка,– спадару, я мяркую, вы з'ехалі з глузду альбо вам наскрозь затлуміла, я

* Лінэева малпа Вельзевул – чорная, барадатая, з цагляна-чырвонымі нагамі, хвастом і макаўкай *(лац.)*.

ніякі не Beelzebub caudaque, не малпа-равун, я Цынобер, міністр Цынобер, кавалер ордэна зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках!

Я стаю непадалёк, і калі б мне давялося памерці на месцы, і тады б я не ўтрымаўся – я проста зайшоўся ад рогату.

– Ах, і вы тут, спадар рэферэндарыус? – захрыпеў ён, і яго вядзьмарскія вочы заблішчалі.

Бог яго ведае, як яно так сталася, але толькі чужаземцы ўсё яшчэ прымалі яго за самую цудоўную, рэдкую малпу, якую ім толькі выпадала бачыць, і захацелі мусова пачаставаць яго ламбардскімі арэхамі, якія падаставалі з кішэняў. Цынобер дайшоў да такога шалу, што ледзь не задыхнуўся, а ногі ў яго падкасіліся. Пакліканы камердынер мусіў быў узяць яго на рукі і знесці ў карэту.

Я і сам не магу вытлумачыць, чаму гэтая прыгода была мне як бы праблескам надзеі. Гэта першая няўдача, якая спасцігла маленькага ваўкалака.

Напярэдадні, наколькі мне вядома, Цынобер з самага рана вярнуўся з саду вельмі засмучаны. Мабыць, крылатая жанчына не явілася, бо ад яго прыгожых кучараў не засталося і следу. Кажуць, цяпер яго скудлачаныя лохмы звісаюць на плечы, і князь Барсануф сказаў яму: "Не запускайце лішне вашай прычоскі, дарагі міністр, я прышлю вам свайго куафёра". На што Цынобер даволі пачціва адказаў, што ён загадае гэтага недарэку, як толькі ён явіцца, выкінуць у акно.

– Вялікая душа! Да вас і не даступіцца! – мовіў князь і горка заплакаў.

Бывай, любасны Бальтазар! Не пакідай надзеі ды хавайся лепей, каб яны цябе не схапілі!"

У поўнай роспачы ад таго, пра што пісаў яму сябар, Бальтазар збег у самы гушчар лесу і голасам загаласіў, наракаючы:

– Спадзявацца!– усклікнуў ён.– І я яшчэ павінен спадзявацца, калі ўся надзея знікла, калі ўсе зоркі пагаслі і цёмная-цёмная ноч абдымае мяне, няўцешнага? Ліхі мой лёс! Я пераможаны цёмнымі сіламі, якія згубна ўварваліся ў маё жыццё! Вар'ят, я клаў надзеі на Праспэра Альпануса, які сваім пякельным здольствам завабіў мяне і выгнаў з Керапэса, які зрабіў так, што ўдары, якія я ўчыняў выяве ў люстры, пасыпаліся насамрэч на спіну Цынобера. Ах, Кандзіда! Калі б толькі я мог забыць гэта нябеснае дзіця! Але іскра кахання палымнее ўва мне мацней і

гарачэй, чым раней. Я ўсюды бачу чароўны вобраз каханай, якая з пяшчотнай усмешкай, у знемажэнні працягвае да мяне рукі свае. Я ж ведаю! Ты любіш мяне, ясачка, мая салодкая Кандзіда, і ў тым мая несуцешная, смяротная пакута, што я не маю ўжо змогі асланіць цябе ад ліхіх чараў, якія аблыталі цябе! Здрадлівы Праспэр! Што я табе зрабіў такога, за што ты так жорстка мяне ашукаў?

Вечарэла: усе фарбы лесу змяшаліся ў густой шэрай імгле. I раптам учыніўся нейкі дзіўны пробліск, быццам вечаровая зара ўспыхнула сярод кустоўя і дрэў і тысячы насякомых зашалахцелі крыламі і забрунжалі ў паветры. Бліскучыя залатыя жукі насіліся туды-сюды, стракатыя матылькі пырхалі, абсыпалі духмяны пылок з кветак. Шалясценне і брунжанне рабілася ўсё больш пяшчотным, пераходзіла ў салодкае цурчанне музыкі, якая давала суцеху спакутаванаму сэрцу Бальтазара. Над ім усё мацней разгаралася прамяністае ззянне. Ён узвёў вочы і са здзіўленнем убачыў Праспэра Альпануса, які ляцеў да яго на дзівосным насякомым, якое было падобнае на раскошную, шматфарбную страказу.

Праспэр Альпанус спусціўся да хлопца і сеў каля яго, а страказа пырхнула ў кусты, падхапіўшы песню, якою поўніўся лес.

Бліскучай цудоўнай кветкай, якая была ў яго ў руцэ, доктар дакрануўся да лоба Бальтазара, і адразу ў хлопца прачнуўся дух бадзёрасці.

– Ты несправядлівы,– ціха сказаў Праспэр Альпанус,– ты вельмі несправядлівы да мяне, любасны Бальтазар, называеш мяне здрадлівым і жорсткім якраз у тую самую хвіліну, калі мне ўдалося апанаваць чарамі, якія разбурылі тваё жыццё, калі я, каб хутчэй знайсці цябе, хутчэй суцешыць, лячу на сваім любімым скакуне і імчуся да цябе з усім, што табе патрэбна дзеля твайго ж дабра. Але няма нічога горшага за пакуты кахання, ні з чым не параўнаеш нецярплівасць душы, якая знемагла ад любоўнай тугі. Я дарую табе, бо і самому мне было не лягчэй, калі я, прыкладна дзве тысячы гадоў таму назад, пакахаў індыйскую прынцэсу, якую звалі Бальзаміна, і ў роспачы вырваў бараду свайму найлепшаму сябру, магу Лотасу, і з гэтай прычыны, як ты бачыш, не нашу барады, каб і мне не выпала штосьці падобнае. Але было б недарэчы расказваць табе ўсё падрабязна, бо кожны закаханы хоча слухаць толькі пра сваё каханне і толькі яго лічыць вартым увагі, гэтаксама як і

кожны паэт ахвотна слухае толькі свае вершы. Ну дык, гайда! Ведай жа, што Цынобер – бяздольны вырод, сын беднай сялянкі, і сапраўднае ягонае імя малец Цахес. Толькі з любові да славы прыняў ён ганаровае імя Цынобер! Кананіса фон Розэншэн, ці на самой справе славутая фея Розабэльвэрдэ, – бо гэтая пані не хто там табе якая, а фея,– знайшла маленькую пачвару пры дарозе. Яна лічыла, што за ўсё, чым прырода-матухна абдзяліла малога, адшкадуе яму дзіўным, таямнічым дарам, паводле якога ўсё годнаснае, што пры ім хто-небудзь з людзей падумае, скажа альбо зробіць, будзе прыпісана яму, ды і сам ён у кампаніі прыгожых, разважлівых і разумных людзей будзе прызнаны прыгожым, разважлівым і разумным і наогул кожнага разу будзе палічаны за найдасканалейшага ў тым родзе, з якім будзе мець дачыненне.

Гэтае дзівоснае чарадзейства заключана ў трох агністых бліскучых валасках на цемені ў хлопчыка. Усякае дакрананне да гэтых валаскоў, ды і наогул да галавы, яму балючае, нават згубнае. З гэтай прычыны фея ператварыла яго ад прыроды рэдкія, кудлатыя патлы ў густыя, прыгожыя локаны, якія, абараняючы галаву мальца, разам з тым хаваюць памянёную чырвоную палоску і ўзмацняюць чары. Кожны дзевяты дзень фея магічным залатым грабянцом прычэсвае мальца, і гэтая прычоска блытае ўсе спробы знішчыць чары. Але гэты грэбень разбіўся аб надзейны талісман, які я ўхітрыўся падсунуць добрай феі, калі яна наведала мяне.

Цяпер усё ўжо за тым, каб вырваць у яго гэтыя тры агністыя валаскі, і ён тады ператворыцца ў былое нікчэмства. Табе, мой любасны Бальтазар, наканавана разбурыць ліхія чары. Ты надзелены мужнасцю, сілай і спрытам, ты зробіш усё, як належыцца. Вазьмі гэтае шліфаванае шкельца, падыдзі да Цынобера, дзе ты яго ні сустрэнеш, пільна прыгледзься праз гэтае шкельца да яго галавы, і тры чырвоныя валаскі адразу ж аб'явяцца на яго цемені. Ухапі іх як мага мацней, хай ён будзе вішчаць пакашэчы, вырві разам гэтыя тры валаскі і адразу спалі іх на месцы. Мусова трэба вырваць валаскі адным махам і адразу спаліць, інакш яны яшчэ змогуць рабіць свае шкодлівыя ўплывы. Таму асабліва ўважай,– заспей мальца так, каб моцна і спрытна схапіць валаскі, калі паблізу будуць гарэць камін альбо свечкі.

– О Праспэр Альпанус! – усклікнуў Бальтазар.– Сваім неда-

верам я не заслужыўся на тваю аж такую дабрыню, на такую велікадушнасць! У глыбіні майго сэрца нарадзілася адчуванне, што мае пакуты мінуліся, што мне адчынілася залатая брама нябеснага шчасця.

– Я люблю,– сказаў далей Праспэр Альпанус,– я люблю хлопцаў, у якіх, як вось у цябе, любасны Бальтазар, у чыстым сэрцы нецярпліваецца памкненні і каханне, у чыіх душах адгукаюцца тыя велічныя акорды, што даносяцца з далёкага, поўнага боскіх дзівосаў краю – маёй радзімы. Шчаснікі, адораныя гэтай унутранай музыкай,– адзіныя, каго можна назваць паэтамі, хоць словам гэтым вялічаць многіх, што хапаюцца за першы-лепшы кантрабас, соваюць па ім смыком і бесталковае брынчанне ды стагноты струн прымаюць за цудоўную музыку, якая струменіцца з глыбіні іх уласных сэрцаў. Я ведаю, любасны Бальтазар, часам табе здаецца, быццам ты разумееш мармытанне ручаёў, шэпт дрэў і быццам палымяны закат вядзе з табою разумныя гаворкі. Так, мой Бальтазар, у гэтыя імгненні ты і праўда спасцігаеш цудоўныя галасы прыроды, бо ў тваёй душы ўзнікае боскі гук, народжаны дзівоснай гармоніяй самых запаветных пачаткаў прыроды. Як што ты іграеш на фартэпіяна, о паэце, дык табе, мабыць, вядома, што ўзятаму тону следуюць усе яму сугучныя. Гэты закон прыроды ўзяты мною не дзеля пустога параўнання. Так, ты паэт, ты намнога вышэйшы, чым думаюць многія тыя, каму ты чытаў свае спробы, у якіх спрабаваў з дапамогаю пяра і чарніла перакласці на паперу ўнутраную музыку. У гэтых пачатках ты яшчэ не шмат умудрыўся. Аднак ты зрабіў добры накід у гістарычным плане, калі з прагматычнай шырынёй і грунтоўнасцю расказваў пра каханне салаўя да пунсовай ружы, гісторыю, якой я быў сведка. Гэта вельмі вытанчаны твор.

Праспэр Альпанус змоўк. Бальтазар шырокімі вачыма здзіўлена глядзеў на яго; ён зусім не ведаў, што яму сказаць, калі верш, які ён лічыў самым фантастычным з усяго, што было ім напісана, Праспэр абвясціў спробай у гістарычным плане.

– Цябе,– казаў далей Праспэр Альпанус, і твар ягоны асвятліўся прыязнай усмешкай,– цябе мае словы, мабыць, здзіўляюць, і табе, мабыць, многае ўва мне здаецца незвычайным. Але сам разваж: на думку ўсіх разумных людзей, я – асоба, якой дазволена выступаць толькі ў казках, а ты ж ведаеш, любасны Бальтазар, такія асобы могуць рабіць самыя неверагодныя ўчынкі

і малоць любую лухту, што толькі ў галаву ўвярзецца, асабліва калі за гэтым крыецца нешта такое, чаго нельга проста адкінуць. Аднак жа гутарым далей. Калі фея Розабэльвэрдэ так пяшчотна клапоціцца пра вырадка Цынобера, дык ты, Бальтазар, цалкам пад маёй абаронай. Дык паслухай, што я надумаўся зрабіць табе. Учора мяне наведаў маг Лотас, ён перадаў мне безліч паклонаў і столькі ж папрокаў ад прынцэсы Бальзаміны, якая прачнулася са сну і ў салодкіх гуках Чарта-Бхады, той прыгожай паэмы, што была нашым першым каханнем, працягвае да мяне стомленыя рукі. Гэтак сама і мой стары сябар, міністр Ючы, прыязна ківае мне з Палярнай зоркі. Я павінен ехаць у далёкую Індыю. У маім маёнтку, які я пакідаю, я не хацеў бы бачыць іншага гаспадара, апрача цябе. Заўтра я выпраўляюся ў Керапэс і складу па ўсёй форме даравальны запіс, дзе я буду пазначаны тваім дзядзькам. Як толькі чары Цынобера развеюцца, ты прадставішся прафесару Мошу Тэрпіну гаспадаром выдатнага маёнтка, неабыякога набытку і папросіш рукі прыўкраснай Кандзіды, на што ён з вялікай радасцю згодзіцца. Мала таго! Калі ты аселішся з Кандзідай у маім сельскім доме, дык шчасце вашага сужэнства забяспечана. За прыгожымі дрэвамі саду расце ўсё, што патрэбна на хатні ўжытак. Апрача цудоўных пладоў – яшчэ і выдатная капуста і ўсялякая гародняя смачніца, якой ва ўсім наваколлі не знойдзеш. У тваёй жонкі заўсёды будзе першая салата, першая спаржа. Кухня так уладжана, што гаршчыкі ніколі не перакіпаюць і ніводная страва не прыгарае, нават калі ты на цэлую гадзіну спознішся да стала. Дываны, кілімы, чахлы на крэслах і канапе маюць такую ўласцівасць, што нават пры самай вялікай няўвішнасці слугам не ўдасца пасадзіць на іх пляму, гэтак сама не разбіваецца ні парцалян, ні шкло, як бы таго ні старалася прыслуга, нават калі пачне шпурляць посуд на каменную падлогу. Нарэшце, кожнага разу, як твая жонка задумае пранне, дык на вялікім лузе за домам будзе стаяць ясная пагода, хай нават усюды праліўны дождж будзе, грымецьме гром і бліскацьме маланка. Адным словам, дарагі Бальтазар, усё зладжана так, каб ты мог спакойна і непарушна цешыцца з сямейнага шчасця каля красуні Кандзіды!

Аднак мне пара дамоў, каб разам з маім сябрам Лотасам заняцца зборамі да ад’езду. Бывай, мой Бальтазар!

Тут Праспэр свіснуў раз, другі, і адразу прыляцела страказа. Ён закілзаў яе і ўскочыў у сядло. Але, ужо адляцеўшыся, раптам спыніўся і вярнуўся да Бальтазара.

– Я быў,– сказаў ён,– ледзь не забыўся пра твайго сябра Фабіяна. Паддаўшыся гарэзліваму свавольству, я залішне сурова пакараў яго за фальшывыя гульні розуму. У гэтай табакерцы якраз тое, што яго суцешыць.

Праспэр Альпанус даў Бальтазару маленькую бліскучую, паліраваную чарапахавую табакерку, якую той схаваў разам з ларнеткай, раней дадзенай яму Праспэрам дзеля знішчэння чараў Цынобера.

Праспэр Альпанус прашалясцеў праз кустоўе, тым часам як лясныя галасы звінелі саладзей і гучней.

Бальтазар вярнуўся ў Гох-Якабсгайм; усё шчасце, усё захапленне салодкай надзеі поўнілі яго сэрца.

## Раздзел восьмы

*Як Фабіяна з прычыны доўгага крысся прынялі за ератыка і падбухторшчыка.– Як князь Барсануф схаваўся за камінным экранам і адхіліў ад пасады генерал-дырэктара натуральных навук.– Уцёкі Цынобера з дома Моша Тэрпіна.– Як Мош Тэрпін сабраўся выехаць на матыльку і зрабіцца імператарам, але потым выправіўся спаць.*

З самага рана, калі дарогі і вуліцы былі яшчэ бязлюдныя, Бальтазар пракраўся ў Керапэс і пабег да свайго сябра Фабіяна. Калі ён пастукаўся ў дзверы, слабы, хворы голас аказаўся: "Заходзьце!"

Збялелы, худы, з безнадзейнай скрухай на твары, ляжаў на пасцелі Фабіян.

– Божа мілы,– ускрыкнуў Бальтазар,– Божа мілы, скажы, дружа, што з табою сталася?

– Ах, дружа, – зрываючыся ў голасе загаварыў Фабіян і цяжка падняўся ў пасцелі,– я прапаў, я зусім прапаў! Праклятае вядзьмарскае насланнё, якое, ведаю, навёў на мяне помслівы Праспэр Альпанус, давяло мяне да пагібелі!

– Не можа быць! – усклікнуў Бальтазар.– Чарадзейства! Вядзьмарскае насланнё! Дык жа ты раней у такое не верыў!

– Ах,– слязліва гаварыў далей Фабіян,– ах, я цяпер веру ва ўсё: у чарадзеяў і ведзьмаў, у гномаў і вадзянікоў, у пацучына-

га караля і альраўна – ва ўсё, што хочаш! Каму так не пашанцуе, як мне, той ва ўсё паверыць! Памятаеш пякельны пярэпалах, якога нарабіў мой каптан, калі мы вярнуліся ад Праспэра Альпануса? Так! Каб жа тым толькі і скончылася! Падзівіся, дарагі Бальтазар, што тут у мяне ў пакоі!

Бальтазар агледзеўся і ўбачыў, што навакол па ўсіх сценах развешана мноства фракаў, каптаноў, куртак самага рознага крою і розных колераў.

– Як?– усклікнуў ён.– Фабіян, ты намерыўся гандляваць рыззём?

– Не смейся,– адказваў Фабіян,– не смейся, дарагі дружа. Усе гэтыя строі я заказваў у самых славутых краўцоў, я разлічваў калі-небудзь скінуць з сябе ліхі праклён, які ляжыць на маім адзенні, але марна. Варта мне толькі апрануць самы лепшы каптан, які выдатна сядзіць на мне, і панасіць яго некалькі хвілін, як рукавы збіраюцца на плечы, а полы валакуцца за мною на шэсць локцяў. У роспачы я сказаў пашыць сабе вось гэты спэнсар з бясконца доўгімі, як у П'еро, рукавамі.

"Ану ж, збірайцеся, рукавы,– думаў я сам сабе,– расцягніся, крыссе, і ўсё будзе ў належным выглядзе".

Але праз некалькі хвілін з ім сталася тое самае, што і з астатняй вопраткай! Усё ўмельства і ўсе намогі самых майстравітых краўцоў не могуць перабароць гэтых праклятых чараў! Што ўсюды, дзе толькі я ні паказваўся, з мяне смяяліся, глуміліся, гэта ясна, але неўзабаве мая бязвінная ўпартасць, з якою я і далей выходзіў у людзі ў гэтай д'ябальскай вопратцы, сталася прычынай іншых меркаванняў. Самае меншае зло было тое, што жанчыны закідалі мне бязмежную пошласць і славалюбства, бо я насуперак усім звычаям агаляю рукі, мабыць думаючы, што яны прыгожыя. Тэолагі зняславілі мяне як ератыка і толькі яшчэ спрачаліся, залічыць мяне да секты рукаўнікаў ці крыснікаў, але сышліся на тым, што абедзве секты незвычайна небяспечныя, бо дапускаюць абсалютную свабоду волі і асмельваюцца думаць што заўгодна. Дыпламаты бачылі ўва мне вартага пагарды баламута. Яны казалі, што сваім доўгім крыссем я намерыўся пасеяць смуту і незадаволенасць у народзе і падбіць яго супроць урада і што я наогул належу да тайнага супольства, знак адрознення якога – кароткія рукавы. Што ўжо з даўных давён то тут, то там былі заўважаны сляды кароткарукаўнікаў, якіх гэтак сама належыць баяцца, як езуітаў, нават больш, бо

яны ўсюды пнуцца насадзіць шкодную для ўсякай дзяржавы паэзію і сумняваюцца ў непагрэшнасці князя. Адным словам, справа рабілася ўсё больш сур'ёнай, пакуль нарэшце мяне не заклікаў да сябе рэктар. Я прадбачыў, што будзе бяда, калі я апрану каптан, і таму явіўся ў адной жылетцы. Гэта разгневала рэктара, ён рашыў, што я хачу паздзекавацца з яго, і накрычаў на мяне, загадаў, каб я праз тыдзень явіўся да яго ў прыстойным каптане, інакш ён не ўмілажаліцца і загадае мяне выключыць. Сёння якраз прыйшоў час. О, я няшчасны! О, пракляты Праспэр Альпанус!

– Чакай,– усклікнуў Бальтазар,– чакай, дружа добры Фабіян, не бэсці майго добрага, мілага дзядзечку, які падарыў мне маёнтак. Ён і табе не зычыць нічога благога, хоць, мушу прызнацца, залішне жорстка пакараў за саманадзейныя разумовыя гульні. Але я прынёс збавенне. Ён праслаў табе вось гэтую табакерку, якая пакладзе крэс усім тваім пакутам.

Тут Бальтазар дастаў з кішэні маленькую чарапахавую табакерку, якую атрымаў ад Праспэра Альпануса, і падаў няўцешнаму Фабіяну.

– Чым,– спытаўся той,– чым паможа мне гэта пустое пудэлка? Якім чынам маленькая чарапахавая табакерка можа памяняць крой майго адзення?

– Таго не ведаю,– адказаў Бальтазар,– аднак жа мой дзядзечка не будзе мяне ашукваць, у мяне да яго поўны давер; а таму адчыні табакерку, любасны мой Фабіяне, паглядзім, што там у ёй.

Фабіян так і зрабіў. З табакеркі выпаўз цудоўнага крою і шытва чорны фрак з самага тонкага сукна. Абодва, Фабіян і Бальтазар, не маглі ўтрымацца ад крыку самага шчырага здзіўлення.

– Ага, я разумею цябе,– усклікнуў у захапленні Бальтазар,– я цябе разумею, мой Праспэр, дзядзечка мой даражэнькі! Гэты фрак будзе ў самы акурат, ён адвядзе ўсе чары!

Фабіян без усякай лішніцы надзеў яго, і як падумаў Бальтазар, так яно ўсё і сталася. Выдатны фрак сядзеў на ім як уліты, як ніколі ніякі іншы, а ўжо каб рукавы папаўзлі ўгору і полы выцягнуліся, таго ані знаку.

Сам не свой ад радасці, Фабіян адразу пастанавіў ісці ў гэтым новым, такім ладным фраку да рэктара і ўладзіць усю справу.

Бальтазар падрабязна расказаў сябру, як яно там усё было з Праспэрам Альпанусам і што той даў яму сродак пакласці крэс мярзотным вычваранням агіднага карліка. Фабіян, увесь перамяніўшыся, бо ж яго канчаткова пакінуў дух сумнення, нахвальваў высакароднасць Праспэра і прапанаваў сваю дапамогу ў расчароўванні Цынобера. У гэтую хвіліну Бальтазар убачыў у акно свайго сябра, рэферэндарыуса Пульхера, які, агорнуты нейкай журботай, паварочваў за вугал.

На просьбу Бальтазара Фабіян высунуўся з акна, памахаў рукою і крыкнуў рэферэндарыусу, каб той падняўся да яго.

Як толькі Пульхер увайшоў, адразу ж усклікнуў:

– Які цудоўны фрак на табе, мілы Фабіян!

Але той сказаў, што Бальтазар яму ўсё патлумачыць, і памчаўся да рэктара.

Калі Бальтазар падрабязна распавёў рэферэндарыусу пра ўсё, што адбылося, той сказаў:

– Якраз настала пара знішчыць гнюснае пудзіла! Ведай: сёння ён урачыста праўляе свае заручыны з Кандзідай, і славалюбны Мош Тэрпін ладзіць фэст, на які запрасіў самога князя. Падчас гэтага фэсту мы і ўвалімся ў прафесараў дом і нападзем на мальца. Свечак у зале будзе дастаткова, каб адразу спаліць ненавісныя валаскі.

Сябры паспелі перагаварыць і ўмовіцца пра многія рэчы, калі вярнуўся Фабіян, ззяючы ад радасці.

– Сіла,– сказаў ён,– сіла, якая ў гэтым фраку, што выпаўз з чарапахавай табакеркі, выдатна сябе паказала! Ледзь толькі ўвайшоў я да рэктара, ён усміхнуўся, вельмі задаволены. “Ага,– звярнуўся ён да мяне,– ага! Бачу, любасны Фабіян, вы адступіліся ад свайго дзіўнага запамарачэння! Ну, гарачыя галовы, падобныя да вас, лёгка паддаюцца крайнасцям! Ваша пачынанне я ніколі не тлумачыў рэлігійнай памарокай, хутчэй няправільна прынятым патрыятызмам – схільнасцю да незвычайнага, якая пакоіцца на прыкладах герояў старажытнасці. Так, вось гэта я разумею! Які цудоўны фрак! Як хораша сядзіць! Слава дзяржаве, слава ўсяму свету, калі высакародныя духам юнакі носяць фракі з так хораша прыладжанымі рукавамі і поламі! Захоўвайце вернасць, Фабіян, захоўвайце вернасць такой дабрыні, такой сумленнасці помыслаў, – вось з чаго вырастае сапраўдная веліч герояў!” Рэктар абняў мяне, і слёзы выступілі ў яго на вачах. Сам не ведаючы як, я дастаў з кішэні маленькую

чарапахавую табакерку, з якое ўзнік фрак. "Дазвольце",– сказаў рэктар, склаў пальцы, вялікі і ўказальны. Я адчыніў табакерку, не ведаючы, ці ёсць у ёй тытунь. Рэктар узяў шчэпцю, панюхаў, схапіў маю руку і моцна пацісную яе, слёзы цяклі ў яго па шчоках; глыбока расчулены, ён сказаў: "Высакародны юнак! Выдатны панюх! Усё даравана і забыта! Прыходзьце сёння да мяне абедаць". Вы бачыце, сябры, усім маім пакутам настаў канец, і калі вам удасца сёння разбурыць чары Цынобера – а іншага і чакаць няма чаго,– дык і вы будзеце шчаслівыя!

У асветленай сотнямі свечак зале стаяў малец Цынобер у пурпуровым расшытым адзенні, пры вялікай зорцы зялёнапляmістага тыгра на дваццаці гузіках,– на баку шпага, капялюш з плюмажам падпахай. Каля яго – красуня Кандзіда ў вясельных строях, у роскваце маладосці. Цынобер трымаў яе за руку, часам прыціскаў яе да вуснаў, пры гэтым агідна шчэрыў зубы і выскаляўся. І за кожным разам шчокі Кандзіды заліваў румянец, і яна глядзела на мальца вачыма, поўнымі самага шчырага кахання. Глядзець на гэта было даволі страшна, і толькі асляпленне, у якое ўвялі ўсіх чары Цынобера, было віною таго, што ніхто не абурыўся подлым падманам, не схапіў маленькага ведзьміча і не шпурнуў яго ў камін. Вакол гэтай пары на прыстойным воддалі тлуміліся госці. Толькі князь Барсануф стаяў поруч з Кандзідай і кідаў шматзначныя і прыхільныя позіркі, на якія, зрэшты, ніхто не зважаў. Усе глядзелі толькі на маладых, усе глядзелі на вусны Цынобера, які час ад часу мармытаў нейкія неўразумелыя словы, і яны за кожным разам вырывалі са слухачоў нягучнае "ах!" самага вялікага захаплення. Настала хвіліна заручын. Мош Тэрпін наблізіўся з падносам, на якім ззялі пярсцёнкі. Ён пракашляўся. Цынобер як мог вышэй падняўся на пальчыках, так што амаль дастаў да локця маладое. Усе стаялі ў напружаным чаканні,– і тут раптам чуюцца нечыя чужыя галасы, дзверы ў залу насцеж, урываецца Бальтазар, з ім Пульхер, Фабіян! Яны прарываюць кола гасцей. "Што гэта значыць, што трэба гэтым нязванцам?" – крычаць усе наперабой.

Князь Барсануф жахліва лямантуе: "Мяцеж! Крамола! Варта!" – і борздзенька хаваецца за камінны экран. Мош Тэрпін пазнае Бальтазара, які ўжо падступіўся да Цынобера, і крычыць:

– Спадар студэнт! Вы звар'яцелі! Ці ў сваім вы розуме? Як

вы пасмелі ўварвацца сюды ў час заручын? Людзі! Панове! Слугі! Выкіньце гэтага нахабу за дзверы!

Але Бальтазар, не беручы на гэта ўсё аніякай увагі, ужо дастаў ларнетку Праспэра Альпануса і пільна глядзіць праз яе на галаву Цынобера. Як грымнуты электрычным ударам, Цынобер на ўсю залу пранозліва вішчыць кашэчым голасам. Кандзіда без памяці падае на крэсла. Цеснае кола гасцей рассыпаецца. Бальтазар ясна бачыць агністую бліскучую пасму, ён падскоквае да Цынобера, хапае яго. Той адбрыкваецца, упіраецца, драпаецца, кусаецца.

– Трымайце! Трымайце! – крычыць Бальтазар. Тут Фабіян і Пульхер хапаюць мальца, аж той і паварухнуцца не можа, а Бальтазар, упэўнена і асцярожна схапіўшы чырвоныя валаскі, адным разам вырывае іх, падбягае да каміна і кідае ў агонь. Валасы ўспыхваюць, чуецца аглушальны ўдар. Усе як бы са сну прычынаюцца. І вось, цяжка падняўшыся, стаіць малец Цынобер, і лаецца, лаецца, і загадвае без адкладу схапіць і ўвязніць у турму дзёрзкіх мяцежнікаў, якія замахнуліся на свяшчэнную асобу першага міністра. Але ўсе пытаюцца адзін у аднаго: “Адкуль узяўся гэты малюпасенькі падбрыкунчык? Што трэба маленькай пачвары?” – і як што курдупель усё яшчэ шалее і тупае ножкай і, не змаўкаючы, ягліць: “Я міністр Цынобер! Я міністр Цынобер! Зялёнаплямісты тыгр на дваццаці гузіках!” – дык усе заліваюцца вясёлым рогатам. Мальца абступаюць. Мужчыны падхопліваюць яго і перакідаюць як мячык. Ордэнскія гузікі адскокваюць адна за адной – зваліўся капялюш, упала шпага, скінуліся чаравікі. Князь Барсануф выходзіць з-за каміннага экрана і ўмешваецца ў валтузню. Тут малец вішчыць:

– Князь Барсануф! Ваша светласць! Ратуйце вашага міністра! Вашага любімца! Памажыце! Ратуйце! Дзяржава ў небяспецы! Зялёнаплямісты тыгр, гора, гора!

Князь кідае на мальца гнеўны позірк і хуценька ідзе да дзвярэй. Мош Тэрпін заступае яму дарогу. Князь хапае яго за руку, адводзіць у кут і кажа, бліскаючы ад гневу вачыма:

– Вы асмеліліся перад вашым князем, перад бацькам айчыны разыграць дурную камедыю? Вы запрасілі мяне на заручыны вашай дачкі з маім шаноўным міністрам Цынoберам, і замест майго міністра я бачу тут нейкага мярзотнага выскрабка, якога вы разубралі ў пышныя строі? Ведайце, спадару, гэта жарт здрадніка, за які я пакараў бы вас вельмі строга, калі б вы

не былі бесталковым баламутам, якому месца ў доме вар'ятаў. Я адстаўляю вас ад пасады генерал-дырэктара натуральных спраў і забараняю ўсякія вашыя штудыі ў маім склепе. Бывайце!

І ён імкліва выбег з дома.

Як ашалелы збурыўся Мош Тэрпін на мальца, ухапіў яго за доўгія кудлы і павалок да акна.

– Вон адгэтуль!– крычаў ён.– Правальвай, мярзота, паскудны вырадак, ты так ганебна падмануў мяне і пазбавіў шчасця ўсяго жыцця!

Ён ужо змерыўся быў выкінуць мальца ў адчыненае акно, аднак даглядчык заалагічнага кабінета, які якраз надарыўся тут, маланкаю кінуўся да іх і выхапіў Цынобера з рук Моша Тэрпіна.

– Спыніцеся,– сказаў даглядчык,– спыніцеся, спадару прафесар, не замахвайцеся на тое, што належыць князю. Гэта зусім не вырадак, гэта Mycetes Beelzebub, Simia Beelzebub, які ўцёк з музея.

"Simia Beelzebub! Simia Beelzebub!" – загрымеў навокал рогат. Але як толькі даглядчык узяў мальца на рукі і добра разгледзеў яго, дык і ўсклікнуў з прыкрасцю:

– Што я бачу! Гэта ж не Simia Beelzebub, гэта гідкі, агідны альраўн! Цьху! цьху!

І з гэтымі словамі ён шпурнуў мальца на сярэдзіну залы. Пад раскаты зычнага рогату, з віскам і мяўканнем выбег Цынобер за дзверы, скаціўся па лесвіцы – хутчэй, хутчэй дахаты,– так што ніхто са слуг яго нават не заўважыў.

Пакуль усё гэта адбывалася ў зале, Бальтазар перайшоў у гасцёўню, куды, як ён даведаўся, перанеслі самлелую Кандзіду. Ён упаў да яе ног, прыціскаў да вуснаў яе рукі, называў яе самымі пяшчотнымі імёнамі. Але вось, глыбока ўздыхнуўшы, яна ачулася і, убачыўшы Бальтазара, у захапленні ўсклікнула:

– Нарэшце, нарэшце ты тут, любы мой Бальтазар! Ах, я ледзь не памерла ад тугі і любоўнай пакуты! І мне ўсё чуліся спевы салаўя, ад якіх сплывае крывёю сэрца пунсовая ружа!

І вось, пра ўсё, пра ўсё забыўшыся, яна расказала яму, які ліхі, агідны сон ахутаў яе, як ёй здавалася, што каля яе сэрца ляжыць агіднае страшыдла, якое яна вымушана была пакахаць, бо інакш не магла. Страшыдла ўмела так прыкідвацца, што рабілася падобным на Бальтазара; а калі яна пяшчотна думала пра Бальтазара, дык, хоць і ведала, што страшыдла не Бальта-

зар, усё ж неспасцігальным для яе ёй здавалася, быццам яна кахае страшыдла менавіта дзеля Бальтазара.

Бальтазар растлумачыў ёй усё, наколькі было магчыма, не ўносячы неспакою ў яе і без таго расхваляваную душу. Потым, як гэта заўсёды бывае ў закаханых, пайшлі тысячы божбаў, тысячы клятваў у вечнай любові і вернасці. І яны абняліся і прыціскалі адно адное да сэрца з ўсёй жарсцю шчырай пяшчоты і былі ўпітыя найвышэйшым нябесным шчасцем і захапленнем.

Увайшоў Мош Тэрпін, заломваючы рукі і горка наракаючы, за ім следам – Пульхер і Фабіян, няспынна яго суцяшаючы, але марна.

– Не,– крычаў Мош Тэрпін,– не, прапашчы я чалавек! Я ўжо больш не генерал-дырэктар натуральных спраў у нашай дзяржаве! Ніякіх штудый у княскім склепе!.. Няміласць князя... Я спадзяваўся стаць кавалерам ордэна зялёнаплямістага тыгра, прынамсі, на пяці гузіках! Усё прапала! Што ж бо цяпер скажа яго эксэленцыя шаноўны міністр Цынобер, калі пачуе, што я прыняў за яго нягоднага вырадка Simia Beelzebub cauda prehensili* альбо і сам не ведаю каго там яшчэ. О Божа, яго нянавісць упадзе на мяне! Алікантэ! Алікантэ!

– Але паслухайце, дарагі прафесар,– суцяшалі яго сябры,– паважаны генерал-дырэктар, зразумейце, што цяпер ужо няма больш ніякага міністра Цынобера. Вы зусім не ашукаліся: мярзотны вырадак з прычыны чароўнага дару, атрыманага ад феі Розабэльвэрдэ, падмануў вас гэтаксама, як і ўсіх нас!

І вось Бальтазар расказаў па парадку, як усё гэта сталася. Прафесар слухаў, слухаў, пакуль Бальтазар не скончыў, і раптам усклікнуў:

– У сне я ці на яве – ведзьмы, чараўнікі, феі, магічныя люстры, сімпатыі,– і я павінен паверыць у гэтае глупства?

– Ах, любасны спадар прафесар,– умяшаўся Фабіян,– панасілі б вы хоць каторы час каптан з кароткімі рукавамі і доўгім шлейфам, як давялося мне, вы паверылі б ва ўсё, проста любата бала б падзівіцца!

– Так,– усклікнуў Мош Тэрпін,– так, так, усё гэта так! Мяне ашукала зачараваная пачвара, я ўжо не стаю на нагах, я падлятаю пад столь, Праспэр Альпанус бярэ мяне з сабою, я выязджаю верхам на матыльку, мяне быццам прычэсвае фея Роза-

* Малпу Вельзевула з учэпістым хвастом *(лац.)*.

бэльвэрдэ – кананіса Розэншэн, і я стану міністрам! Каралём! Імператарам!

І ён пачаў скакаць па пакоі, крычаць і выдаваць радасныя зыкі, так што ўсе забаяліся за ягоны глузд, пакуль нарэшце, зусім ужо без сілы, не ўпаў у крэсла. Тут Кандзіда і Бальтазар падышлі да яго. Яны сказалі, што кахаюць адно адное пяшчотна, больш за ўсё на свеце, што не могуць жыць адно без аднаго, так што слухаць іх было вельмі журботна, з якой прычыны Мош Тэрпін нават крышку прыплакнуў.

– Дзеці,– усклікнуў ён, усхліпваючы,– дзеці, рабіце ўсё, што хочаце! Жаніцеся, кахайцеся, галадайце, халадайце разам, бо ў пасаг Кандзідзе я не дам ні шэлега!

Што да голаду, сказаў, усміхаючыся, Бальтазар, дык ён спадзяецца заўтра пераканаць спадара прафесара, што пра гэта ніколі не завядзецца ніякай гаворкі, бо яго дзядзька, Праспэр Альпанус, пра яго добра падбаў.

– Так і зрабі,– лепятаў прафесар, усміхаючыся,– так і зрабі, мой любасны сынку, калі зможаш, але толькі заўтра; а не тое я зусім здурэю і ў мяне галава разваліцца, калі я не пайду спаць!

Так ён і зрабіў.

## Раздзел дзевяты

*Збянтэжанасць вернага камердынера. – Як старая Ліза ўчыніла мяцеж, а міністр Цынобер, даўшы лататы, пакаўзнуўся.– Якім дзівосным чынам растлумачыў лейбмедык нечаканую смерць Цынобера.–Як князь Барсануф быў засмучаны, як ён еў цыбулю і як страта Цынобера засталася неўзысканай.*

Карэта міністра Цынобера амаль усю ноч марна прастаяла каля дома Моша Тэрпіна. Егеру няраз казалі, што іх эксэленцыя, мабыць, ужо даўно пакінулі таварыства, але егер лічыў, што гэта ніяк немагчыма, бо не пабяжыць жа іх эксэленцыя дахаты пеша ў такі дождж і вецер. А калі нарэшце патушылі ўсе агні і замкнулі дзверы, егеру ўсё-такі давялося адбыць з парожняю карэтай, але ў доме міністра ён адразу разбудзіў камердынера і спытаўся, ці вярнуўся міністр дамоў і – о неба! – якім чынам гэта адбылося.

– Іх эксэленцыя,– шапнуў камердынер яму на вуха,– іх эксэленцыя ўчора вярнуліся дамоў позна ўвечары, гэта дакладна. Яны леглі ў пасцель і цяпер спачываюць! Аднак жа! Дарагі егер! у якім выглядзе! якім чынам! я вам пра ўсё раскажу, але... язык на замок! я прапаў, калі іх эксэленцыя даведаюцца, што гэта я сустрэўся ім на цёмным калідоры, я страчу месца – бо іх эксэленцыя хоць і невялікай статуры, але вельмі-вельмі круты ў нораве, скоры на гнеў і не памятае сябе ў лютасці, ячшэ ўчора яны малацілі шпагай мыш, якая асмелілася шмыгнуць праз спачывальню іх эксэленцыі. Ну, добра! Дык вось, накідваю я ў змроку плашчык і збіраюся сцебануць у кабачок праз дарогу – згуляць партыю ў трыктрак, раптам на лесвіцы нешта як зашалясціць, як зашаркае – проста на мяне, праскоквае ў цёмным калідоры ў мяне паміж ног, падае на падлогу і падымае такі кашэчы віск, а потым рохкае. О Божа! Егер! Толькі трымайце язык, вы – высакародны чалавек, а то ж я прапаў. Падыдзіце бліжэй! І рохкае, як гэта звычайна рохкае міласць, іх эксэленцыя, калі кухар перасмажыць цяляціну альбо ў дзяржаве творыцца нешта нядобрае.

Апошнія словы камердынер прашаптаў егеру на вушка, прыкрыўшы рот рукою. Егер адхіснуўся, скроіў недаверлівую грымасу і ўсклікнуў:

– Не можа быць!

– Так,– сказаў камердынер,– гатовы пабажыцца, што гэта наша міласць, іх эксэленцыя праскочыла ў мяне паміж ног у калідоры. Я добра чуў, як іх міласць грымелі крэсламі па пакоях і бразгалі дзвярыма, пакуль дабраліся да спачывальні. Я не асмеліўся ўвайсці следам, але, перачакаўшы некалькі гадзін, падкраўся да дзвярэй спальні і ўзяў на вуха. І вось іх эксэленцыя маюць ласку храпці, як гэта ў іх у звычаі перад вялікімі справамі. Егер! “На небе і ў зямлі схавана болей, чым сніцца вашай мудрасці!” – як я гэта чуў аднаго разу ў тэатры; гэта казаў нейкі меланхалічны прынц; ён быў увесь у чорным і вельмі баяўся другога, які пахаджаў у шэрых кардонных латах. Егер, учора, мабыць, сталася нешта вельмі дзівоснае, што прымусіла іх эксэленцыю вярнуцца дамоў. У прафесара ў гасцях быў князь, магчыма, ён сёе-тое ляпнуў, якая-небудзь мілая рэформачка – і вось міністр адразу закасаў рукавы, спяшаецца з заручынаў і пачынае працаваць на дабро бацькаўшчыны. Я адразу па хропу заўважыў і пазнаў: будзе нешта значнае. Напе-

радзе вялікія перамены! Ах, егер, магчыма, нам усім рана ці позна яшчэ давядзецца запускаць валасы! Аднак жа, шаноўны мой дружа, хадзем паслухаем як верныя слугі, каля дзвярэй спальні, ці ўсё яшчэ іх эксэленцыя спачываюць у пасцелі і занятыя сваімі запаветнымі намысламі.

Абодва – камердынер і егер – падкраліся да дзвярэй і прыслухаліся. Цынобер вурчаў, хроп і пасвістваў, пускаў дзівосныя рулады. Слугі застылі ў багавейнай немаце, і камердынер сказаў расчулена:

– Які, аднак, вялікі чалавек наш літасцівы спадар міністр!

З самага рана ў гасцёўні дома, дзе жыў міністр, падняўся вялікі вэрхал. Старая сялянка, апранутая ў гаротныя, даўно палінялыя святочныя строі, уварвалася ў дом і пачала прасіць швейцара без адкладу правесці яе да сынка – малюткі Цахеса. Швейцар меў гонар патлумачыць ёй, што ў доме жыве яго эксэленцыя спадар міністр фон Цынобер, кавалер ордэна зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках, а сярод прыслугі няма нікога, каго завуць альбо პразываюць малюткай Цахесам. Але тут кабета, ашалелая ад радасці, закрычала, што спадар міністр на дваццаці гузіках – якраз і ёсць яе любасны сынок, малютка Цахес. На крыкі старое, на грамавую лаянку швейцара збегся ўвесь дом, і гармідар рабіўся ўсё мацнейшы і мацнейшы. Калі камердынер спусціўся ўніз, каб разагнаць людзей, якія так бесцырымонна трывожылі ранішні спакой яго эксэленцыі, жанчыну, якую ўсе палічылі за вар'ятку, ужо вытурылі на вуліцу.

Жанчына прысела на каменныя прыступкі дома насупраць, цераз вуліцу, і пачала тхімкаць і горка бедаваць на ліхіх людзей, якія не пусцілі яе да любаснага дзіцяткі, малюткі Цахеса, што зрабіўся міністрам. Спакваля вакол яе назбіралася мноства люду, якому яна бясконца паўтарала, што міністр Цынобер не хто там які, а яе сынок, якога яна ў маленстве ягоным называла мальцом Цахесам, так што пад канец людзі ўжо і не ведалі, ці лічыць гэтую жанчыну апантанкай, ці, можа, тут і праўда нешта крыецца.

Старая не зводзіла вачэй з вокан Цынобера. Раптам яна радасна засмяялася, запляскала ў далоні і голасна закрычала:

– Вось яно, вось яно, маё дзіцятка ненаглядное, мой малюпасенькі гномік! Добрай раніцы, малец Цахес! Добрай раніцы, пацанок мой Цахес!

Усе паглядзелі ўгору і, убачыўшы маленькага Цынобера, які стаяў у барвова-чырвоным вышываным убранні, з ордэнскай стужкай зялёнаплямістага тыгра, каля акна, якое даходзіла да самай падлогі, так што праз вялікія шыбы была відаць уся яго постаць, пачалі рагатаць, пачалі шумець, пачалі гарлаць.

– Пацан Цахес! Пацан Цахес! Ага, падзівіцеся толькі на маленькага расфуфыранага павіяна! Нягеглы вырадак! Альраўн! Пацан Цахес! Пацан Цахес!

Швейцар, усе слугі Цынобера павыбягалі на вуліцу, каб падзівіцца, чаго гэта люд так рагоча і пацяшаецца. Але як толькі яны згледзелі свайго гаспадара, дык, заліўшыся вар'яцкім смехам, заверашчалі галасней за ўсіх:

– Пацан Цахес! Пацан Цахес! Вылюдак! Ліліпут-шалапут! Альраўн!

Здавалася, міністр толькі цяпер заўважыў, што прычынаю шалення на вуліцы быў ён сам, а не што іншае. Цынобер адчыніў акно, заблíскаў на натоўп гнеўнымі вачыма, закрычаў, забушаваў, пачаў ад злосці выраблядь дзіўныя падскокі і подбрыкі, гразіўся вартай, паліцыяй, турмой і астрогам.

Але чым больш бушавалі і гневаліся іх эксэленцыя, тым апантаней рагаталі і мітусіліся ўнізе. У злашчаснага міністра пачалі шпурляць камяні, плады, гародніну – усё, што пад руку падкладалася. Таму давялося схавацца.

– Божа праведны!– з жахам закрычаў камердынер.– Дык жа гэтая гнюсота выглянула з акна іх эксэленцыі. Што б гэта значыла? Як ушыўся гэты маленькі вядзьмачок у пакоі?– З гэтымі словамі ён збурыўся бегчы наверх, але спальня міністра па-ранейшаму была зачыненая. Ён адважыўся ціхенька пастукацца – ніякага адказу!

Тым часам, бог яго ведае якім чынам, па народзе разышлася глухая памоўка, што пацешнае пудзіла каля акна і ёсць малец Цахес, які прыняў імя Цынобер і ўзвялічыўся розным несумленным падманам і ашукаю. Грамчэй і грамчэй луналі галасы: "Далоў малую бестыю! Далоў! Вытрасці яго з міністэрскай камзолы! Пасадзіць у клетку. Паказваць за грошы на кірмашах. Абклеіць яго сусальным золатам і аддаць дзецям за цацку! Наверх! Наверх!" І народ пачаў насядаць на дзверы.

Камердынер у роспачы круціў рукі.

– Мяцеж! Смута! Ваша эксэленцыя! Адчыніце! Ратуйцеся! – крычаў ён, але адказу не было; чуўся толькі ціхі стогн.

Дзверы высадзілі, народ з дзікім рогатам затупатаў па лесвіцах.

– Ну, пара,– сказаў камердынер і, разбегшыся, з усяе сілы наляцеў на дзверы кабінета; аж яны са звонам і трэскам саскочылі з завесаў. Іх эксэленцыі – Цынобера – нідзе не было!

– Ваша эксэленцыя! Літасцівая эксэленцыя! Няўжо вы не чуеце смуты? Ды куды ж вы... госпадзе, даруй мне мой грэх, ды дзе ж гэта вас халера падзела?

Так крычаў камердынер, бегаючы па пакоях у поўнай роспачы. Але адказу не было; толькі мармуровыя сцены адгукаліся пакеплівым рэхам. Здавалася, Цынобер знік, следу не пакінуўшы, без стуку, без груку. На вуліцы пацішэла. Камердынер пачуў гучны жаночы голас, які звяртаўся да людзей, і, выглянуўшы ў акно, убачыў, што людзі памалу разыходзяцца, перашэптваюцца і з падазрэннем паглядваюць на вокны.

– Смута, здаецца, мінулася,– сказаў камердынер.– Ну, цяпер іх літасцівая эксэленцыя, мабыць, выйдуць са свайго сховішча.

Ён зноў прайшоў у спальню, спадзеючыся, што, можа, нарэшце міністр аб'явіцца там.

Ён уважліва разглядаўся па баках і раптам заўважыў, што з прыгожай срэбранай пасудзіны з ручкай, што заўсёды стаяла каля туалета, бо міністр вельмі ёю даражыў як каштоўным князевым дарункам, тырчаць зусім маленькія худзенькія ножкі.

– Божа, божа!– з жахам закрычаў камердынер.– Божа, божа! Калі я не мылюся, дык гэта ножкі іх эксэленцыі, спадара міністра Цынобера, майго літасцівага гаспадара.– Ён падышоў бліжэй і гукнуў, калоцячыся ад жаху, зазірнуў у пасудзіну:– Ваша эксэленцыя! Ваша эксэленцыя, напраміла бог, што вы там робіце? Чым вы там заняты?

Але як што Цынобер не аказваўся, дык камердынер на свае вочы пераканаўся ў небяспецы, у якой была іх эксэленцыя, і што прыйшоў час адкінуць усякі рышпект. Ён ухапіў Цынобера за ножкі і выцягнуў яго. Ах, нежывы, нежывы быў ён – маленькая іх эксэленцыя! Камердынер падняў моцны горасны енк; егер, слугі паспяшаліся да яго, пабеглі па князевага лейб-медыка. Тым часам камердынер выцер насуха свайго беднага, злашчаснага гаспадара чыстымі ручнікамі, так што на віду застаўся толькі маленькі зморшчаны тварык.

Тут увайшла фройляйн фон Розэншэн. Спярша яна, бог ве-

дае як, супакоіла народ. Цяпер яна падышла да нежывога Цынобера; за ёю ішла старая Ліза, родная маці мальца пры жыцці. Маленькія вочкі былі заплюшчаны, носік белы, на вуснах ледзь прыкметная пяшчотная ўсмешка, а галоўнае – зноў цудоўнымі локанамі рассыпаліся цёмна-каштанавыя валасы. Фройляйн правяла рукой па галоўцы мальца, і на ёй адразу цьмяна загарэлася чырвоная палоска.

– О! – усклікнула фройляйн, і вочы яе засвяціліся ад радасці.– О Праспэр Альпанус! Вялікі майстар, ты стрымаў слова! Лёс яго вырашыўся, і з ім акуплена ўся ганьба!

– Ах,– сказала старая Ліза,– ах, Божа ты мой літасцівы, дык жа гэта не малец Цахес, той ніколі не быў такі прыгожы! Дык, значыцца, я прыйшла ў горад зусім дарма, і вы мне нядобра параілі, шаноўная фройляйн!

– Не бурчы, старая,– сказала фройляйн.– Калі б ты добра прымала мае парады і не ўварвалася ў дом раней, чым я сюды прыйшла, усё было б табе лепей. Я паўтараю: малы, які ляжыць тут у пасцелі, сапраўды і ісцінна твой сынок, маленькі Цахес.

– Ну,– усклікнула старая, і вочы ў яе заблішчалі,– ну, дык калі іх маленькая эксэленцыя і сапраўды маё дзіцятка, дык, значыцца, мне ў спадчыну дастануцца ўсе прыгожыя рэчы, якія тут навокал стаяць, увесь дом з усім, што ў ім?

– Не,– адказала фройляйн,– гэта ўсё знебылося, ты ўпусціла патрэбны час, калі магла здабыць грошы і дабро. Табе – я адразу пра тое сказала,– табе багацце не наканавана!

– Дык ці нельга мне,– сказала старая, і ў яе на вочы нагарнуліся слёзы,– ці нельга мне, прынамсі, узяць майго беднага малыша ў хвартух і занесці дамоў? У нашага пастара шмат прыгожых пудзілаў – птушак і вавёрачак; ён напхае і майго небараку Цахеса, і я пастаўлю яго на шафу такім, які ён ёсць, у чырвонай камізэлі, з шырокай стужкай і зоркай на грудзях, на вечны ўспамін!

– Ды ну!– усклікнула фройляйн амаль з прыкрасцю.– Гэта ўжо зусім дурная думка! Гэтага ніяк нельга!

Тут старая пачала ўсхліпваць, жаліцца і бедаваць:

– Што мне з таго, што мой маленькі Цахес дастаўся да высокай шаноўлі і вялікага багацця! Калі б ён жыў пры мне, я выгадавала б яго ў беднасці, і яму ніколі не давялося б упасці ў гэтую праклятую срэбную пасудзіну, ён і зараз быў бы жывы і

даваў бы мне дастатак і радасць. Я насіла б яго ў ношцы, людзі шкадавалі б мяне і кідалі б мне манеты, а цяпер...

У пярэднім пакоі пачуліся крокі, фройляйн спраторыла старую, наказаўшы ёй чакаць унізе каля брамы,– перад ад'ездам яна дасць ёй надзейны сродак разам пазбыцца ўсякай галечы і нэндзы.

І вось Розабэльвэрдэ зноў наблізілася да мёртвага і мяккім, дрыготкім, поўным глыбокага мілажалю голасам сказала:

– Небарачанька мой Цахес! Няшчасны выкідзень прыроды! Я зычыла табе дабра. Слушна, было неразумна думаць, што вонкавы прыгожы дар, якім я надарыла цябе, падобна праменю, пранікне ў тваю душу і абудзіць голас, які скажа табе: "Ты не той, за каго цябе прымаюць, але старайся зраўняцца з тым, на чыіх крылах ты, нямогленькі, бяскрыленькі, узлятаеш угору". Але ўнутраны голас у табе так і не прачнуўся. Твой косны, безжыццёвы дух не мог лунаць, ты не адцураўся глупства, грубасці і невуцтва! Ах! Калі б ты не падняўся з нікчэмства, калі б ты застаўся маленькім неачасаным пенцюхом, ты пазбег бы ганебнай смерці! Праспэр Альпанус парупіўся, каб пасля смерці цябе зноў прынялі за таго, кім ты маёй воляй здаваўся пры жыцці. Магчыма, мне давядзецца яшчэ ўбачыць цябе маленькім жучком, увішнай мышкай альбо жвавай вавёрачкай, я буду толькі радая! Спі з мірам, маленькі Цахес!

Ледзь толькі Розабэльвэрдэ пакінула пакой, як увайшлі княскі лейб-медык і камердынер.

– Божа мілы,– усклікнуў медык, убачыўшы мёртвага Цынобера і пераканаўшыся, што ўсе сродкі і спосабы вярнуць яго да жыцця марныя,– напрамілы бог, спадар камердынер, як гэта сталася?

– Ах,– адказваў той,– ах, любасны спадар доктар, смута, альбо рэвалюцыя,– усё роўна як вы гэта назавяце,– шумела і бушавала ў прыхожай самым жудасным чынам. Іх эксэленцыя, баючыся за сваё каштоўнае жыццё, мабыць, мерыліся схавацца ў туалеце, пакаўзнуліся і...

– Дык, значыцца,– урачыста і расчулена сказаў доктар,– дык, значыцца, ён памёр ад боязі памерці!

Дзверы адчыніліся насцеж, і ў спальню імкліва ўбег бледны князь Барсануф, за ім сем камергераў, яшчэ бялейшыя.

– Няўжо праўда? Няўжо праўда? – усклікнуў князь; але як толькі ўбачыў цельца спачылага, дык адхіснуўся і, падняўшы

ўгору вочы, сказаў голасам, поўным самай вялікай скрухі: – О Цынобер!

І сем камергераў усклікнулі за князем: "О Цынобер!"– і падаставалі, як і князь, насоўкі і паднеслі іх да вачэй.

– Якая страта,– пачаў князь праз некалькі хвілін маўклівай горасці,– якая неадшкадавальная страта для дзяржавы! Дзе знайсці дзяржаўнага мужа, які з такой самай годнасцю насіў бы ордэн зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках, як мой Цынобер! Лейб-медык, як дапусцілі вы, каб у мяне памёр такі чалавек! Скажыце, як гэта здарылася, як магло такое стацца, якая таму была прычына, з чаго памёр непаўторны?

Лейб-медык уважліва агледзеў мальца, абмацаў усе месцы, дзе раней біўся пульс, правёў рукой па галаве спачылага, адкашляўся і мовіў:

– Мой найлітасцівейшы валадар! Калі б я меў задаволіцца толькі бачнай паверхняй з'яваў, дык я мог бы сказаць, што міністр сканаў ад поўнай адсутнасці дыхання, а гэтая адсутнасць дыхання паходзіць ад немагчымасці дыхаць, якая, немагчымасць, у сваю чаргу, утворана стыхіяй, гуморам, той вадкасцю, у якую ўпаў міністр. Я мог бы сказаць, што, такім чынам, міністр памёр гумарыстычнай смерцю, аднак жа я далёкі ад меркаванняў аж настолькі негрунтоўных, мне чужая страсць тлумачыць, зыходзячы з фізічных пачаткаў, тое, што натуральна і неабвержна пакоіцца на чыста псіхічных пачатках. Мой найлітасцівейшы княжа, пачэсны муж гаворыць адкрыта! Першапрычына смерці міністра бала закладзена ў ордэне зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках!

– Як? – усклікнуў князь, гнеўна бліснуўшы вачыма на лейбмедыка.– Як? Што вы сказалі? Ордэн зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках, які з такой годнасцю, з такім далікацтвам на карысць дзяржаве насіў спачылы,– у гэтым прычына яго смерці? Падайце мне доказы, альбо... камергеры, якое вы наконт гэтага думкі?

– Ён павінен прывесці доказы, ён павінен прывесці доказы, альбо... – усклікнулі ўсе сем бледных камергераў, і лейб-медык сказаў далей:

– Мой слаўны, найлітасцівейшы княжа! Я гэта дакажу, і таму не трэба ніякага "альбо"! Усё праходзіла такім чынам: цяжкі ордэнскі знак на стужцы, асабліва ж гузікі на спіне рабілі шкоднае ўздзеянне на гангліі хрыбетніка. І ў той самы час

ордэнская стужка рабіла ціск на гузавата-валакністую зросліну паміж грудабрушнай перапонай і верхняй брыжнай жылкай, якую, зросліну, мы называем сонечным спляценнем і якая дамінуе ў лабірынце іншых нервовых сплётаў. Гэты дамінуючы орган знаходзіцца ў разнастайных адносінах з царабральнай сістэмай, і натуральна, што згубнае ўздзеянне на гангліі было таксама шкоднае і для яго. Але хіба непарушнае функцыянаванне царабральнай сістэмы не ёсць неабходная ўмова свядомасці, асобы як выявы найдасканалейшага спалучэння цэлага ў адным фокусе? Ці не з'яўляецца ўвесь жыццёвы працэс дзейнасцю ў абедзвюх сферах, у гангліянальнай і царабральнай сістэмах? Дык вось, памянёнае згубнае ўздзеянне парушыла функцыі псіхічнага арганізму. Спачатку паявіліся змрочныя думкі пра тайнае самаахвяраванне на карысць дзяржаве праз хваравіта-балючае нашэнне ордэна і да таго падобнае; стан рабіўся ўсё больш небяспечны, пакуль поўная дысгармонія паміж гангліянальнай і царабральнай сістэмамі не прывяла да поўнага знікнення прытомнасці, поўнага знішчэння асобы. Гэты стан мы і пазначым словам "смерць"! Так, найлітасцівейшы валадару, міністр ужо страціў сваю асобу і быў, такім чынам, зусім мёртвы, калі падаў у гэты фатальны сасуд. А таму прычына ягонай смерці была не фізічная, а невымерна больш глыбокая – псіхічная.

– Лейб-медык,– сказаў князь незадаволена,– лейб-медык, вы балбочаце паўгадзіны, але хай на мяне паляруш, калі я зразумеў хоць адно слова. Што вы разумееце пад фізічным і псіхічным?

– Фізічны прынцып,– зноў загаварыў медык,– ёсць умова чыста вегетатыўнага жыцця, а псіхічны, наадварот, абумоўлівае чалавечы арганізм, які знаходзіць рухавік свайго быцця толькі ў духу, у здольнасці мысліць.

– Я ўсё яшчэ,– усклікнуў князь з найвялікшай прыкрасцю,– усё яшчэ не разумею вас, бязглузды вы чалавеча!

– Я мяркую,– сказаў доктар, – я мяркую, найсвятлейшы княжа, што фізічнае датычыцца толькі чыста вегетатыўнага жыцця, пазбаўленага здольнасці мысліць, як гэта мае месца ў раслін, а псіхічнае адносіцца да здольнасці мысліць. Але калі апошняе ў чалавечым арганізме стаіць на чале, дык медыку належыцца заўсёды пачынаць са здольнасці мысліць, з вобласці духу, і глядзець на цела толькі як на васала духу, які павінен падпарадкоўвацца, калі гэтага зажадае яго валадар.

– Ого! – усклікнуў князь.– Ого! Лейб-медык, ну кіньце вы гэта! Лячыце маё цела і не турбуйцеся апекамі над маім духам, які яшчэ ніколі не цвяліў мяне. Увогуле, лейб-медык, вы вельмі распацешны чалавек, і калі б я не стаяў цяпер каля цела свайго міністра і не быў так расчулены, я ведаў бы, што мне рабіць. А цяпер, камергеры, пральем яшчэ слязу над ложкам супакоенага і пойдзем палуднаваць.

Князь прыклаў насовачку да вачэй і ўсхліпнуў, камергеры зрабілі тое самае; потым усе выйшлі.

Каля дзвярэй стаяла старая Ліза, навесіўшы на руку некалькі вязанак цудоўнай залацістай цыбулі, лепшай за якую не знайсці. Незнарок позірк князя ўпаў на гэтую гародніну. Ён спыніўся, скруха знікла з ягонага твару; ён ласкава і літасціва ўсміхнуўся і сказаў:

– Колькі жыву, а не давялося мне бачыць такіх цудоўных цыбулін, мабыць, яны цудоўныя і на смак! Вы прадаяце іх, мілая?

– А як жа,– адказала Ліза, нізка прысядаючы,– а як жа, найлітасцівейшая ваша светласць, продажам цыбулі я здабываю сабе мой гаротны пракорм. Яны салодкія, як чысты мёд. Ці не заўгодзіцца прычасціцца, найлітасцівейшы спадару?

Яна працягнула князю вязанку самых ядроных, самых блiскучых цыбулін. Той узяў, усміхнуўся, цмокнуў і ўсклікнуў:

– Камергеры, хай адзін з вас падасць мне ножык! – Атрымаўшы нож, князь асцярожна і далікатна абабраў цыбуліну і пакаштаваў.– Якая смаката! Які солад! Які цуд! Які агонь! – усклікнуў ён, і вочы ў яго заблішчалі ад захаплення.– Мне быццам здаецца, што я бачу перад сабою нябожчыка Цынобера, які ківае мне і шэпча: “Купляйце, ежце гэтую цыбулю, мой княжа, гэтага вымагаюць інтарэсы дзяржавы”.– Князь сунуў старой Лізе некалькі залатовак, і камергеры мусілі рассоваць па кішэнях астатнюю цыбулю. Больш за тое! Ён пастанавіў, каб наперад, апрача старой Лізы, ніхто іншы не пастаўляў цыбулю для княскіх фрыштыкаў. І вось маці мальца Цахеса, не разбагацеўшы, канечне, знебылася ўсякай галечы і беднасці, і, мабыць, у гэтым ёй пасобілі тайныя чары добрай феі Розабэльвэрдэ.

Пахаванне міністра Цынобера было ці не самае вялікапышнае з тых, што калі-небудзь даводзілася бачыць у Керапэсе; князь, усе кавалеры ордэна зялёнаплямістага тыгра ў глыбокай жалобе ішлі за труною. Званілі ва ўсе званы, нават некалькі

разоў стрэлілі з абедзвюх марціраў, якія з вялікімі выдаткамі былі набытыя князем дзеля феерверкаў. Гараджане, народ – усе плакалі і бедавалі, што айчына засталася без найлепшай сваёй апоры і што каля стырна кіравання, мабыць, ніколі больш не стане дзяржаўны муж, поўны такога глыбокага розуму, душэўнай велічы, рахманасці і нястомнай рупнасці за ўсеагульную даброць, як Цынобер.

І на самой справе, страта гэтая засталася незаменнай, бо ніколі больш не знайшлося міністра, якому аж так упасаваў бы ордэн зялёнаплямістага тыгра на дваццаці гузіках, як адышламу ў вечнасць незабыўнаму Цыноберу.

## Раздзел апошні

*Сур'ёная просьба аўтара.– Як прафесар Мош Тэрпін супакоіўся, а Кандзіда ўжо ніколі больш не магла гневацца.– Як залаты жук забрунжаў нешта на вушка доктару Праспэру Альпанусу і як той з'ехаў, а Бальтазар пачаў жыць у шчаслівым сужэнстве.*

Ужо блізіцца час, калі той, хто піша табе, любасны чытач, гэтыя лісты, вымушаны будзе з табою развітацца, і вось яго ўжо агортвае туга і нясмеласць. Яшчэ шмат чаго ён ведае пра важныя дзеі маленькага Цынобера і з вялікай ахвотай пераказаў бы табе ўсё чыста, о мой чытач, бо палкасць, якая нарадзілася ў ягонай душы, неадольна прымусіла яго напісаць гэтую аповесць! Але азіраючы ўсе падзеі, як яны былі паказаны ў папярэдніх дзевяці раздзелах, ён адчувае, што ў іх ужо ёсць столькі ўсякага дзівоснага, бяздумнага, супраціўнага цвярозаму розуму, што, гурбуючы яшчэ мноства падобнага, ён ставіць сябе пад рызыку, што, ужываючы на ліхое твой давер, любасны чытач, зусім не знойдзе з табою ніякага зладу. Ён упрошвае цябе з тугою і нясмеласцю, якія так нечакана сціснулі яго грудзі, калі ён напісаў "Раздзел апошні",– хай будзе табе заўгодна з сапраўднай весялосцю і спакойным сэрцам сузіраць гэтыя дзіўныя вобразы, нават сябравацца з імі; яны навеяны паэту прывідным духам – Фантазусам, чыёй незвычайнай, капрызлівай натурай ён, магчыма, дазволіў сабе занадта захапіцца. А таму не гневайся на абодвух – паэта і незвычайнага духа! А калі ты, любасны чы-

тач, зрэдчасу з таго-сяго пасмейваўся сам сабе, дык ты быў у тым самым настроі, які хацеў выклікаць аўтар гэтых старонак, і тады, думае ён, ты многага не залічыш яму ў віну.

Шчыра кажучы, гэтая аповесць магла б закончыцца трагічнай смерцю маленькага Цынобера. Але хіба не прыемней будзе, калі замест скрушлівага пахавання яе завершыць радаснае вяселле?

Ну дык вось, злёгку нагадаем яшчэ пра прыгажуню Кандзіду і шчаслівага Бальтазара.

Прафесар Мош Тэрпін быў адукаваны, спанатраны ў навуках чалавек, які, згодна з мудрым выслоўем: "Nil admirari"* ужо шмат-шмат гадоў не здзіўляецца, што б там ні здаралася. А цяпер, свабодны ад усёй сваёй мудрасці, ён мусіў увесь час здзіўляцца, аж пад канец пачаў скардзіцца, што больш не ведае, ці праўда прафесар Мош Тэрпін, які раней кіраваў усімі справамі па натуральнай лініі ва ўсёй дзяржаве, усё яшчэ ходзіць на сваіх нагах, дагары галавою.

Спачатку ён здзівіўся, калі Бальтазар прадставіў яму доктара Праспэра Альпануса як свайго дзядзьку і той паказаў яму даравальны запіс, паводле якога Бальтазар зрабіўся ўладальнікам сельскага дамка за гадзіну язды ад Керапэса, разам з памежнымі ляснымі абшарамі, палямі і лугамі; ён ледзь паверыў сваім вачам, калі ўбачыў, што ў інвентарным роспісе памянёна каштоўнае начынне, нават залатыя і срэбныя зліткі, каштоўнасць якіх перавышала ўсё багацце княскай скарбніцы. Потым ён здзівіўся, паглядзеўшы праз Бальтазараву ларнетку на выдатную труну, у якой пакоіўся Цынобер, і яму раптам здалося, што ніякага міністра Цынобера ніколі не было, а быў толькі маленькі, няўклюдны, нягеглы выпладзень, якога выпадкова палічылі за разумнага, усёведнага, мудрага міністра Цынобера.

Здзіўленне Моша Тэрпіна дасягнула найвышэйшай ступені, калі Праспэр Альпанус пачаў вадзіць яго па доме, паказваючы сваю бібліятэку і іншыя вельмі дзівосныя рэчы, і нават учыніў цэлы шэраг пікантных доследаў з рэдкімі раслінамі і жывёламі.

Прафесару прыйшло ў галаву, што ўсе ягоныя даследаванні па лініі натуральнай гісторыі абсалютна нічога не вартыя і ён

* З нічога не давацца дзіву *(лац.)*.

заключаны ў выдатны, стракаты, чароўны свет, быццам у яйка. Гэтая думка так перапалохала яго, што пад канец ён пачаў скардзіцца і плакаць, як дзіця. Бальтазар адразу адвёў яго ў даволі вялікі вінны склеп, дзе вачам прафесара явіліся бліскучыя бочкі і бутэлькі. Тут, лічыў Бальтазар, яму будзе больш вальготна ўчыняць свае штудыі, чым у княскім склепе, і ён зможа поўніцай даследаваць прыроду ў цудоўным парку.

Тут прафесар супакоіўся.

Вяселле Бальтазара згулялі ў загародным доме. Ён, яго сябры – Фабіян, Пульхер – усе здзіўляліся з незямной прыгажосці Кандзіды, чароўнага хараства яе адзення, усёй яе істоты. То і насамрэч былі чары, бо фея Розабэльвэрдэ, якая была на вяселлі пад выглядам кананісы фон Розэншэн, забылася на свой гнеў і сама ўбрала Кандзіду пышнымі, прыгожымі ружамі. А яно ж вельмі добра вядома, што сукенка станецца ў акурат каму хоч, калі за справу возьмецца фея. Апрача таго Розабэльвэрдэ падарыла чароўнай нявесце бліскучыя каралі, магічнае дзеянне якіх выяўляецца ў тым, што надзеўшы іх, яна ўжо ніколі не магла быць засмучана якойнебудзь драбязою, дрэнна завязаным бантам, няўдалай прычоскай, плямай на бялізне альбо чым-небудзь яшчэ. Гэтая здольнасць, якою каралькі надзялялі Кандзіду, надавала яе тварыку адмысловы шарм і прыветлівую весялосць.

Маладыя былі на сёмым небе і – такое дзеянне рабілі на іх тайныя чары мудрага Альпануса – усе знаходзілі словы і прыветлівыя позіркі мілым сябрам. Праспэр Альпанус і Розабэльвэрдэ паклапаціліся пра тое, каб дзень вяселля быў пазначаны прыгожымі цудамі. Усюды з кустоў і дрэў чулася салодкая гармонія кахання, тым часам як з-пад зямлі вырасталі бліскучыя сталы з выдатнымі далікатэсамі і крышталёвымі графінамі, з якіх цурчала высакароднае віно, якое разлівалася агнём па жылах.

Настала ноч, і агнявыя вясёлкі перакінуліся над паркам, і бліскучыя птушкі і насякомыя запырхалі навакол, і, калі яны трымцелі крылцамі, з іх сыпаліся мільёны іскраў і складваліся ў розныя прыгожыя фігуркі, якія ўвесь час мяняліся, скакалі і куляліся ў паветры і раптоўна знікалі ў кустах. І ўсё мацней гучала лясная музыка, і начны вецер разносіў таямнічы шэпт і салодкі водар.

Бальтазар, Кандзіда, госці прызналі дзеянне магутных чараў

Праспэра Альпануса, але Мош Тэрпін, захмялеўшы, смяяўся і казаў, што за ўсім гэтым крыецца не хто там які, а прайдзісвет – оперны дэкаратар і князеў феерверкер.

Пачуліся рэзкія ўдары звона. Бліскучы залаты жук апусціўся на плячо Праспэра Альпануса і, здавалася, нешта ціхенька забрунжаў яму на вуха.

Праспэр Альпанус устаў са свайго месца і сказаў урачыста і сур'ёзна:

– Любасны Бальтазар, цудоўная Кандзіда, сябры мае! Настаў час – Лотас кліча, я мушу з вамі расстацца!

Тут ён падышоў да маладой пары, пачаў з ёю ціха гутарыць. Абодва, Бальтазар і Кандзіда, былі вельмі расчуленыя, здавалася, Праспэр даў ім розныя добрыя парады; ён абняў іх з пяшчотнай гарачнасцю.

Потым ён звярнуўся да фройляйн фон Розэншэн і гэтак сама ціха загаварыў з ёю,– мабыць, яна надавала яму розныя даручэнні па лініі чараўніцтва і фей, і ён вельмі ахвотна ўзяўся іх выконваць.

Тым часам з воблакаў апусцілася маленькая крышталёвая карэта з дзвюма бліскучымі стракозамі, якімі кіраваў срабрысты фазан.

– Бывайце, бывайце!– усклікнуў Праспэр Альпанус, сеў у карэту і пачаў падымацца ўсё вышэй і вышэй над вясёлкамі, пакуль нарэшце не бліснуў у нябесных высях маленькай зорачкай, якая знікла ў аблоках.

– Цудоўны мангальф'ер!– прахрыпеў Мош Тэрпін і, адолены віном, апусціўся ў глыбокі сон.

Бальтазар, паслухаўшыся парадаў Праспэра Альпануса, здабываючы разумную карысць з валодання цудоўнай сядзібай, зрабіўся сапраўды добрым паэтам, а як што іншыя ўласцівасці гэтага маёнтка, пра якія казаў, маючы на ўвазе Кандзіду, Праспэр Альпанус, спраўдзіліся і як што Кандзіда ніколі не здымала каралькаў, падораных ёй на вяселлі кананісай Розэншэн, дык Бальтазар зажыў у шчаслівым сужэнстве, радасці і шчасці, як толькі мог калі-небудзь зажыць паэт з цудоўнай маладой жонкай.

І, такім чынам, казка пра мальца Цахеса, празванага Цыноберам, цяпер і на самой справе набыла радасны

КАНЕЦ.

*Пафнуцій* – Гофман узяў большасць імёнаў з кнігі Ёгана Геарга Цымэрмана (1728–1795) “Пра самотнасць” (1784) – Пафнуцій, Праспэр Альпанус, Барсануф, Пталамей Філадэльфус, Руфінус.

*Дзень святога Лаўрэна* – 10 жніўня.

*Альраўн* – корань мандрагоры, падобны на маленькага чалавечка.

*Кніга турніраў Рыкснера* – Маецца на ўвазе кніга Геарга Рукснера (выдадзена ў 1530 г.), у якой апрача звестак пра турніры дадзена апісанне германскіх дваранскіх гербаў.

*...належнае ведзьмам выпрабаванне* – западозраных у вядзьмарстве кідалі ў ваду; калі чалавек не тануў, гэта служыла доказам яго сувязі з д’яблам.

*“Сір! увядзіце асвету!”* – Парадыйнае пераасэнсаванне славутага заклiку, з якім маркіз Поза ў драме Шылера “Дон Карлас” звяртаўся да караля Філіпа II – “Сір! – дайце свабоду думкі!” (3 акт, 10 сцэна).

*Джыністан* – жытлішча феяў у казках “Тысячы і адной ночы”.

*...разбіты аслінай сківіцай* – паводле Бібліі (Суддз. 15:15), Самсон пабіў аслінай сківіцай філістымлянаў. Нямецкае слова Philister азначала – “філістымлянін”.

*...вылечыць высакароднага прынца* – гутарка паміж Гамлетам і Гільдэнстэрнам у “Гамлеце” Шэкспіра (3 акт, 2 сцэна).

*“Чароўны пярсцёнак”* – У 1813 годзе выйшаў раман “Чароўны пярсцёнак” барона дэ ла Мот-Фуке (1777-1843), запрыязненага з Гофманам.

*...най-найвышэйшая ступень жаночай жаноцкасці* – сатырычны намёк на Ліяну ў рамане Жан Поля “Тытан” (1800-1803).

*...прыпадабняюцца да святога Ераніма* – такія звесткі ў Цымэрмана (“Пра самотнасць”).

*Лукас Кранах* Старэйшы (1472 – 1553),

мастацтва якога было вольнае ад перайманння італьянскіх узораў, прадстаўлены тут як чыста нямецкі мастак.

*...нагадваючы картэзіянскага хохліка* – так была названа французскім філосафам Рэнэ Дэкартам (лац. Рэнатус Картэзіус, 1596 – 1650) полая шкляная лялька, якая плавала ў вадзе вертыкальна.

*Канцэрт Віёці* – Джыавані Баціста Віёці (1753 – 1824) – італьянскі скрыпач-віртуоз і кампазітар.

*Шкляны гармонік* – старадаўні музычны інструмент, які складаўся са шкляных паўшар'яў, і гучаў ад дакранання вільготных пальцаў.

*...казіміравыя панталоны* – казімір, кашамір – тканіна.

Каліостра – Аляксандр граф Каліостра, сапр. Джузэпэ Бальзама (1743 – 1795), шырока вядомы ў Еўропе італьянскі авантурнік і шарлатан.

*Віглебава "Магія"* – Ёган Крысціян Віглеб, аўтар кнігі "Навука натуральнай магіі" (1782), з маладосці вядомай Гофману.

*... заезны натураліст, які вяртаўся з Паўночнага полюса.* – Жартоўны намёк на пісьменніка Адэльберта фон Шаміса, які ў той час якраз вярнуўся з падарожжа вакол свету.

*Зараастр* (Заратустра, Заратуштра) – рэфарматар старажытнаіранскай рэлігіі, якая атрымала назву – зараастрызм.

*Оксгофт* – бочка, прыкладна на тры вядры.

*Алікантэ* – дэсертнае віно з іспанскай правінцыі Алікантэ.

*Чарта-Бхада* – у кнізе Готхільфа Генрыха Шуберта "Погляды на начны бок натуральных навук" (1808) згадваецца індыйская кніга з такой назвай.

*Міністр Ючы* – у Шубертавых "Поглядах..." расказваецца пра кітайскага імператара, які правіў у 5 ст. да н.э., міністр якога Ючы вызначыў Палярную зорку.

*"На небе і ў зямлі схавана болей..."* – Шэкспір, "Гамлет", дзея першая, сцэна пятая.

*...ён памёр ад боязі памерці* – словы з драмы Фрыдрыха Шлегеля "Аларкос" (1802), якія ў час першага прадстаўлення выклікалі смех у публікі.

*Гумор* – вадкасць; грэцкі ўрач Гіпакрат (460 – 377) лічыў асноваю ўсяго сутнага чатыры гуморы.

*Мангальф'ер* – паветраны балон, названы так паводле імя іх вынаходнікаў братоў Мангальф'е.

**Пераклаў з нямецкай мовы**
**Васіль СЁМУХА.**

## МАНАЛОГ ТАПЕЛЬНІА

Кінуся з галавою ў вір –
Рэчка засціць вочы вадой мне,
А халодны і мяккі жвір
Мяне прыме ў свае абдоймы.

У дрыготкай, плыўкай смузе
Голас рога прачнецца трубны.
Знікнуць рыбы і га́ды ўсе,
Распадуцца русалак гурбы.

Да мяне сам Цар падплыве,
І ласкава асвенціць глеем
Валасы на маёй галаве.
Мне ж падасца –
Ялеем...

## ДУША МАЯ

Усю ноч цябе жахі пасвілі,
Ты крычала, нібы раджала.
Аплятала цябе і звязвала
Раздваёнае Змея джала.

Рэха ціха за шклівам енчыла,
Цемра моўчкі крысом ахутвала
Хатніх рэчаў абрысы млечныя.
Хцівы Змей адлятаў ад хутара.

## ВОЛЬНЫ ПТАХ

І зноў рукі – крылы.
На мяжы Быцця і Небыцця
Світае трывога святая. Болей
Не будзе абрыдлага болю.
Я – Вольны Птах!

А ўнізе – зямля белая
Ляжыць. Аблокі сплываюць за
Прастор пад зорамі. Бліскавіцы
Мігцяць і падаюць ніцма.

Вочы загінуць там,
Дзе не будзе мяне заўтра.
Крылы згараць там,
Дзе не будзе мяне заўтра.
Я застануся там,
Дзе не будзе мяне заўтра.

Я – Вольны Птах!

## ЗАПАВЕТ

прысак раздзьмухай адчуй
боль не боль роспач не роспач
калі німб паўстане ўваччу
калі поўня узыдзе тройчы
калі ўквеціцца твар не твой
сумна-прывідным прыпамінам
калі ўскоўдраны мглой сувой
ахіне цябе і абдыме

напярэймы табе скрозь сон
вымкне яскарка разумення
поўня поўная галасоў
на каменне ставай каленьмі
на нябёсы глядзі і ведай
ведай тое што нельга ведаць
ведай тое што нельга бачыць
ведай тое што нельга чуць

І вітай маладую ісціну
мрою дзён сарамліва кратай



# Мікола КУПРЭЕЎ

*Цёплы вечар –
разам са свежым ветрыкам,
з пялёсткамі жоўтых і чырвоных
вяргіняў, з пахам травы ад плоту
і аеру ад ракі – стаяў у маім
пакойчыку. І мне раптам стала так
добра і лёгка на душы. Я ведаў: яшчэ
доўга-доўга сёння акно маё, перада
мной, будзе расчыненае насцеж...*

# ПАЛЕСКАЯ ЭЛЕГІЯ

Дубовы пень шырокі, высакаваты – на ўзлеску, блізка ад Бобрыка, колішняй рэчкі, цяпер канавы. Пада мной па кары пня поўзаюць буйныя рудыя мурашы, завіхаюцца дробныя чорныя мурашкі. Ад куста крушыны прыляцеў, сеў мне на калена белы матылёк: злажыў крылцы. Унізе ўпіўся ў траву слімак – шэрая круцёлка, наставіў на мяне рожкі-антэнкі. З чорнага карнявішча старой вольхі вытыркнуў цёмна-жоўтую галоўку вужака, дзівіцца на мяне і знікае ў дзірцы пад коранем. Белы матылёк паляцеў з калена.

Далекавата, недзе за Пагостам, па-над Ясельдай, глуха грымнула, і неба там надоўга сціхла, але высокая сіняя хмарына наплывала адтуль сюды, на Бобрык, на лес, зніжалася, цямнела. Ад рэчкі рашуча дыхнуўся вецер. І раптам грымнула над самай галавой, ды зверху не ўпала ніводнай кроплі. Хмара крута пайшла ўздоўж Бобрыка, на Спораўскія балоты. Але вецер перамяніўся, зноў грымнула над галавой – і ўпаў кароткі буйны дождж і не халодны, як усе апошнія гады пасля асушкі Палесся, – хмара гэтая прыйшла не з "варагаў"...

З яліны на валасы мне, за каўнер упалі апошнія кроплі – тыя, што былі затрымаліся ў голлі. Мне добра ад свежасці зверху і знізу, ад цішыні, ад нейкай самотнасці лесу. Зусім блізка, нябачная, крыкнула сойка – толькі яна так можа крычаць: тужліва, няголасна, роспачна. Успомнілася журба Пімена Панчанкі ў яго "Крыку сойкі". У траўні я чытаў яго вершы сваім выпускнікам, прачытаў і "Беларускім настаўніцам". З вачэй Іры Ганча-

ровай упалі на стол, на яе рукі слязінкі, і пасля ўрока яна падышла да мяне – высокая, стройная дзяўчына, з доўгай светлай касой на худзенькай спіне, ціха сказала: “Анатоль Хведаравіч! Дайце мне, калі ласка, перапісаць “Беларускім настаўніцам”... Іра, дачка школьнай прыбіральшчыцы і калгаснага пастуха, хоча стаць настаўніцай роднай мовы. Я сказаў ёй: “Іра! Дзякуй табе за тваю слязу... Ты ўзыходзіш на пакутлівую дарогу – дык трымайся, дзяўчынка”...

Што гэта такое? Зусім блізка, але не ўгары, трэснула-грымнула, на колькі хвілін сціхла, потым стала грымець і грымець. І недзе зусім недалёка пачуўся стрэл. Адзін стрэл. Я азірнуўся праз плячо: за спінай у мяне доўжылася прасека, у канцы яе віднелася ў садзе апошняя хата Бабраўні – вёскі, што стаяла на беразе былой рэчкі, на доўгім пагорку збоч яе. Стрэл раздаўся з боку сада. Між высокіх соснаў над прасекай наплывала, зноў на мяне, нізкая, бухматая хмара і – напэўна, шырокая, але краёў яе відно не было з-за дрэваў. Над тым садам з хатай бліснула сіняя, востра-зламаная маланка, і грымела, грымела над соснамі, але вада з неба пакуль яшчэ не падала, аднак адчувалася, што яна вось-вось упадзе – бо і слімак ужо ўвесь схаваўся ў сваёй шкарлупіне, і белы матуль зляцеў з крушыны ў траву, і мурашы збеглі з кары ўніз на свае, у траве, сцежачкі. За поплавам, ля саду, зноў грымнуў стрэл. Я хутка абуўся, узяў у руку сваю кульбу, устаў з пня. Нейкая птушка цяжка ўпала на клён побач, на нейкае імгненне аціхла ў вецені, і як абваліўшыся на зямлю – з падскокам-падлётам – пайшла ў высокай траве ў бок маёй палаткі. Я скіраваў за ёй, і тады з неба на дрэвы і з дрэваў на мяне – на галаву, на плечы – упала вада. Я застыў пад шырокай ялінай. Птушка кінулася нізка на крылах перада мной – далей у бок палаткі. Што ж гэта за птушка вядзе мяне ў лесе пад ліўнем, пад маланкамі і громам, вядзе мяне – да мяне?... Нарэшце, я ўбачыў яе: шэрая, на доўгіх, як у бусла, нагах, чорнае пер’е венічкам у хвасце заломлена ўніз. Гэта быў журавель. Ён стаяў насупраць уваходу ў палатку, за метраў пяцьшэсць ад яе, пад кустом ядлоўцу, і глядзеў мне насустрэчу, падняўшы крэпкую дзюбу. Я спыніўся. Журавель падумаў, падумаў, цяжкавата пераступіў праз камель гнілога, утравелага дрэўца, падскочыў, махнуў крыламі, паляцеў понізу ў густы падлесак і недзе там сціхнуў. Я ведаў, што ён з гушчару глядзіць на

мяне... А лівень перайшоў у ціхі дожджык. Я быў увесь мокры. Пераапрануўся ў палатцы, але застаўся босы на свежым папаратніку, сеў на пянёк пасярод палаткі, насупраць адкрытага ўваходу, глядзеў у падлесак, жураўля не бачыў, але ведаў, што ён адтуль глядзіць на мяне... Я кінуў яму хлеба, хацяі не ведаў, ці ядуць жураўлі хлеб. Мусіць, не: птушкі гэтыя, зусім дзікія, жывуць далекавата ад людского хлеба...

Вечарэла. Я ляжаў у кутку палаткі на сухім сене, яно не падмокла, бо палатка стаяла на ўзгорку. Сёння раніцай я выйшаў на шашу Пінск – Ганцавічы, спадарожнай машынай заехаў у Бабpоўню, зайшоў тут у краму, прыдбаў харчу і цыгарэтаў на колькі дзён, пастаяў на шчарбатым жалезабетонным мосце праз рэчку-канаву. Стаяў, абапёршыся локцямі на парэнчы, глядзеў у цёмную ваду, бачыў у ёй белае воблака і колішнюю вірлівую і чыстую рэчку між крутым левым і нізкім правым берагамі, бачыў луг між рэчкай і лесам, буслянку на старой бярозе... Падняў галаву: бярозы не было, нават пня ад яе не было. Пайшоў шашой у бок Ганцавіч, завярнуў у лес і ў метрах двухстах ад дарогі разгарнуў, паставіў зялёную палатку, невялікую, як на двух чалавек, заслаў дол папараццю, знайшоў на ўзлеску бярэмя пакінутага кімсьці сухога сена. Уваход у палатку быў на ўсход, на куст ажыны, на густы падлесак, цяпер адтуль глядзеў на мяне састарэлы, як я, ці можа, кім падбіты журавель. Так блізка, як сёння, я ўбачыў жураўля ўпершыню. Раней я бачыў і чуў гэтую птушку балот толькі ў небе, чуў вясной і дзесьці напрыканцы жніўня ці ў пачатку верасня яе тужлівае, працяглае "курлы-ы" і нават пісаў пра яе – як яна падае вясной з неба на зямлю сваіх, жураўліных, продкаў... Цяпер птушка глядзіць на мяне з маладога гушчару, зусім блізка, але я не бачу яе... Што ж табе, птушка, блага стала? Адбілася ад сваіх перад сконам? Не хацелася паміраць над морам? Гэта ж, мусіць, жудасна – падаць каменем з неба? Але ж – чаму і не між купінаў дзе-небудзь на Спораўскіх балотах – там іх крыху яшчэ засталося? Ці – у Прыпяцкім заказніку?.. А-а, цяпер я зразумеў: ляцеў журавель паміраць, мусіць, на балоты Выганаўскага возера. Але не здужаў? І – адкуль? Можа, ажно з Валыні?

Я выйшаў з палаткі, кінуў у падлесак варанай марской рыбы і зноў хлеба. Ці будзе журавель гэта есці? Калі сілы яшчэ ёсць – з'есць. Спачатку, як толькі кінуў, там, у нізкім гушчары,

было ўсё ціха. Але счакаўшы, я ўбачыў у вячэрнім змроку, як там слаба здрыгануліся малыя хваінкі, потым варухнуліся мацней, нахіліліся ў бакі, і ўрэшце сціхлі. Я пайшоў у палатку, лёг на сена. Яно пахла святаяннікам і папараццю. З лесу наплываў пах жывіцы.

Доўга не мог заснуць, ляжаў з расплюшчанымі вачыма, але ўсё-ткі ненадоўга заснуў. Прачнуўся ўстрывожаны: нехта стаяў перад уваходам у палатку і глядзеў на мяне, і вочы яго блішчэлі, мусіць, святлом месяца, а тое святло ішло зверху між соснаў...

Калі журавель ціха знік у сваім гушчары, я захінуў уваход – каб да раніцы мы больш не трывожылі адзін аднаго. Не спалася ўсю ноч. Ведаў, што й журавель там толькі, можа, прымружыў вочы.

І мне яшчэ раз успомніўся той дзень перад Бобрыкам. Сястра Галя запрасіля мяне лістом заехаць да яе ў Верхнюю Гаць. Па дарозе да яе і сюды, на Бобрык, я спыніўся ў райцэнтры на шашы Мінск – Брэст. Сышоў з цягніка на перон, а потым – на прывакзальную плошчу. Па той бок плошчы на месцы ўтульнага скверыка са старымі таполямі і ясенямі цяпер стаяло адно: чалавечы гармідар між прылаўкамі, пад доўгімі чорнымі павецямі, на залітым, запляваным, з растаптанымі бананавымі скуркамі асфальце. Цёткі панура сядзелі на ўслончыках перад мяшкамі з семкамі, стаялі за прылаўкамі, на якіх ляжалі бананы, апельсіны, лімоны, грыбы, маладая бульба, гранаты... І над усім гэтым зверху звісалі спадніцы, штаны, трусы і ўсялякае еўрапейскае і турэцкае рыззё. Хлопцы і дзяўчаты ў стракатым адзенні (у некаторых дзяўчатак трусікі з-пад кароценькіх спаднічак віднеюцца, у хлопцаў на джынсах заду, на худзенькіх, кастлявых сра...ах быццам жоўтай дратвай вышыта "US ARML") крычалі, рагаталі, лаяліся, пілі, жавалі, смакталі, брыкаліся, цалаваліся проста на плошчы, перад машынамі (тут мне і горка, і светла ўспомнілася: ужо на світанні, у скверыку, на лаўцы пад зацішным густым ясенем я, нарэшце, асмеліўся пацалаваць маладзейшую на клас дзяўчынку-дзевяцікласніцу, – яна тады ўраніла мне на далонь слязу, нешта ціха прашаптала і пабегла дахаты... Сівы ветэран у сінім, яшчэ "тым" бастонавым касцюме з ордэнскімі калодкамі на грудзях, і "біч" – няголены, у падраных тапцях – стаялі ля металічнай агароджы рынка, і "біч"

шаптаў ветэрану на вуха, а той піў піва з бутэлькі: “Пакіньце трохі”. Ветэран пакідаў пену на дне бутэлькі, ішоў у іншы куток рынка – там смажыўся шашлык і наліваліся сто грамаў гарэлкі, “біч” і тут шаптаў: “Пакіньце во столечкі..." – і паказваў пальцамі “во столечкі” – ветэран і тут нешта пакідаў яму, ішоў да варотцаў, там браў у знаёмай кабеціны бутэльку гарэлкі (з падпольнага ўкраінскага спірту, які заліў ужо ўсё Палессе), азіраўся на “біча”, а той сачыў за ім, нырaў у натоўп спекулянтаў, якія называліся чамусьці камерсантамі, паказваў “бічу” кукіш і знікаў у блізкім кафэ, туды бомж не палезе.

Сярод спекулянтаў ля вакзала я пазнаў былога інструктара райкама партыі: ён быў, нягледзячы на спякоту, апрануты ў чорную скураную куртку, адхінаў яе крысо, нешта паказваў мужчынам, казаў: “Толькі што з завода..." Шыракаплечы, ружовашчокі. Пазнаў мяне, паманіў пальцам, азірнуўся па баках – міліцыі не было, дастаў з нагруднай кішэні бутэльку, адкаркаваў, і мы выпілі “з гарла” – пад шум навокал, за сустрэчу. Як сустрэліся, так – нечакана – і рассталіся...

Я сеў у аўтобус, паехаў далей. Перад чыгуначным шлагбаўмам спыніліся, і ўбачыў я праз акно: на высокім камені пад кустом, ля чыгункі, сядзіць той самы “біч”, сядзіць цвёрда, падпёршы кулаком падбародак, локаць – на калене, глядзіць перад сабой на чорныя шпалы, слухае грукат рэек, поза “Мысліцеля” Радэна, на рыжым шчацінні па вугалках вуснаў блішчаць буйныя слязіны, адну ён падчапіў сінім языком, зглынуў, азірнуўся на аўтобус, доўга глядзеў на мяне, я апусціў вочы, рассунуў на акне шторку, цягнік імгненна прагрымеў міма нас – “біча” і мяне, аўтобус крануўся, прайшоў цераз пераезд, набраў хуткасць у бок Целяханаў. Я паклаў локці на спінку пярэдняга сядзення, палажыў на іх галаву і ціха, доўга плакаў, таму што той “біч” – гэта Юра, мой былы аднакласнік, кандыдат у майстры спорту па шахматах яшчэ з дзесятага класа і былы мой супернік па школьным каханні... былы, былы, былы мой найлепшы сябра і былы дысідэнт... Плакаў я – бо вельмі горка і балюча было мне не з-за яго, не з-за Юры, а – з-за сябе: чаму не падышоў да яго на рынку, чаму не сышоў з аўтобуса перад шлагбаўмам, перад Юрам на камені, перад яго слязой?.. Я сабраў до болю ў скуры ў кулак валасы на галаве і так ехаў і плакаў глыбока ўнутры сябе, слёз не было. Не вытрымаў – узяў

свой цяжкі руксак і сышоў з аўтобуса перад паваротам на Уласаўцы – перад дарогай у глыбокі лес. Аўтобус пайшоў сабе далей, а я доўга стаяў збоч шашы і ўсё біў, біў, біў – пытаўся ў самога сябе: чаму? чаму? чаму?.. Сышоў з шашы, а там, пад соснамі, між кустамі ядлоўцу, зялёны мох вакол, стаяла старая, з дошак, альтанка з патрэсканымі, счарнелымі лаўкамі, сеў – глядзеў у глыбіню лесу і ўсё пытаўся: чаму?.. І ўсё ўяўляў сабе: ён сядзіць там, на камені перад рэйкамі, і слёзы на яго рыжым, ускалмачаным шчаціннi...

Па той бок шашы ішоў між дрэваў утравелы, усыпаны даўнім шыгаллем, ледзь прыкметны ў высокім папаратніку, насып – след колішняй, з нашага юнацтва, вузкакалейкі... Мы трэсліся з Юрам на голай платформе, саскочылі з яе ў Целяханах і дзень і ноч ішлі ўздоўж напаўсухога Агінскага канала да Ясельды, і Юра вучыў мяне пераплываць раку – адной рукой трымаючы над сабой адзенне, другой падбіраючы пад сябе ваду...

Летам пяцьдзесят пятага года нас, выпускнікоў сярэдняй школы райцэнтра, сабраў класны кіраўнік Сямён Радзівонавіч, і мы школьнай машынай, пасеўшы на лаўках у кузаве, паехалі ва Уласаўцы. Доўга ехалі лясной калдобістай дарогай, машына стала пасярод вуліцы, ля нізенькай, старой хаціны. Ля яе, ля плоту і ў двары моўчкі стаялі людзі. Мы, хлопцы і дзяўчаты, прайшлі паміж сціхлага натоўпу ў сенцы, адтуль – у хату, і перад намі на шырокім услоне стаяла белая труна, і ў ёй ляжаў прыбраны, прычасаны, з сашчэпленымі на грудзях рукамі, Пеця, наш аднакласнік. У чэрвені мы ўсе разам скончылі школу, Пеця – на "выдатна", завёз дакументы ў ваеннае вучылішча і перад ад'ездам на вучобу, купаючыся, захлынуўся ў роднай рацэ, і во мы прыехалі, прыйшлі ў яго хату навечна развітацца з ім. Дзяўчаты плакалі, хлопцы ўпарта глядзелі сабе пад ногі, на падлогу, зрэдку падымалі галаву і зноў апускалі... Галасіла Пецева маці, нахілялася над сынам, пыталася, пыталася, працягвала над ім счарнелыя рукі: "Куды ж ты, сынок? Куды ж ты, сыне, сабраўся?! Не йдзі туды, не йдзі... Во, паглядзі, і хлопцы твае, і дзяўчаты твае ля цябе... Маўчыш, Пецечка, маўчыш, сынок!.." І ой як плакалі нашыя дзяўчаты! А труна стаяла на трох доўгіх, шырокіх, вышываных ручніках. Мы, шасцёра хлопцаў, крэпка ўзяліся рукамі за ручнікі блізка ад труны, паднялі Пецю, панеслі з хаты ў сенцы, з сенцаў – у двор, там паставілі зноў на

услон. Нехта з мужчын-вяскоўцаў усё нам падказваў і ў хаце, і ў двары – што і як рабіць. А маці Пецева, яго цёткі і сястра ўсё ґаласілі ў двары і на вуліцы. Мы неслі яго шырокай вуліцай, неслі між пажаўцелай травы, між кветнікаў перад хатамі... Помняцца высокія вяргіні перад вокнамі – жоўтыя, барвовыя, белыя... Пахлі пад сонцам тыя вяргіні і пахлі ў гародчыках гваздзікі. І злёгку пахла яшчэ нечым – пахла блізка, пахла нечым нетутэйшым, не з гэтага свету, а аднекуль ужо здалёку... Мы, хлопцы, ішлі ціха, насцярожана, глядзелі сабе пад ногі – каб не спатыкнуцца, і рукі нашыя ў ручніках напружана і трывожна дрыжалі. Іншы раз кідаў позірк на Пецеў твар: ён быў белы. Я кідаў позірк у неба: там ціха плылі белыя аблокі. Неба было высокае-высокае. А ўперадзе, перад намі і Пецем, нехта нёс ікону ў ручніку, нехта нёс крыж, нехта нёс века труны. Мы, хлопцы, здаваліся сабе, можа, упершыню ў свае семнаццаць-васемнаццаць гадоў, зусім дарослымі і сур'ёзнымі, адчувалі перад іншымі людзьмі, перад сабой, перад нашымі дзяўчатамі і – перад Пецем... незразумела-невымоўную адказнасць. Адзін ручнік на дваіх быў у нас з Юрам; у канцы вуліцы, перад соснамі на могілках, я ўбачыў: вочы ў Юры былі мокрыя. Я зірнуў на Пецю і ўбачыў: адно вока ў яго было ледзь-ледзь расплюшчанае, і – жахнуўся. Пеця праз тое сваё вока быццам хацеў нешта сказаць і быццам казаў: не магу варухнуцца, не магу сказаць, таму кажу вокам, я яго здужаў крышачку расплюшчыць, і я ўсё бачу, усё ведаю, і вам ад мяне нікуды не дзецца... Больш я ў труну не глядзеў. На могілках кінулі зямлю на труну ў яміне. Хацелася кінуцца – з могілак, далёка ў лес, упасці там тварам у мох...

Пасля могілак мы ўсім класам стаялі на вуліцы ля машыны. З Пецевага двара да нас выйшла жанчына, у чорнай хустцы, нешта сказала Сямёну Радзівонавічу. Худзенькі, маршчакаваты, негаваркі, Сямён Радзівонавіч трымаў пад носам светлыя вусы – квадратам, як у Варашылава. Інжынер-фізік. Ішла чутка, што яго "пагналі" з Ленінграда як нейкага касмапаліта. Праз год стаў гаварыць са школьнікамі, з іх бацькамі па-нашаму, пабеларуску, а школа ж нашая была рускай. Калі Тамара Васільцова была яшчэ толькі старшынёй савета піянерскага атрада, яна яму аднойчы на класным сходзе сказала: "Семен Родионович! Говорите, пожалуйста, с нами по-русски, школа наша рус-

ская". Ён ціха сказаў – і не Тамары, а ўсім нам: "Я гавару на мове вашай радзімы... Я палюбіў вашу зямлю, я тут жыву..." У той дзень, калі жанчына ў чорнай хустцы адышла ад нас, ён сказаў нам: "Нас клічуць у хату за памінальны стол..." І тут яго зноў перабіла Васільцова: "Но мы комсомольцы..." Сямён Радзівонавіч працягваў: "...Паступіце так, як падказвае вам ваша сэрца і ваш розум, ужо не дзіцячы розум... Зрабіце так, як рабілі вашыя бацькі, вашыя дзяды..." Тамара: "Но они не были комсомольцами..." Сямён Радзівонавіч: "Яны былі добрымі людзьмі..." Тамара: "Семен Родионович!.." Але Сямён Радзівонавіч пайшоў у Пецеў двор, памыў у тазіку рукі, як і ўсе тыя мужчыны, што стаялі ў двары, ля плоту, выцер рукі ручніком. Мы пайшлі ўслед за ім. Тамара засталася на вуліцы адна. (Дарэчы, болей ніколі Сямён Радзівонавіч класным кіраўніком не быў.) Едучы назад, у машыне, усе маўчалі. З таго дня, з таго лета, з маладых гадоў я іншы раз, калі мне чамусьці зробіцца цяжка ехаць далей гэтай дарогай, спыняюся тут, каля дарогі на Уласаўцы, іду ў альтанку, гляджу ў глыбокі лес, у высокае неба між соснамі і ўніз, у зялёны мох, або ў былы снег на зямлі, і на голле дрэў...

Ступаю з абочыны на шашу, будзе аўтобус, спыніцца ля мяне. Там, далей, будуць і Верхняя Гаць, і Высокая Воля, ад адных толькі гэтых слоў-назваў на душы робіцца яшчэ вышэй, а ва ўтульнай сваёй хаце сястра Галя – тая Галя, якая некалі ў маленстве, пасля вайны, у Чорных Пясках доўга і тужліва хварэла, а цяпер працуе настаўніцай, – скажа малой сваёй унучцы, што поўзае па чырвона-зялёным дыване на падлозе: "Во й дзед прыехаў..." А гэты дзед перабудзе тут дзень-два ды далей, у бок Ясельды, у лес за Бобрыкам, далей ад таго рынка ля шашы Мінск – Брэст, а дакладней – ля шашы Масква – Варшава, далей ад каменя ля рэек, на якім скамянела сядзіць Юра... А я да яго не сышоў з аўтобуса, праехаў міма – чаму?

...Выйшаў з палаткі. Стаю. Світае ў небе, між соснаў і тут, вакол мяне, доле. Ногі мае ніжэй каленяў ахутаны празрыстым, лёгкім туманцам. Стаю, слухаю і нічога не чую, бо ўсё вакол – у глыбокай цішыні. Ды лес ужо рухаецца, ён ужо набрыняў галасамі птушак. Птушкі падаюць з галіны на галіну – зверху ўніз і знізу ўверх, падаюць цяжкавата, бо пер'е іх у расе і на

дзюбках – па буйной расіне, і перад тым, як упасці, яны, ашаломленыя яшчэ адным новым у іхнім кароткім жыцці святлом, кідаюць – уверх ці ўніз – кароткі і адчайны свіст, пошчак, спеў, але пакуль кароткі, зараз яны атрасуцца ад расы, абсохнуць, і голас іх стане лёгкім і доўгім. На ніжнюю галіну елкі пад палаткай спаважна села сарока, стракатнула ў мой бок, сціхла, павяла галоўкай туды-сюды – няма нічога цікавага ні на мне, ні вакол мяне, ні ў паўзмроку палаткі – і паляцела між ствалоў і вецця ў бок дарогі, бо адтуль быў пачуўся матор, і хаця ён хутка сціх, усё-ткі паляцела: каб пераканацца, што – усё – матор паляцеў, знік, пакінуў пасля сябе на вільготным асфальце шматок сіняга дыму...

А навальніца ўчора была цёплая, таму цяпер, на світанні, свежа і цёпла, пахне жывіцай. Блішчыць зялёна пад нагамі мох. Мурашкі цяжкавата выпаўзаюць з моху на шыгалле, сціхаюць, сушацца.

Там, за невялікім прагалкам між соснаў і елак, у густым, пакуль што цёмным падлеску стаіць і, можа, глядзіць на мяне сваім малым, вострым вокам жураведь. Але там не ўзварушваецца ніводны лісток, не ўздрыгвае ніводная сцяблінка: яно і добра, калі паляцеў – значыць, ачуняў, акрыяў, знойдзе свой вырай, а тут, на тарфяніках ля Бобрыка і Ясельды, ён нічога сабе не знойдзе. Але й жаль агарнуў мяне, што, во, узяў жураведь ды й пакінуў гэты куток і мяне тут аднаго, хаця я й сам нажадаўся гэтай адзіноты і ціхай лясной, ужо амаль перадасенняй самоты. І я рашуча пайшоў у гушчар, развінуў нецярпліва вецце з мокрым лісцем – няма, жураўля няма нідзе. Толькі пад хваінкай была прымятая трава, на імху ляжалі лустачкі майго хлеба і костачкі ад рыбы ды пустая слімачыная ракавінка са сліззю ўнутры. А на хвойнай густой лапцы ляжала, злёгку трымцела чорнае пяро. Што гэта? Знак адчайнага развітання са мной, з гэтым утульным падлескам? Ці знак вяртання?..

Вярнуўся да палаткі. Сонца ўжо грэла. Ад моху, ад лісця, ад брызенту падымалася пара. Па цёплым, мяккім імху босы пайшоў на ўзлесак, да свайго пня, сеў на ім, звесіў ногі, бачыў перад сабой разбіты асфальт, за ім – пажоўклую атаву, чорны бераг Бобрыка, а далей, скрозь туман – абрысы вясковых хат у садах, над імі – вярхушкі тэлеграфных і электрычных слупоў, адну пустую буслянку на шырокай бярозе з абрэзанай вершалі-

най. Далекавата, на небакраі, стаяла блакітнае сонца, блакітнае, мабыць, ад некранутай – месцамі – каўшамі экскаватараў Ясельды. Потым сонца пойдзе на Велясніцу, на Рудку, пастаіць над дваром Жэні Янішчыц. Потым павольна пакоціцца на Моталь, адкуль ужо чуецца ціхі, як з-пад зямлі, звон нажніц – іх там вострацць перад стрыжкай авечак. Перад тым сонца падсушаць парк графа Скірмунта каля Парэчча, адтуль лёгкі ветрык прынёс пах мокрага сукна з поплаву і пладова-ягаднага віна – таму я пачуваю сябе на пні то маскоўскім царом, то польскім каралём, але раптам адчуваю, як з травінак – па нагах, пад штанамі – пайшлі мурашы, таму які ты тут цар ці кароль...

– Го! Здароў буў! – густы бас за маёй спінай.

Я азірнуўся праз плячо: пад ялінай стаяў мужычок – худзенькі, чарнатвары, у куртузе, белай кашулі навыпуск, выцвілых картовых нагавіцах і белых жаночых басаножках. Ён глядзеў на мяне спадылба, у адной руцэ трымаў лазовы кошык з сыраежкамі і падбярозавікамі, у другой – паляўнічую аднаствволку з абшарпаным, патрэсканым прыкладам.

– Добрай раніцы!

Ён насупіўся, паставіў ружжо прыкладам на зямлю.

– Го! Што ты мэні раніцаеш! Кажы “Здароў буў!“, чы – “здароў быў!”

Я рассмяяўся, сказаў:

– Здароў быў! Здароў быў! Сто разоў – здароў быў, даражэнькі!

– А то – “добрай раніцы, шаноўныя слухачы”! Ужэ й таварышамі былі, і спадарамі былі. А зарэ – на тобі: слухачы! Што за слухачы? Таўкачы!.. – Перастаўляючы ружжо, падышоў бліжэй. – Гарэлка е?

Я ніколькі не здзівіўся паляшуцкай прастаце: даўно яе ведаў, – таму па-свойму, па рагачоўску адказаў:

– Ё.

– Бо шось у чэрэпкові нэ тэе... А дэ?

– Збегай вунь туды, – я паказаў рукой, – там палатка, а ў кутку – рукзак... Знойдзеш.

Чалавек прысланіў ружжо да пня, паставіў кошык на мох, пабег трушком між соснаў...

Я пасунуўся на край шырокага пня, даў яму месца, ён паста-

віў на пень між намі бутэльку "Белавежскай", ужо адкаркаваную ім, можа, яшчэ ў палатцы. Кажа:

– Оно панюхаў – і ўжэ захоцілось жыты. Ну, давай...

Ён выпіў з рыльца, даў бутэльку мне, выцер рукавом кашулі рот, нахіліўся з пня, узяў з моху ружовую яловую шышку, панюхаў, заплюшчыў адно вока, выдыхнуў:

– Го!

Кажу яму:

– Дык там жа й закуска ё. Збегай.

– Нашчо? На во! – ён узяў з кошыка белую, крамяную сыраежку. – Озьмы! Сыро-еж-ка...

І я выпіў крыху, узяў на зубы грыб, ён пах зямлёй, мохам, і, здаецца, туманам – і ўсё гэта было проста і добра.

– Го! – выдыхнуў чалавек яшчэ раз і зноў выпіў, але зусім мала, крактануў, усміхнуўся, і ўсмешка – доўгая, на ўвесь рот – у каторы раз пацвердзіла маё перакананне ў тым, што палешукі – народ не толькі просты, але й вельмі добры з тымі, каго, хоць і каротка, уведае. Зацятасці ў злосці доўга не трымаюць. І – што праўда, то праўда – народ хітраваты, у лапці, як кажуць, яго не абуеш, як яшчэ кажуць цяпер, лапшу яму на вушы не павесіш.

Пытаюся:

– Як цябе зваць?

– Па-нашаму – Янко, па дакументах – Іван, Іван Іванавіч Янчук. Го! А ты хто?

Я назваўся.

– Васточнік?

– Гомельскі.

Янчук спагадліва схіліў галаву, памаўчаў.

– Я – зарэ.

Ён дастаў з кішэні ножык, – свежы драўляны чаранок, чорнае, даўно "з'едзенае" пасярод лязо, – пайшоў да бярозы, адрэзаў ад яе стужку бярэсты, адрэзаў ад галіны штырок, абчасаў яго, праткнуў наскрозь цесна скручаную бярэсту, вярнуўся да пня, палажыў побач з бутэлькай гатовы посуд – карэц, як казаў некалі мой ямнаўскі, ля Дняпра, дзед.

– Збегай, Янко, у палатку, вазьмі там чым закусіць.

Ён збегаў, разлажыў на пні хлеб, нарэзаў сыру, цыбулі, салёнага агурка, адкрыў "Шпроты", і, каб не скаціліся з пня, палажыў сабе на прарэх два апельсіны.

– То давай яшчэ вып'ем. За здароўе тваіх землякоў.

Ён наліў карэц гарэлкі, выпіў. Мне ўжо не было чаго выпіць, і таму я сказаў:

– Я – зарэ. Оно загляну дахаты.

Не паспеў я туды-сюды на сваім пні павярнуцца, як ён прыбег. Найперш праверыў, ці цэлае яго ружжо, панюхаў рулю, палажыў ружжо на мох ля нагі, сказаў:

– Здэцца, ўсё ўмію, а стрэляты – ны, ны ўмію. У сорак чацвёртым булы ўзялы ў войско, то ў Прусіі хлопцы завязвалі мні гонучою ліво гоко – ны міг прыжмурыты...

– А сёння навошта з ружжом?

– Трэ жураўля одного застріляты.

Гэта ён сказаў так спакойна, што я ледзь не ўпаў з пня.

– Жураўля?

– Так, Хвэдоровіч. Жураўля.

Я прыўзняўся з пня.

– Як так? Жураўля?!

– А от так. Жураўля!

– Янко Іванавіч!..

– А от так! Жураўля...

Больш мы не пілі, не елі. Янко ўзяў ружжо, пайшоў на ўзгорачак між соснаў. Там было светла, грэла сонца, мох, напэўна, зусім прасох. Янко палажыў ружжо на зямлю, зняў басаножкі, лёг тварам уверх, насунуў картуз на вочы, залажыў рукі пад патыліцу, маўчаў. Я падышоў да яго, прысеў побач. І тады ён расказаў пра сваю бяду.

Учора, перад навальніцай, прыехаў з Піснка сын, у сваім "Аўдзі" прывёз чалавека з чорнымі валасамі ніжэй лапаткаў. Чалавек гэты рабіў чучалы птушак і дробных звяроў для школьных краязнаўчых музеяў, пачуў, што на лугавіны ля Бобрыка калі-некалі садзяцца жураўлі. Так яно ўчора і было. Зусім блізка ад саду, ля сажалкі, бераг якой густа зарос лазняком, села жураўліная пара. Відаць, птушкі былі ўжо старыя: апускаліся да зямлі цяжкавата, узмах крыла быў рэдкі, задоўжаны. Звесіўшы дзюбы, нерухома стаялі між высокімі купінамі. Калі грымнуў гром, яны трывожна пераступілі з нагі на нагу, падскочылі – хацелі ляцець на алешнік, перад лесам. Але тут па іх стрэлілі. Адзін журавель адразу ўпаў на купіну, нават не торгнуўся ні крылом, ні нагой. Другі журавель быў ужо ў нізкім лёце, але

апусціў крылле, стаў на зямлю, глядзеў на суродзіча, што нерухома ляжаў на купіне, і вецер кінуў у бок ад яго шэры пух і пярынкі. А ў садзе валасаты нерваваўся: хлопнуў па кішэнях – патронаў не было, забыўся ў хаце. Ён разгублена замітусіўся, знайшоў пад нагой камень, моцна кінуў яго ў жураўля. Янко сам з двара бачыў – камень трапіў-такі ў бок жураўля. Птушка падскочыла, забіла ў паветры крыллем, паднялася вышэй, зрабіла над забітым жураўлём круг, паляцела ў бок лесу, павольна, цяжка, нізка, хіснулася над алешнікам, і тады ўпала на дрэва... Янко сказаў, што старыя, нямоглыя жураўлі або падранкі лятуць паміраць на хмызняковыя балоты на Выганаўскае возера, некалі, яшчэ пры Сталіне, жураўлі збіраліся між возерам і Свяціцай – вёскай, але потым на тым, паўночным беразе людзі зрабілі бетонныя пляцоўкі, з якіх узляталі верталёты, паставілі катэджы... Адтуль звычайна налятаў Машэраў, верталётам на калгасныя палі Палесся... На супрацьлеглым баку возера – канал з рыбалавецкімі маторамі, дачы высокіх асоб з Мінска і Масквы, дык жураўлям засталіся прынаднымі прыазёрныя балотцы, у густых хмызах, – на ўсход ад вады, у бок Раздзялавічаў. Жураўлі ведалі надзейны нябесны шлях ад Гарыні, Прыпяці, Стыра, Стадола – над Ясельдай, Бобрыкам – на Выганошчы. Туды, напэўна ж, маецца ляцець, калі здужае, падбіты журавель. Янко ведае, бачыў з двара: птушка ўпала на дрэва, і сёння раненька ён абышоў узлесак, бачыў маю палатку і знайшоў у гушчары мясціну – там, кажа Янко, ласаваліся вароны, ці сарока, ці шуляк, бо толькі іхнія дзюбы могуць гэтак лёгка дастаць корм з ракавінкі.

Трэба знайсці яго, казаў Янко. Развялося гэтых спекулянтаў, камерсантаў. На птушак ужо абрынуліся... Анатоль Хведаравіч, дужа шкада старога, слабога, падбітага жураўля. Ён не выжыве ўжо. Сёлетні вырай ужо не для яго. І трэба схаваць птушку ў зямлі. Бо як памрэ – знюхаюць труп, нахлынуць сюды ўсе пацукі. Жудасць бярэ, як пацукі расцягаюць птушку, да перыйка. Не, жураўля трэба схаваць у зямлі. Але яго трэба знайсці і застрэліць. Каб не пакутаваў.

– Не! – рашуча сказаў Янко з зямлі. Пацукам жураўля ён не дасць. Пацукі – “найгідкае” стварэнне, яны першымі збеглі з Ноева каўчэга, калі карабель з божымі стварэннямі натыкнуўся на скалу...

Гэта Янко сказаў, засынаючы. Праз колькі хвілін ён расплюшчыў адно вока, міргнуў мне і дадаў:

– Я, Толя, галоўны калгасны вартаўнік. На свінарніку ноччу сторожую, днём лаюся са сваёй Янковіхай. Чаравікі мае хавае, кажэ: вон, стары валацуга – басаножкі свае не дае, то я – нышком, нышком, р-раз – і басаножкі ў кішэнях... Кажэ: пры Ельцыну надто дорогімі сталі чаравікі. Усі на його, бідного, – і махія, і чачэнцы, і бабы... Разбудыш мэнэ, Толя, праз годыну. Збігаю дохаты, прынэсу каструлю і шчэ чого...

Янко заплюшчыў вочы.

Я сядзеў на пні і думаў: Янко, Янко, а ці не сам ты, а ці не сам я ўжо даўно падбітыя? І ці не шукаюць нас, дый не толькі нас з табой, – ці не шукаюць нас людзі з ружжамі, дый не толькі з ружжамі – з лазерам, а мы хаваемся, хаваемся – хто дзе... Мой сёлетні адпачынак у палескай глушы, – дзякаваць Богу, яшчэ ёсць на зямлі глухія куткі Палесся, – гэта не проста адпачынак – гэта ўцёкі...

Я падышоў да Янка, паклаў яму на плячо руку, але ён не спаў, глядзеў прымружаным чорным вокам кудысьці ў неба між соснамі. І раптам паставіў рукі на дол, так крыху пасядзеў, потым падхапіўся, азірнуўся вакол, прыслухаўся, пабег на прасеку. Ружжо і кошык з грыбамі пакінуў тут. Я ж падумаў: а ці не прыйдзецца мне ўцякаць і ад цябе, дарагі Янко?..

Я сабраў усё з пня ў пакет, занёс у палатку, перанёс туды ружжо і кошык. Янко вярнуўся з невялікім чыстым мяшком за плячыма, дастаў з яго каструлю, невялікі трыножнік, лыжку, двухлітровы тэрмас з вадой, гліняную місачку, некалькі тоўстых аржаных бліноў у белым ручніку, дзве чаркі, сказаў, што памякчэла яго Ганна, памагла зладаваць мяшок і нацягнуць на ногі гумовыя боты, прасіла не дакучаць "чоловікові, учытэлю" і каб хутчэй ішоў дахаты – паспаць перад начным вартаваннем. Янко наліў сабе чарку гарэлкі, выпіў, яшчэ адну, крактануў, выцер рот рукавом, высыпаў з кошыка на мох грыбы, сказаў, каб я зварыў сабе грыбоў, а сам схапіў ружжо і пабег прасекай туды – на поплаў, за якім быў сад і ў садзе – хата...

...Недалёка ад палаткі, на прагалку між дрэвамі, я сарваў рукамі дзёран, аблажыў ім, зямлёю ўверх, пясчаны круг, паставіў трыножнік, знайшоў смалісты пянёк, адарваў ад яго лучыны, сабраў сухога голля, наліў у каструлю вады з тэр-

маса, пачысціў грыбы, запаліў агонь... Калі грыбы зварыліся, я патушыў агонь, засыпаў вуголле зямлёй. Янко сёння ўжо, напэўна, не прыйдзе сюды. У лесе ціха, так ціха, што, здаецца, чутно, як варушыцца вялікі мурашнік пад елкай. Паўдзённая спёка – і ў лесе, асабліва між соснамі, душна, птушкі сціхлі ў голлі дрэў, у кустах. Неба над лесам, над Бобрыкам, над нябачнай Ясельдай – яснае, светлае. Я абышоў лес наўкола, паглыбіўся ў густую глуш – думалася, што, можа, знойдзецца які след жураўля, але – нічога. Адно знайшоў, на доўгай невысокай градзе, зарослыя травой чорныя, старыя шпалы – рэшткі вузкакалейкі, якая йшла некалі на Целяханы, і на Лунінеччыну. Той чыгункай вывозіўся колісь тутэйшы лес у Еўропу. Рэйкі палешукі разабралі на бэлькі.

Пастаяў ля жураўлёвай хваінкі. На ўсякі выпадак прынёс з палаткі і палажыў на мох яшчэ варанай рыбы, паставіў слоік з вадой. Пайшоў да свайго пня, сеў на тоўсты, – выходзіў з зямлі, – корань, прыхінуўся спінай да дубовай кары, глядзеў перад сабой і нічога не бачыў, заплюшчыў вочы. Толькі пачуў, як з яліны побач упала шышка...

Мабыць, я прыдрамаў, бо калі ачомаўся, то ў лесе стала ўжо вечарэць. Ад соснаў на ўсход ляглі доўгія ствалы ценяў. Я паціху ступаў па гэтых ствалах ад свайго пня ў бок палаткі, і раптам над галавой маёй нешта прайшло ў паветры – яно, паветра, ціха калыхнулася па твары, валасах. Я глянуў уверх: жуpавель! Ляцеў ён нізка, ужо між соснаў, паволі пакалыхваючы крыламі, і ўжо апусціў доўгія ногі, дрыгаючы імі – збіраўся апусціцца на зямлю ў сваім падлеску – і таму падняў крылы, узмахнуў імі і яшчэ ўзмахнуў над сабой, знайшоў свой прагалачак у гушчары і ўпаў ўніз, на зямлю. Я асцярожна, каб не трэснула пад нагой сухая галінка, падышоў да палаткі ззаду. Як жа ўвайсці ў яе, каб не спудзіць птушку? Яна, пэўна, глядзіць з-за вецця на ўваход. Хваінка не зварухнулася. Ці знайшла там птушка корм? Што б там ні было, а мне трэба паказацца – трэба ўвайсці ў палатку.

Збоку, блізка, затрашчала сухое голле. З прасекі сышоў і йдзе сюды Янко з ружжом у руцэ. І тады я рашуча ступіў з-за палаткі – настрэчу Янку. Ён крыкнуў:

– Го! Ну, як вітэ? Живы-здаровы?

– Усё добра, – ціха сказаў я. – Хадзем у палатку.

Ён залез за мной у палатку, глянуў па кутках, спыніўся кароткім, прымружаным позіркам на пакеце ў кутку.

– А я во паспаў удома. Зарэ – на свінарнік. Тут ныдалэчко, чэрэз мост... Ну, шчо? Жураўля ны чувыты? Як жывы яшчэ – то обовязково прылэтыць сюды, дэ стратыў жураўлісу. А на Выгоновскому гозэры, подбытого, старого, ёго могуць задзюўбаты гінчы, здоровы жураўлі. Обовязково, як зможэ подняться, прылэтыць сюды... А я позбаўлю яго од покутаў... Р-раз – і нэма!

Янко сядзеў на папаратніку і ўсё пазіраў на пакет, потым пачухаў патыліцу:

– Шось голова болыць...

Я падаў Янку пакет, там было ўсё: і гарэлка, і закуска. Ён выпіў адразу дзве чаркі, закусіў хлебам з цыбуляй, наліў яшчэ чарку, але выпіць не паспеў: з гушчару, з-пад хваінкі, пачулася слабое-слабое "курлы", такое слабое, быццам аднекуль здалёку і звысоку або як з-пад зямлі. Янко адгарнуў мох, паставіў чарку, але яна ўпала на бок. Янко вылаяўся, хацеў падняцца, упёрся рукамі ў зямлю, але плюхнуўся вобзем, пераваліўся на спіну, адчайна ўзмахнуў нагамі ў паветры і аціх, заплюшчыў вочы.

Я ўзяў ружжо, дастаў з яго патрон, адкінуў ружжо ўбок. Янко спаў. Прайшло з паўгадзіны, ужо ў лесе ўцямнела. Я разбудзіў яго і сказаў, амаль загадаў:

– Янко Іванавіч! На работу!

Ён прамармытаў знізу, з зямлі:

– А дэ журавель?

– Паляцеў.

Ён узяў бутэльку, паглядзеў – пуста, нічога не сказаў, нават не ўздыхнуў, я падаў яму ружжо, аддаў патрон, ён здзіўлена паглядзеў на мяне, выпаўз з палаткі, цягнучы за сабой ружжо, стаў на ногі, дастаў з кішэні патрон, плюнуў на яго, пайшоў з лесу на дарогу, на мост...

Я стаяў у вячэрнім лесе, слухаў цішыню і чакаў. І птушка на высокіх нагах выйшла з веццяя, нізка і слаба падскочыла, стала глядзець на мяне. Я не паварушыўся, нават вокам не міргнуў, хоць вачэй маіх журавель і не мог бачыць у цемры. А можа і бачыў – па-свойму, па-птушынаму? Я ж яго вочы бачыў – нават не самыя вочы, а слабенькі бляск у іх ад месяцовага святла. Той бляск ледзь прыкметна трымцеў – мабыць, трымцела ўся птуш-

ка. І ўсё-такі я варухнуўся – ступіў крок, другі да жураўля. Бляск у яго вачах неспакойна ўздрыгнуў, але птушка стаяла на месцы. Я зрабіў яшчэ крок, і тады крылы цяжка ўзмахнулі – журавель адскочыў крыху назад. Я сеў на мох, адчуў яго вільготны халадок. На гэтым мы з птушкай моўчкі пагадзіліся – я сядзеў нерухома, яна нерухома стаяла. Потым я ціха сказаў у цемру:

– Курлы.

Журавель падняў сваё месяцовае святло ўгору, знерухомеў.

Я – яшчэ раз:

– Курлы.

І тады журавель на ўсё горла так голасна курлыкнуў, што на мяне ажно раса ўпала з дрэва, і ў гэтым голасе я пачуў: ты мяне, чалавеча, не перадражнівай, не бунтуй, я ўсё ведаю і лепей памаўчым. Я быў упэўнены: крылле ў жураўля не паранена, а, мусіць, ад каменя, кінутага чалавекам, яму балюча ў баку...

Журавель узмахнуў крыламі, скочыў яшчэ і яшчэ раз да мяне. Я працягнуў руку яму насустрач, ён не бачыў яе, злажыў крылле, стаяў, і месяцовае святло ў вачах яго не трымцела. Потым мы наблізіліся яшчэ адзін да аднаго. Я ледзь дыхаў – баяўся чым патрывожыць яго, і журавель таксама, напэўна. І ўсё-такі мы абодва дыхалі – таму што абодва яшчэ жылі. Патрон пакуль яшчэ схаваны ў кішэні Янко...

Птушка зусім наблізілася да мяне. Не я, чалавек, быў першым у нашым набліжэнні. Даруй мне, птушка, ты слаба ведаеш наш свет – ты бачыш яго зверху, з неба.

Журавель стаяў ля мяне, расшчапіўшы дзюбу, я чуў яго лёгкае і цёплае дыханне на працягнутай мной далоні. Я хуценька і немітусліва намацаў у цемнаце загорнутую ў газету рыбу, панюхаў яе: рыба была яшчэ не сапсаваная: узяў яе, падышоў да жураўля, працягнуў да дзюбы. Ён здаля і асцярожна дзеўбануў. Скурай далоні я пачуў халодны кончык дзюбы. Птушка пераступіла з нагі на нагу, пад самую далонь, і дзяўбла, і глытала. Я вынес з палаткі вады, паставіў слоік на зямлю, ён блішчаў пад месяцам, і журавель стаў глытаць ваду.

Жывем, брат, жывем! Хоць і пабітыя мы ў бакі свае, але – жывем, крыллем яшчэ махаем...

Я датыкнуўся рукой да аднаго боку жураўля – нічога, маўчыць. Датыкнуўся да другога – ён дзеўбануў у руку, адскочыў

назад. Баліць? Баліць. Адаб'юць, брат, і пячонку, і ныркі... Умеюць адбіваць, асабліва рукамі – спраўна, дакладна, і – без знакаў на целе. Каменем – гэта насляпую, хоць папасці могуць і ў скронь...

Я ціха ўзяў жураўля пад крыло – хацеў узяць на рукі, занесці на ноч да сябе ў палатку, але ён стаў адчайна біць крыламі і адскочыў у свой гушчар. Што ж, хай – так яму будзе спакайней. Ды й мне...

Ля палаткі я азірнуўся на падлесак: вока не свяцілася. І сам месяц ледзь віднеўся з-за цёмных аблокаў...

Уранні я ўжо быў намерыўся, з розным кормам, наведаць уладанне жураўля, але не паспеў: Янко з ружжом у руцэ бег трушком між дрэваў да палаткі, ажно задыхаўся.

– Го! Здаровы булы! Ны прылітаў?

– Не.

Ён не паверыў мне, пабег у гушчар, і я кінуўся за ім – вырашыў: заламаю ў руках яго ружжо да зямлі, калі трэба – павалю яго на зямлю, калі трэба – наб'ю па срацы. Але Янко ўжо стаяў ля хваінкі, трымаў у руцэ чорную пярынку, зіркаў няўцямна, як спрасоння, на хрыбет рыбіны, потым прымружаным вокам доўга глядзеў на мяне: ён усё зразумеў. І тады я падумаў: з гэтай хвіліны мы з ім ворагі, адзін з нас выйдзе з гэтага лесу пераможцам, другі – пераможаным.

Янко сцішана абышоў лес паблізу, вярнуўся. Мы моўчкі пайшлі ў палатку. Ідучы, кожны з нас вырашаў: як быць нам тут далей, што рабіць, што адзін аднаму гаварыць... Я сеў на сена, Янко – на папаратнік, ружжо ён паклаў ля нагі.

Я ведаў, што палешукі, калі што, народ зацяты, таму загаварыў першы.

– Янко Іванавіч, як ноч прайшла?

– А так собі. А от днямі...

І ён расказаў: прыйшла ў суседні раён на ферму грузавая, з кабіны вылез малады чалавек з чорнай барадой, даў загадчыку фермы і галоўнаму заатэхніку нейкія дакументы з важнымі пячаткамі. Кузаў машыны быў загружаны свіннямі. На лясной дарозе машына з'ехала ў канаву, упала на бок – і свінні ўцяклі ў лес. Якраз патрапіла міліцыя, дакументы на свіней аказаліся падробленымі, чорная барада таксама была робленай, міліцыя свіней не знайшла, выклікалі "спецназаўцаў", – тыя таксама

свіней не знайшлі. Тады ў лес прыбыла прэзідэнцкая ахова. Яна знайшла свіней ажно ў Белавежскай пушчы, але на абарону белых свіней дружна выступілі ўсе белавежскія дзікі-вепрукі, і ахова адступіла, а свінні з дзікамі аблажылі Віскулі. Прэзідэнт даў каманду: пакінуць усіх свойскіх свіней і дзікоў у спакоі да наступнага рэферэндуму – па пытанні: што рабіць са свіннямі?...

Я рассмяяўся: мне стала весела ад неўміручай дасціпнасці палешукоў.

– А ці не ты, Янко, усё гэта прыдумаў?

– Го! Каб жа я! А то ж – не, не я!..

Я паспачуваў Янку:

– Ну, нічога, яшчэ і ты нешта прыдумаеш.

Янко выглянуў з палаткі, прыслухаўся, потым на вуха мне шапнуў:

– А ты не выдасі мэнэ? Бо я ўжэ прыдумаў... Ты знаеш? Пазняк ны ў Гамэрыцы схаваўся, а тут, на Поліссі, дэсь у болоці, і до ёго як оно прэзідэнт лэтыць у Азію, на "энлэа" прылітае Галіна Радзівонаўна з Шклова, і тому можэ буты рэферэндум по гэтому пытанні...

– Ай, Янко! Пайшоў ты!..

– Гэны ліс муй! І ныкуды я ны пойду. Гэто вы, могілёўскі ды вітэбскі, можэтэ куды заўгодно пойты, а мы, полішукі – ны! І мова наша будэ вічно! Мы і ў райком прыходылы з ею і зарэ до вэртыкалі звэртаемось по-свойму, і нас заўшэ чулы й чуюць. Го!

– Дзякуй табе, Янко! Дзякуй, што ты ёсць!

Янко быццам і не чуў мяне – так загарэўся ў самім сабе і працягваў:

– І ўсі ховаюцца ў нашых лісах! Особліво подбіты...

Янко схамянуўся, ажно прыўстаў:

– А дэ ж журавель?..

Ён устаў з зямлі, узяў ружжо, выйшаў з палаткі, зняў з галавы картуз, кінуў яго у гушчар, прыслухаўся, пайшоў за картузом, шукаў яго там, шукаў – не знайшоў. Я выйшаў з палаткі дапамагчы яму. І здагадаўся я глянуць угору, на старую яліну над падлескамі: картуз гойдаўся на шырокай лапцы – бо ён здольны, як лёгкі дыск, пушчаны рукой понізу, завярнуць па крывой угору. Мы з Янкам шышкамі збілі картуз з яліны.

– Дэ ж він подзіўся? – гэта Янко – зноў пра жураўля. Памаўчаў. І раптам сказаў мне на вуха: – А вітэ... вітэ, часом, ны ховаетэсь тут?

Два дні я чакаў, што ён, нарэшце, спытаецца , чаго я тут. Пытанне было ў лоб, і я наўпрост адказаў:

– Хаваюся!

Янко доўга глядзіць спадылба мне ў вочы.— Ны шуткуетэ?

Цяпер я не адказаў яму. Ён павярнуўся і лёгка пайшоў між соснаў і ялінаў на прасеку, але хутка вярнуўся, сказаў:

– Вітэ пробачтэ, оно я скажу участковому...

І не пабег – пайшоў спаважна, нетаропка, як гаспадар гэтага лесу, гэтага краю, Янко, ад якога цяпер залежаў лёс і падбітага жураўля, і мой лёс... Але ж я не падбіты і не птушка... А можа і падбіты? Толькі не хачу ведаць гэтага, а Янко... ён, мусіць, ведае: вока ў яго пранізлівае. Я схадзіў у Баброўню, у краму, узяў там марожанай рыбы, хлеба, яшчэ сяго-таго. Рыбу варыць не буду: журавель, здаецца, будзе глытаць яе сырой. На ўскрайку ляжала даўно ўтравелае, але не зусім гнілое дрэва з абламаным голлем. Я прыўзняў яго за камель: у чорнай сырой зямлі гэтулькі чарвякоў заварушылася, ружовых, жоўтых. Схадзіў у палатку за бляшанкай, набраў у яе чарвякоў разам з зямлёй, і ўсё – рыбу, чарвякоў, ваду ў слоіку – занёс пад хваінку, нахіліў там шырокую зялёную папараціну...

Сяджу на пні. Яшчэ даволі рана для абеда. Цішыня ў лесе за спінай і на шашы. Але во шышка яліны ўпала на мяне, і я здрыгануўся... Ях, Янко, Янко! Вывеў ты мяне з раўнавагі, парушыў мой спакой, а я ж гэтага спакою шукаў, быў знайшоў тут, ведаў жа куды еду, чаго хачу, ты ж мяне тут за якія суткі клопатам паспеў ужо звязаць то з жураўлём, то з гарэлкай, то з участковым... На пні мне стала мулка, і я споўз з яго, прыхінуўся спінай да кары, сядзеў на мяккай, цёплай зямлі між вузламі кораня. Адсюль добра бачыцца і чуецца зялёнае ўлонне і сіняе нябессе... Ну, Янко!.. Што ж, буду чакаць і нашага з табой жураўля, і нашага ўчастковага. Не адышоў я ў гэтым лесе ад неспакою ў гэтым свеце. Чорт з вамі! – адыду-ка, уцяку зноў у маладосць. Сам бачу, што чалавеку на парозе старэння, калі ён застаецца сам з сабой, так люба ўспомніць тое, што ўжо вельмі далёка – як у нейкай Азіі, за нейкай станцыяй Ясіль, на беразе Ішыма...

На станцыі Есіль наш цягнік, нарэшце, спыніўся, і мы, студэнты-другакурснікі з заходнебеларускага горада, пагрузіліся ў машыны з высокімі бартамі, і тыя машыны бясконцай стэпавай дарогай павезлі нас кудысьці на ўсход. У кузавах мы стаялі, сядзелі, віселі на бартах і ўсе дзвесце кіламетраў да цэнтра саўгаса трасліся, а камсорг, адзіны на курсе студэнт-камуніст, Жыгун размахваў ля кабіны рукой, ляскаў на цвёрдых каўдобінах бліскучымі ўстаўнымі зубамі і ўсю дарогу спяваў-гарлаў адно і тое ж: "Здравствуй, земля целинная!" Спачатку дзяўчаты яму падпявалі, але потым, стомленыя дарогай, сціхлі і толькі, калі асабліва трасло, стагналі: "Ой, мама!" А мне ўсю дарогу да Есіля было сумна – таму што сумна глядзела ў стэп русавалосая дзяўчына. Яе вялікія шэрыя вочы слязіліся ад udараў стрэчнага ветру, яна выцірала іх ражкамі белай касынкі, цёрла кулачкамі, але ўсё глядзела ў стэп і дзівілася з таго, як гэта кусцікі кавылю з коранем вырываюцца з зямлі і нясуцца, нясуцца паперадзе і збоч машыны і знікаюць у стэпе. Мне сумна было і ўсю дарогу ад нашага Палесся да Есіля, таму што сумныя былі яе вочы. Я бачыў гэтыя вочы, калі праходзіў па вагоне: Тоня сядзела ў кутку купэ і глядзела за акно. За акном беглі і беглі назад лясы, палі, азерцы, хаты... І аднойчы, ужо недзе на мяжы з Расіяй, мне раптам падалося, што на нейкім паўстанку Тоня выйшла з вагона – і раптам бачу: яна стаіць на пагорку, пад бярозай, махае ўслед цягніку рукою, яе светлая сукенка і русыя косы паляцелі з ветрам на захад, і ўся яна знікла, а мне ўдарыла ў галаву: каму яна махнула рукой на развітанне, каму?.. Я вярнуўся назад у вагон: Тоня сядзела ў сваім кутку, паклаўшы галаву на рукі... Я замарудзіў крок – яна расплюшчыла вочы і неяк зусім бяздумна зірнула на мяне. Побач з ёю і насупраць, на лаўках, сядзелі, прыціскаліся адна да адной дзяўчаткі-аднакурсніцы і драмалі. Я быў спыніўся – навошта? Не ведаю. Але Тоня заплюшчыла вочы, і я пайшоў далей у сваё, суседняе, купэ. Сеў на лаўку, між хлопцаў, яны таксама ўсе драмалі, а Жыгун нават хроп – на ўвесь вагон, пабальшавіцку, нібы малады гаспадар жыцця, які на хвілінку прыкарнуў перад вялікай бітвай за светлае будучае чалавецтва. За вагонным акном ужо добра ўвечарэла. У вагоне стаяла слабое электрычнае святло, зорак у небе над бранскімі лясамі не было відаць... Я падумаў, што гэта ў сне, але калі сцішыў ды-

ханне, услухаўся ў цішыню і стук колаў, то – нечакана і з асцярожнай радасцю зразумеў: не, то не ў сне, то за перагародкай, у тым купэ, нашыя дзяўчаты ціха, задуменна, быццам кожная сама сабе спяваюць: "А ў полі вярба нахілёная..." Я слухаў, слухаў, заплюшчыўшы вочы, шукаў, шукаў Тонін голас, але голасу яе так і не знайшоў... Раніцай, недзе за Пензай, калі паравоз гудзеў над рускай бязлеснай раўнінай, Жыгун у тамбуры, адзін на адзін, сказаў, даючы мне цыгарэту: "Казлоўская толькі што данесла мне: Тоня ноччу прашаптала ў сне імя... Але не тваё. Не скісай, дружа, трымай хвост! Ну!" – і ён злёгку ўдарыў мяне кулаком у грудзі. Высокі і тонкі, як жэрдка, Жыгун маленькімі праніклівымі вачыма глядзеў – як скрозь мяне – далёка ўперад. І ён падтрымаў мой дух. Я нутрана ўзбадзёрыўся, сказаў Жыгуну: "Дай руку!.." Але ўсё роўна мы з Тоняй ехалі і праз Волгу, і па Урале, і пасля Есіля, да берагу Ішыма – абое самотныя: я сумаваў таму, што яна была побач, яна сумавала таму, што нехта быў ад яе далёка... Хлопцы днямі бадзяліся па ўсім цягніку, выходзілі на пероны буйных станцый, у вакзальных буфетах адшуквалі піва, хадзілі ў тыя вагоны, дзе "жылі" старшакурсніцы, вадзіў іх туды Жыгун – на правах былога інструктара райкама камсамола і цяперашняга камсорга філфака, а я больш сядзеў у сваім купэ з разгорнутай кнігай-раманам Гардона "Да сгинет день...", і мне не чыталася, усё думалася: хай бы згінуў той вечар... У той вечар мы ўсёй групай сабраліся ў інстытуцкай аўдыторыі, і я чытаў напамяць хлопцам і дзяўчатам вершы тых паэтаў, пра якіх яны ў школе толькі нешта чулі або зусім не чулі, – чытаў Блока, Ахматаву, Ясеніна, нашых, забароненых тады, Дубоўку і Пушчу. Аднакурснікі-першакурснікі здзіўлена слухалі, а калі мы ўсе гуртам ішлі ў інтэрнат па сухім асеннім лісці, нам было гэтак добра ў той ціхі свежы вечар. Тоня ў вестыбюлі інтэрната, адкінуўшы рукой на плячо хвалю русых валасоў, ціха сказала мне: "Толя, перапішы мне Блока..."О подвигах, о доблести, о славе..." І перапішы мне, калі ласка, Дубоўкаў верш пра Беларусь-шыпшыну... І прынясі ў нядзелю... Я буду чакаць..."

У нядзелю, днём, я пастукаўся – яна адчыніла дзверы і ў пакоі стаяла перада мною – у кветастай паркалёвай сукенцы, у чорных чаравічках на высокіх абцасіках, ад валасоў яе ішоў пах нейкіх кветак, напэўна, палявых ці лугавых – гэтак, напэў-

на, пахла мыла, з якім яна нядаўна памыла валасы, і сарамліва ўсміхалася – вядома ж, сарамліва таму, што вось нейк атрымалася: яна адна ў пакоі, і я стаю перад ёю, трымаю ў руцэ сшытак, а дзяўчаты, мусіць, пайшлі ў кіно ці ў парк – ой, ну так ужо атрымалася, прабач, што я адна... Я аддаў ёй сшытак з перапісанымі вершамі. “Дзякуй табе, Толя... А давай пап’ем разам гарбаты, пачастую цябе паляндвіцай... Мама перадала...” Мы сядзелі за сталом, насупраць адно аднаго, елі паляндвіцу, якая пахла кропам, кменам, пілі гарбату, я чытаў вершы – ціха, усхвалявана, у Тоні ў вялікіх шэрах вачах трымцелі слязінкі, і шчокі свае яна трымала ў далонях. Сказала: “Дома на гарышчы, у старым куфэрку, я знайшла, калі хадзіла ўжо ў дзесяты клас, часопіс “Калосьсе”, тры нумары. Гэта засталося ад бацькі майго... загінуў недзе ля Варшавы... Мама казала мне: ты камсамолка, у бацьку ўдалася – ён быў камсамольцам, усё хадзіў у Нясвіж... А я, Толя, тое “Калосьсе” ўзяла ды прынесла ў школу, паказала настаўніцы, думала, тая толькі радая будзе – яна ж была настаўніцай беларускай літаратуры. А яна паказала часопіс завучу... Я цягнула на сярэбраны медаль, і мне гэтага медаля не далі, ведаю: за “Калосьсе”...

Ай, Тоня, Тоня! Як ты хораша тады ў пакоі казала па-беларуску... Я зайздросціў табе – што ты адтуль, з невядомай мне Клеччыны і бацька твой быў і камсамольцам, і тэбэшоўцам ў той Беларусі, а ты яго дачка і так хораша кажаш на роднай, матчынай мове... І ў свае семнаццаць гадкоў ты ўжо зведала палітычны ціск: з-за таго “Калосься” з роднага гарышча табе не далі медаля... А чорт з ім, з тым медалём, абы ў цябе былі такія прыгожыя вочы – кажаш, такія, як у бацькі твайго? У мамы, кажаш, чорныя вочы?.. Ну, дзякуй табе, дзяўчыначка, за паляндвіцу і за гарбату. Нічога, што нашыя кубачкі даўно астылі – бо я слухаў цябе, піў тваю мілую гаворку і надоўга апускаў свае вочы, глядзеў у стол, у кубачак – мне было нейк няёмка і нават трывожна бачыць твае вочы. І я нават бы падумаў, што во як блізка, пад адным сталом, твае ногі ў чорных чаравічках і калені пад квятастай, гэткай просценькай паркалёвай сукенкай... Упэўнены: гэтую сукенку пашыла табе мама недзе там, у вёсачцы ля Клецка... Дзякуй за гарбату – ад яе ішоў гэткі незвычайны водар... гэта, кажаш, водар рамонка і дзяцельніка? І крыху мяты?.. І было ж мне, дзяўчынка, тады з

чаго ап'янець... А ты ж і мяне слухала, падперла далонькай шчаку – калі я казаў табе пра сваё далёкае Дняпро, пра свае родныя Ямнаўку і Вікоўку, пра пасляваенныя Чорныя Пяскі ля Ясельды, пра палонных немцаў у маёнтку, пра тое, як я ўдарыў аднаго з іх кулаком у жывот – гэтак адпомсціў за пагібель маёй маладой мамы... З таго дня ў тваім, дзяўчыначка, пакоі я ўжо сціхаў прад табою і пры сустрэчы ў калідорах, і на вуліцы... Не ведала ты толькі аднаго: чаму перасталі мы напрыканцы нашай першай студэнцкай восені збірацца вечарамі ў інстытуцкай аўдыторыі. Таму што вы ўсе прыйшлі, а я ўзяў і не прыйшоў... таму што Жыгун сказаў мне ў калідоры днём: не трэба збірацца, і не трэба чытаць вершаў. І сказаў Жыгун, што намі, асабліва мною, зацікавіліся... Вось чаму я перапісваў адной табе ў сшытак цікавыя вершы, асобныя строфы, нават асобныя радкі... Ты прапанавала мне запісаць свае вершы – і я гэта зрабіў: запісаў свае вершы ў твой сшытак. Ты мне нічога пра іх не казала, толькі іншы раз здзіўлена глядзела на мяне... А я думаў, ты хоць крыху ўсміхнешся, калі прачытаеш: "Па вуліцах плыў тапаліны пух – за горад, за рэчку, у белае мора рамонкаў..." І дзякуй гэтаму Жыгуну: пасля яго папярэджання я стаў больш задуменным, такімі ж задуменнымі, нават нейкімі таямнічымі сталі мае ўласныя радкі. І яшчэ дзякуй Жыгуну за тое, што вечарамі іншы раз мне было прыемна з хлопцамі-фізматаўцамі адчуць смак і сілу віна – таннага, цёмнага, яго мы закусвалі камсой і хлебам. Дзякуй студэнцкім чорным віну і хлебу і белай салацы! Будзь здарова, дзяўчынка!.. Заўтра мы з Васем, якому не даецца вучоба і ён ні слова не можа сказаць на семінарскіх занятках, пойдзем у гарваенкамат – прасіцца, каб нас узялі добраахвотнікамі ў Венгрыю, каб з-задушыць там чорную кантр-рэвалюцыю, абараніць нашага др-руга Р-ракашы... Будзь здарова, дзяўчынка!... Не з-за тваіх вачэй хачу загінуць у Венгрыі, а з-за Р-ракашы! Вып'ем, хлопцы, яшчэ! Тэорыю мар-рксізма-л-ленінізма вывучым там, на вуліцах Б-будапешта, ля возера Б-балатон! Будзьце заровыя, хлопцы! Будзь здароў, Хрушчоў! Хай тут сядзіць у аўдыторыях Жыгун з дзяўчатамі і хай ён толькі паспрабуе глянуць на Тоню, на яе ногі, хай толькі пасмее!.. Ах, Толя, Толя, не ўзялі цябе з Васем у Венгрыю, сказалі: "Марш на лекцыю! Але помніце: спатрэбіцеся – паклічам".

...Цягнік грукацеў на рэйках, прада мною на століку ляжала разгорнутая кніга "Да сгинет день...", але я не чытаў... А калі нас, нарэшце, прывезлі ў цэнтр саўгаса і мы сядзелі на чамаданах, на рукзаках ля канторы, я рашуча падышоў да Тоні, узяў яе за руку, адвёў у бок ад дзяўчат (ад нечаканасці яна не супраціўлялася, здзіўлена-паслухмяна ішла за мною) і сказаў: "Тоня, не сумуй! Усё будзе добра! Павінна быць добра!" Яна ціха сказала: "Дзякуй, Толя" і пайшла да дзяўчат. І тады я зразумеў, што не кахаю Тоню – бо мне стала неяк вельмі лёгка на душы, і я казаў ёй у сабе: я думаў, што кахаю цябе, ажно – не, я й найдалей буду добра пра цябе думаць, па-сяброўску да цябе адносіцца, чым змагу – дапамагу, уратую, можа, у якой бядзе, у мяне не слабыя рукі —змагу, калі надарыцца, абараніць цябе, толькі будзь, дзяўчынка, шчаслівай – я не ведаю, з кім, але будзь шчаслівай, бо ты ж прыгожая і разумная, мне, вядома, горка – бо ты і ў жыцці і ў літаратуры любіш амаль усё тое, што і я, і мне з табою добра было б, можа, усё жыццё, але... але хай табе будзе добра... і сэрцу майму не будзе балюча, во – яму ўжо стала лёгка-лёгка... Усё гэта я сказаў у сабе, ёй тады – недзе ў цэнтры Азіі, ля Ішыма – прытока Іртыша. А куды ўпадае Іртыш? У Об? А тая рака – у Паўночны Лядовы акіян? Вось дзе мы, дзяўчынка з-пад Клецка... "і з-пад Слуцка, і з-пад Клецка едзе служба маладзецка..." Куды і чаго?.. Казакі Ермака прыйшлі на Ішым і Іртыш – няўжо дзеля таго прыйшлі, каб потым, праз стагоддзі, сюды прыйшлі і мы, палешукі і паляшучкі з Беларусі? І гэтыя палешукі і паляшучкі начавалі на саломе ў прасторным саўгасным клубе, і сцены клуба пахлі глінай, і праз выбітае акно дзівіўся на нас вялікі і жоўты азіяцкі месяц – з чорнага неба. Во ажно куды заляцела самотная птушка з Беларусі... Мне не спалася. Я прыўстаў на падлозе і ўбачыў той месяц ужо не ў акне, а ў шырока расплюшчаных вачах —блізка, амаль побач... Але мне было лёгка на душы – бо я ведаў, што вочы гэтыя і расплюшчаныя, і самотна свецяцца, і не спяць не для мяне. Раніцай нас дзвюма машынамі завезлі ў пасёлак – на самы бераг Ішыма. Мы, хлопцы, адразу кінуліся да вады, стаялі на высокім пясчаным беразе. Унізе, пад берагам, з вады густа раслі кусты тальніка, і мы ляцелі над імі, падалі ў свежую, жаўтаватую ваду, выныrвалі з яе, бадзёра фыркалі і, хто мог адужаць, плылі на той – нізкі, у траве,

бераг. Я адужваў – бо мне стала так лёгка. І яшчэ таму адужваў шырокую раку, што – чорт вазьмі! – на высокім беразе стаялі, глядзелі на нас нашыя дзяўчаты і сярод іх – Тоня, у светлай сукенцы, сукенка ад ветру білася, білася ў яе на нагах, і косы ляцелі з ветрам, яна лавіла іх тонкімі, да плеч голымі рукамі. І Тоня весела – можа, упершыню за ўсю доўгую дарогу смяялася, і ўсе дзяўчаты смяяліся: пхалі з берагу ў ваду адзетага, у штанах, Жыгуна, ён адмахваўся ад іх рукамі і нагамі, уцякаў па беразе, дзяўчаты даганялі яго, а задзірыстая, самая смяшлівая Оля Казлоўская ўсё мералася, чаплялася, каб распеwith разаць яму рамень у штанах, і крычала: "Камуністы! Наперад на ўзяцце Ішыма!" Раптам Жыгун хапае доўгімі рукамі Олю і Тоню за таліі і валачэ іх на край берага, Оля вырвалася з яго рукі, а Тоня... Яна ступіла на самы край берага, перастала смяяцца і моўчкі і – я ведаў, хоць не бачыў яе вачэй з другога берага – задуменна глядзела ў глыбокую ваду. Я кінуўся ў раку, плыў, задыхаючыся, глытаючы ваду. І калі ўхапіўся рукамі за тальнік і за бераг, а потым выскачыў на бераг, – дзяўчаты, на чале з Жыгуном, ужо ішлі стэпам у пасёлак... Тут я ўпершыню ў сваім жыцці гэтак блізка, проста перад сабой, убачыў зусім голую жанчыну... Ну, амаль кожны з нас, калі былі мы малымі дзецьмі, бачыў – у вясковых лазнях – сваіх голых мамаў і цётак. Намерыўся паглядзець праз шчыліну ў дзвярах, як мыецца ў хаце мая маладая цётка, але атрымаў ззаду па вушах ад дзеда... На беразе Ішыма праз пяць-шэсць дзён нашага "асваення" цаліны, зайшоў я да немцаў (у пасёлку з дзесятка домікаў толькі ў адным жыла казахская сям'я, у астатніх – механізатары – немцы, колішнія "перасяленцы" з Волгі) – выпала мая чарга ісці па бражку – рыжае, кіслае пойла. Пастукаўся ў сенцах у дзверы – маўчаць, адчыніў дзверы, пераступіў парог – на кухні нікога, пастукаўся ў другія дзверы – ціха, адчыніў і гэтыя дзверы – стаіць у пакоі перада мной маладая жанчына ў чырвоным халаце, босая, ля начовак на табурэтцы, з начовак, ад вады падымаецца пара. Немка сціскае адной рукою халат на грудзях, другою рукой – крыссе халата на каленях, і валасы ў яе распушчаныя, рыжай хваляй сцякаюць з плячэй на грудзі. Стаім – яна перада мной знямелая, і я – перад ёй знямелы, яна – з рыжымі распушчанымі валасамі і шырока адкрытымі блакітнымі вачыма, я – з алюмі-

невым бітончыкам у руцэ, яна – высокая і маладая, я – высокі і малады, яна – з нямецкага берага Волгі, я – з берага беларускага Дняпра, яна – немка, арыйка, дзіця даўняй Германіі, той далёкай зямлі, чые іншыя, праз два стагоддзі, дзеці прыходзілі на маё Дняпро забіваць маіх землякоў, маю маці, родных і суседзяў... І мы стаім во тут – яна і я, маладыя і высокія. І пальцы рук яе расшчапіліся на халаце – на грудзях і каленях, і халат, сам па сабе, ціха расхінуўся, і здрыгануліся высокія, поўныя, белыя грудзі з цёмнымі, тырчком, саскамі, а рукі яе аслабела віселі ўздоўж акруглых бёдраў, і калені былі цесна сціснутыя...

Калі я бразнуў на падлогу бітончык і ступіў крок да яе, яна расчапіла калені – крыху, настолькі, каб ступіць крок назад. Я ступіў яшчэ крок – яна спынілася, стаяла і шырока адкрытымі блакітнымі вачамі глядзела – не на мяне, а як скрозь мяне і быццам не бачыла мяне. Я падышоў да яе, абняў за плечы, прыціснуў да сябе, пачуў трапятанне яе грудзей і губ і ўзяў яе гарачыя губы ў свае, але яна раптам адхіснулася галавой назад, наставіла мне вострыя локці і рашуча адштурхнулася, павярнулася, захіснулася халатам і пабегла да дзвярэй у суседні пакой, грукнула дзвярыма, там, у тым пакоі стала ціха, потым я пачуў: жанчына плача... Я стаяў на месцы, глядзеў у начоўкі з вадой – пара ад яе ўжо не йшла, але вада ўсё яшчэ калыхалася, і я ведаў: калі жанчына крутанулася ад мяне, яна каленам зачапілася за край начовак, і яны ледзь не ўпалі з табурэткі на падлогу. Жанчына ў тым пакоі сціхла, потым выйшла да мяне – апранутая, прычасаная, кінула на мяне імгненны, спадылба, позірк, сказала: “Когда же вы перестанете преследовать нас? За что вы нас мучаете? За что? Скажите!.. – памаўчала, потым, ужо цішэй, амаль шэптам і бліжэй да мяне, гаварыла. – Мы уже и так судьбой давно подбиты... Ах, вернуться бы на землю предков, хоть на какую, но на ту, родную... Но не каждый из нас это может сделать... потому что и в этих, приволжских и азиатских, землях тлеют наши кости... Но за что вы нас?” Я ціха, асцярожна абняў яе за плечы, і яна палажыла мне на плечы свае далоні, і так мы стаялі, але ўжо не цесна, і глядзелі адно аднаму ў вочы спакойна, нават, можа, і холадна – бо ведалі: мы хацелі былі згарэць на імгненне ў адным агні – бо мы толькі дзеці, істоты адной вялікай Зямлі, толькі пакуль

што – жывыя, хоць усе мы – усе! – і падбітыя, хто дзе і хто як... Мы знялі свае рукі з плячэй, адступіліся крыху, але былі ўсё яшчэ блізкія. Я спытаў, як яе зваць. Адказала: Эльза. І сказала, што прыехала сюды да сястры, што муж сястры – камбайнер, начуе далёка ў стэпе, а сястра паехала ў саўгас. За вокнамі вечарэла, мы маўчалі. Потым я спытаў: пра каго яна сказала: "Когда вы перестанете преследовать?.." Яна недаўменна паціснула плячыма: маўляў, чаму я не разумею? Я сказаў: дык, можа, не "мы", а – адзін чалавек. "Но это вы – вы! – подняли этого человека выше своих голов, держите его, как знамя, над собой". Я: "А вы ж – савецкія немцы". Яна: "Да. Но всё-таки все вы считаете нас, в первую очередь, немцами. И все вы знаете, что, кроме русского языка, мы двести лет помним язык далёкой матери-родины, которую никто из нас никогда не видел, и помним свои, из глубины, песни. А вы, слышала, приехали в Казахстан из Белоруссии – и кто же вам мешает говорить между собой на языке своих отцов и матерей, на языке предков?" На гэтае пытанне Эльзы я нічога не адказаў. А яна як сцябала мяне сваімі словамі: "Да, мы – как подбитые птицы, но держимся, всё ещё держимся на своих крыльях и будем держаться до той минуты, пока нас в упор не расстреляют... ибо соки земли наших предков – в нашей крови. У вас, в Белоруссии, слышала, в городах даже нет школ на вашем языке. Соки земли своей вы смешали з грязью. Я преподаю немецкий язык в русской, на Алтае, школе и так читаю детям стихи по-немецки, что у них слёзы в глазах стоят. Потому что в моих глазах – слёзы... А дети эти – и русские, и украинцы, и белорусы... Вы, будущие учителя, своих поэтов детям сможете так читать? Вы сказки, легенды, предания своей земли сможете так детям передать, чтобы им хотелось потом и своим детям их передать в родном слове?.. Так что же вам всё-таки мешает хотя бы между собой говорить по-белорусски?.." Я хацеў адказаць Эльзе, што мы, беларусы, даўно і цяжка падбітыя і ледзь трымаемся на сваіх крылах і вось-вось упадзем – як тыя аслабелыя птушкі... Але я нічога не сказаў. Эльза ўсё зразумела, падышла да мяне, блізка і пяшчотна глядзела мне ў вочы, і яе поўныя грудзі, скрозь тонкі шоўк, дыхалі блізка і трывожна, і мне зноў стала млосна, і я ачмурэла і крэпка згроб яе ўсю ў свае рукі, адарваў ад падлогі, панёс, не адрываючы сваіх губ ад гарачага трапя-

тання яе губ, вынес у сенцы, палажыў на канапу... Больш нічога не помню, толькі – адно: калі нахіліўся над ёй, праз акенца бліснула на імгненне святло месяца, ударыла ў вочы Эльзы і патанула ў іх... Толькі адно прашаптала потым: “Милый, а это – за что? за какой мой грех?” Прашаптаў ёй: “Ты жаданая, жаданая, даўно жаданая мая жанчына, тысячы гадоў жаданая...” На світанні яна вынесла ў сенцы мой пусты бітончык. Мы захлынуліся ў апошні раз адным дыханнем. Эльза ціха плакала, не сказала ні слова, ні слова не сказаў і я, і мы рассталіся назаўсёды. У той жа дзень Эльза паехала на Алтай, мне далі двух валоў, воз на двух высокіх колах, на возе – вялізную драўляную бочку, буду вазіць ваду з Ішыма на стан, дзе быў зерняток і дзе працавалі на прасушцы пшаніцы нашыя дзяўчаты... А было ж яшчэ во што: Эльза ўзяла мой пусты бітончык, пайшла ў кладоўку, выйшла з поўным, і бражку тую – даруйце, хлопцы! – той жа раніцай, на высокім беразе Ішыма я піў адзін, нагбом. Першы раз у жыцці я быў п’яны. Глядзеў у жоўтую ваду і помніў толькі адно: Ішым упадае ў Іртыш і “на диком бреге Иртыша сидел Ермак, объятый думой...” І я казаў Ермаку: “Якога чорта ты там сядзіш! Навошта гоніш народы на ўсход!” Я браў Ермака за бараду і цягнуў яго назад, на захад, на Урал і за Урал. Прачынаўся і бачыў: ля самай вады трымаюся рукой за куст тальніка... Мяне, нарэшце, знайшоў Жыгун, сказаў, што даўно пара везці ваду на стан, паківаў на мяне партыйным пальцам – здаецца, па-таварыску. З хмелю, ці спрасоння, я паставіў валоў галовамі да бочкі, хвастамі – уперад, але хутка сам ва ўсім разабраўся, накінуў валам на шыі ярмо і да вечара прывёз бочку з вадой і сябе на стан – дзесяць кіламетраў. Жыгун ужо быў там – будзе працаваць з дзяўчатамі як іх апякун-вартаўнік. Хлопцы засталіся ў пасёлку – на будаўніцтве майстэрні. Мне, як і Жыгуну, давядзецца начаваць на стане ў вялізнай брызентавай палатцы – разам з дзяўчатамі. Было ўжо звечарэла, я пусціў валоў у стэп на траву, дзяўчаты ўваткнулі рыдлёўкі-шуфлі ў шырокую кучу peралапачанага зерня, шафёры селі на лаўку ля кухні і ўпарта глядзелі на ногі студэнтак, потым кухарка, з дапамогай дзяўчат, паставіла на сталы місы з гарачай баранінай, два вядры з чаем, мы ўсе разам павячэралі, Жыгун абышоў стан, пералічыў дзяўчат і скамандаваў: “Запявай!” – але дзяўчаты не запелі, яны

былі дужа стомленыя, і пайшлі ў палатку, ляглі на рассцеленыя яшчэ днём саўгасныя матрацы, накрыліся байкавымі коўдрамі, і Жыгун, калі мы спыніліся перад палаткай, сказаў мне: "Казлоўская зрабіла так, што Тоня апынулася крайняй... Значыць, я з краю – ля Казлоўскай, ты – ля Тоні..." У палатцы дзяўчаты перасмейваліся, Казлоўская крычала: "Я камсорг групы, Жыгун камсорг факультэта, і нас трэба слухацца. Тоня, марш на сваё месца!.." Мы з Жыгуном увайшлі ў палатку, я ў цемнаце знайшоў сваё месца, распрануўся, лёг, у палатцы было душна, і я не ўкрываўся коўдрай, побач, нацягнуўшы коўдру на галаву, ляжала Тоня і, здаецца, не спала, потым усе сціхлі і яна супакоілася – стала роўна дыхаць, нават сцягнула коўдру з твару, я збоку паглядзеў на яе, яна – на мяне, і мы заплюшчылі вочы, я пачуў, што коўдру сваю, ад майго боку, яна падгарнула пад сябе. Потым я неасцярожна варухнуў сваімі нагамі і недзе далекавата пачуў пад коўдрай пяткі Тоніных ног, і яна рашуча ўдарыла імі па маіх пятках, некуды там, далекавата, схавала свае ногі. Я падумаў: ну, навошта гэтая гульня? чаго ёй баяцца? чаго саромецца? між намі нічога ж няма... будзем спаць побач проста па-сяброўску, ці як брат з сястрой. Дык навошта гэтае брыканне?.. І я хутка заснуў – быў цяжка стомлены, ой, як я быў стомлены і Эльзай, і яе віном-бражкай, і валамі... Калі прачнуўся, праз адкрыты ўваход у палатку ўбачыў: у стэпе світае, зерне ў кучы блішчыць, кухарка ў белым халаце стаіць ля калоды, на калодзе ляжаць чырвоныя кавалкі бараніны, а на іх – чырвоная сякера, і я падумаў яшчэ: адкуль тут, у бяскрайнім стэпе, гэтая шырокая калода, – няўжо Панамарэнка прывёз яе ў Казахстан з Беларусі?.. Я зірнуў у Тонін бок: яе ўжо не было. Хутка апрануўся і, не абуўшыся, выпаўз з палаткі: Тоня стаяла непадалёк у стэпе, па калені ў траве, у светлай сукенцы, трымала ў руцэ разгорнутую кнігу, але ўжо не чытала, глядзела кудысьці ўдаль, у бок сонца, якое ўзыходзіла, і там, дзе яна стаяла, было, мусіць, ветрана – косы яе рассыпаліся па плячах, па твары, яна лавіла іх рукой і закідала на спіну. Пад яркім сонцам блішчэлі яе завушніцы. Чамусьці толькі цяпер, здаля, я ўбачыў Тоніны завушніцы. Раптам яна азірнулася на мяне – можа, як-небудзь пачула, што я йду да яе? Нешта падумала, загарнула кнігу і пабегла. Я дагнаў яе, яна ўжо ледзь дыхала і ціха, як сабе, войкнула, калі я

ззаду ўзяў яе за локаць, і яна перапынілася, глянула мне ў вочы сваімі – бліскучымі ці ад сонца, ці, можа, ад слязы – не зразумеў тады. "Што чытаеш, Тоня?" – "Багдановіча. Я ўзяла з сабой Багдановіча і сшытак той..." – "Пакажы: што чытала тут во цяпер?" – "Пагоню"... – І яна разгарнула кнігу – у цвёрдай сіняй вокладцы – на "Пагоні". І мне хацелася крыкнуць – мне было радасна, нешта крыкнуць тут, у глухім, бясконцым стэпе, пад пасвятлелым небам Азіі, хацелася прачытаць напамяць "Пагоню", але – не крыкнуў, не стаў чытаць: мільганула ў галаве, у вачах маіх учарашняя ноч, Эльза, дыхнула ад травы кіслай брагай. Я хацеў нешта сказаць Тоні, але толькі цяжка ўздыхнуў, і Тоня здзіўлена глядзела на мяне і нават, здаецца, вачамі шкадавала мяне... Мы йшлі і йшлі па стэпе, у высокай, мокрай ад расы траве, развіналі траву босымі нагамі, – Тоня трымала ў руцэ мокрыя чырвоныя тапачкі, – буйныя, па-азіяцку буйныя расіны ляцелі зверху травы на рудую цвёрдую глебу і, падаючы, звінелі. Тоня хацела ўзяць у руку яшчэ й падол сукенкі, але ён быў ужо даўно мокры, і яна толькі махнула рукой: ай, ужо ўсё роўна. Мы йшлі і йшлі па стэпе – на ўсход, сонца незаўважна, але хутка падымалася насустрэчу нам, з чырвонага ўсё болей жаўцела, святлела, босым нагам рабілася цяплей. Раптам у траве нешта шоргнулася, паляцела-паскакала шэрым камячком з доўгім тонкім хвосцікам, на доўгіх пярэдніх ножках, прысела, азірнулася – мордачка, як у зайца, адно што маленькая. Тоня спалохана хіснулася да мяне, я сціснуў рукой яе за локаць, сказаў, што гэта – тушканчык, а той скокнуў недзе ў бок, знік у траве. Праз колькі крокаў мы спыніліся перад ямай – яна была неглыбокая, з абваленымі краямі, і на сценцы яе, на дне раслі рэдкія жаўтаватыя травінкі, і між іх тырчэлі з зямлі нейкія косткі, шэрыя, падгнілыя, патрэсканыя, а ўверсе, ля ямы, амаль увесь уземлены ляжаў, як пліта на могілках, шэры камень, і на ім – ледзь прыкметныя радкі высечанай арабскай вязі. І зноў у траве нешта шоргнулася і адразу сціхла, але тое нешта вырасла па-над краем каменя і стаяла-глядзела на нас маленькімі круглымі, жоўтымі зрэнкамі на сплюшчанай галоўцы, і з галоўкі дрыжэла, торгалася ў наш бок чорнае джальца. Тоня прынікла да мяне плячом, я сказаў ёй, каб стаяла так, не варушылася... Змяя яшчэ крыху падражнілася з намі з-за свайго каменю і

знікла ў траве. Тоня ўсміхнулася, прашаптала: "Глыбей мы ў Азію не пойдзем, глыбей у сябе нас Азія пускаць не хоча". Я засмяяўся і пагадзіўся з ёй. Мы павярнуліся і пайшлі ад ямы, ад каменю з арабскім пісьмом, пайшлі па стэпе назад. Раса ўсё яшчэ падала з травы, але была ўжо рэдкая, слабая і не даставала да зямлі. Тоня сказала: "А за намі ніякай пагоні не трэба, праўда? Мы самі вернемся дамоў, праўда?" – "Тым больш, – сказаў я, – нас ніхто цяпер нікуды не гоніць – ні на ўсход, ні на захад. Хіба што жыццё прымушае нашых людзей ехаць на поўнач у заробкі..." – "Як пры Польшчы мамінага дзядзьку, а майго дзеда – у Амерыку... А можа пагоні ніякай за намі ўжо ніколі не будзе – бо не будзе за кім гнацца, каго даганяць, каго вяртаць назад на радзіму, таму што ўсё для ўсіх стала нічым, зусім нічым – ні радзімай, ні роднай хатай, ні роднай вуліцай, ні роднай бярозай, ні роднай мовай. Не будзе каму і за каго даганяць... А? Праўда?" – "Можа, і так. Можа, і праўда", "Але ж мы з табой, Толя, во ажно ў цэнтры Азіі гаворым родным словам, і не ведаю, як табе, а мне ўсю дарогу сюды і тут кожную ноч сніцца родная хата, а гэтай ноччу сніўся дым з коміна нашай хаты... А табе што сніцца?" – "Нічога не сніцца, Тоня, я проста ведаю: прыйдзе дзень – і я вярнуся дамоў, на Дняпро і на Ясельду". – "А я – на Морач..." – "І цякуць яшчэ дома нешырокія рэчкі – Грыўда, і Цна, і Бобрык..." "Я й не чула пра такія, – раскажаш?" – "Раскажу, потым... Во было, што ў Грыўду я, хлапчуком, упаў з лодкі, а як вылез з вады на бераг, дык у штанах у мяне, у кішэні, біўся шчупак". – Тоня засмяялася: "Ой-ёй-ёй! Праўда?.. – Потым пасур'ёзнела ў твары, памаўчала. – Ну, а калі раптам, Толя, закахаешся тут у якую казашку, ці ў чачэнку, ці, можа, у немку – дык і застанешся тут? Га? – Гэтым пытаннем яна ўдарыла па мне, і стала мне балюча, так балюча... Так ударыла! І я не проста сказаў – я крыкнуў: "Тоня! Не трэба!" – Яна спынілася, спалохана глядзела на мяне. І я паўтарыў, але ўжо цішэй: "Не трэба". Далей мы йшлі моўчкі, і хоць не бачыў я Тоніных вачэй, але адчуваў: яна збоку пазірае, здзіўлена пазірае на мяне. Нарэшце, яна сказала: "Што здарылася з табою?" І тады я, таксама – нарэшце, не вытрымаў: "Тоня, а што здарылася з табою? Там, дома?.." Яна не адказала, я і не чакаў адказу на маё пытанне, больш таго – я ведаў, што пытанне маё балюча ўдарыць па ёй, ведаў,

але ж спытаў і таму праз якую хвіліну ўжо біў сябе ўнутры: навошта зрабіў балюча ёй, ёй, каторую яшчэ так нядаўна кахаў?! Тоня спынілася, глядзела кудысьці далёка ў стэп, і ў вачах яе стаялі слёзы. Я ўзяў яе за плечы, хацеў прыгарнуць да сябе, але яна адштурхнулася ад мяне, губы яе перасмыкнуліся, слёзы падалі з вачэй, яна выпусціла з рук тапачкі, выцерла далонькай слёзы на шчоках і сказала: "Не мучай мяне, не здзекуйся. Ты не хочаш, не хацеў мяне... дабіць? Не хацеў – праўда? – Цяпер яна ўжо глядзела мне ў вочы. – Адчуваю сябе такой пабітай. Я такая падбітая – быццам мне ўжо многа-многа гадоў, быццам я даўным-даўно жыву, а мне ж толькі васемнаццаць..." Я маўчаў. Мы пайшлі – побач, ціха, па высокай, амаль сухой ужо траве, у бок стана. Ля палаткі стаялі дзяўчаты, а з імі – і кухарка, і Жыгун, і шафёры – і ўсе яны па-добраму ўсміхаліся нам, а потым дзяўчаты абступілі нас, узяліся за рукі, утварылі круг-карагод і пайшлі вакол нас, весела спяваючы на ўвесь стэп, на ўсю Азію: "Жаніх і нявеста паелі ўсё цеста!" Тоня кінулася з карагода – разарвала рукі сяброўак, убегла ў палатку, упала там. Дзяўчаты сціхлі, здзіўлена глядзелі на мяне. Я стаяў перад імі як слуп, а Жыгун сказаў: "Нічога, нічога... Усё ў парадку. Так трэба. Тоня плача? Так трэба. Оля! – гэта Жыгун паклікаў Казлоўскую, якую за вочы і ў вочы, нібы жартуючы, дзяўчаты звалі Жыгуніхай. – Ідзі да Тоні!" Казлоўская – вясёлая "пампушка", круглатварая і кірпаносая і крыху касаватая – штурхнула мяне кулачком у бок і пабегла ў палатку. Яны з Тоняй жывуць у адным інтэрнацкім пакоі, і, здаецца, збольшага сябруюць... Я пайшоў у стэп за сваімі валамі. Кухарка і дзяўчаты клікалі мяне снедаць, а мне не хацелася есці, запрог валоў, сеў на перадку воза, вазы паныла апусцілі галовы і пайшлі на сваю каляіну ў стэпе, бочка грымела за маёй спіной. Усю доўгую дарогу да Ішыма і назад валы ішлі, апусціўшы галовы, драмалі, і мне драмалася, стэпавая дарога пакалыхвалася, і калі прачынаўся – думаў усё пра адно: што здарылася з Тоняй там, дома, у яе вёсцы?.. Вечарам Жыгун адвёў мяне за палатку, сказаў, што з Тоняй, калі яна прыехала да маці пасля сесіі, перад паездкай на цаліну, здарылася такая бяда: да яе сватаўся хлопец-сусед, ён скончыў школу на тры гады раней за яе, прыйшоў з арміі, Тоніна маці і хлопцаў бацька, калгасны брыгадзір, дамовіліся пра сватаўство, Тоня выне-

сла сватам гарбуз, хлопец напіўся, зславіў на вуліцы Тоню, — яна йшла дахаты позна ўвечары з кіно, — і набіў, выкручваў ёй рукі, цягаў за косы, яна не крычала — каб не збегліся людзі, не сталі сведкамі яе ганьбы, яна толькі прасіла хлопца, каб не забіваў яе, каб пусціў жывую, называла яго ласкава па імені (я ўспомніў: Тоня ў сне прашаптала імя), але той сказаў ёй, што заб'е ці скалечыць — яго строга не пакараюць, бо дзед яе, па бацьку, расстраляны бальшавікамі ў грамадзянскую вайну за тое, што біўся з імі, бальшавікамі, пад Слуцкам, а сям'я дзедава схавалася там, на Клеччыне, а дзедаў брат у Амерыцы, шле адтуль лісты і пасылкі Тонінай маці, і яшчэ казаў тады той хлопец-сусед, што бацька яе стаў камсамольцам-падпольшчыкам, каб не папракалі за яго бацьку, але замазаўся тэбэшоўствам — стаў нацыяналістам, успомніў сусед-кат і тыя часопісы, якія яна прынесла была ў школу, і пра сярэбраны медаль напомніў, і прыгразіў, што напіша пра ўсё ў інстытут, а яна, Тоня, прасіла яго і не біць яе, і не пісаць нікуды, бо ў яе на свеце толькі адна маці засталася, і ёй, маці, вельмі цяжка. На цёмнай вуліцы пачуўся нейчы голас, і кат уцёк, а Тоня, трымаючыся за платы, ледзь дайшла, дапаўзла да сваёй хаты і нікому потым не пажалілася, толькі во, упершыню, расказала пра ўсё ўчора вечарам Казлоўскай... Мы паціху йшлі з Жыгуном па стэпе, і ён сказаў, што Тоня — нейкая такая... як падбітая птушка. І яшчэ сказаў, каб я дужа не ўпадаў за ёй, а лепей — каб і думаць пра яе перастаў, бо невядома, казаў Жыгун, за што яшчэ гэтая птушка падбітая, і яшчэ невядома, ці трэба будзе яе ратаваць... Калі Жыгун гэта сказаў, я спыніўся, крэпка ўзяў Жыгуна за плячо, развярнуў яго да сябе і падняў руку, каб ударыць, але неяк стрымаўся — бо надта ж кволы быў Жыгун, слабы, і мне стала нават не па сабе, я зняў сваю руку з яго пляча і пайшоў далей, адзін, у цемру азіяцкай травы. Ішоў доўга і бяздумна і раптам далёка перад сабой пачуў нейкі грукат, і гэты грукат набліжаўся, шырыўся і падымаўся ў цёмнае неба, і ўбачыў перад сабой, пакуль далекавата, бляск маланак — яны рэзалі-кроілі цемру ўнізе, па стэпе, і ў небе. Усё гэта разам — грукат, свіст, маланкі-шаблі, іржанне коней — пранеслася ўраганам збоч мяне, абдало густым пылам, пасечаным кавылём, — то быў грукат конскіх капытоў, свіст татара-манголаў, агонь у іх прыжмураных вузкіх вачніцах, бляск ускінутых

ўгору шабляў. Я азірнуўся на захад – гэтаму ўрагану ўслед – і сказаў: ляціце! пыліце! тапчыце! каб потым, праз тысячу гадоў, не было ўжо чаго ні паліць, ні таптаць! І чаму вы не зачапілі мяне сваім вогненым лётам? Навошта пакінулі тут? Бо я для вас – ніякая не перашкода? І – нікчэмнасць? Няўжо адно аб лясы і балоты – багнішчы майго Палесся – спатыкнуліся вашыя коні? Я ж сам бачыў, як тыя коні паднялі сваіх вершнікаў з раскосымі вачыма і касымі шаблямі высока над Ішымам...

Раніцай, паныла апусціўшы долу цяжкія галовы, з ярмом на шыях, ішлі мае азіяцкія валы стаптаным стэпам да ішымскага берагу, жоўтая вада ў рацэ хвалявалася, падымалася пырскамі ўгору, хаця ветру не было, стаяла глыбокая, як пасля ўрагану, цішыня. А потым была нядзеля, дзяўчатам на стане далі адпачынак, і мы з Тоняй стаялі на беразе Ішыма, валы пілі ваду ў рацэ. Я ведаў, што кахаю яе, таму не мог, не смеў глянуць ёй у вочы, узяць яе за руку, абняць. Мы пайшлі берагам, і Тоня спынілася: ля берагу, на тым баку з вады рос высокі густы чарот, і ля яго, ля чароту, на лёгкай хвалі гойдаліся лілеі – белыя, на доўгіх і тонкіх зялёных сцяблінах. Тоня глядзела на іх, і я збоку бачыў: у вачах яе стаялі здзіўленне, слёзы і цішыня. Я распрануўся, кінуўся ў Ішым, пераплыў яго і ля чароту выцягнуў з вады, сарваў лілею, мерыўся сарваць яшчэ некалькі кветак, але Тоня сказала мне з берагу: “Адну! Хай жывуць!” Калі я даў ёй на беразе кветку, яна нахілілася над ёю і сказала: “Думала, што лілеі не пахнуць, але ж – пахнуць... вадой, стэпам і, здаецца, яшчэ нечым..." Потым яна абаперлася рукой на маё плячо, скінула на траву басаножкі, сышла з берагу ў ваду, узялася рукой за падол сукенкі, хацела падняць яе, але скоса і спадылба глянула на мяне і шапнула: “Не глядзі, адвярніся”. Я адышоў ад берагу, чуў, як яна паласкала ў рацэ ногі, і бачыў, бачыў гэтыя нябачныя, пад берагам, ногі і ведаў, што нельга, нельга мне хоць якім неасцярожным позіркам, неасцярожным рухам спалохаць яе. Яна ціха паклікала мяне, я падаў ёй руку, і калі яна стала перада мной, на беразе, маладзенькая, з вялікімі чыстымі вачамі, я ўзяў яе на рукі і панёс, панёс берагам у высокай траве. Адной рукой яна абняла мяне за шыю, другой трымала крамяную белую лілею, а вочы заплюшчыла і нешта слухала, слухала. Прыслухаўся і я: з боку пасёлка, з дынаміка наплывала музыка. Тоня прашаптала: “Гэта “Развітанне” Шуберта...”

...Я падняў вочы: перада мной стаяў міліцыянер. І я не адразу ўспомніў, не адразу зразумеў, што ён – тутэйшы ўчастковы. І толькі што быў я так далёка адсюль, ажно ў цэнтры Азіі, – таму й не пачуў матор матацыкла, які цяпер стаяў на ўскрайку лесу, ля шашы. Капітан міліцыі казырнуў мне. Збоку ў яго крысо кіцеля было напятае – над кабурой, на другім баку з-пад кіцеля вытыркаўся чорны канец "дубінкі". Я загледзеўся на ўвесь гэты міліцэйскі – "пры выкананні службовых абавязкаў" – рыштунак. Маладжавы, дзябёлы капітан казырнуў мне яшчэ раз. Я прывітаўся ў адказ:

– Добры дзень, таварыш...

– Гражданин, – паправіў мяне міліцыянер.

– Добры дзень, грамадзянін капітан міліцыі!

Капітан пакруціў пальцамі кончык рыжага вуса.

– Вы што – бэнээфавец?

– Чаму бэнээфавец?

– Говорите по-белоруски.

– Беларус я.

– А-а... Ваши документы.

– Хадземце, – я паказаў рукой на палатку, яна чарнела між соснамі. Я ўстаў з пня, і міліцыянер памкнуўся ісці за мной, але спыніўся, азірнуўся на свой ля шашы сіні матацыкл з каляскай.

– Могут украсть. Постойте, приведу сюда.

– А хто ж гэта можа ўкрасці матацыкл у міліцыі?

Капітан падазрона кінуў вокам на мае рукі.

– Разговорчики, гражданин... Болтаются тут разные... то цыганы, то кавказцы, то азиаты, то... А вы не из "правого реванша"?

– Не.

– Ну, хорошо. Постойте.

Ён памацаў рукой канец "дубінкі", упэўніўся, што я звярнуў увагу на гэты яго жэст, хутка пайшоў да шашы і прывёў сюды, да пня, матацыкл. Мы пайшлі да палаткі, міліцыянер увайшоў у яе следам за мной. Я паказаў пашпарт, білет члена Саюза пісьменнікаў. Ён доўга разглядаў мае фотаздымкі ў дакументах, кідаў позірк на мой твар, потым сказаў:

– А у вас, гражданин письменник, оружия при себе нет никакого?

Я дастаў з кішэні штаноў стрыжневую ручку.

– А-а, ну это можно... Но всё-таки покажите... Может, какой секретный пистолет? – капітан узяў ручку, асцярожна адвярнуў каўпачок, дастаў стрыжань. – Возьмите. И скажите, гражданин письменник Кухарев: о чём вы здесь, в лесу, собираетесь писать?

Я адказаў:

– Пра лес, пра вавёрку, пра грыбы, пра навальніцу над лесам, пра сябе ў лесе і, можа, пра вас, пра вашу дубінку...

– Не советую, гражданин письменник.

– Добра. Не буду пра вас і пра вашу дубінку. Тым больш – з дубінкай я блізка не знаёмы.

– А на митингах в столице? Там разные "дзяды" бывают...

– Бываў. Даводзілася...

– А-а... – Капітан міліцыі зняў з галавы фуражку, пачасаў патыліцу. – Значит, вот что... Давайте договоримся по-хорошему: завтра утром вы покидаете этот лес... Можете перенести свою палатку на километра два-три восточнее – в другой район. Всё. Договорились.

Капітан надзеў фуражку, павярнуўся, ступіў крок у бок матацыкла і раптам як аслупянеў: перад ім, у высокай траве ля куста крушыны, стаяў журавель і адным вокам глядзеў на міліцыянера, на яго дубінку, чорны канец якой тырчаў з-пад кіцеля. Другое вока птушка прыжмурыла. Гэтак яны й застыглі адно перад адным. Я збоку назіраў за імі. У лесе ўжо добра змяркалася. Ад дрэў, ад палаткі, ад міліцыянера, мяне і жураўля ляглі і доўжыліся цені, раствараючыся ў цёмным мроіве. Капітан міліцыі, нарэшце, ступіў яшчэ крок, але – назад, да мяне, шэптам сказаў:

– Кто это?

– Журавель. Або жораў.

– Но почему – серый, а не белый?

– Журавель – птушка шэрая.

– А почему тогда в песне поётся: "превратились в белых журавлей"?

– Такімі яны ўбачыліся паэту Гамзатаву. Белы колер – знак чысціні й вечнасці...

– Вот вы, поэты, письменники, всегда что-нибудь да перевернете, всё вам – не так, как людям... И почему это птица стоит, не улетает, не боится человека? Что с ней?

– Стаіць – бо ёй цяжка варухнуцца, узляцець, яна – хворая, падбітая, баіцца чалавека, але баяцца міліцыі нельга...

– А-а! – капітан усміхнуўся, шчаслівы. – “Моя милиция меня бережёт”.

Ён пайшоў да жураўля, запіхваючы канец дубінкі ў кішэню штаноў. Птах у траве стаяў як скамянелы – не падскочыў, не махнуў крыламі, не варухнуўся. Мне стала дзіўна і, бадай, жудасна: ну, быццам нейкае ачмурэнне тут... Міліцыянер паціху ступаў да жураўля – той стаяў на месцы, і адно вока ў яго было прыжмуранае. Капітан падышоў да птушкі, працягнуў да яе руку. Я чакаў найгоршага: зараз гэты чалавек схопіць учэпістымі пальцамі птушку за горла. Але чалавек з пісталетам на адным баку і з дубінкай на другім трымаў сваю правую руку даланёю ўверх, і я бачыў, а можа, больш адчуваў, чым бачыў у змроку, што пальцы той рукі злёгку дрыжалі. Журавель, нарэшце, варухнуўся на месцы, нават крыху ўсёй сваёй высокай шэрай паставай падаўся ўперад да рукі, да чалавека, выцягнуў чорную шыйку, заплюшчыў, мне здалося, вочы і спакойна палажыў дзюбу на працягнутую далань. Чалавек азірнуўся на мяне, і ў руху яго галавы, у зняменні яго рукі, у яго маўчанні я адчуў разгубленасць, нават адчай – і ён усім гэтым, усёй сваёй істотай, я ўпэўнены, прасіў у мяне дапамогі. Я і сам, нічога не разумеючы, дужа здзівіўся і ў адчаі азірнуўся назад – на сосны і яліны, на падлесак, на травы і кветкі, – азірнуўся на ўсё гэта з нямым крыкам-просьбай аб дапамозе, але ўсё маўчала... А капітан міліцыі ўсё глядзеў то на цёмную галоўку на сваёй далані, то на мяне, то, здаецца, кудысьці ў бездань з вечарэлага неба над намі... Раптам птушка высока ўзняла галаву, здрыганулася, цяжка, з натугай разгарнула крылле, ударыла ім па траве – бліскучая раса ўпала ўніз, – яшчэ ўдарыла і яшчэ, падскочыла – адарвала ногі ад зямлі і ўжо стала біць крыллем у паветры, над травой, над крушынай, над чалавекам, які ўсё яшчэ стаяў з працягнутай рукой, і – над падлескам, нада мной, і над соснамі, і над усім лесам...

І раптам журавель склаў крылле і каменем пачаў падаць уніз, але перад самымі вярхушкамі высокіх соснаў спыніў імклівае падзенне – і зноў развінуў крылле, стаў у паветры на месцы, адчайна і крэпка ўдарыў ім у паветры, узляцеў уверх, і два чалавекі на зямлі, у лесе, а можа, і яшчэ хто на дарозе, ці на

мосце, ці ў двары, ці на вуліцы ў Баброўні, ці ў хаце праз адчыненае вакно пачулі “кру-кру” і паднялі галовы вышэй, а я дык яшчэ і ўспомніць паспеў: на латыні журавель – гэта “grus gras” – так, “grus” – не адзін жа я – усе мы пачулі: “кру...” Так, старажытная латынь – гэта Міжземнамор’е, і жураўлі адлятаюць у вырай – туды ж... Птушка над намі знікла, яе не было ўжо нідзе – ні пад хмарай, ні над соснамі, знікла... У міліцыянера з галавы ўпала фуражка – у траву, ён не падняў яе, стаяў, задраўшы галаву ўгору, вецер раскінуў яму валасы. Гэты ж вецер ударыў і мне ў твар, закрыў мне вочы – ці я іх сам закрыў? – і я ўжо нічога ні перад сабой, ні над сабой не бачыў, а толькі чуў: яшчэ недзе ўгары б’е, б’е і ўсё слабей і слабей б’е крыллем у паветры нейкая вялікая птушка – “grus gras”, але “кру-кру” нідзе ўжо не было чутна, і толькі, можа, адзін чалавек на свеце – я – пачуў глухое падзенне... Не, не адзін я пачуў... Капітан міліцыі стаяў на каленях у траве, а трава блішчэла сіняй расой, галава яго была апушчаная долу – як у верніка ў храме... Я сказаў яму ціха:

– Грамадзянін капітан... – Ён не адклікнуўся, не варухнуўся, і я паўтарыў грамчэй: – Грамадзянін капітан міліцыі!

Ён устаў з зямлі, узяў з травы фуражку, але не надзеў яе, падышоў да мяне. Чорныя валасы ў яго на галаве былі ўскудлачаныя, а вочы – вільготныя, быццам ад расы, сказаў:

– Завіце мяне проста – Міхайла. Так мяне звалі ў маёй вёсцы на Клеччыне... Чаго вы здзіўлена глядзіце на мяне? Што я гавару на роднай мове? Так, я гавару на мове маіх бацькоў. Я ўсё помню. А сказаць папраўдзе – усё ўспомніў... Прашу вас: не дзівіцеся гэтак з мяне... Сёння вечарам упершыню ў маім жыцці нехта паклаў галаву мне на руку... нават на даланю. – Капітан міліцыі ціха ўзяў мяне за плячо і сказаў шэптам, расцягваючы словы – як нешта сваё глыбіннае, з душы хацеў во тут, во цяпер спець, але я зразумеў: гэта яшчэ не словы песні, якая кожным чалавекам пяецца раз у жыцці, што ў гэтага чалавека яшчэ не хапае слоў, словы толькі пачынаюць з’яўляцца, але сама мелодыя ўжо знойдзеная, і ён сказаў шэптам: – А галоўка была та-кая ма-лень-кая... – Слоў у яго песні яшчэ не хапала, і ён сказаў далей: – А я ж мог крэпка сціснуць яе ў сваёй далані... пальцамі... – І ён моцна сціснуў пальцы на маім плячы. – Во гэтак, во гэтак! – і абедзвюма рукамі пацягнуў

міліцэйскую фуражку на галаве, дастаў з кішэні штаноў "дубінку", паправіў яе ў сябе на баку, памацаў – ці пры ім – кабуру з пісталетам, збіў рукою са штаноў шыгалле, выпрастаўся перада мной, сказаў: – А вы забудзьце, што я вам казаў, і нікуды адсюль не сыходзьце, калі вам тут зручна, і пішыце сабе, што вам трэба... Я вам сказаў так, для формы... А вы рабіце сваё. Гэты лес – і ваш. Ну, я пайшоў. Усяго вам добрага. – Капітан павярнуўся ад мяне і, не азірнуўшыся, спытаў: – А што з жураўлём?

Я не адказаў – бо разумеў: Міхайла ведае, што з жураўлём. Ён хутка пайшоў між дрэвамі ў цемру...

Усю ноч не спалася, у палатцы было душна, я выйшаў у лес, сеў на цёплы мох пад ялінай. Густа пахла смалой, дзесьці далёка над Ясельдай грукацеў гром, і скрозь голле ажно сюды бліскалі маланкі, на руку мне зверху ўпала цяжкая, налітая смалой, шышка. Я падышоў да сасны, прыхінуўся спіной да яе ствала, кара была цёплая, вакол, калі забыцца на далёкі гром, стаяла глыбокая цішыня, такая цішыня, што чутно было, як дыхае побач мурашнік, як у гушчары ўстрапянулася крылцамі нейкая птушка і ўнізе ля маіх ног, у траве, нешта прабегла – напэўна, мышка, і толькі калі пад зоркамі нада мной, над дрэвамі праляцела жоўтая знічка, а голле ўгары глуха і коратка прашумела, стала світаць...

І пачаўся дзень – горкі, пакутлівы, шчаслівы, роспачны, і зноў шчаслівы, і зноў пакутлівы...

Як крыху развіднела, я пайшоў у глыб лесу. Было свежа, нават халаднавата, раса ўжо ўзбуйнела, пасінела – на траве, на кусціках ажыны, крушыны, на хваёвым падлеску, па голлях дрэў. Усё ў расе было і пер'е жураўля – ён бокам ляжаў на замшэлым, гнілым, шырокім пні, адно крыло яго было зломлена і звісала з пня, другое складзена на ім, з пня звісалі і чорная галава, і чорныя доўгія ногі, цемя і патыліца чырванелі ў расе, вочы былі заплюшчаныя. Першае, пра што я падумаў: калі ён заплюшчыў вочы? Высока ўгары, у небе, як стаў падаць уніз, ці ўжо ўнізе, сутыкнуўшыся з пнём?.. Я ведаў: яшчэ больш развіднее, высахне раса – і па жураўлю, па яго заплюшчаных вачах, па дзюбе пабягуць мурашкі, бо вялікі мурашнік пад елкаю побач. А потым і на ўсяго птаха нахлыне плойма дробных і буйных мурашак, прылятуць сюды з выгану, з-пад Янковай

сядзібы вароны, прыбягуць з вёскі сабакі, калі ўсіх іх не апярэдзіць ліс... У зямлю? Схаваць жураўля ў зямлю? Чарвякі? Чарвякі ж і ў людскіх магілах... І я знайшоў пад дрэвам сухі востры сук, зняў ім кавалак дзёрну і – то суком, то проста рукамі – выкапаў неглыбокую ямку. Злажыў жураўлю крылы, паклаў яго ў зямлю і стаў засыпаць зямлёй, паціху засыпаць – далонямі. І ўбачыў: адно яго, жураўлінае вочка вузенька, як праз шчылінку, скразіцца... І я ўспомніў тую вуліцу, тую цяжкую нашу з хлопцамі дарогу-вуліцу, калі мы неслі на ручніках у труне Пецю, нашага аднакласніка, і калі я на нейкае імгненне азірнуўся, трымаючы ручнік, то адразу ўбачыў: адно вока ў Пеці ў труне прыжмурана-прымроена і хітравата скразіць на мяне, на нас горка і светла, і праз тую шчылінку ў вачніцы быццам кажа: а куды ж вы мяне, хлопцы? а куды? і я ўсё бачу, усё ведаю, і вам ад мяне нікуды не дзецца... Але тое было даўно, ой як даўно, калі было семнаццаць і калі мы яшчэ не ўмелі плакаць над труной...

Засыпаў птушку зямлёй, палажыў зверху дзёран, прыціснуў яго рукамі, каб от так – р-раз! – і больш нічога няма – ні жураўля, ні мяне, нічога...

...Янко стаяў пад ялінай ля палаткі. Ружжо было прыстаўленае да дрэва. Сонца скрозь голле адным рашучым промнем біла палешуку ў вочы, але ён ані жмурыўся і глядзеў мне ў вочы. Я быў перад ім. Ён трымаў свае рукі на клубах. Губы яго былі крэпка сціснутыя – ажно скура ў вугалках нервова перасмыкалася. Потым Янко апусціў галаву і ўжо глядзеў на мяне спадылба, зняў рукі з клубоў і скрыжаваў іх на вузкіх, худых грудзях. "Напалеон", – падумаў я, усміхнуўся, і сказаў:

– Добры дзень, Янко Іванавіч!

Ён не адказаў. Раптам сеў на мох, абхапіў далонямі твар і здрыгануўся плячыма. Я зразумеў: плача. Я падышоў да яго, стаў перад ім на калені.

– Янко!..

Ён маўчаў, плакаў бязгучна – адныма плячыма.

– Янко!..

Я ўстаў з зямлі. Ён апусціў рукі з твару ў мох і знізу глядзеў мне ў вочы, па шчоках яго каціліся слязіны, падалі ў кусцік папараці перад ім. Я зноў сказаў, ціха, але сурова:

– Янко!..

І тады ён сказаў – знізу мне ўгару:

– Анатоль Хвэдоровіч... Учора... позна... ноччу ўжо... участковы прыйшоў до мэнэ на ферму і хоціў мэнэ ударыты... але ны ўдарыў... падняў руку і ны ўдарыў... Толё! Бый мэнэ! От я перыд тобою на зямлі – бый мэнэ! Прошу, Толё! Анатоль Хвэдоровіч, прошу...

І Янко заплюшчыў вочы – быццам чакаючы майго ўдару. Ён быў упэўнены, што я ўдару яго. Але рука мая й не думала варухнуцца, толькі быў я збянтэжаны.

– Янко... Янко Іванавіч...

І ён раптам крыкнуў, крыкнуў на ўвесь лес, не расплюшчваючы вачэй, знізу, ад зямлі:

– Я буў сэксотом!

Здаля, з глыбі лесу данеслася сюды рэхам: "отом".

– Янко!..

Я крэпко закрыў сваёй даланёй яму рот, але ён адарваў маю руку і яшчэ крыкнуў, ужо крыху цішэй:

– Буў! Буў!

"Уў! Уў!" – глуха данеслася з глыбі лесу.

Янко расплюшчыў вочы, яны былі поўныя слёз, стаў ціха гаварыць мне знізу:

– Тому шчо мэнэ колысь тут, у Боброўні, продалы... Я буў п'яны, ішоў ночою дохаты і крыкнуў прыпеўку... сам прыдумаў: Полюбыла Маня Ваню, а я Лёню Брэжнёго, одорвала Маня ў Ване, а я ў Лёні грэшного... Назаўтрі мэнэ завэзлы до города. Трое суток трымалы ў каталажцы. І якраз у гэты дні ўмэр муй бацько. І офіцэр даў мэні ногою под сраку і шчэ раз даў і крыкнуў: "Вон... твою мацъ!.." Я поховаў бацьку. За мною зноў прыіхалы і заволоклы до Городышчэ ў псіхбольніцу, на цэлы год. Здурэў там от тых уколав... Выпустылы... І тогды я – я! – стаў доносыты... Праўда, оно ў міліцыю, участковым... А гэтою ночою наш новый участковый хоціў мэнэ ўдарыты... Правільно хоціў... Трэ було добрэ мэнэ збыты... Толё! Бы мэнэ! Бы!..

І ён зноў там, унізе, на моху, заплюшчыў вочы, чакаў. Дарэмна чакаў.

– Янко, устань.

Ён цяжка ўстаў з зямлі, пахіснуўся, але паспеў працягнуць руку да яліны, ухапіўся рукой за ствол, ступіў крок да дрэва,

прытуліўся шчакой да кары. Так стаяў ён пад ялінай доўга і моўчкі, потым ціха сказаў:

– А дэ жораў?

Я адказаў:

– Янко Іванавіч, ты стаміўся, ты дужа стаміўся. То ідзі ў палатцы паляжы, адпачні.

Ён зноў – ціха, але настойліва:

– Дэ жороў?

Я паказаў рукой у лес:

– Там.

– Праўда?

– Так. Там.

– Завэды. Покажы.

Ён адштурхнуўся рукой ад дрэва, зняў з галавы картуз і чамусьці кінуў яго на зямлю, пальцамі крыху расчасаў чорныя ўскудлачаныя валасы, пайшоў у падлесак. Я паціху ступаў за ім. Але ён раптам вярнуўся назад пад яліну, узяў ружжо і паваlок яго за сабой. “Хай, хай сабе валачэ”, – падумаў я, ідучы паперадзе. І раптам мне схацелася быць тут, во цяпер, у гэтым лесе, што паблізу канавы, якая нядаўна была рэчкай і якая ўпадае ў не дужа далёкую адсюль скалечаную Ясельду, – мне раптам схацелася быць жорсткім, схацелася адпомсціць... Але каму і за што адпомсціць, пакуль што не казаў сабе – бо й не думаў і не верыў: каму і за што?.. Так, схацелася быць жорсткім, і я спыніўся, павярнуўся да Янка і сказаў яму:

– Янко Іванавіч! Жораў да мяне прывык. А ўбачыць цябе – уцячэ. Дык ты не йдзі, а ціха-ціха паўзі. Ружжо я панясу. Давай! А там – возьмеш ружжо. Ну!..

Янко нават і не раздумваў – працягнуў мне ружжо, сеў на зямлю, выпрастаўся на ёй тварам уніз і – па імху, па шыгаллі, па сухіх калючых шышках і вострай траве – папоўз уперад. Я йшоў за ім і над ім.

Было ўжо апоўдні. Сонца так нагрэла сосны і елкі, што ўвесь лес зыходзіў, патыхаў смалой, а шчокі і шыя Янка ўспацелі, але ён упарта і бяздумна, – так ужо яму наканавана лёсам, – поўз уперад. Пад ім трэскаліся сухія галінкі, і я сказаў яму:

– Янко Іванавіч, цішэй. Паўзі спакойна і глядзі перад сабой.

Ён, паўзучы, азірнуўся на мяне і кіўнуў галавой, маўляў, разумею. І раптам крыкнуў:

– Ой, Толё!..

Янко ўпёрся рукамі ў мох, адхіснуўся галавой назад – якраз перад шырокім, чорным і гнілым пнём. Я падышоў да Янкавай галавы і жахнуўся: з-пад пня, з цёмнай норкі тырчэла маленькая, нерухомая галоўка змейкі-медзянкі і з роту яе білася-калацілася, калола паветра голка – тоненькі, ледзь бачны язычок. Змейка жоўтымі вочкамі-кропелькамі глядзела на чалавека. А чалавек знерухомеў, і вочы яго – напэўна, ад жаху-страху – здаецца, нічога не бачылі, нічога – акрамя шырокага чорнага пня. Але Янко разумеў: перад ім – мядзянка. Шыя, лоб, шчокі, нос – усё ў яго ўспацела. І Янко кінуў свой твар у мох, зарыўся ў ім ілбом, вачыма, носам, падбародкам, і, як аднекуль з глыбіняў зямлі, крыкнулася глуха і адчайна:

– То-олё! Ратуй!

Не думаючы, што раблю і што з гэтага выйдзе, я рынуўся на пень і з усяе сілы, з размаху ўдарыў у яго, і ён рассыпаўся, ад яго ашлюцця ўзняўся чорны пыл, зняўся і паволі апаў на мох, на парАць, на Янкову патыліцу, на мае рукі і ногі. Медзянкі нідзе не было. І ўсё вакол, нарэшце, супакоілася: трава, мох, галава Янка ў ім, – ён паціху прыўзняў яе – голле дрэў над намі, падлесак, мурашы ў раскіданых аскялепках пня, увесь лес. Толькі сарока недзе зусім блізка стракатнула і паляцела, лапочучы крыллем, – паляцела разнесці ўсяму лесу, усяму свету: во, адзін поўз, другі йшоў, і той, каторы йшоў, біўся з пнём, а той, каторы поўз, плакаў.

І тады Янко зноў папоўз, і я – за ім і над ім – пайшоў далей па лесе. Янко нервова выкідваў уперад рукі, адштурхоўваўся ад зямлі, нагамі, сіняя кашуля на локцях і чорныя штаны на каленях у яго сталі зялёнымі, кроплі поту з твару яго падалі ў мох, ён цяжка дыхаў, але ўпарта поўз і поўз уперад. Мне было шкада Янка, але ў думках я казаў яму: паўзі, паўзі, чалавеча, гэты дзень табе запомніцца на ўсё тваё астатняе жыццё, і не я тут цябе сёння пакараў – гэта Бог цябе карае, я толькі выконваю Божую волю... Я жорсткі сёння з табой, Янко, жорсткі... можа, нават, сёння я твой кат, але так трэба, Янко, трэба, каб ты запомніў гэтае сваё поўзанне, запомніў на ўсё астатняе сваё жыццё... хоць я й сам шмат у чым вінаваты і шмат награшыў,

і таму й мне трэба было б упасці ў гэтым лесе на зямлю і паўзці побач з табой, ці за табой, ці перад табой, але ты ведаеш, куды паўзеш – да жураўля, да той, падбітай птушкі, а я не ведаў бы, куды паўзу, я толькі ведаў бы, чаго паўзу – каб пакаяцца... ты ж таксама, Янко, паўзеш, каб пакаяцца, праўда?.. ну, то добра, паўзі і – даруй мне, даруй мне за мой здзек з цябе... Мне было шкада Янка, але я ціха сказаў яму:

– Янко Іванавіч, сухія галінкі трэскаюцца пад табой, паўзі цішэй, асцярожней, яшчэ метраў дваццаць...

Ён спыніўся і азірнуўся на мяне – з нейкай дзіцячай радасцю ў вачах і з адчуваннем нейкай перамогі. Перамогі нада мной? Ці скорай і канчатковай перамогі над жураўлём?.. Я не сцярпеў гэтага позірку і амаль загадаў:

– Паўзі!

І Янко папоўз далей – цішэй і асцярожней. Я прайшоў яшчэ колькі крокаў за ім і сказаў:

– Стой.

Янко спыніўся, павярнуўся на бок і, глянуўшы на мяне, прыціснуў палец да губ: маўляў, ціха. Потым ён доўга ўзіраўся перад сабой – і між высокай травы, між папараці, між кусцікаў ядлоўцу і веццяпадлеску нічога не бачыў, ніякага таго жураўля. Я стаяў побач над ім, ля самай яго галавы. Ён нецярпліва тузануў мяне за штаны:

– Дзе?

Я – зычна:

– Тут!

Ён – ужо таксама зычна:

– Дзе тут?!

Я:

– Твае рукі на ім.

Ён адштурхнуўся рукамі ад зямлі, сеў і здзіўлена, недаўменна глядзеў на мох перад сабой, потым падняў вочы на мяне, і ў гэтых вачах стаяў жах, яны, яго вочы, быццам крычалі: што вы ўсе робіце мяне дурнем!..

Тады я нахіліўся, рашуча адкінуў яго рукі ўбок і адарваў ад зямлі дзёран – агаліўся шэры пясок, і я – ужо спакойна – сказаў:

– Тут.

Янко ўсё зразумеў. Ён імгненна падхапіўся на ногі, вырваў

з маёй рукі ружжо, утыркнуў яго дулам у шэрую зямлю, націснуў на курок. Выстрал прагучаў глуха, як з-пад зямлі, і мы ўсе – Янко, я, трава, ядловец, падлесак, сосны і елкі побач – стаялі ў густой шэрай шэрай хмары, у хмары з шэрага пяску і дыму. Потым гэтая хмара асела долу, і я вырваў ружжо з рук аслупянелага і як напраўду здурнелага Янка і з усяе сілы грохнуў ружжом аб ствол яліны. Аскялепкі разбітага прыклада нябачна – бо то было імгненне – развярнуліся па-за ствалом і, бумерангам, ударылі мне па нагах. Потым я падышоў да ялінкі. Янко стаяў на каленях перад ёй і чорнымі пальцамі рваў зямлю і кідаў яе на шэрае і чорнае пер'е і на чорную дзюбу – яна тырчала з зямлі і была крышачку разяўленая, і яшчэ на нас глядзела адно паўрасплюшчанае вочка, і тое вочка быццам прашаптала: за што ж вы мяне, людзі?.. І яшчэ з шэрага пяску тырчэла маленечкае чырвонае перыйка, і я не ведаў, чаму яно чырвонае: ці ад крыві, ці таму, што яно – з цемені. Ад прыроды ў жураўлёў перыйка на цемені – чырвонае.

Мы разам, моўчкі, засыпалі ямінку зямлёй, я палажыў дзёран зверху, прыціснуў яго рукамі. Янко намерыўся быў прытаптаць яго нагой, але перадумаў, стаяў моўчкі, потым падняў галаву ўгору і прашаптаў:

– Даруй мэні, господзі...

Потым мы пайшлі – я паперадзе, ён за мной...

Я выйшаў да яго з палаткі – з рукзаком і плашчом у руцэ.

– Во табе, Янко Іванавіч, грошы на новае ружжо.

Ён не ўзяў грошы:

– Не!

– Янко Іванавіч, забярэш палатку сабе. Бывай! Будзь здаровы!

Ён маўчаў. Я павярнуўся ад яго і хутка пайшоў з лесу, міма майго пня, на дарогу. Там, на новым і ўжо вышчарбленым асфальце, я азірнуўся на лес: ён глуха шумеў і нікога ў ім не было відно. Толькі высока плыла на яго хмара, апускалася ніжэй, а дзесьці далекавата, па-над Ясельдай, грымела. І я ведаў: там, у лесе, стаіць ці сядзіць на імху пад сасной Янко і – плача, абшчапіўшы твар худымі, чорнымі далонямі...

Ішоў аўтобус, я падняў руку і – паехаў, – дарогаю праз лес, лес, лес, праз Цну, Начу, Лань, на бераг Морачы...

У аўтобусе было цесна, душна – не ад пасажыраў, а ад іхніх

валізкаў, бавулаў на колцаў і без колцаў – атрыбутаў "пераходнага перыяду" ад сацыялізму да незразумелых простаму люду, во гэтым пасажырам-палешукам, "рынначных адносін" – і таму яны сядзелі, стаялі, маўчалі і паціху лаялі адзін аднаго:

"Не напірай... тваю маць...", "забяры сваю нагу з майго калена..." – "Гэто не мая нага..." – "А чыя?" – "О гэтае бабы..." – "Я табе дам... гэтае бабы... я камерсантка..." – "Шчо за мерсанка... тваю маць..."

І ўсе мы ехалі – праз лясы і палі...

Ля Морачы я сышоў з аўтобуса. Перад мостам цераз рэчку споўз з высокае пясчанае абочыны, ступіў на траву, пайшоў берагам, вузкай сцежкай між лёгкіх дзьмухаўцоў, белых рамонкаў, ружовай канюшыны, пахкога дзяцельніку – сцежкай між рэчкай і спелым жытам, у якім сінелі васількі...

Я не спяшаўся, ішоў спакойна берагам Морачы, ведаў, што прыйду – туды, куды ўжо гадоў трыццаць не прыходзіў, не прыязджаў, на хутарок між поля, да хаткі ў вішанніку, у якім калісьці буяў светлы палын, і між палыну, у цёплым шэрым пяску купаліся курыцы, ля курэй білі "шпорамі" вогненна-чырвоныя пеўні, а калі я зачыняў за сабой веснічкі, збітыя з альховых жардзінак, пад саламянай, замшэлай страхой расчыняліся дзверы, і з цёмных сенцаў – маленькая, сухенькая – Тоніна маці казала мне настрэчу: "А во й Толя..." Яна ступала на ганак – патрэсканую дошку на двух камянях, – выцірала аб фартух счарнелыя – ад торфу і бульбы – далонькі і працягвала мне руку. У вакне расхіналася трапяткая белая фіранка, і на ганак ластаўкай вылятала Тоня – з распушчанай да пояса касой, у квятастай паркалёвай сукенцы, падыходзіла да мяне, прыціскалася шчакой да майго пляча і шаптала: "Прыехаў... прыехаў... прыехаў..." Маці хуценька йшла ў хату, а мы з Тоняй – у вішаннік, сядалі на траву, між палыну, і там Тоня цалавала мяне ў шчокі. Я кахаў яе, а яна... Не ведаю... Вакол нас горка пахла палыном...

Потым мы йшлі на Морач. Я ссоваў з берага ў ваду старую лодку, браў пад алешынай вясло, і мы ціха плылі за вадою. Я выцягваў з Морачы белыя лілеі – такія ж самыя, як калісьці на Ішыме...

Цяпер я ішоў сцежкай між канавай, былой Мораччу, і спелым жытам. Там, дзе сцежка зварочвае проста ў жыта і павядзе

мяне да хутарка – ці на яго котлішча? – я спыніўся. На беразе канавы – ніводнай алешыны. Але ў траве ляжалі два шырокія камяні, прыціснутыя адзін да аднаго, тыя самыя, на якіх калісьці ляжала патрэсканая дошка, – рэшткі Тонінага ганка. Камяні ўжо даўно ўтравелыя. На адзін з іх нахіліўся падсохлы рамонак, на другі – сцяблінка крываўніку. Я адхінуў крываўнік убок, сеў на камень. Далей ісці дарма. Заплюшчыў вочы і так сядзеў доўга, сам з сабою, з радком успомненым:

Ні ракі, ні цябе, ні вясла...

Успамінаў тое, што ўжо даўно не ўспаміналася.

...Па вяртанні з Казахстана нам, хто быў там на ўборцы ўраджаю, далі тыдзень адпачынку – дома. Тоня прыехала з вёскі ў горад нейкая самотная, спакутаваная, гаварыла са мной, а ўсміхалася рэдка. Жыгун сказаў, што ў інстытут прыйшло з Тонінай вёскі пісьмо – пра яе бацьку. І яшчэ шапнуў: "Не хадзі з ёй". У калідоры факультэта якраз нікога не было, і як я трэснуў яму, Жыгуну, па вуху – ніхто не бачыў, і ён нідзе нікому не сказаў. Я адпрасіўся ў дэкана на два дні, хутка дабраўся спадарожнымі машынамі да Тонінай вёскі. Быў ужо позны вечар, асенні, я асцярожна распытаў у стрэчнае на вуліцы жанчыны, дзе чыя хата, знайшоў хату "таго", паклікаў яго на вуліцу. Гэта быў здаравенны, плячысты дзяцюк, нашмат, было відаць, дужэйшы за мяне, але я з усяе свае сілы ўдарыў яго ў падбароддзе, так ударыў, што ледзь сам утрымаўся на нагах, а ён – упаў на зад, упаў, мусіць, ад нечаканасці, сядзеў на зямлі, глядзеў на мяне, маўчаў. Я ціха сказаў: "За Тоню", – і пайшоў ад яго. Ён не даганяў мяне. Ноч была халодная, і я да раніцы тупаў па старой "варшаўскай" дарозе і казаў сабе: я стаў біцца – добра гэта ці не?..

Тоні пра сваё падарожжа я не сказаў. У мой інтэрнацкі пакой аднойчы вечарам (я быў адзін) прыйшоў Жыгун, паставіў на стол бутэльку віна, сказаў: "Даруй мне", – мы выпілі, я дараваў яму: малады камуніст...

А ў той чэрвеньскі дзень, калі мы здавалі – за другі курс – экзамен па "Основам марксизма-ленинизма", Жыгун падышоў да мяне ў калідоры (я атупела глядзеў у старонку "Основ"), сказаў ціха: "Тоня заваліць... пачала адказваць па-беларуску... старшыня камісіі сказаў ёй... а яна – сваё... усё – заваліць..."

Тоня хутка выйшла з аўдыторыі, пабегла па калідоры міма дзяўчат да дзвярэй, дзверы бразнулі за ёй, дзяўчаты кінуліся ўслед, я бачыў праз акно, як Тоня выбегла з корпуса на вуліцу Маркса, звярнула на Леніна – у інтэрнат, тры яе сяброўкі – з аднаго пакоя – беглі за ёй. Я таксама выбег на вуліцу, але – вярнуўся, бо трэба было здаць экзамен, я быў апошні.

У той жа дзень Тоня пайшла ў рэктарат, перавялася на завочнае аддзяленне: атрымаўшы "тройку", яна сказала сабе, сяброўкам, мне і рэктару, што не зможа без стыпендыі: адна маці-калгасніца ды яшчэ хворая... Я таксама тады атрымаў "тройку" і, хаця без стыпендыі мог абысціся, пакінуў на год інстытут – з'ехаў далёка ў паўднёвыя стэпы – да цёткі, там біў каменне ля дарогі, еў кавуны і вінаград...

Аднойчы я доўга глядзеў услед маладзенькай казачцы – яна прайшла міма мяне, я стаяў з молатам на абочыне дарогі, прайшла, кінуўшы ў мяне з-пад чорных вейкаў нейкую здзекліва-таемную ўсмешку і так крутнуўшы задком пад тонкай, гнуткай таліяй, што чырвоная спаднічка ажно спавіла яе калені. Я памкнуўся за ёй, але яна хутка, як здань, знікла недзе ў бяскрайняй пшаніцы... І яшчэ аднойчы йшоў я стомлена пад гарачым сонцам, берагам жоўтай Кубані, і перада мной, на беразе, спынілася чорная "Волга", з яе вылезлі двое – ён і яна, маладыя, ён – у чырвоных плаўках, яна – у блакітным купальніку, кінуліся з берагу ў раку, нырнулі пад ваду, там павалтузіліся, бадзёра пафыркалі, выскачылі на бераг, на мяне ніякай увагі не звярнулі, у яго на лбе ружавела прадаўгаватая пляма, у яе з-за вуснаў вытыркаліся крэпкія белыя зубы, ён пабег ад берагу ў стэп, у паўночна-заходнім кірунку, яна – за ім і крычала: "Мишенька! Куда?" – ён на бягу скінуў плаўкі і крыкнуў ёй назад: "На Москву, Раечка! На Москву!" – ён нават не хаваў даланёй сваё "нешта", і тое "нешта" вольна, як у нейкай краіне поўнай дэмакратыі і галоснасці, боўталася пад небам СССР, – яна ўпала на зямлю і з сухой травы рагатала: "А король-то голый!" – ён адказваў ужо здалёку: "Процесс пошёл!" Я спалохаўся ўсяго гэтага "процесса" і пабег над ракой, пабег, пабег – назад, на захад, у зялёна-свежыя свае лясы, палі і воды... Развітваючыся з цёткай Верай, дзядзькам Ігнатам і іх дачкой, маёй стрыечнай сястрой Тамаркай, я быў заікнуўся: а можа, і вы калі вернецеся дамоў? Яны самотна прамаўчалі, і я ведаў: не, з гэтага, на

Кубані, свайго выраю яны на радзіму ўжо ніколі не вернуцца. Так, я пакінуў поўдзень – стэп з ганарлівымі суслікамі, гарачым сонцам, спякотнавокай казачкай, жоўтай вадой Кубані, салодкімі кавунамі, так і не ўбачанай нідзе станіцай з рамана Бабаеўскага "Кавалер Залатой Зоркі", стэп з тым "голым каралём"... Вярнуўся ў інстытут. Напрыканцы жніўня ступіў на сцяжынку, што ад берагу Морачы павяла мяне ў жыцце... Тоня ўбачыла мяне праз акно, выбегла на ганак – на свежую белую дошку, якая ляжала на двух шырокіх камянях – кінулася да мяне, абвіла шыю голымі, лёгкімі, як крылы, рукамі, і я тады ведаў, што кахаю яе, і не ведаў, ці кахае яна мяне. Што гэта – яе адчайныя абдымкі і пацалункі? Я ёй – толькі найбліжэйшы сябра? Чаму ніколі не прыціснулася грудзьмі? Баіцца? Баіцца, каб я не пачуў, якія яны ў яе цёплыя і вострыя? Не абдымай, не цалуй...

Камень пада мной ля канавы, на беразе колішняй рэчкі Морачы, варухнуўся, і я ўсхапіўся на ногі, глянуў зверху ўніз: не, камень не варушыцца, сухія рамонкі і крываўнік над ім зусім паніклі – бяздумна і назаўжды паніклі, – таму я зноў сеў на камень...

Тады, напрыканцы жніўня, там, ля хаткі ў полі, яна сказала, што ўжо ўладкавалася, таксама завочніцай, у іншы педінстытут. "Толічак, бывай, – прашаптала яна пад вішняй, а ў вішні той лісце пажоўклае ўжо было... Я яшчэ прыязджаў – старою "варшаўкай", здоўж якой яшчэ зеляненелі вясной і летам і ледзянелі зімой кацярынінскія бярозы, і аднойчы, калі прыйшоў да хаткі ў полі, убачыў цяжкі чорны замок...

Прысела хатка адпачыць
ля старой варшаўскае дарогі,
На саламяна-травяным плячы
сумуе месячык двухрогі.

На скошаных дзвярах замок
з эпохі Рэчы Паспалітай.
Разбіты перунамі чыгунок
чарнее ля трухлявага карыта.

З зямлі пад месяцам блішчыць
ад медаля бляшаная калодка.
Пад сцяной – на сонцы і дажджы
стамлёная
каса-літоўка.

Пад сухою вішняй стол,
пад ім – зламаная падкова,
вокладкі – Купала і Талстой,
павуціна ў шклянцы Малянкова.

Я з гэтай шклянкі піў!
Тут чытаў Купалу і Талстога.
Гэтаю касой касіў
ля бярозавага лесу маладога!..

Дошкамі забітае акно.
Пастукаў ціха...
Не азвецца гаспадыня.
Дачка яе імклівым птушанём
Не вылеце на ганак, не абдыме...

Ля ўпалых веснічак стаю,
не слухаю, не бачу ўжо нічога.
Пакінуў месяц мілую страху.
Іду паціху на дарогу.

Зноў іду гэтай сцежкай ад Морачы, у жыце, ведаю, што там, у полі, ужо і ні хаткі, і ні вішняў, і ні палыну пад вішнямі, ні камянёў. Тупаю па ёй да раніцы, ля клецкага раздарожжа, падымаю руку – спыняецца аўтобус, што йдзе на захад... Даўно ж ведаў, што няма, няма ў полі хаткі, што Тоня з маці даўно ўжо – з дапамогай калгаса – перанеслі яе ў канец вясковае вуліцы, і стаіць яна ля хаты таго, каторы быў перастаў здзекавацца з Тоні, аціхнуў, але потым зноў, як напіваўся, ішоў да Тонінага ўвечары светлага акна і біў кулаком па раме. Тоня працавала настаўніцай у школе, і ёй было цяжка: і настаўнікі, і вучні ведалі пра тое біццё па раме, ведалі, што я прыязджаю, і Тоня не вытрымала, знайшла месца ў школе ў суседнім раёне,

наняла кватэру, узяла з сабой хворую маці, а там, а там… Яна напісала мне: "Даруй мне, даруй мне, прашу… я больш не магу, мне гэтак цяжка. Я хацела зрабіць школу, дзе я працавала завучам, нашай, роднай, беларускай – каб дзеці выходзілі з яе сценаў добрымі людзьмі. Я хацела гэтага, я рабіла ўсё, каб дзеці былі добрымі людзьмі… Але нехта напомніў, куды трэба зноў пра мяне… І я з'ехала яшчэ ў адзін раён, узяла з сабой маці. А там – воінская часць. І адзін маёр-удавец папрасіў мяне стаць яго жонкай, і я згадзілася. Бо я ўжо знемаглася, мне ўжо захацелася хоць трохі пажыць спакойна. Я нават ахвяравала памяццю майго бацькі, памяццю нашай з табой маладосці. Даруй мне, даруй. Можа, калі й сустрэнемся, успомнім… Даруй мне. Я цябе… Тоня".

Я пакутаваў над гэтымі двума словамі: "Я цябе…" А што "цябе"?.. Я быў крыкнуў аднойчы праз нейкае поле, нейкі лес: "А што "цябе"?!". Але ніхто і ніштo мне нічога не адказалі… Той раніцай, той дарогай, ад знявечанай Морачы ехаў, можа, у апошні раз.

Было ўжо каля поўдня, калі аўтобус пранёсся над густымі лазнякамі і чаратамі Шчары, потым – над Грыўдай і спыніўся ў гарадку майго юнацтва. Гадоў пятнаццаць таму тут загінуў Паэт – мой маленькі сабачка, загінуў у барацьбе з мясцовай міліцыяй…

На кватэры ў вёсцы, на ўскрайку Белавежскай пушчы я расчыніў перад сабой акно насцеж. Цёплы вечар – разам са свежым ветрыкам, з пялёсткамі жоўтых і чырвоных вяргіняў, з пахам травы ад плоту і аеру ад ракі – стаяў у маім пакойчыку. І мне раптам стала так добра і лёгка на душы. Я ведаў: яшчэ доўга-доўга сёння акно маё, перада мной, будзе расчыненае насцеж…

Жнівень – верасень,
снежань 1998 г.
Вярховічы – Вялікая Гаць.




# Міхаіл КРАСАВІЦКІ

*Часам трэба дзіву давацца*
*з дзікае настойлівасьці людзей*
*да нішчэньня*
*гістарычных памятак.*

# Пра айца Міхаіла Красавіцкага

*Пасля захопу Беларусі Расійскай імперыяй напрыканцы XVIII стагоддзя галоўная роля ў русіфікацыі беларусаў была адведзена Рускай праваслаўнай царкве. Гвалтоўна скасаваўшы ў 1839-м царкоўную Унію (да грэкакатолікаў належалі блізу 80 адсоткаў нашых продкаў), царскія ўлады адкрыта абвясцілі пра тое, што праваслаўны святар у Беларусі мусіць быць рускім – паводле сваіх светапогляду, мовы, культуры, адданасці гасудару імператару.*

*Рознымі шляхамі, але ў большасці выпадкаў гэтае мэты ўдавалася дасягнуць. Аднак насуперак усяму знаходзіліся тыя, хто і ў расійскіх духоўных семінарыях здолеў застацца патрыётам Беларусі і беларускай культуры. Адметна, што такія святары – у духу нашай шматвяковай традыцыі – талерантна ставіліся да каталіцкай царквы.*

*Адным з іх быў айцец Міхаіл Красавіцкі. Народжаны ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Смаленску, ён скончыў Полацкую духоўную семінарыю і болей за пяцьдзесят гадоў служыў у Віцебску і Вяліжы. Чытачы "Витебских губернских ведомостей", "Полоцких епархиальных ведомостей" і "Церковно-общественного вестника" часта сустракалі подпіс а. Міхаіла пад артыкуламі, якія можна аднесці да жанру гістарычнай публіцыстыкі. За некаторыя з іх аўтар меў немалыя непрыемнасці ад духоўных і свецкіх уладаў. На жаль, іншых звестак пра яго жыццё амаль не захавалася.*

*Найбольш вартай з публікацыяў М.Красавіцкага выглядае змешчаны ў "Полоцко-Витебской старине" ягоны даклад "Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова", які прачытаны ў 1911 годзе для сяброў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Амаль праз паўстагоддзя ён быў перадрукаваны ў беларускім перакладзе вядомым эміграцыйным рэлігійным часопісам "Божым Шляхам". У прадмове рэдакцыя звяртала ўвагу, што "артыкул напісаны ў тым часе, калі трэба было рахавацца з царскаю цэнзураю". З фрагментамі гэтае працы мы і знаёмім чытачоў "Крыніцы".*

**Уладзімір АРЛОЎ**

**Айцец Міхаіл Красавіцкі**

*Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова*

## Прычыны і дзейнікі вынішчэньня беларускіх царкоўных памятак

...Наагул сумная гісторыя царкоўных памятак і ўсякае старадаўнасьці ўва ўсіх канцох нашае бацькаўшчыны. Але наш край побач агульных умоваў і прычынаў, што дзейнічаюць ува ўсёй Расейскай імпэрыі, мае яшчэ свае асаблівыя прычыны, якія павялічваюць руйнацкую дзейнасьць.

Пачнём агляд ад агульных прычынаў, а закончым мяйсцовымі, падаючы прыклады.

Перадусім да вынішчэньня памятак старадаўнасьці спрычыняецца нашая **някультурнасьць і беднасьць**.

І сапраўды, успомніце толькі, колькі гэта памятак царкоўнае архітэктуры гіне ад пажараў. Гусьціня будынкаў, насуперак усякіх законных правілаў і меркаваньняў здаровага розуму, дахі з неагнетрывалых матэрыялаў даюць магчымасьць вогненнаму мору разьлівацца шырока... Успомніце, якія сродкі мае наша вёска, каб тушыць пажар, успомніце гэныя праславутыя вывескі на варотах, дзе вядро, дзе бусак і пад. І ў гарадах часам ня шмат лепш: дрэнна зарганізаваныя з дрэннымі машынамі гарадзкія і дабравольныя пажарныя каманды, разгубленасьць і нязгода ў дзеяньнях, няўменьне лякалізаваць пажар.

Успомніце, што шматлікія цэрквы,

высока ўздымаючыся над навакольнымі будынкамі, загараюцца ад маланкаў, і даведайцеся, ці ў шматлікіх мяйсцовасьцях ёсьць грамаадводы на царкоўных купалах і вежах; магу вас запэўніць, што знойдзеце іх не як правіла, а як рэдкі вынятак.

Закранём цяпер іншыя ўмовы стыхійнага характару.

Ведама, што для добрага стану мураванага будынку важнае значэньне мае адпаведны грунт, асабліва, калі будынак стаіць на ўзгорку ці на высокім беразе ракі. Высокі бераг сыстэматычна падмываецца ракою. Грунтавыя воды вядуць такжа сваю разбуральную работу. У выніку часам здараюцца аграмадныя апоўзьні. Уявеце сабе, якое мае значэньне ўмацаваньне берагоў, дрэнажаваньне грунту, строгі нагляд за спускам адпрацаваных водаў і вадкасьцяў для будынкаў, якія стаяць на берагох.

Пры адсутнасьці ўсіх успомненых мерапрыемстваў, у найлепшым выпадку будынкі разбураюцца паволі, трэскаюцца; у горшым выпадку можна бачыць неспадзяваны абвал і разбурэньне будынку ў выніку абвалу берагу. Так у 1853 г. разам з часткаю берагу абвалілася ў Нёман паўднёвая сьцяна Калажанскае царквы ў Горадні, збудаванае ў XII ст.[1].

З гэтага ґледзішча варта пацікавіцца хоцьбы Віцебскім Усьпенскім саборам. Нельга сказаць, што ўмацаваньне берагу, дагляд за дрэнажаваньнем грунту ў ваколіцы і каля самага сабору было прадметам нечых асаблівых турботаў. Н.Я. Нікіфароўскі што да гэтага піша: "Заснавальнікі Усьпенскае сьвятыні і будынку, які сёньня займае сэмінарыя, залажыўшы яе ў 1743 г. для памешканьня пад манастыр і школу, даражылі шырынёю плошчы і, каб яна ня зьменшылася ад падгрунтовых уплываў, тады-ж пастараліся абгарадзіць яе каменным і дзераўляным умацаваньнямі, бачымыя рэшткі якіх дахаваліся ў крушнях мураў і зрубаў на

гэтуль даюць прычыну да пагалосак, быццам з Усьпенскага сабору і сэмінарыі ёсьць ходы пад рэчышчам Дзьвіны на правы бераг рэчкі"... З цягам часу "даўнейшыя інжынерскія працы пайшлі ў забыцьцё; вадаправоды забузаваліся і грунт разьмяк. Вынікам гэтага было тое, што значная частка бульвару супраць зав. Бібкіна і далей, у кірунку "дварца", асела на некалькі сажняў, прычым разбурыліся ўмацаваньні, а аплыўшая ў Дзьвіну зямля была зьнесена вадою; калішні суцэльны бульвар раздваіўся"... Шмат гадоў потым сталася "новая асяданьне грунту супраць зав. Бібкіна." (У 1866–67 гадох)"[2].

Тэхнічны агляд будынку Усьпенскае царквы не рабіўся ад няпаметных часоў і толькі нядаўна быў зроблены дзеля шматлікіх трэшчынаў, што зьзяюць зьверху аж да фундамэнту, адыходу ў бок правае вежы ды іншых дэфэктаў. А між тым гэта-ж краса ўсяго гораду, якую бачна здалёку больш чым за дзесяткі вёрст!

Прыгляньмася цяпер да лёсу сьвятыняў, у якіх дзеля нейкіх прычын спынена багаслужэньне; напрыклад дзеля пабудовы новае сьвятыні, ці дзеля скасаваньня прыходу, як гэта было ў 60-х гадох пры скарачэньні штатаў парахвіяльнага духавенства. Звычайна, калі такое царквы не разьбяруць на цэглу, ці на дровы, дык толькі ў рэдкіх выпадках яе падтрымоўваюць і рамантаюць, найчасьцей-жа яна паволі разбураецца. А між тым часам некалькі дзесяткаў рублёў маглі-б захаваць памятку старадаўнасьці.

...Я не магу забыцца прагулкі ў таварystве Д.І. Даўгялы да "лясное" царквы недалёка ад Астравенскага гасьцінца каля маёнтку Куповячына. Сярод лесу на невялікім узгорку стаіць пахіленая чорная царква. Вокны бяз шкла. Дах зарос мохам і нават маладым бярэзьнікам, мяйсцамі зусім праваліўся і ўсюды сьвеціцца, як рэшата. Купал пахілены і так-жа зьзяе шчылінамі. Падлога абвалілася. По-

намі і ля іх падножкаў навешаны і разложаны кускі палатна, пучкі льну і шэрсьці – ахвяры беларуса, каторы йдзе ў гэтыя руіны выказваць у малітве свае патрэбы і жаль перад тымі іконамі і аўтарамі, да якіх прыходзілі яшчэ яго дзяды і прадзеды... Мы абышлі будынак навокал, пастаялі ўсярэдзіне, паглядзелі, з цяжкасьцю разабралі і перапісалі некаторыя надпісы. Адзін сэмінарыст, які нам спадарожнічаў, зрабіў некалькі фотаздымкаў... Яшчэ раз глянулі на вобраз разбурэньня і пайшлі назад...

...Недалёка адтуль, ніжэй па цячэньню Дзьвіны, у межах Магілёўскае епархіі ёсьць вёска Дорагакупава. Ня вельмі даўно там пабудована новая царква. Едучы на параплаве, можна бачыць недалёка ад новае царквы старую – чорную, пахіленую. Шкло ў вокнах выбітае; дах сьвеціцца, а між тым, гэта-ж будынак з XVIII ст. і вельмі характэрны па стылю. Для нашае небагатае царкоўнае старасьвеччыны Заходняга Краю (Беларусі. – *Ув. перакл.*) – гэта каштоўнасьць ня так ужо малая. На мейсцы або ня могуць, або ня ўмеюць знайсьці сродкі для рамонту, ды можа ім проста ў галаву ня прыходзіць, што гэта трэба зрабіць, а ў гары ніхто не зьвяртае ўвагі; гэта-ж ускраіна Магілёўскае епархіі.

Зрэштаю, што гаварыць аб глухіх закутках. Старэйшыя жыхары Віцебску памятаюць яшчэ, як за горадам па дарозе да Мазурына на беразе Дзьвіны стаяла, калі ня мыляюся, на зямлі віцебскага архірэйскага дому, Барысаглебская мураваная царква. Яна ўжо ад даўна была зачынена. Тынк на палавіну абваліўся. Дах струхлеў. Каля ўваходу стаяў вартавы. У ёй доўга гадоў мясьціўся склад амуніцыі, пакуль уканцы, на пачатку 90-ых гадоў яе не прадалі на злом. Гэткім чынам самым простым спосабам была зьнята ганебная пляма з аблічча тых асобаў і ўстановаў, каторыя павінны былі займацца аховаю сьвятыні.

...Праваслаўная Царква ў нашай краіне часткава перабрала ад Усходне-каталіцкае Царквы, часткава атрымала пры закрыцьці каталіцкіх лацінскіх манастыроў у розны час і пры канфіскаце касьцёлаў падчас паўстаньня 1863 г.

нямала царкоўных будынкаў, аграмадных памераў і велічных у архітэктуры. Беднасьць праваслаўнага насельніцтва, немагчымасьць, а можа нават – цяжка судзіць – часам і няўмельства, і неахвота вышукаць сродкі для падтрымальня робяць тое, што часам гэтыя вялікапышныя будынкі галосяць да неба сваім жалюгодным выглядам, пакуль на іх ня зьверне ўвагі начальства, і ня зробіць рамонту на дзяржаўны кошт. Ня трэба далёка хадзіць за прыкладам: такі Віцебскі Усьпенскі сабор, а яшчэ ў большай ступені Полацкі Сафійскі сабор. Зрэштаю для суцяшэньня любіцеляў старасьвеччыны трэба сказаць, што апошні ўжо рамантуецца, а першы стаіць на чарзе з гэтага гледзішча... Не магу ня ўспомніць долю Ушацкае царквы Лепельскага ўезду. Падчас польскага бунту быў зачынены Ушацкі касьцёл, а на пачатку 70-ых гадоў перададзены праваслаўным і пасьвячаны ў імя сьв. Аляксандра Неўскага. Нядоўга ў ім адбываліся багаслужэньні. Хутка сьвятыня была апушчана. Дах і вокны моцна пацярпелі ад часу. Апушчэньне дайшло да таго, што падчас кірмашоў у сьвятыні ставілі коней. На сумную долю сьвятыні зьвярнуў увагу Д.І. Даўгяла ў газэтным артыкуле і з пачыну Сьв. Сыноду была прызначана паважная сума на капітальны рамонт.

...Гэткія вынікі нашае беднасьці і някультурнасьці для памятак царкоўнае старадаўнасьці. Але гэта было-б паўбяды, калі-б у нас толькі пасыўна адносіліся да руйнацкае працы стыхіяў адносна старых памятак.

Нажаль на кожным кроку мы бачым і людзкую працу, накіраваную на нішчэньне роднае старадаўнасьці; работу, у аснове якое ляжыць, як і ўва ўсіх краінах нашае бацькаўшчыны, **невуцтва** і пры тым, яшчэ на большую бяду, часта ў саюзе з **клопатамі аб царкоўным прыгастве**.

У якую небясьпеку невуцтва ставіць памяткі, інтэлігэнтнаму чалавеку нават цяжка ўявіць. Паясьню гэта на прыкладах.

...У адной з вёсак Магілёўскае епархіі, дзе сьвятаром быў мой дзядзька, падчас майго студэнцтва, чакалася пры-

езду архірэя. Я там быў на вакацыях. Запраглі і мяне да падрыхтовак. Я прыводзіў у парадак царкоўны летапіс і пад. Аднойчы вечарам дзядзька кажа: “Пайдзі, калі ласка, у царкву. Там дзяк парадкуе бібліятэку. Памажы яму разабраць кнігі. Іду. У прыцемку пры сьвеце тоненькае васковае сьвечкі над сталом, заваленым грудамі кнігаў, стаіць з глыбокадумным аблічам псаломшчык і час ад часу шпурляе на падлогу асабліва старыя і пашарпаныя кнігі, прыгаворваючы: “гэта ў печку”. На падлозе ўтварылася ўжо даволі вялікая куча кнігаў, асуджаных на спаленьне. Я нахіліўся над імі, і што-ж бачу?! Адна пашарпаная кніга без пераплёту – гэта рукапіснае эвангельле ды яшчэ з вельмі характэрнымі зацемкамі на палёх аднаго сьвятара з XVIII ст., зацемкамі, што былі вартаснымі для гісторыі парахвіі. Вось-жа толькі дзякуючы прыпадку захавалася эвангельле і трапіла на перахаваньне ў Віцебскі царкоўна-археалягічны музэй[3].

...Помню, мяне аж калаціла, калі я чуў наіўны расказ старэнькага сьвятара, як у сенях ягонага дому, што быў калісь базыльянскім манастыром, у кутку стаялі партрэты радавітых фундатараў манастыра і царквы: стаялі, стаялі, але аднаго дня ён вырашыў кінуць іх у печ, як непатрэбшчыну: “я ня думаў, – гаворыць стары, – што яны могуць каму-небудзь спатрэбіцца”.

...Часам трэба дзіву давацца з дзікае настойлівасьці людзей да нішчэньня гістарычных памятак і, калі ня шукаць у гэтым гоне якіхсьці нізкіх меркаваньняў, дык залічыць дзеяньне гэткіх людзей на рахунак чыстага барбарства...

...У Задзьвінскай Слабодцы м. Бешанковіч знайходзілася царква ім. Сьв. Міколы Цудатворца. Яна пабудавана ў апошняй чвэрці XVIII ст. для задавальненьня рэлігійных патрэбаў праваслаўнага насельніцтва прыгранічнае расейскае мытнае канторы. З цягам часу бешанковіцкі Мікольскі прыход быў скасаваны і прылучаны сьпярша да Міхайлаўскага прыходу, а потым разам з Міхайлаўскаю царквою да Ільінскага прыходу ў самым мястэчку. Царква шчасьліва

стаяла, паддаючыся вельмі паволі дзеяньню часу, і пры ўсім абыякавым адношаньні да яе, праўдападобна прастаяла-б і да сёньня... На пачатку 90-ых гадоў была зьвернута Мікольскай царкве прылягаючая да яе, агародная зямля, якую перад тым быў узяў маёнтак графа Храптовіча за нявялікую плату, што яе даваў у парахвію. Тады здавалася, што заіснавалі спрыяючыя ўмовы для аднаўленьня пры царкве парахвіі, што было вельмі пажадана для зарэчных парахвіянаў дзеля нявыгаднага спалучэньня з парахвіяльнаю царквою ўвосень і вясною і дзеля шматлюднасьці бешанковіцкае парахвіі. Але здарылася ня так... Клір бешанковіцкае парахвіі распачаў стараньне перад епархіяльнаю ўладаю, каб зьнішчыць Мікольскую царкву дзеля яе старасьці. А бешанковіцкія вернікі ў сваю чаргу ўзьнялі стараньні, каб захаваць старую праваслаўную сьвятыню. У епархіяльных установах справа зацягвалася. Аднак уканцы кансісторыя выдала загад аб зьнішчэньні царквы. Тады два рупліўцы аб роднай старасьвеччыне А.Я. Нікіфароўскі і Д.І. Даўгяла выдаюць дакладнае апісаньне і гісторыю царквы з плянам і здымкамі ды дамагаюцца захаваньня гістарычнае памяткі[4]. Спадзяваньне паважаных людзей, што іх голас дойдзе да каго сьлед, было дарэмнае. Загад кансісторыі быў выкананы і ад сьвятыні асталіся толькі фундаманты, ды ў Віцебскім царкоўна-археалягічным музэі іконастас.

...Людзкое невуцтва дзеля дробнае карысьці за нікчэмныя шэлягі, або выменьваючы на танныя рэчы царкоўнага ўжытку, збывала разносчыкам царкоўных рэчаў і на парчавыя фабрыкі вартасныя старажытныя парчавыя рызы з няменш вартаснымі галунамі дзеля здабываньня з іх серабра. Гэткім чынам часам дзеля некалькі сярэбраных манэтаў гінулі рэдкія ўзоры парчы і галуноў.

Словам, цяжка нават і пералічыць усе спосабы, якімі невуцтва зьнішчала царкоўную старажытнасьць.

...Прыпадковыя абставіны, але так-жа вельмі характэрныя для нораваў і парадкаў у нашай бацькаўшчыне, павод-

ля апавяданьняў А.П. Сапунова, пазбавілі шматлікія цэрквы Полацка-Віцебскага краю значнае колькасьці вартасных рэчаў царкоўнае старасьвеччыны.

На пачатку 90-ых гадоў мінулага стагодзьдзя на віцебскім кругазоры быў зьявіўся не няведамы ў Заходнім Краю антыквар, быццам вучоны Татур, калекцыянэр і, як казалі, пастаўшчык заграніцу (у Нямеччыну) старадаўных рэчаў. Адрэкамэндаваўшыся архірэю (яп. Антаніну) і губэрнатару (кн. Даўгарукаву), ён паказаў выданы яму ў Сьв. Сынодзе адкрыты ліст, у якім паручалася мяйсцовым духоўным і дзяржаўным уладам, каб яны ўспамагалі ў ягонай дзейнасьці адносна царкоўнае археалёгіі. Нашым мяйсцовым уладам гэта выглядала сумніўным... Паказчык быў асобаю польскага паходжаньня і рымска-каталіцкага веравызнаньня, а праваслаўны Сьвяцейшы Сынод пускаў яго гаспадарыць у праваслаўных сьвятынях. Але... Пецярбург загадвае, трэба слухацца... Архірэй – духавенству, губэрнатар – адміністрацыі загадалі ўспамагаць ўва ўсім Татуру... Духавенства прыймала Татура ўжо чуць не як начальніка і пасыўна прыглядалася да яго дзейнасьці. А гэта дзейнасьць палягала ў зьбіраньні задарма для свае асабістае ўласнасьці найбольш вартасных з археалягічнага гледзішча рэчаў. І трэба прызнаць, што Татур поўнасьцю выкарыстаў даныя яму правы і зрабіў асноўную чыстку цэркваў адносна царкоўнае старасьвеччыны... Калі хутка пасьля яго адведзін А.П. Сапуноў і Е.Р. Раманаў шукалі ў віцебскіх цэрквах старых царкоўных рэчаў для царкоўна-археалягічнага музэю, дык пераканаліся, што іх працу вельмі аблягчыў Татур. Калі пераглядаючы старыя сьпісы, яны знайходзілі штосьці цікавае для музэю і пыталіся аб гэтым у сьвятара, дык часта чулі адказ: "забраў Татур". Або сьвятары гаварылі: "Вось у нас было яшчэ тое ці сёе, але забраў Татур". Або бачаць старую рызу, але сапсаваную: з яе спорана наплечча. "Наплечча было вышытае, яно спадабалася Татуру, і ён яго адпароў і забраў"...

...О, калі-б нас запэўнілі, што і ў наш час царкоўная

старасьвеччына, якую так рупліва сьцеражэ духоўная ўлада, каб ня трапіла ў грамадзкія музэі, якія не падлягаюць духоўным уладам (як напр. наш музэй Архіўнае Камісіі), што яны ёсьць забясьпечаны ад прадпрыемстваў падобных Татуру, якія знайходзяць апеку ў вярхох, гастралёраў адносна царкоўна-археалягічных каштоўнасьцяў...

...На бяду для царкоўнае старасьвеччыны ў саюз з невуцтвам, асабліва за апошнія дзесяцігодзьдзі, увайшла яшчэ **любоў да царкоўнае прыгажосьці**. І пачалі ламаць старое, што заўзятым невукам выдавалася няпрыгожым, і замяняць яго новым, часта нязграбным, няўклюдным, але бліскучым...

Для прыкладу возьмем хоць-бы Полацк, а потым пяройдзем і ў Віцебск.

Ведама, што старая царква Сьв. Спаса ў полацкім Еўфрасінінскім манастыры да перадачы яе праваслаўным захоўвала стары сьценапіс. Час моцна пашкодзіў гэты сьценапіс, а яшчэ больш езуіцкія вучні (манастыр доўгі час належаў езуітам). І вось дзеля прыгажосьці царквы, падчас яе аднаўленьня, сьцены былі памалёваны. Няведама, ці пры гэтым сьценапіс толькі замалёваны, ці яго сьцерлі зусім.

У 90-ых мінулага стагодзьдзя за сынадальныя грошы адбыўся капітальны рамонт Полацкага Мікольскага сабору. Гэтая сьвятыня была перароблена з касьцёла падчас цараваньня Мікалая 1. У ёй (для галоўнага аўтара) быў пастаўлены нявысокі аднаярусны іконастас у прыгожым мастацкім выкананьні, які сваімі прапорцыямі, лініямі і дэталямі цалкам гарманізаваў з унутраным ўладжаньнем сьвятыні. Іконы былі выдатнага акадэмічнага жывапісу (напр.: іконы на царскіх дзьверах былі ўдалымі копіямі іконаў з царскіх дзьвераў пецярбургскага Казанскага сабору – пэндзля Баравікоўскага). Кіраўнікі рамонту турбаваліся, дзе падзець грошы і чым упрыгожыць сабор. І вось выршылі, што стары іконастас малы, няпрыгожы і да таго не ў расейскім стылю. Выкінулі стары і змайстравалі новы, разоў два большы за стары, нязграбны, рамеснае работы быццам у расейскім стылю і з іконамі рамеснага вырабу. Дызгармо-

нія галоўнага іконастасу з бакавымі і з усім упрыгожаньнем сабору аж вочы рэжа.

Ня лепш мелася справа і ў Віцебску. Уканцы 80-ых і на пачатку 90-ых гадоў мінулага стагодзьдзя ў Віцебскім Маркавым манастыры быў настаяцелем архімандрыт Іларыён. Ён выдаў больш дваццаці тысяч рублёў з свае маемасьці на ўпрыгожаньне і перарабленьне манастырскіх цэркваў. У сваёй рупнасьці ён сапсаваў шатровыя вярхі старое Троіцкае царквы, зьмяніў форму галоў, зьнішчыў шатровыя ганкі, зьменшыў вышыню галерэі, якая акружае сьвятыню. Усярэдзіне сьвятыні ня толькі нанова перахварбаваў і пералацілаціў іконастас, але зьнішчыў велічныя бакавыя бальдахімы, зьмяніў іх іконастасамі, якія былі прызначаны для праектаваных бакавых аўтароў, зьняў бальдахім з-над галоўнага аўтара, зьнішчыў старыя сходы на хоры (у паўднёвай часьці царквы), якіх вонкавая сьцяна была ўпрыгожана малюнкамі, а замест іх уладзіў сходы ў заходняй часьці царквы і для сымэтрыі зрабіў кладовачку, закрываючы пры гэтым часьць сьценапісу. Мала таго, зьбіраўся зьнішчыць зусім сьценапіс, але ад гэтага яго ўстрымалі А.П.Сапуноў і Е.Р.Раманаў.

На пачатку 90-ых гадоў клір і стараста вайсковае Мікольскае царквы, якую збудаваў у 1779 г. камандант гр. Мініх для расейскага гарнізону, пастанавілі замяніць стары лёгкі, высокі іконастас, прыгожа зроблены ў стылі рокако з прыстойным італьянскім жывапісам, на новы. І вось на мейсца старога зьявіўся дубовы, цяжкі прызёмісты іконастас страшэнна грубае работы з іконамі вельмі нязграбнага малюнку паводля тэхнікі, годнае хіба толькі майстра шыльдаў. Стары іконастас звалілі ў адрыну, спадзяючыся знайсьці купцоў. Нажаль купцоў не знайшлося і іконастас пайшоў на дровы! Калі спалілі рамы іконастасу, пачалі паліць іконы. На шчасьце, у тым часе зьмяніўся парах царквы і рэшткі іконастасу былі выратаваны. Іконы разьмешчаны на сьценах царквы, а царскія дзьверы – адзіная разьба, якая захавалася, – памешчана на горным мейсцы прыдзельнае царквы.

Уканцы 90-ых гадоў прыгожы іконастас Віцебскае Івана-Багаслоўскае царквы, які перанесены сюды з Віцебскага Мікольскага сабору, і які меў форму быццам порціка будынку з пілястрамі карынцкага стылю, было пастаноўлена перарабіць на расейскі стыль. Рамы іконастасу, карнізы, рэзьбленыя ўпрыгожаньні і царскія дзьверы астаўлены непарушна, але пілястры заменены паўкалёнкамі, калі можна так назваць вычварныя камбінацыі з паўкругаў, чатырохкутнікаў і пад., награмаджаных адно на другое і размалёваных хэрувімаў, а над намеснымі іконамі прыстроены навесы быццам у тым-жа расейскім стылю. Іконам прыданы залаты выбіваны фон; абліччы падмалёваны сьветлымі хварбамі, а вопраткі яскрава чырвонаю і сіняю. Уявеце, якая атрымалася стракатасьць і мешаніна!

Зусім нядаўна (у 1910 г.) цяжкая рука т.зв. любіцеляў царкоўнае прыгажосьці налягла на Віцебскую Петрапаўлаўскую царкву (збудаваную ўканцы XVIII ст., а пасьвячаную на пачатку XIXст. мітрапалітам Іракліем Лісоўскім). І вось, праўда, збляклы, але вельмі прыгожы сьценапіс італьянскае школы замазаны і сьцены пахварбаваны ў яскравы ружовы колер “пад мармур”, а скляпеньне пад зоркавае неба: апошняе слова шыку! Іконастас у стылю рококо, які азначаўся надзвычайна ўдалым спалучэньнем колераў: фон быў залаты пад малахіт, мяйсцамі (напр. пілястры) чырванаваты з залатымі ценямі; пазалота разьбы рамаў далікатная, матавая, а ў суцэльнасьці атрымоўвалася ўражаньне сьвежасьці, жывасьці, – іконастас густа раззалочаны “пад бляск”, фон намалёваны ў аднастайны мярцьвяцкі галубавата-шэры колер; іконы прыгожае італьянскае школы бяз ніякае патрэбы і з шкодаю для суцэльнасьці заменены новымі, праўда ня кепскага, але шаблённага малюнку: прыгожы заалтарны масыўны ківот з рэзьбленымі калёнкамі і іконаю сьвятых ап. Пятра і Паўла заменены чамусьці аблюбаванаю за апошнія гады ў нашай епархіі для памяшчэньня за аўтаром копіяю з абраза Бруні “Маленьне аб чашы” ў

шырокай багетнай раме, які намазоліў вочы ў Віцебскіх цэрквах, бо ў суперак ўсякіх традыцыяў Праваслаўнае Царквы ставіцца на мейсцы, дзе ставіліся іконы: Тайная Вячэра, Багамаці з Боскім Дзіцяткам, а ў пазьнейшых часох – Сьв. Тройца, Уваскрасеньне Хрыста. Праўдападобна выкінены ківот звалена на падстрэшшы ці ў кладоўцы. Пры гэтым у прытворы былі замалёваны напісы аб пабудове і пасьвячэньні царквы.

І гэткі сапраўды барбарскі з мастацкага і царкоўна-археалягічнага гледзішча рамонт быў зроблены на вачох і з адабрэньня епархіяльнае ўлады і ў тым часе, калі на запросіны тое-ж епархіяльнае ўлады камісія з кампэтэнтных асобаў (у тым ліку быў і А.П. Сапуноў) была апрацавала адпаведныя дырэктывы для рамонту згодна з заданьнямі мастацтва і археалёгіі. Аднак невуцтва і бязгустоўнасьць заўсёды ўпэўнены ў сваёй слушнасьці і што для іх значаць рады спэцыялістаў...

Зразумела, што ведамыя мне і вышэй успомненыя факты ёсьць толькі вельмі нязначнаю часткаю разбуральнае работы царкоўнае старасьвеччыны. То тут, то там калечаць да непазнаньня царкоўную старасьвеччыну, або проста звальваюць у адрыны, у падстрэшшы цэркваў рэчы часам вялікае мастацкае вартасьці (напр. у Віцебскай царкве пры Задунаўскай вул. на адной плашчадцы сходаў у званіцу я бачыў царскія дзьверы мастацкага выкананьня), і ўсё гэта там пакрываецца пылам, гніе, развальваецца, пакуль хтосьці прыпадкам ня вынясе іх на дзённае сьвятло...

Зрэштаю, такая-ж гісторыя паўтараецца ўва ўсіх канцох нашае бацькаўшчыны. І ў цэнтральных губэрнях, і на далёкай Поўначы падстрэшшы і кладоўкі цэркваў завалены мастацкімі і гістарычнымі каштоўнасьцямі ў тым часе, як цэрквы напаўняюцца творамі рамесьніцкае вытворчасьці, грубымі, шаблённымі, бязыдэйнымі...

Але наш край у акцыі зьнішчэньня старажытнасьцяў меў і мае яшчэ аднаго магутнага супрацоўніка, які сьцёр з аблічча зямлі безьліч памятак царкоўнага будаўніцтва, ікона-

пісу, судзінаў і інш. Ім ёсьць **неразумная руплівасьць у веры.**

Падчас польска-каталіцкага панаваньня гэткую "руплівасьць у веры" праяўлялі каталікі, зьнішчаючы так старанліва сьляды праваславія, што наш край захаваў менш памятак праваслаўна-рускае старадаўнасьці, чым краі, па якіх прайшлі дзікія натоўпы татараў і над якімі цяжыла векавое татарскае ярмо.

Вось адзін наглядны прыклад, як адносілася рыма-каталіцкае духавенства да праваслаўных сьвятыняў, якія трапілі ў іх рукі.

"Пасьля выгнаньня езуітаў, – піша А.П. Сапуноў,[5] – царква Сьв. Спаса ў Полацкім Еўфрасінінскім манастыры (які да 1832 г. быў у руках піяраў) знайходзілася ў вельмі жалюгодным выглядзе".

"Царква стаяла быз вакон і дзьвярэй, старадаўны насьценны жывапіс шмат дзе быў сапсаваны, выдрапанымі на ім (вучнямі езуіцкае школы) напісамі, такімі як: "кривоуст", "косоглаз" і пад. На шматлікіх іконах былі павыколваныя вочы сьвятым. На абліччы Збавіцеля ў купале і на абразе Знаменія ў келіі сьв. Еўфрасіні відаць былі сьляды куляў"...

Гэткімі былі адносіны да праваслаўнае сьвятыні ў самым цэнтры каталіцкае асьветы, на вачох у гэнэралаў езуіцкага чыну (у быўшым манастыры сьв. Спаса была іх летняя рэзыдэнцыя).

...Пасьля злучэньня ўсходне-католікаў з Праваслаўнаю Царквою, а часткава яшчэ і перад тым, распачалася праца, каб цэрквам Заходняга Краю (Беларусі. – *Ув. пер.*) прыдаць праваслаўны выгляд: дараблялі іконастасы, дзе іх ня было; замянялі ўсходне-каталіцкае начыньне лацінскае формы, іхныя багаслужэбныя кнігі – праваслаўнымі. Першыя дзеячы злучэньня міт. Іосіф Семашка, Васіль Лужынскі[6], Антоні Зубко і праваслаўны яп. Ізыдор (потым Пецярбурскі мітрапаліт) – усю гэтую замену вялі паступова, умеючы адрозьніць істотнае ад няістотнага, і заходне-рускае пра-

васлаўнае – ад каталіцкага. Пры тым яны нават ня мелі на ўвеце зусім неразумнае мэты сьцерці павучальныя сьляды таго, што перажыло заходне-рускае (беларускае. – *Ув. пер.*) насельніцтва. Дзеля гэтага ў паруніяцкіх сьвятынях у той час можна было бачыць побач з высокімі іконастасамі бакавыя аўтары лацінскага тыпу; статуі; разам з начыньнем праваслаўнае формы – усходне-каталіцкае; амбоны аставаліся на сваім мейсцы і служылі сваёй мэце для прапаведнікаў і інш. І ўсё гэта не перашкаджала паступоваму росту праваславія і рускае сьведамасьці між духавенствам і жыхарствам Краю. Да якое ступені сягнуў гэты рост за нямнога дзесяткаў гадоў, паказаў 1863 г., калі шляхта сустракала дружны адпор у заходне-рускім народзе.

## Руйнацкая дзейнасьць яп. Саввы (Тіхоміраваа)

Ад 1866 г. настаў ліхі час для царкоўнае старасьвеччыны ў Полацка-Віцебскім краю. У гэтым годзе на мейсца адкліканага у Сьв. Сынод архіяп. Васіля Лужынскага на Полацкі пасад быў назначаны з маскоўскіх вікарыяў яп. Савва (Тіхоміров).

Прэасьвяшчэнны Савва, пазьнейшы архіяпіскап Цьверскі быў далёка не абы-якою асабістасьцю між ерархаў Расейскае Царквы. У царкоўна-гістарычнай навуцы яго імя стала вядомым дзякуючы апісаньню маскоўскае патрыяршае рызьніцы, якую ён дакладна ўлажыў і выдаў, а так-жа дзеля шматгадовае працы ў зьбіраньні, сыстэматызацыі і рэдагаваньні думак, водзываў, рэзалюцыяў і лістоў Маскоўскага мітрапаліта Філарэта, якія выданы ў шмат томах. Сваю любоў да ведаў яп. Савва выявіў арганізаваньнем аграмаднае, пераважна багаслоўскае і царкоўна-гістарычнае бібліятэкі, якую ён пакінуў Маскоўскай Дух. Акадэміі. Вялізарныя па абыйму аўтабіяграфічныя запіскі, якія ён пакінуў па сабе і якія былі выданы пасьмяротна, ня кажучы ўжо аб

іх значэньні як гістарычнага матэрыялу, – самым фактам свайго існаваньня характэрызуюць асобу архіпастыра як працаздольнага і пунктуальнага. І сапраўды, толькі чалавек да крайнасьці пунктуальны быў у стане на працягу ўсяго свайго жыцьця зьбіраць дакумантальныя даныя для свае аўтабіяграфіі, не абмінаючы нічога; і ня толькі дакуманты з паважным гістарычным значэньнем, але наагул усё, нават самыя нязначныя і паводля зьместу (плёткі), і паводля крыніцы паходжаньня – весткі; нават тэлеграмы і звычайныя прыветы; рабіць копіі з дакумантаў, лістоў і тэлеграмаў, якія сам высылаў; усё гэта захоўваць і ўтрымоўваць у парадку; толькі надзвычайная працаздольнасьць была ў стане усыстэмізаваць гэты матэрыял у храналягічным парадку і апісаць разам з успамінамі і характэрыстыкамі ў форме больш або менш зладжанае суцэльнасьці.

Аб тым, што яп. Савва вызначаўся пунктуальнасьцю і асноўнасьцю ня толькі ў кабінэтнай працы, але і ў сваёй архіпастырскай дзейнасьці, аб гэтым можа сьведчыць між іншым і такі прыклад з ягоных “Запісак”. Прэасьвяшчэнны зьвярнуў увагу на тое, што ў Віцебскім катэдральным саборы сьвятарскія літургічныя вопраткі, нааўтарныя пакрыцьці і інш. не вызначаюцца гарманійнасьцю колераў. Асобы, якія займаліся гэтым, скрозь і ўсюды няўдачна дабіралі адну рэч да другое, напрыклад, колер падрызьніка не падыходзіў да колеру рызы. Прэасьвяшчэнны пастанавіў зрабіць канец такому стану рэчаў, але, як чалавек грунтоўны, ня здаўся ў гэтай справе на сябе і сваіх беспасрэдных памоцнікаў, а зьвярнуўся па раду ў адпаведную інстанцыю. Але ў такой далікатнай справе, як гармонія колераў у вопратках, хто-ж можа быць больш кампэтэнтны, як дамы? І вось прэасьвяшчэнны зьвярнуўся да шляхотных маскоўскіх дамаў з лістоўнаю просьбаю, каб яны, параіўшыся між сабою, улажылі табліцу колераў, якія з сабою гарманізуюць. Просьба была выканана і праца маскоўскіх дамаў захавалася для царкоўнагістарычнае навукі ў “Запісках” прэасьвяшчэннага. Там

надрукавана табліца колераў, уложаная прыблізна так: розавы колер гарманізуе з галубым, зялёным, крэмавым і т.д.; чырвоны колер гарманізуе з жоўтым і інш. Прэасьвяшчэнны прыняў табліцу да ведама і для кіраўніцтва Віцебскага катэдральнага сабору...

Калі такая, здавалася-б дробная справа, выклікала толькі турботаў і толькі самае дакладнае, пунктуальнае працы з боку яп. Саввы, дык ці-ж магчыма думаць, каб пільныя патрэбы і вымогі царкоўнага жыцьця аставаліся бяз шмат разоў больш пунктуальнае і старанлівае распрацоўкі?

Успомненыя якасьці яп. Саввы бяз сумніву вырозьнівалі яго між сучасьнікаў-архіпастыраў і паставалі-б яго ў рад выдатных ерархаў ня толькі Расейскае, але і Сусьветнае Царквы ўсіх часоў, калі-б яны спалучаліся з глыбінёю і шырынёю думкі і багаслоўска-навучнымі ды маральна-практычнымі паглядамі. Але гэтага яму не ставала. Маючы багатыя фактычныя веды ў багаслоўскай і царкоўна-гістарычнай галінах, яп. Савва захаваў школьную вузкасьць паглядаў у багаслоўскіх і царкоўна-практычных паглядах, а ў выпрацаваньні думкі адносна розных галінаў царкоўнага жыцьця трымаўся ў рамках "мнений и отзывов" Маскоўскага мітр. Філарэта. Адносна агульнага строю і вонкавых формаў царкоўна-рэлігійнага быту і багаслужэньня яп. Савва быў строгім ахоўнікам і насаджальнікам праваслаўя, але ў вельмі вузкім сэнсе: гэта значыць, усё, што не адказвала таму, што было ў ягоных родных Уладзімерскай і Маскоўскай губэрнях, яму здавалася супярэчным духу праваслаўя і заслугоўвала на неадклічнае і неадкладнае вынішчэньне.

Дзеля гэтага і да асобаў і да дзейнасьці першых дзеячоў прылучэньня ўсходне-católікаў, што дзейнічалі з разважнаю паступовасьцю і строгім разрозьніваньнем істотнага ад другараднага асбліва-ж да свайго безпасрэднага папярэдніка ў епархіі высокапрэасьв. Васілія, яп. Савва адносіўся з непаўстрыманаю антыпатыяю і бязьлітаснаю,

але далёка не бесстароннаю і не дакладна асьвядомленаю крытыкаю.

Прат. Г.Шавельскій у гэтай справе кажа: “Вобраз беларускага узьяднальніка вышаў з-пад пяра яп. Саввы (у ягоных “Запісках”) вельмі ня прывабным: індыфэрэнт, або ў лепшым выпадку каталік у рэлігійных перакананьнях, паляк у палітычных сымпатыях, ня толькі што не зрабіў нічога для замацаваньня праваславія, але нават прыгнятаў і прасьледаваў усё праваслаўнае; такім, ці амаль такім рысуе арх. Васіля ягоны наступнік... Вельмі востры водзыў яп. Саввы аб пераконаньнях арх. Васіля і яго кіраўніцтве епархіяю можа накінуць цёмны цень падазрэньня на “ўзьяднальнае мінулае” арх. Васіля, і таму вымагае, каб мы яго не пакінулі без неабходных на наш пагляд выясьненьняў. Цяжка выявіць усе прычыны, пачуцьці і намеры, пад уплывам якіх у яп. Саввы злажыўся вобраз аб ягоным папярэдніку. Тут гралі ролю і строга ўстаўныя перакананьні быўшага маскоўскага вікарага, уладзімерца родам, якія ў падобных людзей часта даходзяць да фанатызму і да нянавісці ўсяго таго, што не ўкладаецца ў рамкі ўстава і “старадаўнае пабожнасьці”; тут гралі ролю і даволі звычайныя ў жыцьці пачуцьці нездаволеньня наступнікаў папярэднікамі, празьмернаю крытыкаю і строгасьцю першых адносна дзейнасьці апошніх, тут мелі так-жа значэньне паклёпы падуладных, якія былі лісьлівыя перад новым уладыкаю і паніжалі папярэдняга і даверлівасьць да іх яп. Саввы; уканцы тут мелі ўплыў так-жа і асабістыя парахункі япіскапаў... і яшчэ сёе-тое. Грэх яп. Саввы быў у тым, што ён паддаўся гэтым уплывам і мераў асобу яп. Васіля толькі паводля пэўнага асабістага маштабу, не зрабіўшы нічога, каб спраўдзіць свае памеры больш аб'ектыўным спосабам”[7].

На мяйсцовых царкоўных дзеячоў яп. Савва ў лепшым выпадку глядзеў як на людзей, якія толькі імкнуліся, але ні сваім жыцьцём, ані сваею дзейнасьцю яшчэ не дасягнулі таго праваславія, якое было ў вялікарасейскіх епархіях; як

на недаверкаў; а ў горшым выпадку як на крывадушнікаў, затоеных усходне-католікаў.

З пачуцьцём свае вялікае перавагі яп. Савва пералічаў усе ўхілы ў жыцьці Заходне-рускіх архірэяў ад устаноўленага у Вялікарусі (Расеі. – *Ув.пер.*) укладу архірэйскага жыцьця. Напрыклад, апісваючы свой прыезд у Вільню для пабачаньня з мітр. Іосіфам Семашко, ён з лагоднаю іроніяю прадстаўляе клопаты, у якіх быў пастаўлены стары мітрапаліт, які сам ужываў мясную страву, калі даведаўся аб прыезьдзе старога япіскапа-посьніка з праваслаўнае Масквы, і колькі гэта яму каштавала турботаў, каб дастаць рыбак і згатаваць мізэрны посны абед. Яп. Савва пры гэтым зусім не ўзгляднiў таго, што мітр. Іосіф, як і другія быўшыя ўсходне-каталіцкія архірэі, ня быў манахам, а так-жа і таго, што ў Заходнім Краю было дазволена вышэйшаю царкоўнаю ўладаю нават у манастырох ужываць мясную страву.

Таму, што жыцьцё і людзі ў Заходнім Краю (Беларусі. – *Ув. пер.*) пры першай сустрэчы з яп. Савваю зрабілі адносна яго пасыўнае, а часам нават і актыўнае супраціўленьне падчас пераводжаньня ў жыцьцё ягоных паглядаў, дык ня дзіўна, што яп. Савва, які азначаўся надзвычайна вострым самалюбствам і адсутнасьцю самакрытыкі, калі і ня прынёс з сабою, дык узгадаваў у сабе на мейсцы антыпатыю да ўсяго мяйсцовага, пачынаючы ад абрадаў, уладжаньняў цэркваў, а канчаючы людзьмі, якія захавалі хоць цень незалежнасьці думаньня і дзеяньня. Нярàз гэтая антыпатыя даходзіла ў яго да нянавісьці.

З вышэйсказанага зразумела, якія маглі быць адносіны яп. Саввы да мяйсцовае царкоўнае старасьвеччыны, якая ў значнай ступені была ўсходне-каталіцкаю і ўва ўсякім выпадку заходне-рускаю (беларускаю. – *Ув. пер.*), а не маскоўскаю.

Яе пачалі бязьлітасна вынішчаць.

Перадусім і найбольш за ўсё наляглі на скульптуру, даглядаючы ў ёй вышэйшы пункт праяўленьня каталіцкага

духу[8], хоць Расейская Поўнач, якая стаіць па-за ўсякім падазрэньнем адносна чыстасьці і дбайлівасьці ў праваславіі, мае поўна скульптурных упрыгожаньняў у сваіх сьвятынях, і хаця, будучы маскоўскім вікарым, яп. Савва праўдападобна не аднойчы прыкладваўся да **статуі Міколы Мажайскага**, якую шануюць у Маскве як цудатворную ікону. Склады, падстрэшшы і падвалы цэркваў былі завалены статуямі. А некаторыя больш заўзятыя выканальнікі загаду нават палілі іх. Рэзьбленым Укрыжаваньням была зроблена ласка (магчыма дзеля таго, што калі-б іх паздымалі, дык гэта вельмі моцна адбілася-б на рэлігійных пачуцьцях народу), ім толькі “расьпілоўвалі ножкі”[9]. Гэтае апошняе мерапрыемства выклікала нават мяйсцовыя жарты, як аб гэтым сьведчыць артыкул “Изъ воспоминаній о прошломъ”, які быў надрукованы ў “Церковно-Общественномъ ВѢстникѢ” у 1879 г.[10]. “На якімсьці банкеце адна высокапастаўленая асоба выказала свой жаль, што ня прыехаў уладыка ...скі. “Ня мае вольнага часу, – адказала другая высокапастаўленая асоба, – заняты вельмі важнаю справаю”. “Якою-ж такою важнаю справаю?” “Збавіцелю ногі расьпілоўвае” – быў адказ (намёк на перарабленьне рэзьбленых Укрыжаваньняў).

Бочныя аўтары, зробленыя на лацінскі ўзор, усюды павыкідваны. Вернікі, асабліва старыя, гэтым былі моцна зьбянтэжаныя і прыгнобленыя; яны ніколі не дапушчалі, што гэныя аўтары робяць нейкую шкоду праваславію. Былі зроблены захады для зьнішчэньня амбонаў, хаця ані па сутнасьці, ані з гісторыі іх паходжаньня, як ужо было ўспомнена перш, яны ня маюць нічога праціўнага праваславію, а з практычнага гледзішча ім нельга адмовіць мэтазгоднасьці, і хоць яп. Савва мог іх бачыць у цэрквах Пецярбурга, асабліва ў тых, дзе зьбіраецца на ўрачыстыя багаслужэньні Сьв. Правячы Сынод (Ісаакаўскі і Казанскі саборы). Падлогі ў аўтарных часьцях цэркваў і клірасы так-жа былі перароблены, на ўзор, як яны былі ўладжаны ў расейскіх епархіях. З італьянскім жывапісам, нехаця, прышлося памірыц-

